

Беларускія народныя мясцовыя песні найлепш спявала Надзея Грыцук з Навасёлкаў, гміна Гарадок. Яна і заняла першае месца ў катэгорыі фальклорнай песні ў групе салістаў.

Фота Я. Цялушэцкага.





# З думкай аб будучыні

(Інтэрв'ю са старшынёй Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства тав. **Мікалаем Самоцікам**).

— Таварыш старшыня, вы працавалі пры пакліканні да жыцця Беларускага грамадска-культурнага таварыства і яго органа „Нівы", удзельнічалі ў Першым з'ездзе БГКТ і ўвайшлі тады ў склад першага Галоўнага праўлення нашага таварыства. Што вам асабліва запамяталася з таго, адлеглага ўжо, але як жа ж важнага для нашай арганізацыі перыяду?

**М. Самоцік.** — Так, я добра памятаю пачатак 1956 года, калі разгарталася падрыхтоўка да Першага, арганізацыйнага з'езда БГКТ. У першую чаргу я быў усхваляваны рашэннем улад Народнай Польшчы аб пакліканні да жыцця Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Мяне захапіў змест прынятага з'ездам статута, які гарантаваў усебаковую культурна-асветную дзейнасць таварыства. У той час я працаваў кіраўніком аддзела асветы Прэзідыума павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы і ў дзейнасці БГКТ бачыў вялікую дапамогу ў паспяховым вырашэнні многіх праблем у тагачасным школьніцтве. Перш за ўсё павышэння кваліфікацый настаўнікаў беларускай мовы, апрацавання праграмы навучання і падрыхтоўкі адпаведных падручнікаў, публікацый дапаможных матэрыялаў у „Ніве" і развіцця літаратурнай дзейнасці на карысць школы і асяроддзя. Створаныя прыхільныя ўмовы нацыянальнага самаакрэслення для беларускай меншасці ў Народнай Польшчы і свабоднага развіцця нацыянальнай культуры па форме і сацыялістычнай па зместу — гэта была сапраўды прадуманая палітыка партыі і ўраду. Яна і гарантавала развіццё і дзейнасць нашай арганізацыі.



**Старшыня ГП БГКТ М. Самоцік**





**Каля выстаўкі з кніжнымі выданнямі ГП БГКТ. Фота Я. Цялушэцкага.**

— Што вы лічыце найбольшым дасягненнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства на працягу мінулых 20-ці год яго дзейнасці?

**М. Самоцік.** — Найбольшым дасягненнем БГКТ лічу выдавецкую дзейнасць. Як бы не было, але выданне 43 кніжных пазіцый — гэта вялікая работа. Сярод іх 19 календароў тыражом у 5—6 тысяч экземпляраў у кожным годзе.

Такое ж самае вялікае значэнне адводжу органу таварыства — тыднёвіку «Ніва». Яе цікавы і блізкі людзям змест, а перш за ўсё шматгранная інфармацыя, выхаваўчае ўздзеянне, матэрыялы па гісторыі, культуры, літаратуры, фальклору і адлюстраванне штодзённага грамадскага жыцця беларускай нацыянальнай меншасці ўчынілі наш тыднёвік блізкім чытачу. А тое, што ў красавіку 1975 года выйшаў 1000 нумар «Нівы», красамоўна сведчыць аб яе ролі ў асяроддзі.

Адным з большых дасягненняў БГКТ трэба лічыць таксама развіццё мастацкага самадзейнага руху. Іменна мастацкая самадзейнасць стала самай папулярнай формай праяўлення беларускай нацыянальнай культуры ў нашым асяроддзі. Конкурсы, фэстыны, канцэрты і іншыя мерапрыемствы — гэта формы, якімі таварыства пабуджае да ўдзелу ў культурным руху шырокае кола людзей, пашырае і папулярызуе беларускую песню, танец, музыку, тэатральныя формы мастацтва.

Пашырэнне ведаў аб БССР і СССР, папулярызацыя дасягненняў Савецкай Беларусі ў галіне грамадскага жыцця, гаспадаркі і культуры садзейнічае ўмацаванню непарыўнай дружбы нашай краіны з Савецкім Саюзам, а гэтай справе мы адводзім першапланавае месца ў нашай дзейнасці.



**На фэстыне ў Семяноўцы. Фота Я. Цялушэцкага.**





**Фэстыны БГКТ заўсёды мнагалюдны. Фота Я. Цялушэцкага.**

Наша культурна-асветная дзейнасць наймацней згуртоўвае асяроддзе вакол таварыства.

— Але былі таксама ў БГКТ недамаганні, недахопы і прамахі...

**М. Самоцік:** — Напэўна. Адным з найбольшых недахопаў з'яўляецца слабая праца многіх гурткоў БГКТ. Прычына гэтага ляжыць у тым, што ў нас нясталая сувязь з гурткамі і недастатковая для іх дапамога. Нягледзячы на тое, што ў нас ёсць шырокае кола добрага актыву, у многіх гуртках усё ж не хапае энергічных актывістаў. А прыезд у гурток толькі час ад часу нашага штатнага працаўніка і яшчэ радзейшае з'яўленне ў ім актывіста не могуць даць гарантыі добрай працы.

Вялікім недахопам у культурнай дзейнасці нашай арганізацыі з'яўляецца тое, што ў нас няма высокакваліфікаваных кадраў са спецыяльнасцю музыказнаўцы, дырыжораў, харэографаў, акцёраў, рэжысёраў. Шэрагу ініцыятывам гурткоў у арганізацыі вакальна-музычных, харавых і танцавальных калектываў, драматычных гурткоў мы не можам забяспечыць адпаведнай дапамогі спецыялістаў. І з гэтай прычыны добрыя намеры і імкненні гурткоў прападаюць.

— Якія напрамкі дзейнасці і заданні вы лічыце найважнейшымі для нашай арганізацыі ў бліжэйшыя гады?

**М. Самоцік.** — На пераломе 1975-1976 гадоў БГКТ будзе праводзіць справаздачна-выбарную кампанію ў сваёй арганізацыі.

**Выступае дэкламатарскі калектыў гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Вечарына ў гонар 90 гадавіны са дня нараджэння Я. Коласа. Фота Я. Цялушэцкага.**

Асноўнае заданне кампаніі — гэта змабілізаваць актыў і ўсіх членаў нашай арганізацыі да ажыўлення працы ва ўсіх гуртках. Трэба прыкласці як мага болей намаганняў, каб праводзячы выбары ў гуртках, даць ацэнку дагэтуляшняй працы, паклікаць новыя праўленні гурткоў з дзелавымі, ініцыятыўнымі людзьмі, апрацаваць добрыя праграмы і напрамкі дзейнасці гурткоў. Пры гэтым будзем імкнуцца павялічыць колькасць членаў нашай арганізацыі і заснаваць новыя гурткі ў вёсках, мястэчках і гарадах, якраз там, дзе гурткоў БГКТ дагэтуль не было.

Перад усёй нашай арганізацыяй стаяць вялікія заданні падрыхтаваць святкаванні 20-годдзя існавання БГКТ і правесці VIII з'езд таварыства. Гэтыя два важныя мерапрыемствы будуць вымагаць вялікага ўкладу працы нашых штатных працаўнікоў, актывістаў і ўсіх членаў арганізацыі. Трэба будзе правесці ацэнку і дваццацігадовай дзейнасці нашай арганізацыі і яе працы паміж VII і VIII з'ездамі. Неабходна таксама выпрацаваць новыя напрамкі дзейнасці ў наступным дваццацігоддзі БГКТ, а таксама на час паміж VIII і IX з'ездамі таварыства. Вялікай дапамогай у гэтым будуць нам рашэнні VII з'езда Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Таварыства акрэсліць свой актыўны ўдзел у здзяйсненні новых заданняў, якія вызначыць VII з'езд ПАРП для ўсяго грамадства нашай краіны, і яны будуць вядучымі ў праграме таварыства і яго штодзённай дзейнасці.

— Наша арганізацыя ўступае ў новае сваё дваццацігоддзе... Якія будуць вашы пажаданні для кожнага члена БГКТ?

**М. Самоцік.** — Ад усяго сэрца шчыра дзякую ўсім дзеячам і членам БГКТ за іх ахвярную працу на карысць арганізацыі, свайго асяроддзя і нашай краіны і адначасова заклікаю ўсіх да актыўнага ўдзелу ў поўным выкананні нашых намераў у будучыні.

**Гутарыў М. Гайдук**

# Як прарастала „Ніва"

У 1954 годзе закончыў я Літаратурны інстытут імя Горкага і пытанне «што далей?", якое дагэтуль тайком скрабло па сэрцы, устала ў поўны рост.

У інстытуце хадзіў я на паэтычны семінар і пісаў радасныя вершы аб новай Польшчы. Там таксама прасяк ідэяй вяртання ў народ. Верыў: жыццё багатае і чым ніжэй — гусцейшае. А што літаратура — адлюстраванне жыцця, не было сумненняў. Сталічная прапіска пагражала творчым выпустапшэннем, і я даўно яе з галавы выкінуў. Толькі ўніз! Як найглыбей! Там невычэрпная руда для маіх вершаў.

Свайго вяртання не ўяўляў я і без сваіх пенатаў, якія маім самародкам надавалі інтымны адценак.

Значыць, цвёрда, Беласточчына!

А ў Варшаве прапануюць эдэм у іншым геаграфічным пункце. Абавязвалі тады накіраванні на працу, рудападобных жыл усюды было поўна, сваёю нікога я не мог здзівіць. Але, відаць, адыграў

ролю дзівосны інстытут, які я закончыў. Не вельмі ведалі, што з гэтым фантам рабіць і, калі я не згадзіўся на прапанаванае месца, дазволілі дзейнічаць самастойна.

Неадкладна паехаў я ў Беласток. Прыму любую працу, але каб бліжэй да народу і — найахвотней — непадалёк Белавежы (пра Белавежу не думаў, ведаў, працы там няма).

У Беластоку знаёмых не меў. І наогул быў я тут усяго тры разы. Упершыню — восенню 1939 года. Запомнілася вузкая і даўжэзная вуліца, несамавіта сціснутая высачэзнымі дамамі (так мне здавалася, у той час большага горада за Гайнаўку я не ведаў). Ішоў гэтай вуліцай без канца і баяўся, каб дамы не прыдушылі. Не прагнасць пазнання свету штурхала мяне ў гэтую цагляную шчыліну, а зусім празаічная акалічнасць. Вучыўся я тады ў Гайнаўцы ў рамесным вучылішчы, а жыў у Белавежы, у бацькоў. Танней было купіць месячны білет на цягнік, чым наймаць кватэру ў Гайнаўцы. Так было да вайны, гэты звычай перанеслі мы, белавежцы, і ў новыя абставіны. Але цяпер чыгунка зусім не лічылася з нашымі, заваяванымі ўжо, правамі і патрабавала ад нас нармальных білетаў. Гэта нас абурала: мы за паноў мелі зніжку, а свае зраўнялі нас са спекулянтамі! І ўпарта дамагаліся месячных білетаў, (якіх тады не было). Але і кандуктары (зрэшты, даваенныя, што тым больш злавала) таксама не ўступалі: выкідалі нас з вагонаў. І мы вырашылі: выбіраем дэлегата (было моднае), складаемся на дарогу, хай шукае справядлівасці ў Беластоку.


**Ад лістаў, якія пасыпаліся ў рэдакцыю, магла закружыцца галава...**

Роля хадака выпала мне. Вось і тупаю ў загадкавы аблвыканком. Помню палац (Браніцкіх), у ім спагадлівы дзядзька. Поўнасцю па нашым баку, абяцае ўсыпаць чыгуначнікам. Вяртаўся я задаволены.

Другая мая сустрэча з Беластокам адбылася ў 1943 годзе. Запомніў цыбаты мост над рэйкамі. Наш транспарт спыніўся за гэтым мостам і




**Прэзідыум І-га арганізацыйнага з'езда БГКТ. Адкрывае з'езд Піліп Кізевіч. Першы злева Г. Валкавыцкі.**

мы, жывы тавар, белавежскія хлопцы, і не толькі белавежскія, і не толькі хлопцы, з закупораных таварных вагонаў зайздросцілі людзям, якія ішлі гэтым мостам у горад. Праз нашае крацістае акенца яго не было відаць.

Трэцяя сустрэча ўскосна падыходзіла да майго няпрашнягa вяртання. У 1947 годзе хацеў я паступіць у журналісцкую школу і ездзіў у Ваяводскі камітэт ППР за нейкай даведкай. Застаўся ў памяці невыразны будынак камітэта, дзверы (здаецца, шкляныя), якія адразу з вуліцы адчыняліся ў набіты людзьмі пакой, вёрткі камітэтчык, які мігам аформіў патрэбную паперку.

Цяпер у мяне за пазухай дыплом і куды менш упэўненасці.

У Варшаве параілі пагаварыць з сакратаром прапаганды ВК ПАРП. Быў ім тут Мар'ян Ксёнжэ. Прыняў без тэлефоннай валакіты. Выслухаў, паклікаў адказнага працаўніка і загадаў уладкаваць у «Беластоцкую газету». Намякнуў на нейкія, бліжэй не акрэсленыя беларускія выданні, з якімі, магчыма, у будучыні буду мець дачыненне.

Намёку гэтага ў той час я не зразумеў. Навошта такія выданні? Ці ж нас так многа? Белавежа і ваколіцы

пушчы. Маё тадышняе ўяўленне аб беластоцкіх беларусах яўна пахла белавежскім засценкам. Усё, што відаць з верху белавежскай сасны, тое наша. Мала я ведаў пра былы (вялікі і свой) Бельскі павет, нічога толкам — пра Беластоцкі, а Сакольшчына ў маіх белавежскіх маштабах была амаль неабжытым архіпелагам.

А ў той час на ўсёй гэтай тэрыторыі дзейнічалі ўжо беларускія школы, а слаўныя гарадоцкія дзяўчаты вынеслі беларускую песню ў шырокую ваколіцу. Пачуў я яе і захапіўся потым. А ў верасні 54-га больш быў заняты сваім прызямленнем. У рэдакцыі залічылі ў аддзел культуры. Пачаў здабываць сваю руду. Не ўкладалася яна ў формы і адценні, якія насіў я ў думках. У рэдакцыйным горане рэдка свяціла яна адмысловым бляскам. Была падобна на кавалкі, здабытыя таварышамі. Абы ўлезла ў горан.

Мне здавалася, на Беласточчыне буду ў сябе дома. Аказалася не так. Не ведаў я ні людзей, ні спраў, якімі яны жывуць. Усё трэба было вывучаць у азбучным парадку.

З гэтага перыяду найбольш запомніліся Старыя Юхі, дзе я «адкрыў» закаханага ў Мазуры горца Яна Кавэцкага, не абы-якога фалькларыста і цікавага чалавека. Ён паказваў мне і беларускія «канапелькі», сабраныя ім да вайны пад Беластокам.



**Сустрэча з перадавымі пісьманосцамі. Сакавік, 1956 год.**



**24 красавіка 1956 г. рэдакцыю наведаў вядомы беларускі паэт Пятро Глебка. Справа налева: Пятро Глебка, член Літоўскай акадэміі навук праф. Костас Корсакас, Г. Валкавыцкі і загадчык аддзела культуры ВРН у Беластоку А. Рамаnоўская.**

Наогул я амаль не вылазіў з паўночных паветаў. У цане была крытыка і, відаць, маё кіраўніцтва лічыла, што зручней журналісту крытыкаваць незнаёмых. За «цёплымі» справаздачамі ездзіў я ў Гайнаўку (хоць тут адзін сваячок думаў, што хачу яго абмазаць ды і настроіў супраць мяне сакратара КП).

Самы кур'ёзны ўспамін з майго журналісцкага старту звязаны з роднай Белавежай. Землякоў, вядома, зацікавіла белавежскае прозвішча ў «Беластоцкай газеце», але яны не спалучылі яго з маёй асобай (дакажыце, што лёгка выбіцца сярод сваіх!). Перабраўшы Валкавыцкіх, спыніліся на генерале (знайшлі!) і вырашылі: гэта ён.

Што ж, нядрэнна, калі белавежцы не шукалі невядомай сярод радавых.

У маі 1955 года Мар'ян Ксёнжэ забраў мяне ў ВК ПАРП. Не паспеў я ўвайсці ў новую працу, як сакратар даручыў важнае заданне: падрыхтаваць на экзекутыву праект стварэння беларускай арганізацыі.

Што такая арганізацыя патрэбна, падказвала само жыц-

цё. Жывуць у Польшчы беларусы, захоўваюць сваю культуру і традыцыі. Дзейсна падтрымалі станаўленне народнай улады і актыўна ўключыліся ў будаўніцтва новага. І адзінымі цэнтрамі беларускай культуры з'яўляюцца школы. Былі па гэтаму пытанню і канкрэтныя прапановы ад саміх беларусаў: пісьмовыя і вусныя. Заміласванне мясцовага насельніцтва да беларускай культуры моцна праявілася ў час гастроляў Купалаўскага тэатра. Вось што пісала потым аб беластоцкіх спектаклях выдатная артыстка гэтага тэатра В. Галіна: «Білетаў нельга было дастаць. Каля тэатра заўсёды стаяў натоўп моладзі, якая не траціла надзеі паглядзець хоць кавалачак спектакля праз шкляныя дзверы ўваходу. Многія, *нягледзячы на* халодныя вечары, чакалі канца спектакля, каб убачыць акцёраў, калі яны будуць садзіцца ў аўтобусы. Таксама і каля гасцініцы незнаёмыя людзі падыходзілі да акцёраў, прасілі аўтографы. На вуліцах, у магазінах, дзе б ні з'яўляліся беларускія артысты, яны заўсёды адчувалі асаблівую да сябе ўвагу і сардэчныя адносіны. Тлумачылася гэта тым, што вялікая колькасць насельніцтва ў Беластоцкім ваяводстве — беларусы. Для іх нават мова, якая гучэла са сцэны, была асалодай».

І сапраўды было так. Дзесяць дзён, якія правялі купалаўцы на Беласточчыне, выліліся ў вялікае беларускае свята. Наогул атмасфера была цудоўная. У камітэце не сціхалі тэлефонныя званкі, з усіх куткоў ваяводства дамагаліся білетаў на выступленні беларускага тэатра.

Затым зрабілі ўражанне два артыкулы Ежы Равіча ў «Трыбуне люду» («Беларусы ў Польшчы» 8.IX і 10.IX.1955 г.). У першым паказаў ён гісторыю беларускай меншасці, у другім — сённяшнія справы. Тут, упершыню публічна, прапанаваў ён выдаваць у Беластоку тыднёвік на беларускай мове, звяртаў увагу на недахопы ў навучанні беларускай мовы і крытыкаваў мясцовыя ўлады за занядбанні ў развіцці нацыянальнай культуры беларусаў у Польшчы.

*Усе знакі на зямлі і небе* прадвяшчалі хуткае прасоўванне «беларускай» справы. Восенню, пасля зацвярджэння праекта БГКТ дакладваў я экзекутыве ВК ПАРП і аб праекце «Нівы».

Варта адзначыць, што раней узнікла ініцыятыўная група, якая і вызначыла першы абрыс арганізацыі. Потым улілася яна ў арганізацыйны камітэт падрыхтоўчага з'езду, але гэта асобная тэма, я гаварыць буду аб «Ніве».

Ідэі стварэння ў Беластоку беларускага тыднёвіка падпарадкаваны былі ўсе мае думкі. Хваляваўся. Нездарма. Я ж толькі 8 месяцаў быў журналістам. Пачынаючым. Без вопыту ў арганізацыйных справах. А тут у многім ад мяне залежыць будучыня газеты.

Пачаў танцаваць ад загалоўка. Як часам рабіў і ў вершах. З маіх навокалзагаловачных піруэтаў не засталося ніякага следу (зашакіраваў бы цяпер шаноўную публіку!). Помню толькі, што шукаючы імя, канкрэтызаваў і характар часопіса. Адкідваў двухчленныя назвы. Яны — ад бяссілля выказаць думку коратка. А імя тыднёвіка — сціслая думка. Павінна быць простай, суцэльнай і даходлівай. Браў таксама пад увагу будучых кальпарцёраў і шырокую грамадскасць. Не ўсе будуць ведаць беларускую мову, а нам не абыякавы асацыяцыі, якія выкліча ў людзей новы тыднёвік. Вельмі хацеў уплесці гістарычнае карэнне. Беласточчыне, аднак, не пашанцавала з беларускімі выданнямі. Паспрабуйце, напрыклад, адаптаваць «Мужыцкую праўду». «Сялянская праўда»? «Вясковая праўда»? Вузка. Хоць і асноўнай чытальніцкай базай нашага тыднёвіка будзе беластоцкая вёска, аднак не трэба яму завужваць гарызонт вясковымі рамкамі. Гэта ж будзе ў нас адзіная газета на беларускай мове. Ужо амаль адчуваў дотык працягнутай з гісторыі рукі, таксама «адзінай», віленскай «Нашай нівы». Шмат у нас будзе потым супольнага: вынік той жа «адзінасці».



**Навагрудак, чэрвень 1956 год. Ля дома, дзе жыў Міцкевіч. У сярэдзіне Г. Валкавыцкі і А. Давідзюк.**

Значыць, з загалоўкам справа ясная. Да прастаты і даходлівасці дадаў мілагучнасць і падтэкст.

Першую прыкідку ўзорнага макета «Нівы» зрабіў на «Трыбуне люду» (гэты экспанат захаваўся). Зложыўшы ўдвая «Трыбуну люду» (фармат, які магла прыняць беластоцкая друкарня), размясціў алоўкам на дванаццаці старонках уяўны матэрыял. Пад загалоўкам, які з выгляду нагадвае цяперашнюю нашу галоўную віньетку, звяртае ўвагу дата: 1.X.1955. Затым на першай старонцы пе-



**29 верасня 1956 года рэдакцыю наведалі вядомыя беларускія пісьменнікі Піліп Пестрак і Янка Брыль. Злева направа: П. Пестрак, В. Леўчук, Я. Брыль, Г. Валкавыцкі і сакратар ГП БГКТ А. Казёл.**

радавіца (а як жа!), вялікі здымак і хроніка падзей («7 дзён»). На другой старонцы каментарый тыдня, фотарэпартаж і дробязі. Трэцяя старонка: рэпартаж або праблемны артыкул (з краіны ці ваяводства), весткі з краіны. Чацвертая: ідэалогія, грамадскія пытанні і гісторыя з беластоцкім ухілам. Пятая: «У Савецкай Беларусі". Шостая і сёмая: верш і культурныя справы беларускага асяроддзя. Восьмая: фальклор. Дзявятая: аповесць. Дзесятая: папулярна-навуковыя матэрыялы з сельскагаспадарчым ухілам. Адзінаццатая: карэспандэнты, адказы, новыя кнігі, настаўніцкі куток і спорт. Дванаццатая: гумар, сатыра, гульні і цікаўнасці.

Потым гэты варыянт толькі відазмяняўся, дастасоўваўся да канкрэтных умоў і магчымасцей, не цяжка ў ім знайсці і сённяшнюю структуру «Нівы». Чаму не выйшла дванаццаць старонак? Не патраплю сёння вытлумачыцца: не помню.

Сапраўдная полька пачалася пры камплектаванні асабовага складу рэдакцыі. Калі цяпер гляджу на спісак (датаваны 27.X.1955 г.) кандыдатаў на працу ў „Беларускую газету», які я атрымаў з кадравага аддзела беластоцкай РСВ — вачам сваім не веру. Тады спісак здзіўлення не выклікаў. Наадварот, бадзёрыў: амаль пры кожным прозвішчы стаяла: вельмі хоча працаваць у «Беларускай газеце», любіць пісаць. Апрача Міхася Хмялеўскага (працаваў у той час у «Беластоцкай газеце»), нікога з прапанаваных кандыдатаў не ведаў.

Пачаў з імі асабіста знаёміцца і разгубіўся. Усе былі заслужаныя для беларускай культуры, але што рабіць з імі ў рэдакцыі? Хоць і «любілі пісаць», ды, аказалася, ніякіх спроб у гэтай дзейнасці яшчэ не праявілі. Насцярожваў і перадпенсійны ўзрост у большасці непраяўленых аматараў пяра. З цэлага спіска ў склад рэдакцыі увайшоў толькі Міхась Хмялеўскі.

Зразумеў я, што ніякія кадравыя аддзелы не ўкамплектуюць рэдакцыйнага калектыву, і ў студзені 1956 года, калі ўжо ведаў, што буду галоўным рэдактарам, пачаў сам падбіраць супрацоўнікаў. Хацелася мець дачыненне з людзьмі з журналісцкай практыкай, а калі не, дык з літаратурнымі здольнасцямі. Аб добрым валоданні беларускай мовай і гутаркі быць не магло: нашы будучыя беларусісты пацелі яшчэ ў аўдыторыях мінскіх вузаў. «Практыкаў» таксама на лякарства. А і тыя моцна трымаюцца сталічнага шчасця і не ў маіх сілах было б выцягнуць іх з Варшавы. Мясцовая беларуская інтэлігенцыя шчупленькая. Да вайны тут яе наогул амаль не было. Павялічвалася за кошт пасляваенных выпускаў сярэдніх школ. Магістры з нашага асяроддзя пачыналі толькі здзіўляць народ мудрагелістым тытулам. І азадачвала самаўпэўненасць шматлікіх невукаў, якія, адбыўшы ў пачатковым навучанні два-тры гады беларускай мовы (калісьці), перліся цяпер у беларускую рэдакцыю. Больш скромныя, даведаўшыся, што ў рэдакцыі трэба пісаць, адыходзілі мірна. Але многія закіпалі злосцю.

А тыя, каго чакаў, не прыходзілі. Урэшце аптымістычная вестка: вярнуўся з войска ў «Беластоцкую» Васіль Баршчэўскі. Я запрапанаваў перайсці ў „Ніву". Згадзіўся. Значыць, ужо нас траіх з практыкай, хоць і невялікай, але ўсё ж. Потым падвярнуўся Аляксандр Амільяновіч. У Кашаліне працаваў у мясцовай рэдакцыі ў аддзеле лістаў. Хай узначальвае наш аддзел. Згадзіўся прыйсці ў рэдакцыю і былы супрацоўнік «Беластоцкага жыцця» Язэп Рыбінскі. Гэтым і вычарпаўся запас практыкаў.

А тэрміны падганялі. Успомніў артыкул Равіча: у ім была гутарка і аб паэтычным таленце, які марнуецца ў арлянскай кафлярні. Паслаў ганца ў Орлю. Так з'явілася ў рэдакцыі Вера Леўчук — будучая Жанна д'Арк нашай культуры.

У штатным спіску «Нівы» выступалі гасады перакладчыкаў (2). За імі, апрача перакладаў, замацоўваўся абавязак і праўкі рэдакцыйных матэрыялаў. Функцыі ў той час першапланавыя. А кандыдаты ў перакладчыкі (аў-

тарытэтныя) у гадах і не хочуць рызыкаваць. Давялося выбіраць чуццём. Перакладчыцай стала маладая Зося Бусловіч, якая толькі што пакінула сцены беларускага ліцэя ў Бельску. З працай спраўлялася добра, пачала нават пісаць вершы, а потым рэдагавала «Зорку».

З другім перакладчыкам даўжэйшая гісторыя. Недзе ў пачатку маёй працы ў камітэце прыйшоў да мяне выпускнік электрычнага тэхнікума з незвычайнай прапановай: «хачу выдаваць беларускі навуковы часопіс, дастаньце мне пішучую машынку з беларускім шрыфтам».

Здзівіў! Папрасіў я шырэй расказаць аб задуме. Аказалася, часопіс будзе змяшчаць пераклады з прац польскіх і рускіх вучоных. А прызначаецца ён для беларускіх навукоўцаў. Тыраж? Ну, штук пяць... Колькі ліасткоў адаб'е машынка. Несамавітае! Уражала сізіфава праца, якой хоча заняцца гэты асілак. Але, бачу, не прабуй нават адгаворваць. На кваліфікацыі таксама нязручна намякаць, абразіцца. Неяк далікатна сплавіў. Цяпер з кадравай мітусні пачаў усплываць абноўлены вобраз няўдалага мучаніка перакладнай навукі. А што? Мо будзе і толк? Забыў прозвішча, але меў хлопец характэрныя прыкметы і вылавіць яго з тадышняга, яшчэ невялікага, Беластока не было так цяжка. Гэта пра Сакрата Яновіча. Хутка з перакладчыцкай прыстані выплыў ён на глыбіню.

1 лютага 1956 года атрымаў я назначэнне на галоўнага рэдактара. Міхась Баравік, тадышні дырэктар беластоцкай радыёстанцыі і адзін з заснавальнікаў «Беластоцкай газеты», быў назначаны сакратаром. Разам з ім паехалі мы на тыдзень у Варшаву здабываць вопыт у сталічных тыднёвіках. Правялі час у „Трыбуне вальносці" і «Пшыязні». Не многа карысці дало нам гэтае знаёмства. Замала мелі практыкі, каб на ляту хапаць мудрасці рэдакцыйнага варштату, якія гладзенька перадавалі нам вопытныя таварышы, а перабіваць іх наіўнымі пытаннямі не хапала смеласці. Прыбітыя эрудыцыяй настаўнікаў, спяшаліся мы дамоў, разлічваючы на ўласную знаходлівасць.

Яшчэ 13.I.1956 г. ад імя нашай рэдакцыі з'явіўся ў «Беластоцкай газеце» наступны заклік: *«Неўзабаве ў Беластоку пачне выходзіць часопіс на беларускай мове. Будзе гэта тыднёвік «Ніва». Мы горача прагнем дастасаваць часопіс да патрэб беларускага насельніцтва. Таму звяртаемся да будучых чытачоў «Нівы» з просьбай наладзіць з намі як найшырэйшае супрацоўніцтва. Просім дасылаць карэспандэнцыі і прапановы адносна рэдагавання тыднёвіка".*





**Дом, у якім каласавала „Ніва". Рэдакцыя змяшчалася на другім паверсе (два вокны ад балкона злева і адно справа).**

Ці трэба падкрэсліваць, з якой цярплівасцю чакалі мы першых лістаў? Аднак (як бы тут мудрэй сказаць?.. о!) у нашай стрэсавай сітуацыі быў добры падвід (эўстрэс). Ад лістаў, якія пасыпаліся ў рэдакцыю, магла закружыцца галава. Прывяду вытрымкі з некаторых:

*«Беларуская газета вельмі, вельмі на часе, яна дасць шмат добрага беларускаму грамадству» (М. Клімовіч, Крынкі).*

*«У вёсцы Шымкі, дзе працую настаўніцай, усе цешацца і з нецярплівасцю чакаюць «Нівы». Цяпер я арганізавала курс для жанчын. Чытаю ім цікавыя беларускія вершы, знаёмлю іх з беларускай літаратурай (вельмі мала маю матэрыялаў)... Адна з жанчын сказала: я думала, што наша мова непрыгожая, а цяпер я ў яе закахалася. Другая жанчына: трэба нам глыбей пазнаёміцца з беларускай літаратурнай мовай і ў гэтым нам дапаможа «Ніва».*

*Усе жанчыны з нецярплівасцю чакаюць новай газеты. А нашы вучні на кожнай лекцыі беларускай мовы пытаюць: настаўніца, калі мы будзем чытаць першы нумар «Нівы»? Ці мы можам напі-*

*саць у рэдакцыю аб нашым жыцці? Колькі радасці бачу на тварах дзяцей, калі гавару ім, што хутка ўжо будзем чытаць «Ніву» (Ніна Бура, Шымкі).*

*«Ужо ад 1953 г., калі пакінуў беларускую школу ў Гайнаўцы, не бачыў і не чытаў нічога на сваёй роднай беларускай мове, а так хацелася б гэтага. Многа чаго ўжо я забыўся, так што цяпер цяжка мне гаварыць па-беларуску, бо, сказаўшы праўду, не маю з кім... Спадзяюся, што наш часопіс дапаможа мне ліквідаваць гэтыя недахопы» (А. Любасюк, Познань).*

*«Хоць і не з'яўляюся беларусам, з вялікім хваляваннем прывітаў я вестку аб тым, што неўзабаве будзе выдавацца ў Беластоку на беларускай мове тыднёвік «Ніва». «Ніва» прычыніцца ў значнай ступені да развіцця дружбы паміж польскім і беларускім народамі, будзе спрыяць развіццю беларускай культуры Беласточчыны» (Чэслаў Борыс, Элк).*

*„Хай тыднёвік не кладзе ў галаву чытача формул і дэфініцый, хай не стараецца быць прарокам. Няхай артыкулы будуць арыгінальныя, жывыя, каб уздзейнічалі не толькі на думкі, але і на ўяўленні і пачуцці. Няхай часопіс не толькі вучыць, заахвочвае і кіруе, але таксама спрыяе адчуванню прыгажосці жыцця, хай будзе мілым, жаданым адпачынкам пасля працы... Хай будзе даступны маладым паэтам, драматургам, пісьменнікам і г.д. і г.д.» (А. Харкевіч, Новае Варова).*

Можна сказаць, першая сустрэча з чытачамі адбылася ў сардэчнай атмасферы і характарызавала яе ўзаемнае разуменне. Цяпер наша справа, каб абмен думак пераўтварыць у сталыя ўзаемавыгадныя адносіны. У будучыні не раз будзем раіцца з чытачамі, але іх першаму слову прыслухоўваліся мы найпільней. Іх парады на дарогу і цяпер не страцілі яркасці пуцяводнай зоркі.

Атрымаўшы духоўнае падмацаванне, мы з азартам новаспечаных калумбаў пачалі адкрываць рэдакцыйныя мацерыкі. З датай 11 лютага зрабілі першы пробны нумар (ужо не на макеце, а сапраўдны, які бяры і адпраўляй у свет), з датай 19 лютага — другі, а тыдзень пазней — спецыяльны з'ездаўскі нумар: яго атрымалі 26 лютага дэлегаты Першага (арганізацыйнага) з'езда Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Яшчэ праз тыдзень (з датай 4 сакавіка 1956 года) «Ніва» завітала да шырокіх чытачоў і пачала весці нармальнае жыццё.

А ўсё яшчэ ў гэта цяжка было паверыць. Гэты факт яшчэ не ўрос у маю свядомасць. Усплывалі ў думках дакучлівыя ўсмешкі сталічных рэдактараў: калі мы (з сакратаром) усур'ёз гаварылі ім, што праз тры тыдні выпускаем першы нумар, яны стрымана ўсміхаліся. Пасля дваццаці гадоў прызнаюся: цяпер і я на падобную задуму рэагаваў бы не іначай. Тады я проста не ўяўляў цяжару, пад які падстаўляў плечы.

Усяго ў нас не было. Не толькі вопыту. У друкарні не было беларускага шрыфту. Немагчыма было дастаць і пішучыя машынкі з беларускімі літарамі. Не было ў нас уласнага транспарту. Урэшце, не было дзе жыць.

Памяшканне для рэдакцыі атрымалі па Ваяводскім камітэце фронту адзінства народа ў папулярным беластоцкім «акрангляку» на вуліцы Кілінскага, і хоць мелі ўсяго тры пакоі, не было ў іх цесна. З некалькі прапанаваных, гэтае памяшканне выдавалася найзручнейшым. Выбіраў яго разам з таварышам Ксёнжэ. Наогул, калі б не ўключыўся ў актыўную дапамогу сакратар прапаганды ВК ПАРП, наўрад ці ўдалося б нам у вызначаны тэрмін пачаць сваю прадукцыю.

Друкарня неяк укамплектавала шрыфт (адзін узор!), пару пішучых машынак далі недзе прыватна (шрыфт быў з розных старых узораў), найгорш выглядала з жыллём. Яго нам толькі абяцалі на няясную будучыню. Ратавала сямейнае становішча, нямногія з нас былі ў той час жанатыя. Знаходзілі розныя куткі, на вуліцы не начавалі. Я, напрыклад, прыдбаў начное прыстанішча ў каморцы на гары былога кірхавага памяшкання (дзе цяпер кіно «Сірэна»). Каморка была настолькі малая, што я і не прабаваў упіхаць у яе ложак, спаў на падлозе. Калі лёг, рукой даставаў да столі, якая наўскос палавініла каморку. Стаяць можна было толькі ля ўваходу.

Дык хто ж стоячы спіць? Лепш раскажу кур'ёз. У чэрвені старшыню ГП БГКТ (Аляксандр Давідзюк) і мяне запрасіла Беларускае таварыства культурнай сувязі з заграніцай у Мінск. Было гэта наша першае знаёмства з беларускай сталіцай. Гасцявалі слаўна. На развітанне абдарылі нас падаркамі. Я, між іншым, атрымаў пышны віцебскі дыван. «Хай ён, упрыгожваючы вашу беластоцкую кватэру, нагадвае вам Беларусь», — сказалі пры гэтым. Так. Гасціннасць гаспадароў узрушала і бянтэжыла. Як, напрыклад, у маёй беластоцкай нары ажыццявіць адведзеную дывану ролю? Віцебскі прыгажун пачаў іграць яе аж у 1974 годзе. Не таму, што дагэтуль жыў я ў той нары, проста ў 74 знайшлася адпаведная для віцябляніна кватэра (дзякуй, кааператыў «Захэнта»!).

Але не адзіным хлебам чалавек сыты. У 1956 годзе куды больш цікавіла нас духоўная страва. Эмоцыі выклікаў кожны чарговы нумар. Акуратна збіралі ўсе водгукі на «Ніву» ў польскай і замеж-

най прэсе. Іх было шмат. Польскі друк падкрэсліваў, што «Ніва» шпарка перадольвае «недамаганні дзіцячага ўзросту», хваліў нас за цесны кантакт з асяроддзем, адзначаў, што хутка здабылі мы сярод насельніцтва папулярнасць і давер, сцвярджаў, што робім карысную працу. Сімпатычна выказваліся і савецкія газеты, а «Звязда» і «Советская Белоруссия» апублікавалі нават абшырныя агляды першых нумароў «Нівы», падкрэсліваючы нашу ролю ва ўмацаванні дружбы і супрацоўніцтва паміж народамі, у будаўніцтве новага, сацыялістычнага жыцця ў народнай Польшчы. Даходзілі да нас і водгукі з захаду. Там цягнулі старую песню. Вось як падсумавала мяне адна беларусамоўная эмігранцкая газета: «камуніст прысланы з Масквы» (колькі гонару!).

А жыццё ішло сваёй дарогай і застаўляла хваляваца сустрэчнымі ідэямі. З больш важных былі гэта: «Беларускі каляндар», «Зорка», літаб'яднанне. Усім ім удзялялі мы многа ўвагі. Асабліва працы з дзяцьмі і літаратурнай.

Але гэта ўжо перыяд «каласавання». Абмяжуюся толькі 1956 годам, зваротнай стрэлкай у мой руднік, у якім корпаюся 20 год.

**Георгій Валкавыцкі**

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-75



**Салістка з Гайнаўкі Аліцыя Назарук заняла трэцяе месца ў катэгорыі фальклорнай песні.**



**Трыо з Новай Волі: А. Кузміцкая, Р. Буйко і М. Сак, заняло другое месца ў катэгорыі фальклорнай песні ў групе калектываў.**

**Фота Я. Цялушэцкага.**



# Беласточчына на варштаце даследчыкаў

За пасляваенны перыяд была праведзена польскімі даследчыкамі значная работа па вывучэнню разнастайных галін мінулага і сучаснасці Беласточчыны. Мовазнаўства, матэрыяльная і духоўная культура, археалогія, гісторыя, прыродныя ўмовы, эканоміка і сацыялогія — гэта далёка няпоўны пералік шматграннай сферы зацікаўлення вучоных. Асабліва плённымі ў гэтай галіне былі апошнія 10-15 гадоў, калі Польскай акадэміяй навук, Беластоцкім навуковым таварыствам, універсітэтамі, музеямі і іншымі навуковымі ўстановамі краіны былі апублікаваны параўнальна многія апрацоўкі і матэрыялы, прысвечаныя Беласточчыне.

Гэта з'ява невыпадковая. Беласточчына з'яўляецца для даследчыкаў вельмі атракцыйнай тэмай, паколькі ставіць яна перад вучонымі такія пытанні, якія не сустракаюцца ў ніякім іншым раёне ПНР. Вынікаюць яны ў значнай меры з непаўторнай асаблівасці нашага рэгіёну, якую стварае адвечны стык польскай, беларускай і літоўскай этнікі, да таго не пазбаўлены яшчэ і элементаў мусульманскага арыенту. Тут суіснуюць, пераплятаюцца, узаемна ўплываюць адна на другую розныя народныя культуры, мовы, звычаі і традыцыі.

Узнікненне і развіццё Беларускага грамадска-культурнага таварыства аказала немалы ўплыў на рост зацікаўлення фальклорам, этнаграфіяй і іншымі відамі народнай культуры беларускага насельніцтва Беласточчыны, мясцовымі дыялектамі, а таксама складанымі, але цікавымі пытаннямі яго гісторыі і сучаснага жыцця. Дарэчы, само Таварыства, улічваючы вялікае значэнне навуковых даследаванняў, вырашыла не аставацца з боку ад гэтай дзейнасці. Сведчыць аб гэтым пастанова першага ўстаноўчага з'езда БГКТ, якая абавязвала Таварыства арганізаваць даследаванні, прысвечаныя разнастайным пытанням беларускай нацыянальнай меншасці ў ПНР і публікаваць іх вынікі.

Для ажыццяўлення гэтых задач быў арганізаваны навуковы гурток — спецыяльны дапаможны орган БГКТ. Фармальнай падставай яго дзейнасці з'яўляецца статут БГКТ, які, між іншым, пастанаўляе: *«Мэтай Таварыства з'яўляецца арганізаванне і падтрымліванне беларускай мастацкай і навуковай творчасці, выдавецкай дзейнасці і г.д.“* (Статут БГКТ, раздзел III, параграф 7).

Асновай фактычнай дзейнасці навуковага гуртка з'яўляецца супрацоўніцтва з даследчыкамі — спецыялістамі акрэсленых

навуковых дысцыплін, доследы якіх уваходзяць у сферу зацікаўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Дасягаецца гэта шляхам планавання і каардынацыі тэмаў, іх абмяркоўвання і публікацыі.

Вынікі дзейнасці БГКТ на ніве навукі, якія вымяраюцца колькасцю і якасцю апублікаваных прац, не могуць са зразумелых прычын раўняцца з дваццацігадовымі дасягненнямі Таварыства ў галіне грамадскай і культурна-асветнай працы. Тым не менш заслугоўваюць яны ўвагі. Да гэтай пары былі выпушчаны тры «Навуковыя зборнікі» (1961, 1964 і 1974 г.г.), якія, нягледзячы на пэўныя недахопы, адыгралі станоўчую ролю.

Вялікая работа была праведзена ў галіне збіральніцтва беларускага фальклору Беласточчыны. За мінулае дваццацігоддзе толькі ў тыднёвіку „Ніва" і „Беларускіх календарах" было надрукавана амаль 600 арыгінальных песень, казак, легенд і іншых відаў мясцовай народнай творчасці. Асаблівай увагі заслугоўваюць публікаваныя «Нівай» ад вясны 1972 года поўнасцю дакументаваныя фальклорныя запісы з нотамі ў апрацоўцы М. Гайдука.

Істотныя змены наглядаюцца таксама ў тэматычнай накіраванасці навуковых публікацый БГКТ. Калі на першым этапе



**Удзельнікі пасяджэння навуковага гуртка БГКТ. Фота М. Гайдука.**





**Выстаўка беларускага народнага мастацтва ў г. Грудзёндзу на пераломе 1974—1975 гадоў.**

пераважная іх частка прысвячалася агульнабеларускім пытанням (гісторыя, рэвалюцыйны рух, літаратура і інш.), то ў апошнія гады ўвагу даследчыкаў займае ва ўсё большай меры вывучэнне акрэсленых пытанняў, звязаных непасрэдна з нашым рэгіёнам — Беласточчынай. Такая канцэпцыя з аднаго боку лепш адпавядае сучаснай метадалогіі грамадскіх навук, а з другога — стварае магчымасць атрымліваць больш канкрэтныя вынікі даследаванняў.

За такой канцэпцыяй прамаўляе таксама факт, што над пытаннямі ў шырокіх агульнапольскіх і агульнабеларускіх маштабах працуюць вялікія, спецыялізаваныя навуковыя калектывы ў Польшчы і Беларусі. Рэгіянальная праблематыка Беласточчыны, нягледзячы на значны прагрэс, дасягнуты ў яе вывучэнні, з'яўляецца практычна невычэрпнай крыніцай новых арыгінальных і салідных доследаў. Датычыць гэта ў прыватнасці цэлага комплексу пытанняў, якія выступаюць на беларускім і пераходным польска-беларускім моўных абшарах Беласточчыны.

Стан і патрэбы вывучэння паасобных пытанняў далёка неаднолькавыя. Параўнальна найлепшых вынікаў дасягнулі на працягу мінулага дзесяцігоддзя моваведы Варшаўскага універ-

сітэта і Польскай акадэміі навук у даследаванні моўных асаблівасцей беларускага насельніцтва Беласточчыны. За гэты час была апублікавана значная колькасць навуковых прац, як напр. *«Тэксты гаворак з Беласточчыны»* пад рэдакцыяй праф. др А. Абрэмбскай-Яблонскай, працы моваведаў др Э. Смулковай, др М. Кандрацюка, др С. Глінкі, мгр Г. Багроўскай і інш., сярод іх некаторыя ў „Навуковых зборніках" і іншых выданнях БГКТ. Падрыхтаваны да друку дыялекталагічны атлас Беласточчыны.

Запісы беларускіх фальклорных тэкстаў, апублікаваныя дагэтуль у «Ніве» і «Беларускіх календарах», нягледзячы на значную іх колькасць, усё яшчэ не з'яўляюцца дастатковымі як з пункту даследавання жанраў, так і тэрытарыяльнага ахопу. У гэтым сэнсе лепш даследаваны мясцовасці Бельскага, Гайнаўскага і Беластоцкага паветаў, а горш — Сямяціцкага, Сакольскага і Дуброўскага паветаў. Вялікая колькасць тэкстаў была запісана за мінулае дзесяцігоддзе студэнтамі Варшаўскага універсітэта, на жаль, да гэтай пары толькі невялічкая частка была апублікавана (да таго без нот).

Хочацца заўважыць, што публікаваны да гэтай пары „сыры" матэрыял ужо стварае добрую падставу для напісання аналітычных прац, прысвечаных народнай культуры беларусаў Беласточчыны. Такія магчымасці несумненна будуць расці ў меру ўключэння ў навуковы зварот новых фальклорных тэк-



**Выстаўка беларускага народнага мастацтва ў г. Грудзёндзу на пераломе 1974—1975 гадоў.**



стаў. Значную цікавасць прадстаўляюць таксама магістэрскія працы, напісаныя студэнтамі беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта пад навуковым кіраўніцтвам др А. Баршчэўскага.

Важнай, надзвычай цікавай тэмай для даследчыкаў магло б быць, урэшце, вывучэнне ўзаемных сувязей і пранікання народных культур на пераходным моўным абшары. Аб вялікім зацікаўленні гэтай справай сведчыць хаця б слаўная «Канапелька» Э. Рэдлінскага.

Вывучэннем матэрыяльнай культуры беларускага насельніцтва Беласточчыны займаецца між інш. вядомы этнограф мгр М. Пецюкевіч, праца якога *„Матэрыяльная культура Сакольшчыны"* была апублікавана ў „Навуковым зборніку" (1964). У апошнія гады аўтар закончыў апрацоўку чарговых работ, прысвечаных традыцыйнай апрацоўцы валакністых раслін і ткацтву на Беласточчыне. Іх публікацыя прадугледжваецца ў наступным „Навуковым зборніку".

Важнай дзялянкай зацікаўлення БГКТ з'яўляюцца грамадскія пытанні Беласточчыны, у прыватнасці вывучэнне працэсаў, якія складаліся на эканамічнае і культурнае развіццё мясцовага беларускага насельніцтва ў мінулым і якія працягваюць уплываць на яго ў сучаснасці. Гэта шырокі дыяпазон гістарычных, эканамічных і сацыялагічных пытанняў, які ўключае між іншым гісторыю рэвалюцыйнага руху, развіццё гаспадаркі, асветы і культуры.

Патрэбы даследаванняў у гэтай сферы адчуваюцца асабліва востра, паколькі ўпамянутыя праблемы вывучаны да гэтай пары ў выключна незадавальняючай ступені. Возьмем для прыкладу гісторыю „Грамады", якой было прысвечана некалькі сур'ёзных прац, апублікаваных у „Навуковых зборніках" і „Беларускіх календарах", якія аднак (акрамя некалькіх эпізадычных успамінаў) амаль не пашырылі нашых ведаў аб дзейнасці гэтай арганізацыі ў канкрэтных умовах Беласточчыны. Іншым тыповым прыкладам мізэрнай знаёмасці ўласнага панадворка могуць быць працы др Ул. Паўлючука, прысвечаныя дэзінтэграцыі традыцыйных праваслаўных асяроддзяў на Беласточчыне. Выклікалі яны „святое абурэнне" многіх нашых крытыкаў, якія, аднак, акрамя эмацыянальных адгалосак, не змаглі ім супрацьставіць, па сутнасці, ніякіх сэнсоўных аргументаў.

Можна спадзявацца, што ўзрастаючая зацікаўленасць і вопыт, які прыходзіць з часам, створаць надзейную перспектыву для даследаванняў у сферы грамадскіх навук. Сярод гэтых пытанняў павінна аказацца таксама спроба навуковага абагульнення дваццацігадовай дзейнасці БГКТ і ролі нашай арганізацыі ў палітычных, грамадскіх і культурных пераўтварэннях, якія за гэты час наступілі ў беларускіх асяроддзях Беласточчыны.

Істотнай сферай зацікаўлення навуковага гуртка з'яўляюцца таксама польска-беларускія сувязі ў мінулым і сучаснасці. Неабходна пры гэтым выяўляць элементы ўзаемнага супрацоўніцтва ў розных галінах грамадскага жыцця, а таксама ў навуцы, літаратуры і культуры.

Важнай падзеяй у працы навуковага гуртка з'яўляецца пачатае некалькі гадоў таму назад творчае супрацоўніцтва з Беластоцкім навуковым таварыствам. Мае яно істотнае значэнне для павышэння ўзроўню прац, публікаваных у „Навуковых зборніках", яны цяпер рэцэнзуюцца вядомымі польскімі спецыялістамі і павінны адпавядаць высокім іх патрабаванням. Супрацоўніцтва з БТН ажыццяўляецца таксама пры выданні і распаўсюджванні „Навуковых зборнікаў".

**Юры Туронак,**

старшыня праўлення
навуковага гуртка пры
ГП БГКТ

## З НАШАГА АРХІВА



**У Бельску (1951 год). У цэнтры сядзяць: выкладчык беларускай мовы Бельскага агульнаадукацыйнага ліцэя Ілья Бернат, візітатар беларускіх школ Беластоцкага аддзела асветы ВРН Піліп Кізевіч і дырэктар Бельскага педліцэя Мікалай Канашынскі.**



# У службе справядлівасці

Думка аб стварэнні пры „Ніве" пункту прававой кансультацыі ўзнікла ў 1957 г. Увосень таго ж года была змешчана ў нашым тыднёвіку аб'ява, і ад пачатку студзеня 1958 г. насельніцтва Беласточчыны магло карыстацца раз у тыдзень бясплатнай прававой кансультацыяй.

Пачаткова прыходзіла двух-трох чалавек, але з бегам часу іх колькасць сістэматычна павялічвалася. Цяпер жа звяртаецца за кансультацыяй у сярэднім 15 чалавек, найбольш з горада Беластока і навакольных гмінаў.

На дваццатыя ўгодкі Беларускага грамадска-культурнага таварыства варта прыгадаць і гэты скромны ўклад нашай арганізацыі для дабра грамадства. Гледзячы на праведзеную дагэтуль работу, можна сказаць з упэўненасцю: зроблена не мала. Дні, у якія адбывалася кансультацыя, падлічаныя разам, склалі б больш двух год, а калі б паставіць у чаргу ўсіх наведвальнікаў,

**ВІНЦУК СКЛУБОЎСКІ**



**Нарадзіўся ў 1911 г. у Малышкаўшчыне Ашмянскага павету. З 1957 г. з'яўляецца суддзёй Ваяводскага суда ў Беластоку і ад таго часу дае грамадскім чынам юрыдычныя кансультацыі пры рэдакцыі „Нівы", а таксама на старонках тыднёвіка ў рубрыцы „Кансультацыі юрыста".**

**Член ПАРП, актыўны дзеяч БГКТ, аўтар таксама шэрагу артыкулаў і апавяданняў, што публікаваліся ў выдавецтвах БГКТ.**

якія за гэты час скарысталі з кансультацыі, пачынаючы ад рэдакцыі „Нівы", дык канец яе быў бы недалёка ад Супраслі.

Структура нашай вёскі, асабліва прыватная ўласнасць і раздробленасць сельскай гаспадаркі, традыцыйная псіхіка ўласніка ствараюць поле да суседскіх, сямейных і грамадскіх канфліктаў. У меру сацыялістычнага будаўніцтва наша дзяржава паступова ліквідуе грамадскія праблемы, напрыклад: устанаўленне пенсіі

для сялян, бясплатнае лячэнне сялян і шэраг іншых. Але некаторыя з гэтых праблемаў знікнуць толькі пасля поўнай перабудовы сельскай гаспадаркі і паспяховага вырашэння іншых, як хоць бы жыллёвае будаўніцтва.

Гэта не значыць, што ўжо сёння нельга зрабіць многа ў напрамку ліквідацыі грамадскіх канфліктаў. Барацьба за ўкараненне сацыялістычных норм сужыцця складае, безумоўна, адзін з асноўных фактараў сацыялістычнага будаўніцтва. Прававая кансультацыя мабілізуе людзей да барацьбы за ўкараненне справядлівасці, а з другога боку, калі прэтэнсіі наведвальніка не згодны з законам — уздзейнічае на ўстрыманне людзей ад валакіты, непатрэбнай і шкоднай не толькі для грамадства, але для прыватнай асобы, якая чамусьці палічыла сябе пакрыўджанай.

Пры нагодзе варта з дагэтуляшняй багатай практыкі пазнаёміць чытача з тыповымі справамі, якія выклікаюць часцей за ўсё непаразуменні.

А. В. скончыў 70 год, а жонка яго на тры гады малодшая. Сыны і дочкі іх ужо маюць свае сем'і і толькі часам, у вялікія святы, наведваюць бацькоў. На гаспадарцы пры бацьках астаўся найменшы жанаты сын. Увесь цяжар працы спачывае на сыне і нявестцы. Чым менш могуць яму дапамагчы бацькі, тым больш чуюцца яны непатрэбнымі. Асабліва маці не можа згадзіцца, што кіраванне домам пераходзіць у рукі нявесткі. Яна ўмешваецца ў найдрабнейшыя справы і не заўсёды з толкам.

— Гаспадарка мая, усё зроблена маім потам! І ніхто тут не можа распараджацца, — гаворыць яна.

— А што сталася б з гаспадаркай, калі б мы з мужам не працавалі на ёй, як валы? — адказвае нявестка.

— Не будзеце працаваць — знойдуцца іншыя. Маю яшчэ трох сыноў і дзве дачкі.

— Ад яе ўсяго можна спадзявацца, — кажа нявестка да мужа. — Возьме ды запіша гаспадарку на каго іншага, а мы пасля доўгіх год працы тут застанемся жабракамі. Няхай твае бацькі запішуць нам хоць палавіну гаспадаркі. А за гэта мы будзем абрабляць іх палову і забяспечым ім утрыманне да смерці. А калі яны не згодзяцца, дык паедзем у горад.

Бацька згаджаўся з прапановай сына і нявесткі, але маці пасварылася і паехала да іншага сына. Сын і нявестка выехалі ў горад і ўладкаваліся на працу. Гаспадарка марнее. Бацька быў змушаны выпрадаць жывёлу, бо не меў сілы яе даглядаць. Калі ж гаспадарка змарнавалася, маці падала сына ў суд на аліменты.

Або такое.

Яны пажаніліся дваццаць год таму назад, калі яму было сорак пяць, а ёй сорак год. Муж меў каля горада пляц, на якім яны



супольна пабудавалі дом. І ўсё было б добра, калі б не брат мужа, які жыве з сям'ёй у вёсцы і даязджае да працы ў горад. Яму хочацца пераехаць у горад, але ён не мае магчымасці атрымаць кватэру. Муж знаходзіцца пад уплывам брата і згадзіўся б прыняць яго сям'ю. Дом складаецца з чатырох пакояў і кухні, а дзяцей у іх няма. Жонка не згаджаецца, бо брат мужа ад самага пачатку іх жыцця варожа адносіўся да яе. Ён нават прабаваў перашкодзіць брату ажаніцца з ёю. Мо разлічваў на яго пляц? Яна баіцца, што калі брат мужа ўвойдзе ў іхні дом, дык ёй не будзе там месца. А ўтрымоўваецца яна ў асноўным з агароду, што знаходзіцца на пляцы. Дзе тады падзенецца жанчына, якой споўнілася 60 год? Падбухтораны братам муж падае справу ў суд аб разводзе. А фактычна справа тут не ў разводзе. Атрыманне разводу стварыла б магчымасць прымусовага высялення дагэтуляшняй жонкі.

Ці вось такое.

А. С. споўнілася 73 гады. Гаспадарку перапісаў ён на сына. Трох іншых сыноў закончыла школы і жыве ў дастатку ў горадзе. Дачка выйшла замуж.

„Чаму гэта толькі я маю ўтрымоўваць бацьку? — падумаў сын, якому бацька перапісаў гаспадарку. — Браты мае жывуць лепш ад мяне".

— Ты атрымаў бацькаву гаспадарку, і таму ты і абавязаны датрымаць бацьку да смерці, — адказваюць тыя.

— Бацька вас вывучыў, і вы дзякуючы гэтаму жывеце значна лепш ад мяне. Значыць, і вы павінны дапамагчы ўтрымоўваць бацьку.

І так дзеці спрачаюцца, а бацька тым часам жыве на ласкавым хлебе ў чужых людзей.

Або зноў гэта.

Пляменнік абавязаўся дахаваць дзядзьку да смерці за гаспадарку. За пяць год свае працы ён паставіў дзядзькаву гаспадарку на ногі. Дзядзька гарнуў грошы з працы пляменніка і яго жонкі, пакідаючы ім толькі на самыя неабходныя рэчы.

— Дзякуючы нашай працы гаспадарка дае значныя даходы, а мы з жонкай жывем, як кепска аплочаныя парабкі, — не вытрымаў пляменнік.

— Не падабаецца — можаце ісці сабе на чатыры вятры, — дзядзька на тое.

Пляменнік адыходзіць і пачынаецца судовая валакіта за тое, што атрымаў з гаспадаркі пляменнік, а на чым скарыстаў дзядзька.

Або вось.

У А. на прадмесці невялікі дом, у якім пасля вайны атрымаў кватэру В. на аснове рашэння гарадскога ўпраўлення. Плаціць месячную дзяржаўную стаўку за кватэру 60 злотых. Сёння

ўласнік дому за гэтае памяшканне мог бы атрымаць 700-800 злотых у месяц. Але кватаранта ахоўвае закон, і ён не мае абавязку плаціць больш чым 60 злотых. Як пазбыцца кватаранта? Пачынаюцца прыдзіркі, прычэпкі, правакацыі — дробныя, але дакучлівыя. Да ўладаў звярнуцца няма з чым. Не будзеш жа падаваць у суд за кожнае грубіянскае слова або за тое, што пад дзвярыма пасыпана смеццем. Ды і даказаць гэта немагчыма. Хочаш не хочаш, мусіш шукаць іншай кватэры.

Але здараецца і наадварот.

Г. наймае пакой з кухняй у доме Д. Амаль штодня ў яго збіраюцца індывідуумы, якіх спатыкаць на неасветленай вуліцы небяспечна. П'янства, гулянкі, стук і крыкі амаль да світання. Гаспадар дому звяртаецца да міліцыі. На нейкі час у кватаранта спакойна. Але гаспадар уночы баіцца выйсці з дому, бо можна дастаць па галаве і не будзеш ведаць ад каго. Д. звяртаецца ў суд і рашэннем суда Г. мае быць прымусова выселены. Рашэнне накіроўваецца ў кватэрны аддзел гарадскога ўпраўлення. На высяленне трэба чакаць доўгія гады. Г. зусім перастаў плаціць за кватэру і яшчэ больш прыдзіраецца да гаспадара.

Х. задумаў адгарадзіць сваю сялібу ад суседа. Ніякай відавочнай мяжы не было. Калі Х. пачаў ставіць плот, з'явіўся сусед, з якім яны дагэтуль жылі згодна.

— Плот ты ставіш на маім пляцы, — заўважыў сусед. — Сам бачыш, што мяжа ідзе ад таго каменя да гэтага куста.

— Памыляешся, — адказвае Х., — мяжа прабягае ад той бярозы, што пасадзіў перад вайною мой бацька, калі ты яшчэ ракам поўзаў.

— Магчыма, што бярозу пасадзіў твой бацька, але ў часе камасацыі, праведзенай два гады перад вайною, мяжа была ўстаноўлена ад таго каменя. Там павінен быць капец.

— Але па капцы і следу не захавалася.

Х. не ўступіў і плот паставіў. А назаўтра ўбачыў, што плот яго развалены. Пачаліся суды.

Ці вось.

Ф. аддаў суседу ў арэнду адзін гектар сенажаці на шэсць год. Прайшлі чатыры гады.

— Ты глядзі, — параіў яму вясковы знаток па прававодству, — прападзе твая сенажаць. Пасля пяці год арэнды сусед стане ўласнікам сенажаці. Не чуў ты па радыё, што закон такі выйшаў?

— Але ж закон за ім. Дабравольна ён не верне мне сенажаць. І ў суд яго не падам, бо ўмова арэнды яшчэ не скончылася.

— А навошта цягацца па судах. Скасі сенажаць ды і ўсё! Што ён табе зробіць. Сенажаць жа пакуль што яшчэ твая лічыцца.

Ф. паслухаў дарадчыка. Сусед звярнуўся ў суд. Ф. змушаны быў аддаць сенажаць суседу ў карыстанне і заплаціць за скошанае сена. А ўсяму прычына, што паслухаў дурной рады асобы, якая не маючы паняцця, бярэцца раіць іншым.

Або вось.

Брат з сястрою пражылі згодна ўвесь век. У іх быў супольны дом, дзе сястра мела пакой з кухняй, у якіх яна жыла сама, бо яе сын з жонкай і дзяцьмі жыў асобна. Брат з жонкай і двума дзяцьмі займалі два пакоі і кухню. І так пражылі б згодна да смерці, калі б не сын сястры, які завідным вокам паглядаў на дом.

Матка мае да дому такое самае права, як і яе брат. Але калі яна памрэ, а мае яна 70 год і гэтага можна хутка спадзявацца, яе брат зойме ўвесь дом.

І хаця ён, сын, атрымае спадчыну па маці, усё ж дзядзька і так яго не ўпусціць у дом. Ён гэта ведаў ад адваката. Ведаў таксама, што гарадское ўпраўленне не дазволіць падзяліць дом і пляц на дзве часткі.

Маці не цалкам зразумела ў чым справа, і падпісала даверанасць сыну. І той падаў у суд аб падзеле супольнага дому.

„Калі дому падзяліць нельга, то суд мусіць прыдзяліць дом аднаму. Няўжо ж суд выкіне старую недалужную жанчыну, а прыдзеліць дом дзядзьку?" — думаў сын.

А ўсё ж памыліўся. Суд прызнаў дом дзядзьку, а маці атрымала права пажыццёвага пражывання ў кватэры, якую дагэтуль займала.

Або.

Браты падзялілі паміж сабой поле і гаспадарылі асобна. Асталася непадзеленай сяліба з будынкамі ды невялікім выганам, на якім хадзіла жывёла абодвух братоў. Усё было добра, пакуль аднаму з іх не ўздумалася гадаваць гусей. Некалькі дзесяткаў гэтых птушак так выскубалі ды загадзілі выган, што для ніякай жывёлы там нічога ўжо не засталося.

— Гэта несправядліва, — гаварыў пакрыўджаны. — Выган жа супольны, а ты сам адзін ім карыстаешся.

— Я ж табе не бараню карыстацца ім, а гадаваць гусей маю права, — адказаў уласнік гусей.

І пачалася судовая валакіта.

Роля прававой кансультацыі асноўваецца на тым, каб не толькі выясняць законы, але і вучыць людзей узаемнага зразумення і спагадлівасці, добразычлівасці. Ролю гэтую не заўсёды спаўняе адвакат, які падыходзіць да справы са свайго прафесіянальнага пункту гледжання, а ўзяўшы справу, змушаны бараніць свайго кліента, нават калі ён сам мае іншы погляд ад кліента на самую справу. Чалавек у пункце прававой кансультацыі атрымоўвае аб'ектыўны адказ, незалежна ад таго, ці гэта адпавядае яго спадзяванням, ці не. Суддзя-кансультант не раіць пачынаць справу, калі няма перспектываў на яе станоўчае вы-

рашэнне. Суддзя-кансультант выясняе людзям сэнс законаў, раіць, што і як трэба рабіць, калі патрабаванне чалавека справядлівае.

Таму да мяне за парадай неаднаразова звяртаюцца людзі ў справах, па якіх ужо нанялі адвакатаў. І многія паступаюць згодна з маёй парадай ці парадай іншага суддзі-кансультанта. Гэта садзейнічае змяншэнню колькасці грамадскіх канфліктаў і беспадстаўных спраў, якія займаюць час людзям і дзяржаўным установам. Іншыя, праслухаўшы параду, робяць па-свойму, і толькі непрыемны вопыт пераконвае іх, што паступілі непрадумана. А бываюць і такія людзі, якія прызнаюць адно толькі сваю ўласную праўду, паводле якой толькі тое справядліва, што карысна для іх. Яны ўважаюць, што калі закон вырашае справу інакш, чым яны спадзяваліся, дык значыць закон несправядлівы. Калі суд ці іншая ўстанова вырашаць справу не ў іх карысць, дык значыць — падкуплены, і ніякія грамадскія праўды для такіх не існуюць. Гэта людзі з камплексамі, і таму з самым вялікім спакоем і цярплівасцю прыходзіцца ім тлумачыць і паясняць усё.

Кансультацыя прычыняецца да пашырэння прававой, маральнай і грамадскай культуры. Гутарка сам на сам мае вялікае ўздзеянне на чалавека і часта нічым іншым не можа быць заменена. Яна заўсёды датычыць праблемы важнай жыццёва для данага чалавека.

Няўменне сужыць з іншымі і грамадскія канфлікты — гэта хвароба, якая перашкаджае ў сацыялістычным будаўніцтве. Прававая кансультацыя і з'яўляецца адным са спосабаў лячэння гэтай хваробы. У гэтым і заключаецца сэнс існавання пункту прававой кансультацыі пры нашым тыднёвіку „Ніва", у Беластоку, вуліца Весялоўскага 1. Калі вам неабходна, прыходзьце. Працую кожны панядзелак з 11 гадзін дня.

**Вінцук Склубоўскі**

# АБ НАС ПІСАЛІ...

*NA UNIWERSYTECIE WARSZAWSKIM KATEDRA JĘZYKA BIAŁORUSKIEGO. „Trybuna Ludu" z 3.IX.1956 r.*

*„W wyniku starań Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w Polsce, zostanie z początkiem roku akademickiego 1956/57 na wydziale filologicznym Uniwersytetu Warszawskiego uruchomiony kierunek studiów filologii białoruskiej. Organizacja tych studiów została powierzona prof. dr Antoninie Obrębskiej-Jabłońskiej. Po przedstawieniu wniosku przez Uniwersytet Warszawski zostanie powołana katedra filologii białoruskiej".*

*RUŃ. „Przyjaźń" z 5.VII.1959 r.*

*„Od roku przy redakcji „Niwy", organie Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w Białymstoku, istnieje Stowarzyszenie Literackie,*



*które co miesiąc wydaje Stronicę Literacką jako dodatek do „Niwy", ostatnio zaś wydało tomik wierszy swych członków pt. „Ruń". (...)*

*Wszystkie niemal wiersze powstały po roku 1955. Autorzy ich różnią się nie tylko wiekiem i poziomem rozwoju twórczego, ale i gustami literackimi. Większość z nich pierwsze kroki stawiała na łamach „Niwy".*

*Jest to pierwszy zbiorek poezji białoruskiej, wydany w Polsce Ludowej..."*

*PO BIAŁORUSKU. „Radio i Telewizja" nr 46 (743) z 15.XI. 1959 r.*

*„W czerwcu 1958 roku, czyli półtora roku temu na antenie Rozgłośni Białostockiej pojawiła się nowa pozycja programowa — Białoruski Magazyn Radiowy. Jego autor red. Maciej Konopacki znalazł na terenie Białostocczyzny wiele ciekawego materiału do audycji. Stare legendy i opowiadania, utwory poetów i prozaików, piszących po białorusku, rozmowy z entuzjastami literatury białoruskiej, ludowe melodie i piosenki — wypełniają program 14-minutowej audycji. A materiału nie braknie..."*

*KULTURALNE NIE TYLKO Z SZYLDU. „Trybuna Ludu" z 27.XII.1959 r.*

*„Zamiłowanie ludności białoruskiej, zamieszkującej południowo-wschodnią część województwa białostockiego, do tańca i pieśni ludowej znalazło swe odbicie w 70 białoruskich amatorskich zespołach ludowych. W celu spopularyzowania tych form pracy kulturalnej, towarzystwo urządza doroczne eliminacje białoruskich zespołów ludowych, przeprowadza seminaria dla ich kierowników, zaopatruje je w powielany przez siebie repertuar w języku białoruskim.*

*W ramach działalności towarzystwa powstało również Stowarzyszenie Literackie. Wydało ono w bieżącym roku zbiór wierszy 17 poetów białoruskich. Wydanie tego zbiorku spowodowało 15 wieczorów autorskich wśród ludności wsi białostockich.*

*Inną formą jest powołanie przez towarzystwo koła naukowego, które zajmuje się zagadnieniami ekonomii, etnografii, językoznawstwa, krytyki literackiej.*

*W związku z 40-leciem Komunistycznej Partii Zachodniej Białorusi koło to opracowało do radiowęzłów w powiatach zamieszkałych przez ludność białoruską audycje w języku białoruskim związane z tą rocznicą. Nadto koło naukowe przygotowuje do druku periodyk odzwierciedlający problemy białoruskie na Białostocczyźnie.*

*Działa tu również białoruska sekcja etnograficzna Polskiego Towarzystwa Ludoznawczego. Sekcja ta okazała w bieżącym roku dużą pomoc Wydziałowi Kultury Prezydium WRN w etnograficznej penetracji powiatu sokólskiego. Ogółem sekcja jest w posiadaniu 50 amatorskich zapisów etnograficznych.*

*Białoruska twórczość ludowa to pięknie tkane dywany, kilimy, krajki, misterne hafty, wycinanki, słomiane plecionki. 175 najpiękniejszych okazów tej twórczości znalazło się ostatnio na zorganizowanej staraniem Towarzystwa Białoruskiego i Wydziału Kultury Prezydium WRN wystawie..."*

*WOJEWÓDZTWO WIELU JĘZYKÓW. „Trybuna Ludu" z 28.VI.1961 r.*

*„Liczną grupę narodową stanowią Białorusini zamieszkujący częściowo południowe i wschodnie powiaty województwa. Spotyka się wioski wyłącznie białoruskie, mieszane polsko-białoruskie i takie, w których Białorusini stanowią nieznaczny procent ludności. U podłoża rzucającej się w oczy ruchliwości społecznej i kulturalnej Białorusinów leżą wiekowe doświadczenia i tradycje — zamieszkują te okolice z dziada pradziada. Niemałą rolę odgrywa również stała troska o stworzenie im jak najlepszych warunków rozwoju, zaspokojenie potrzeb oświatowych i kulturalnych, o czym marzyć nie mogli w Polsce przedwrześniowej".*

*POGADANKI RADIOWE W JĘZ. BIAŁORUSKIM. „Gazeta Białostocka" z 21.VIII. 1961 r.*

*„Dzięki wydatnej pomocy władz powiatowych i wojewódzkich już od roku są prowadzone regularnie tygodniowe 12-minutowe pogadanki w języku białoruskim przez 8 radiowęzłów w terenach zamieszkałych przez ludność białoruską. Są to radiowęzły — w Dąbrowie, Sokółce, Krynkach, Gródku, Rybołach, Hajnówce, Bielsku Podlaskim i Milejczycach".*

*SZKOLNICTWO BIAŁORUSKIE NA BIAŁOSTOCCZYŹNIE. „Gazeta Białostocka" z 28.VIII.1961 r.*

*„Intensywny rozwój szkolnictwa białoruskiego na Białostocczyźnie datuje się od 1952 r. W tym czasie powstały 153 szkoły podstawowe i 2 licea z językiem białoruskim. W latach następnych notowano dalszy wzrost szkół z językiem białoruskim.*

*W chwili obecnej istnieje na terenie naszego województwa 175 szkół tego typu, w których naukę języka macierzystego pobiera około 11 tys. dzieci białoruskich. Należy podkreślić, że na terenie powiatów Hajnówka i Bielsk Podlaski nauczaniem języka macierzystego jest objęta cała młodzież białoruska".*

*NA NAUKĘ NIGDY NIE JEST ZA PÓŹNO. „Gazeta Białostocka" z 30.VIII.1961 r.*

*„... w porozumieniu z inspektoratami oświaty, w sezonie jesienno-zimowym aktyw BTS-K zorganizuje w przeciągu lat 1961—65 po trzy zespoły czytelnicze w języku polskim i białoruskim w każdym powiecie, gdzie istnieją terenowe organizacje Towarzystwa. Opracowuje się już program i skrypt dla kursów języka białoruskiego dla doro-*

słych. W bieżącym roku zostaną zorganizowane 2 takie kursy, w roku następnym — 8 kursów, natomiast w latach 1963—65 — po 10 kursów języka białoruskiego dla dorosłych rocznie".

BIAŁORUSKI LUDOWY ZESPÓŁ PIEŚNI I TAŃCA PRZYSTĄPIŁ DO PRACY. „Gazeta Białostocka" z 18.IX.1961 r.

„Znany i lubiany na Białostocczyźnie Białoruski Ludowy Zespół Pieśni i Tańca po letniej przerwie przystąpił już do pracy nad nowym programem. Dyrygentem zespołu jest Helena Kulaszewicz".

RUCHOMA WYSTAWA BIAŁORUSKIEJ SZTUKI LUDOWEJ. „Gromada — Rolnik Polski" nr 126 (1461) z 19.X.1961 r.

„Ostatnio Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne w Białymstoku zorganizowało ruchomą wystawę białoruskiej sztuki ludowej. Do najbardziej interesujących działów wystawy należą reprodukcje słynnych pasów słuckich i ornamentów. Wystawa cieszy się dużym zainteresowaniem, szczególnie wśród kobiet wiejskich. Po odwiedzeniu pow. bielskiego obecnie wystawa gości w pow. siemiatyckim. Oglądali ją m. in. rolnicy wsi Rohacze, Klukowicze i Wólka Nurzecka".

PRACA OŚWIATOWA ZATACZA CORAZ SZERSZE KRĘGI. „Gazeta Białostocka" z 18.XII. 1961 r.

„W celu przyjścia z dalszą pomocą ruchowi oświatowemu, Wydział Kultury Prezydium WRN w Białymstoku zorganizował kurs dla działaczy środowisk białoruskich, który odbył się w dniach od 3—13.XII. br. Wzięło w nim udział 36 osób...".

WIECZOREK LITERACKI. „Gazeta Białostocka" z 9.X.1962 r.

„O godz. 18 w Klubie MPiK rozpoczął się wieczorek literacki zorganizowany wspólnie z białostockim Klubem Literackim. Twórczość swą prezentowali Tadeusz Sokół, Alicja Jędrzejewska i Zbigniew Ślączka oraz białoruscy poeci: Aleksander Barszczewski, Jan Aniserowicz, Wiktor Szwed i Jan Czykwin. Impreza ta wywołała zrozumiałe zainteresowanie wśród licznie zgromadzonych miłośników poezji".

O WŁAŚCIWĄ ATMOSFERĘ W SZKOLE I ŚRODOWISKU. „Gazeta Białostocka" z 19.XII.1962 r.

„W pow. hajnowskim i bielskim istnieje po kilkanaście wiejskich szkół podstawowych z białoruskim językiem wykładowym. Ich doświadczenia wychowawcze wywołują ostatnio duże zainteresowanie wśród pedagogów. Nauczanie języka białoruskiego rozpoczyna się w nich od klasy pierwszej szkoły podstawowej, a nie od drugiej jak w innych szkołach. Dziecko jest w tym okresie bardziej chłonne na materiał podawany przez nauczyciela w znanym mu języku białoruskim. Mniej boleśnie przeżywa okres przygotowawczy, łatwiej przywiązuje się do szkoły. Bo przecież dialektem tego języka posługują się jego rodzice i otoczenie".

„NIWA" 10 LAT. „Nasza Wieś", nr 297 z 6.II.1966 r.

„Wydawanie „Niwy" nastąpiło na określone zamówienie społeczne. Jest to bowiem pismo redagowane w języku białoruskim. Tym językiem posługuje się na Białostocczyźnie wielu jej mieszkańców. Zamieszkują oni wschodnio-południowe rejony województwa".

SPOŁECZNE MUZEUM ETNOGRAFICZNE W BIAŁOWIEŻY. „Gazeta Białostocka" z 14.III.1966 r.

„W sobotę, 12 marca br. otwarte zostało w Białowieży społeczne muzeum etnograficzne. Gromadzi ono eksponaty kultury materialnej ludu białoruskiego, zamieszkującego południowo-wschodnie rejony Białostocczyzny".

BIAŁORUSKI ALMANACH. „Współczesność" nr 14 z 6—19.VII.1966 r.

„Ponieważ przedwojenna inteligencja białoruska z terenów Polski albo pozostała na Białorusi radzieckiej, albo rozpierzchła się po świecie (...) cały ciężar odpowiedzialności za rozwój ojczystej kultury wśród ludu białoruskiego, zamieszkującego w dzisiejszej Polsce, spadł na młodych. Jak sobie radzą z tą odpowiedzialnością niech ocenią odbiorcy ich twórczości — ja myślę, że nieźle.

Sądzę, że nieźle, ponieważ treści zawarte w ich twórczości, nie mając w sobie nic z nacjonalizmu, zaświadczają w sposób wzruszający o tym ogromnym przywiązaniu do ojczystego języka, do ojczystej ziemi i jej ludzi, jej krajobrazu, jakie było i pozostaje źródłem prawdziwego humanizmu (...)

(...) owa niechęć do renegatów wypierających się swego pochodzenia, swojej ziemi, swoich ojców i matek — jest elementem zdrowym, bo w swojej słuszności uniwersalnym.



W POLSCE PO BIAŁORUSKU. „Twórczość" nr 2. Warszawa 1967.

„Poezja zawsze była prekursorem wszystkich literatur. Podobnie rzecz się miała z literaturą białoruską tworzoną w Polsce. Najpierw odezwali się poeci (...)

We wszystkim tym, co piszemy i usiłujemy drukować, jest zapewne wiele zwyczajnej amatorszczyzny i zaledwie czeladniczej, a nie mistrzowskiej roboty. Niestety, nam z bliska trudno to spostrzec, zaś krytyka literacka albo pomija nas milczeniem, albo zbywa okolicznościowymi „poklepankami", że dobrze, że ładnie itp. (...) Żyjemy i tworzymy w Polsce, wzbogacając tym samym jej ogólny dorobek kulturalny, i nie powinno być obojętne, jak my to czynimy".

W WARSZAWIE JAK W... BIAŁYMSTOKU. „Gazeta Białostocka z 30.IX.—1.X.1967 r.

„— Jak liczny jest warszawski oddział BTS-K?

— Posiada ponad 200 członków. Są to stali mieszkańcy Warszawy, często pochodzący z Białostocczyzny oraz młodzież białostocka, studiująca na różnych warszawskich uczelniach. Oddział prowadzi działalność klubową. Tematy odczytów i dyskusji związane są ze współczesnym życiem Białostocczyzny oraz Radzieckiej Białorusi. Mamy kilkudziesięciu stałych bywalców klubu. Należą do nich zwłaszcza studenci filologii białoruskiej. Poza tym istnieje sześcioosobowa grupa białoruskiego stowarzyszenia literackiego, która organizuje wieczory autorskie (...)".

W POLSCE PO BIAŁORUSKU. „Życie Literackie" nr 3 (834) z 21.I.1968 r.

„(...) Zgodnie z intencją Ministerstwa Kultury i Sztuki monopolistą na edycję wszelkich druków zwartych (oprócz podręczników szkolnych) w języku białoruskim ma być i jest Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w Polsce z siedzibą w Białymstoku. Można byłoby z entuzjazmem powitać te intencje, gdyby ów monopolista miał własne wyspecjalizowane wydawnictwo. (...) Wszystko, co dotychczas zostało wydane przez ZG BTS-K w języku białoruskim, było klecone w sposób amatorski, na zasadzie dobrej woli poszczególnych pracowników tej instytucji i społecznego zaangażowania jej aktywistów".

DYDAKTYCZNE I PEDAGOGICZNE OSIĄGNIĘCIA SZKOŁY BIAŁORUSKIEJ. „Express Wieczorny" nr 249 z 17.X.1968 r.

„Bielsk Podlaski ma sześć szkół średnich. Wśród nich jedno z liceów ogólnokształcących — to szkoła białoruska. W ogromnym, wzorowo utrzymanym gmachu szkoły spotykamy się z jej dyrektorem mgr Mikołajem Hajdukiem. (...)

— Nasze liceum ma taki sam program nauczania, jak każda placówka tego typu plus co tydzień cztery godziny języka białoruskiego z elementami historii narodowej. Mamy już 760 absolwentów, z których 430 ukończyło wyższe studia i uczelnie pomaturalne. W tym roku 36 byłych wychowanków rozpoczęło naukę na wyższych uczelniach Lublina, Olsztyna, Torunia, Białegostoku, Warszawy.

Białostocczyzna jest województwem wielonarodowościowym. Mieszkają tu zgrupowania ludności białoruskiej, ukraińskiej i litewskiej. Młodzież pochodzenia białoruskiego ma do dyspozycji 175 podstawowych i 3 średnie szkoły z językiem białoruskim..."

PISARZE BIAŁOWIEŻY. „Argumenty" nr 27 (578) z 6.VII.1969 r.

„Zorganizowane formy białoruskiego ruchu literackiego w Polsce Ludowej wiążą się z powołaniem do życia Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Towarzystwo powstało z inicjatywy byłych członków KPZB i „Hromady" w 1956 roku w Białymstoku. Zaczęło ono wydawać tygodnik „Niwa", który już w pierwszych numerach drukował utwory miejscowych poetów i prozaików. Białoruska twórczość amatorska istniała co prawda w Polsce Ludowej niemal od momentu wyzwolenia, jednakże z powodu braku pisma wegetowała w kręgach grup uczniowskich lub w granicach jednej wsi. Dopiero rok 1956 umożliwił białoruskim początkującym autorom doprowadzenie swojej twórczości do szerszych rzesz czytelniczych. Głównym odbiorcą twórczości białoruskiej w Polsce jest młodzież ucząca się języka ojczystego w 170 szkołach podstawowych i w liceach ogólnokształcących, w Hajnówce i Bielsku Podlaskim".

OGRODY. „Kontrasty" nr 8 z 1969 r.

„Oto ten białostocki poeta i prozaik pisze po białorusku... (...) Pisać językiem innym niż rodzinny, znaczyłoby zrezygnować z owej delikatnej i niepowtarzalnej osnowy, z owego półświadomego, cudownego porozumienia ze słowami..."

BIAŁORUSKIE TOWARZYSTWO SPOŁECZNO-KULTURALNE. „Kontrasty" nr 9 z 1969 r.

„— Zamierzamy przede wszystkim położyć nacisk na współpracę kół z miejscowymi organizacjami młodzieżowymi i społecznymi. W tych powiatach i miejscowościach, gdzie mieszkają Białorusini, taka współpraca jest niezbędna, a jednocześnie korzystna dla całego środowiska".

NAUCZANIE JĘZYKA BIAŁORUSKIEGO. „Gromada — Rolnik Polski" nr 12 (2744) z 27.I.1970 r.

„W Białostockiem są 164 szkoły białoruskie z 11302 uczniami. W ostatnich latach nastąpiła znaczna poprawa poziomu nauczania. Bardzo dobre wyniki w nauczaniu tego języka osiągają: Szkoła Podstawowa nr 3 w Bielsku Podlaskim, szkoły podstawowe w Kuraszewie, w Orli, w Klenikach i w osadzie Narewce".

ŚWIĘTA STUDNIA JANA CZYKWINA. „Gazeta Białostocka" nr 97 (5813) z 10.IV. 1970 r.

„Jan Czykwin może być przykładem kariery twórczej utalentowanej młodzieży białoruskiej, która w warunkach Polski Ludowej uzyskała szanse swego rozwoju. Poeta debiutował na łamach Tygodnika Białoruskiego „Niwa". Tamte wiersze, zaledwie próby poetyckie, już przyciągały uwagę błyskami dużych napięć poszukiwawczych autora. Odnosi się wrażenie, że Czykwin nieomalże za wszelką cenę dążył do uniknięcia nawet podejrzeń o banalność. Wysiłek bardzo ryzykowny. (...) Emocjonalnymi odnośnikami twórczości poety jest Hajnowszczyzna, Przybiałowieże, wieś rodzinna Dubicze Cerkiewne. Ojczyzna uczuć i pojęć jego. (...) Lektura książek poetyckich Jana Czykwina daje przekonanie, że w jego osobie nasze białostockie środowisko literackie wzbogaciło się o twórcę o dużych możliwościach".

J. LOVELL: Polska, jakiej nie znamy. Wydawnictwo Literackie. Kraków 1970. Str. 53—54.

„Usiadłem na ławeczce przed domem. Rzeźbienia drzewne, wieńczące dach, odcinały się czernią na tle czerwonoperłowego nieba. Gęgały gęsi, porykiwały krowy. Gospodarz powrócił właśnie z pola — własnym traktorem, wprowadził go umiejętnie do murowanej przybudówki-garażu. Spokój, zadomowienie. Rozmowa w sieni, zagłuszona na chwilę hałasem ciągnika, znowu płynie w potoczystych kaskadach: sopran żeński, barytan mego towarzysza, bas kierowcy. Wsłuchiwałem się z uwagą i przyjemnością: ten język brzmiał najpiękniej właśnie w tym wiejskim, zadomowionym tle i — pachniał miodem.

Wydało mi się, że wreszcie zrozumiałem młodego białoruskiego poetę, Sokrata Janowicza, z którym niedawno rozmawiałem w redakcji „Niwy". Pytałem go, dlaczego nie pisze po polsku: miałby przecież znacznie szerszy krąg odbiorców. Odpowiedział: „Ja mogę o d c z u w a ć tylko po białorusku; moja wyobraźnia czerpie wszystkie znaczenia z tego języka; języka mojego dzieciństwa. W innym języku nie potrafiłbym stwarzać, a co najwyżej — nazywać".



**На ўроку фізкультуры ў агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове. Фота Я. Цялушэцкага.**



Загоны пачынаюць рунець... „Полымя" № 1 (489) 1970 г.

„Выданне газеты „Ніва" дало пачатак разгортванню літаратурнага руху на Беласточчыне. Вакол яе гуртуюцца літаратары, адны з якіх толькі спрабуюць свае сілы, а іншыя ўжо маюць свае зборнікі паэзіі.

Што ж да прозы, то яна спачатку вельмі адставала. Праўда, час ад часу на старонках „Нівы", календароў і зборнікаў указвалі свае апавяданні С. Яновіч, М. Гайдук, Ю. Геніюш і іншыя. Усё гэта гаварыла за тое, што беларуская проза на Беласточчыне будзе сталець. Так яно і сталася: Нядаўна выйшаў у свет досыць вялікі зборнік Сакрата Яновіча „Загоны".

WYSTAWA SZTUKI LUDOWEJ W BIELSKU PODLASKIM. „Gazeta Białostocka" nr 16 (6090) z 17.I.1971 r.

„Z punktu widzenia etnograficznego teren szalenie ciekawy, etnicznie zróżnicowany, zamieszkały przez Polaków i Białorusinów. Te bliskie sobie grupy ludnościowe żyjąc obok siebie od lat tworzą specyficzną dla tego terenu kulturę. Kulturę powstałą w wyniku infiltracji elementów charakterystycznych dla każdej z tych grup. Daje się to zauważyć w budownictwie, tkactwie, elementach stroju, zwyczajach, obrzędach, plastyce ludowej itp.".

JEDEN WSPÓLNY CEL. „Trybuna Ludu" nr 64 (8081) z 5.III.1971 r.

„BTS-K prowadzi ożywioną działalność kulturalną. Posiada interesującą grupę estradową „Lawonicha", która dała już blisko 2 tysiące koncertów. Występy „Lawonichy" cieszą się jednakowym, zasłużonym powodzeniem zarówno we wsiach zamieszkałych przez ludność białoruską, jak również we wsiach zamieszkałych przez ludność polską. (...) W Białowieży utworzono regionalne białoruskie muzeum etnograficzne. Aktywiści BTSK zebrali doń ponad 1.100 eksponatów. Tylko w zeszłym roku białowieskie muzeum odwiedziło blisko 15 tys. osób. (...) Ogółem ZG BTSK wydał już 30 książek. Pisarze białoruscy odbyli także 900 spotkań autorskich".

TRADYCJE I DZIEŃ DZISIEJSZY. „Gromada — Rolnik Polski nr 123 (3168) z 12.X. 1972 r.

„Koła BTS-K ściśle współdziałają z kołami ZMW, podstawowymi organizacjami partyjnymi, kółkami rolniczymi. Na przykład koło towarzystwa w Siemianówce, któremu przewodzi miejscowy działacz Jerzy Kisły, licznie uczestniczyło w czynach społecznych przy budowie drogi. (...) BTS-K na terenie tego powiatu prowadzi szeroką działalność kulturalno-oświatową. Systematycznie pracuje dwadzieścia amatorskich zespołów teatralnych. Wystawiają utwory sceniczne pisarzy białoruskich i polskich oraz miejscowych, zgrupowanych w Białoruskim Stowarzyszeniu Literackim „Białawieża". (...) Popularyzowanie czytelnictwa książek białoruskich odbywa się przy ścisłej współpracy z bibliotekami gromadzkimi i nauczycielami języka białoruskiego w szkołach. Zapotrzebowanie na te książki przewyższa aktualne dostawy. (...) Ze spraw, które powiatowa organizacja BTS-K wyraźnie zaniedbuje, wymienić należy zaniechanie kultywowania miejscowych tradycji ludowych: śpiewów, tańców, gawęd, zabaw i gier. Doskonałą po temu okazję stwarzają organizowane w okresie letnim białoruskie festyny ludowe".

LITARATURNAJA BIEŁASTOCZCZYNA. „Gazeta Białostocka" nr 110 (6904) z 21—22—23.IV.1973 r.

„Wszystko to czyni ze zbioru „Litaraturnaja Biełastoczczyna" lekturę różnorodną, barwną i — mimo pewnej różnicy poziomów wybranych utworów — niezwykle interesującą. Należy dodać, że w tak pełnej postaci czytelnik radziecki styka się z literaturą białoruską tworzoną w Polsce po raz pierwszy".

POGRANICZE SERDECZNE. „Sztandar Młodych" nr 222 (7211) z 18.IX.1973 r.

„Pogranicze to, zarówno topograficznie sprawdzalne, jak i — nieuchwytnie ale wyraźnie — obecne w ludzkich wnętrzach a wraz z nimi przenoszone w różne strony Polski, ma swoją specyfikę i dynamikę; tu formacje przenikały się głębiej i zderzały ostrzej, tu na stykach różnych inspiracji rosły zjawiska wielopostaciowe, tu spontaniczność odczuwania urody świata i zamaszystość obyczaju łączyła się z cierpkim doświadczeniem historii, często kroczącej naprzód bez patrzenia pod nogi. Bywa tutaj egzotycznie, bywa — pod różnymi odcieniami krajobrazowej, stonowanej szarości — kolorowo; głębiej zaś kryje się scedzona wiedza o złożoności naszych czasów, często smakowana z lekkim odcieniem fatalizmu".

INNE BARWY BIAŁOSTOCCZYZNY. „Gazeta Olsztyńska" nr 250 (6801) z 20—21.X. 1973 r.

„Swoistość kultury białoruskiej znajduje wyraz w działalności powstałego w roku 1956 Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego, zapis jego dokonań zawarty jest w organie Zarządu Głównego BTS-K, jakim jest tygodnik „Niwa", a także wydawanych co roku kalendarzach, wreszcie w książkach. One to właśnie sprawiają, że

dokonujący się na Białostocczyźnie rozwój młodego środowiska pisarskiego zyskuje dodatkowo nowe barwy, świadczą o koegzystencji bratnich kultur wzajemnie się przenikających. (...) Środowisko białoruskie na Białostocczyźnie ma dziś takie same warunki działania i takie same możliwości rozwoju jak wszyscy mieszkańcy tego pięknego regionu. Ale tak, jak na każdym obszarze, gdzie brak określonych tradycji, również ruch literacki Białorusinów miał swoje omyłki i zahamowania..."

ZOBACZYŁEM TO POLE. „Miesięcznik Literacki" nr 1 (89) z 1974 r.
— „Babcia umie mówić tylko po prostu — powiedział Wiktor. „Po prostu" stanowiło ongiś w białoruskich wsiach przypisanie klasowe. „Po pańsku" mówili posiadacze, chłop pańszczyźniany mówił „po prostu".

KILKA UWAG O LITERATURZE BIAŁORUSKIEJ I JEJ RECEPCJI W POLSCE LUDOWEJ. „Studia polono — slavica — orientalia. Acta litteraria II", 1974 r.
„... słów kilka o życiu literackim białoruskim będącym własnością Polski Ludowej, integralnym elementem jej kultury. Chcę tu zwrócić uwagę na niewątpliwie odrębne zjawisko jakim jest ta część literatury białoruskiej, która wyrosła na substrakcie wschodu i południa Białostocczyzny. Określenie jej jako literatury białoruskiej mniejszości narodowej w PRL byłoby wysoce nieadekwatne, wręcz mylące. Bowiem niesłusznie sugerowałoby regionalny zakres jej oddziaływania, a nawet prymityw ludowy. Jest to literatura białoruskiego obszaru językowego, znana i ceniona zarówno w Mińsku, jak i w Warszawie. Rozwijając się na odwiecznym styku dwu kultur — w sposób jedyny w swoim rodzaju wzbogaca pejzaż literatury białoruskiej i literatury PRL. Więcej — jest ona, literatura tej części białoruskiego obszaru językowego, najnaturalniejszym pomostem trwałego wzajemnego przenikania się obu kultur. Utwory białoruskich pisarzy białostockich, w większości już członków Związku Literatów Polskich, — Alesia Barskiego (Aleksandra Barszczewskiego), Jana Czykwina, Sokrata Janowicza, Włodzimierza Hajduka, Wiktora Szweda i innych — nie są czymś nieznanym w Polsce czy na Białorusi radzieckiej. Ostatnio, w 1973 r., nieomalże równocześnie ukazały się: w mińskim wydawnictwie „Mastackaja Litaratura", almanach. „Litaraturnaja Biełastoczczyna" i w warszawskich „Iskrach" — książka Sokrata Janowicza „Wielkie miasto Białystok"...

*Песні Беластоцкага краю. „Полымя" № 1 ад 1974 г.*
*„Літаратурная рунь набралася глыбінных сокаў, ускаласілася і сёння ўжо мае поўны набытак. Пісьменнікі Беласточчыны далі свайму чытачу каля дзесятка арыгінальных зборнікаў паэзіі і прозы, выдалі два літаратурныя альманахі „Белавежа". Нямала змясцілі сваіх твораў і ў штогодніх „Беларускіх календарах", на старонках „Нівы" і іншых выданняў (...)*
*Тэма роднага краю дамінуе і ў паэзіі. І гэта зусім натуральна. Для мастакоў слова заўсёды было найпершым абавязкам уславіць і апаэтызаваць тую зямлю, якая завецца Бацькаўшчынай І літаратары Беласточчыны па сіле сваіх творчых магчымасцей імкнуцца гэта рабіць. Яны прысягаюць на вернасць зямлі, што ўзгадавала іх, матчынай мове, роднай песні (...)*
*З асаблівай цеплынёй і лірызмам пішуць беластоцкія пісьменнікі пра нашу Беларусь і яе прыроду"*

Выбраў і падрыхтаваў да друку
**С. Яновіч**

## З НАШАГА АРХІВА



**Моладзь Бельскага беларускага ліцэя на экскурсіі ў Гданьску. 1960 год.**



У катэгорыі сучаснай беларускай песні ў групе салістаў першае месца заняла Марыя Урыновіч з Беластока.

Фота Я. Цялушэцкага.



# ЛЮБЛЮ НАШ КРАЙ

## БЕЛАСТОЦКАЯ ЗЯМЛЯ

Словы **М. Гайдука** — Музыка **Л. Панько**

Moderato, mf

1. За - го - ны чор-ны-мі ра - зо - ра - мі
2. За - ду - ма - ны, ста-яць без шо - ла - ху
3. А во - сень ра-ні-ца - ю з ро-са-мі У-

1. Жа-ло-бу-сце - люць на па - лях і клі - ча
2. На-шы цу-доў - ны - я ля - сы, Га - рацъ на
3. е бе-лу па - ву - цін-ня ніць, Сну - е над

1. ў вы-рай, клі-ча зо-ра-мі, Гу-сям мір-га-е Млеч-ны Шлях.
2. го-нях, там ад зо-ла-ку Ня-зжа-тай грэч-кі па - я - сы.
3. пож-ня-мі там бо-са-я Да са-мых поз-ніх ве-чар-ніц.

чацвёртая страфа:

І мі - ла-я ты мне і род - на - я, Бе - лас -
тоц - ка - я зям - ля, Ці кра-сна вяс-на ці во-сень
зор - на - я-Заў-сё-ды ты ма - я, ма - я

*Загоны чорнымі разорамі*
*Жалобу сцелюць на палях*
*І кліча ў вырай,*
*кліча зорамі,*
*Гусям міргае Млечны Шлях*

*Задуманы, стаяць без шолаху*
*Нашы цудоўныя лясы*
*Гараць на гонях*
*там ад золаку*
*Нязжатай грэчкі паясы.*

*А восень раніцаю, з росамі*
*Ус белу павуціння ніць,*
*Снуе над пожнямі,*
*там босая*
*Да самых позніх вечарніц.*

*І мілая ты мне і родная,*
*Беластоцкая зямля,*
*Ці вясна красна*
*ці восень зорная —*
*Заўсёды ты мая, мая.*

---

**Мікалай Гайдук**

# Каля вытокаў ракі Супрасль

Можа гэта і за громкае слова „рака“ ў адносінах да Супраслі — сёння невялічкай рачулкі, а дакладней: меліярацыйнага канала, дзе летам вады вераб'ю па калена. Але зусім не такой была яна ў больш і менш адлеглым мінулым, і надта ж абяцаючая чакае яе будучыня.

Супрасль выплывае з багнаў, што знаходзяцца на поўнач ад вёскі Тапаляны, Беластоцкага павету, віецца сярод лугоў і лясоў сённяшняй Кнышынска-Беластоцкай пушчы, каб каля вёскі Златорыя ўліць свае воды ў раку Нарву. Даўжыня яе цячэння складае ўсяго 92 кіламетры, а плошча вадазбору — 1 856 квадратных кіламетраў. Спакойная гэта рачулка, бо нават у самае вялікае веснавое разводдзе ўзровень вады падымаецца ў ёй на 2 метры вышэй летняга. Таму, запрашаючы любіцеляў краязнаўства да вельмі цікавага падарожжа да яе вытокаў, не рэкамендуем абзаводзіцца каякам-байдаркай ці гумовай надзіманай лодкай. Выгадней будзе ўзброіцца ў складаны ровэр, а яшчэ лепш — у не занадта цяжкі рукзак за плячыма і выгадны абутак на пешую вандроўку, каб быў час дакладней пазнаёміцца з пераўтварэннямі, што хуткімі тэмпамі наступаюць у сённяшнім дні, і заглыбіцца ў багатае мінулае гэтых ваколіц.

Пачнем жа ад назвы „Супрасль“. Польскі мовазнаўца С. Яшуньскі выводзіць яе са старажытнай славянскай формы „Сą-прęд-сль“, якая ў беларускай мове ўжо ператварылася ў „Супрасль“, дзе „су-“ — гэта прыстаўка, якую маем у беларускіх словах: „сусед“, „сучуцце“ (спачуванне), „сутока“ (зліццё дзвюх рэк) і інш. Корань „прąд-// прęд-“ заключае ў сабе значэнні „скакання, дрыжання, напружання“, вось хоць бы ў такіх беларускіх словах, як: пругкая дуга, пружына і г.д.

І хоць у пісаных дакументах рака Супрасль упамінаецца ўпершыню ў 1358 годзе, аднак на цэлае тысячагоддзе раней чалавек пакінуў у гэтых ваколіцах свае трывалыя сляды. Усяго ў якіх дваццаці кіламетрах на захад ад вытокаў ракі каля мясцовасці Растолты знаходзяцца славутыя „княжацкія“ курганы. Як паказалі археалагічныя раскопкі з 1938 і 1960-61 гадоў, гэтыя манументальныя збудаванні з зямлі і палявога камення паўсталі ў познім рымскім перыядзе, недзе паміж II і V стагоддзямі нашай эры, значыць, сама меней 1500 год таму назад. Але аддайма голас беластоцкаму археолагу Я. Ясканісу, які даследаваў курганы ля Растолтаў: *„У гэтак званым перыядзе рымскіх уплываў, якія прыходзіцца на першую палавіну I тысячагоддзя нашай эры, гэтыя землі былі заселены плямёнамі венедскай культуры, што атоесамліваецца са славянскай стыхіяй. Іх (курганоў) характэрнай уласцівасцю з'яўляюцца місkаватыя ўпадзіны на верхавінах і складаная будова. Стыржань насыпу ўтвараў магутны, у некалькі слаёў каменны брук вышынёй да 1,5 метра і дыяметрам каля 15 метраў. Стыржань, у аснове акружаны вянком камення, абсыпаны быў зямлёй, а на верхавіне ляжаў г. зв. каменны плашч, які завяршаў насып і адначасова быў яго замацаваннем. Уся канструкцыя гэтага тыпу курганоў мела ад каля 15 да каля 50 метраў у папярэчніку і ад 1,5-2 метраў да 5 метраў вышыні. Маса насыпу — гэта магутная колькасць камення і зямлі, была ўжыта для збудавання капца над магілай толькі аднаго чалавека, кантрастуюць з непрыкметна выглядаючымі іншымі пахаваннямі, што знаходзяцца на могільніку. Гэта кваліфікуе курганы растолцкага тыпу ў разрад „княжацкіх“ магілаў, якія крыюць безыменныя астанкі членаў пляменнай арыстакратыі, якая ўсё мацней выдзялялася, мела ва ўладанні значную колькасць матэрыяльных багаццяў і адыгрывала вядучую ролю ў грамадскім, гаспадарчым і палітычным жыцці сярод сваіх аднапляменнікаў“.*

Нягледзячы на тое, што „княжацкія“ курганы былі калісьці абрабаваны невядомымі злачынцамі, захавалася ў іх даволі многа вырабаў з золата, серабра, бронзы, шкла, керамікі, рогу. Шэраг з гэтых вырабаў паходзіла з правінцыянальных рамесніцкіх цэнтраў тагачаснай Рымскай імперыі. Знаходзіліся сярод іх і вырабы мясцовых рамеснікаў: перш за ўсё гліняны посуд і прадметы з рогаў розных жывёлаў. Значыць, не спрадвечная бязлюдная пушча прасціралася на

абшары былога Беластоцкага павету 1 500 год таму назад! Бурлівіла тут ажыўленае грамадскае і гаспадарчае жыццё, якое ўтрымоўвала блізкія сувязі з вядучым тагачасным цэнтрам культуры ў Еўропе — Рымскай імперыяй.

Такі вывад напрошваецца з даследавання ўсяго толькі чатырох „княжацкіх" курганоў з ваколіц вёскі Растолты. А колькі ж іх яшчэ не адкрытых і не даследаваных знаходзіцца тут і якія дзівосныя таямніцы яны ў сабе крыюць!

## ЗАГАДКАВАЯ НАЗВА

Адну з неразгаданых дагэтуль таямніц крые ў сабе Блудаўская пушча, з сярэдзіны якой бярэ пачатак рэчка Супрасль і сваім сярэднім і ніжнім цячэннем абкружае яе з поўначы. Праўда, сёння ад колішняй дрымучай пушчы засталіся ўсяго толькі рэдзенькія пералескі і мізэрныя рэшткі ў выглядзе лясоў вакол станцыі Жэдня і мястэчка Супрасль, але не перастае нас карціць пытанне: адкуль узялася назва „Блудаўская пушча"? Несумненна ад агульнаславянскага слова „блудити". Французскі моваэнаўца А. Мейе параўноўвае яго з „blinds" — „сляпы" і „blandan" — „мяшаць" з мовы старажытных готаў. Дзіўна, але ці не тут часам крыецца крыніца разгадкі? Готы, як вядома, на пачатку нашай эры пераправіліся са Сканды-



**Народная разьба па дрэве з вёскі Тапаляны.**
**Фота М. Гайдука.**

навіі цераз Балтыйскае мора і паволі перавандравалі на пабярэжжа Чорнага мора, пануючы некалькі стагоддзяў над народамі, што жылі тады ў басейнах рэк Віслы і Дняпра, г.зн. над праславянскім насельніцтвам. Некаторыя гісторыі лічаць, што галоўны шлях готаў з пабярэжжа Балтыкі да чарнаморскіх узбярэжжаў праходзіў, між іншым, якраз цераз сённяшнюю Беласточчыну. І хто ведае, ці часам не яны назвалі якісьці непраходны лясны масіў, што



тут недзе, у вярхоўі Супраслі, стаяў на іх шляху, „сляпым" або інакш „блудаўскім". Але гэта толькі адна з дзвюх нашых здагадак.

Другая звязана з падзеямі і асобамі, што ўпісаліся тысячу год пазней у гісторыю Кіеўскай Русі — магутнай старажытнай дзяржавы ўсходніх славян. Маем тут на ўвазе ваяводу Б л у д а, які карыстаўся велізарнымі ўплывамі на вялікакняжацкіх дварах у Кіеве ў князя Яраполка (загінуў у 979 годзе) і князя Уладзіміра Вялікага (памёр у 1015 годзе). Гэты ж ваявода Блуд усдавіўся ў гісторыі тым, што здрадзіў свайго князя Яраполка, даводзячы яго да згубы, і дапамог князю Уладзіміру заняць вялікакняжацкі пасад у Кіеве.



**Старажытная царква ў вёсцы Тапаляны.**
**Фота М. Гайдука.**

Але чытач зараз жа запытае: „Ну, а прычым тут Блудаўская пушча"? Вядома, на першы погляд здавалася б, што тут нічога супольнага паміж двудушным ваяводам кіеўскім Блудам і нашай пушчай быць не можа, бо дзе Кіеў, а дзе Блудаўская пушча! Адлегласць паміж імі не маленькая — каля 600 кіламетраў па простай лініі. Калісьці гэта была велізарная адлегласць. Каб яе адолець, трэба было патраціць два тыдні часу. І ўсё ж нешта звязвае ваяводу з нашай пушчай.

Як толькі пры дапамозе ваяводы Блуда князь Уладзімір умацаваўся на вялікакняжацкім пасадзе ў Кіеве, зараз жа накіраваўся ў 981 годзе са сваёй дружынай на заходнія рубяжы кіеўскай дзяржавы і далучыў да яе гарады Чэрвень і Перамышль. А праз два гады ён адправіўся супраць яцвягаў і, як кажа летапіс пад 983 годам, „перамог і ўзяў зямлю іх". Яцвягі былі адным з балтыйскіх плямёнаў, сваяцкім сённяшнім літоўцам, і пасяліліся яны на поўнач ад ракі Бебжы. Значыць, паход князя Уладзіміра мусіў прайсці цераз Беласточчыну. Ці ў дружыне князя быў ваявода Блуд — летапісец нічога не

кажа. Але мы можам пазволіць сабе на невялікую здагадку.

Яцвягі былі надта ж ваяўнічымі і непакорлівымі. Адным паходам нельга было іх заняволіць. Пра гэта добра ведаў кіеўскі князь і тэрытарыяльны здабытак імкнуўся замацаваць, калі ўжо не панаваннем над Яцвягіяй, то хаця б забеспячэннем свае дзяржавы ад іх грабежніцкіх набегаў. Гэтую важную справу ён мог даручыць свайму даверанаму ваяводзе Блуду. Ваявода і заняўся нейкай дзейнасцю на сумежных з Яцвягіяй землях, г.зн. на тэрыторыі сучаснай усходняй і паўднёвай Беласточчыны. Можа засяляў яе людзьмі, выведзенымі з адлеглых мясцін абшырнай Кіеўскай Русі, і ставіў гарады-крэпасці, каб умацаваць граніцу. Не будзе пазбаўлена падстаў і меркаванне, што ваявода заснаваў тут і большую крэпасць з пасадамі пры ёй і тадышнім звычаем даў ёй назву Блудаў, г. зн. мясціны, якая належыць Блуду.

„Так, але дзе ж знаходзіўся той Блудаў?“ — запытае чытач. На жаль, нічога канкрэтнага пра гэта сказаць не можам. Відаць, яшчэ ўсё ён тоіцца ў адным з соцень пагоркаў, што параскіданы ў гэтай ваколіцы, і цярпліва чакае на свайго адкрывальніка і лапату археолага. Бо ўсё ж дзіўна неяк складалася ўсё, калі ў 1018 годзе выхаванак ваяводы Блуда, князь кіеўскі Яраслаў Мудры, сутыкнуўся з каралём польскім Баляславам Хробрым у бітве на рацэ Буг (недзе ў ваколіцах горада Валыні), дык зноў мы сустракаемся з ваяводам. Калі войскі праціўнікаў сталі насупраць сябе па абодвух берагах ракі і не хацелі прыступаць да бітвы, ваявода Блуд сыграў ролю правакатара. Ён стаў абзываць караля польскага. У абарону гонару свайго манарха войскі польскія кінуліся цераз раку, разбілі дружыну Яраслава, малады кіеўскі князь уцёк. А ваяводу-правакатару, відаць, не пашчаслівілася, ён праўдападобна загінуў у гэтай бітве, бо ўжо яго імя не сустракаем болей у дайшоўшых да нас дакументах. Гэтым фактам мы і хочам падмацаваць наша меркаванне. Бо чаму ж з імем ваяводы Блуда мы не сустракаемся ў паходах кіеўскіх князёў Уладзіміра і Яраслава на ўсходнія ці паўднёвыя рубяжы Кіеўскай Русі? Было ж такіх паходаў не так ужо і мала. У іх удзельнічалі іншыя ваяводы, але імя ваяводы Блуда там не знаходзім. Ці з гэтага не вынікае, што Блуд меў заданне апекавацца заходнімі рубяжамі Кіеўскай Русі і яго прабыванне тут захавалася ў назве нашай Блудаўскай пушчы?

Аднак, ці не заблудзілі мы часам у гушчавіне здагадак і меркаванняў і не пара ўжо нам выбрацца на ўскраіну Блудаўскай пушчы?





**Герб Р. А. Хадкевіча з „Учыцельнага евангелля“, Заблудаў 1569 год.**



**Пачатак „Учыцельнага евангелля“, Заблудаў 1569 год.**

## „И УЧИНИЛ... ВАРСТАТ ДРУКАРСЬКИЙ...“

І вось мы ўжо на паўднёвай ускраіне колішняй змрочнай і загадкавай Блудаўскай пушчы. Стаім на беразе балоцістай рэчкі Мялецінкі, якую цяпер чамусьці завуць Рудняй. Праўда, рэчка гэтая не ўпадае ў Супрасль, яе русло накіроўваецца ў раку Нарву, але выцякае яна з тых самых балот, што і Супрасль. Таму ў Заблудаве затрымаемся толькі на адзін міг, хоць гісторыя спынілася тут на папас на доўгія стагоддзі, пакідаючы пасля сябе след, які багатай картай упісаўся ў мінулае культуры ўсёй Усходняй Славяншчыны.

Гісторыя сённяшняга Заблудава пачынаецца перад 1483 годам, калі ваявода кіеўскі Іван сын Ходзькі атрымаў ад вялікага князя літоўскага аграмадны абшар пушчаў паміж рэкамі Супраслю і Нарвай аж па крыніцы Супраслі. Нашэсце татарскага хана Менглі-Гірэя на паўднёвыя землі Вялікага княства Літоў-

скага ў 1483 годзе аказалася трагічным для кіеўскага ваяводы — ён з усёй сям'ёй трапіў у татарскі палон і хіба ж там, у Крыму, закончыў сваё жыццё. Але вялікія князі літоўскія не забыліся пра сям'ю свайго заслужанага падданага. Недзе каля 1510 года Хадкевічы вяртаюцца з татарскага палону, а кароль польскі і вялікі князь літоўскі Зыгмунт I не толькі пацвярджае ранейшыя наданні Хадкевічам на Падляшшы, але нават сыну ваяводы Івана — Аляксандру Іванавічу Хадкевічу даручае пасаду ваяводы навагрудскага і ахвяроўвае тых падданых гарадоў Бельска і Суража, якія самавольна пасяліліся ва ўладаннях Хадкевічаў у час іх побыту ў Крыме.

Аляксандр Хадкевіч засноўвае горад на паўднёвым захадзе за Блудаўскай пушчай і ўзводзіць у ім свой палац. Не спяшаецца даць гораду сваё родавае імя, а насельніцтва называе новы гарадскі цэнтр проста „За Блудавам". У 1533 г. Заблудаў атрымоўвае гарадскія правы і пачынае адыгрываць заўважальную ролю на тагачасным Падляшшы.

Пасля смерці ў 1549 годзе Аляксандра Хадкевіча Заблудаў і ўжо добра загаспадаранае і заселенае яго наваколле пераходзіць у спадчыну Грыгорыю Аляксандравічу Хадкевічу, сыну Аляксандра



**Апошнія старонкі „Учыцельнага евангелля", Заблудаў 1569 год.**



Хадкевіча. Пры ім Заблудаў набывае штораз большае значэнне і разрастаецца. У 1563 г. тут паўстае царква і касцёл, а пры іх школка для дзяцей. I вось недзе паміж 1565 і 1568 гадамі прыбываюць у Заблудаў маскоўскія першадрукары Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец. Грыгорый Хадкевіч, як потым успамінаў І. Фёдараў: „прия нас любезно к своей благоутешней любви, и упокоеваше нас немало время, и всякими потребами телесными удовляше нас". І друкары прыступілі да працы. Якраз даспявала жыта і перапёлкі вечарамі клікалі „пуць палоць", калі яны 8 ліпеня 1568 года паклалі на свой друкарскі станок першы аркуш паперы, а ўжо напрадвесні, 17 сакавіка 1569 года, паднеслі тоўсты том „Учыцельнага евангелля" свайму мецэнасу гетману Вялікага княства Літоўскага Грыгорыю Аляксандравічу Хадкевічу. Гэта была адна з першага дзесятка друкаваных кніг, якія паявіліся ва ўсёй Усходняй Славяншчыне.

Потым шляхі-дарогі заблудаўскіх друкароў разышліся. Пётр Мсціславец павандраваў цераз крэкаці Блудава на поўнач, у Вільню, і там пры дапамозе багатых мяшчан Мамонічаў адкрывае новую друкарню. Іван Фёдараў жа, яшчэ „адціснуўшы" у Заблудаве „Псалтыр з Часаслоўцам", падаўся на поўдзень у Львоў, каб там запачаткаваць кнігадрукаванне. У палацы над Мялецінкай дажываў апошніх сваіх дзён гетман-старэча. Яго воляй было, каб пасля смерці цела яго пакоілася ў катакомбах славутага Благавешчанскага сабора ў Супраслі. І яго жонка Кацярына Іванаўна з дому Вішнявецкая споўніла пажаданне, а таксама падарыла 11 снежня 1575 года Благавешчанскаму сабору адзін экземпляр заблудаўскага „Учицельнага евангелля" паклаўшы на ім надпіс: „По небожьчику славьной памети его милости пану малъжонъку своемь пану виленьскому гетьману навышьшом Великого князства Литовьского, старосте Городеньском и Могилевском его милости пану Григорю Александровичу Ходкевича во храм Благовещения пресвятыя Богородицы в имению нашем Супрасльском на монастырь".

Гісторыя, аднак, не хацела яшчэ пакінуць Заблудава. Упісала ў яго самыя буйныя на Падляшшы ў XVII стагоддзі кальвінскі збор і школу пад апекай хадкевічаўскага спадчынніка гетмана Януша Радзівіла, які ў славутым „патопе" здрадзіў радзіму і перайшоў на бок шведскага караля Карла X. Шведскі „патоп" і звязаныя з ім ваенныя дзеянні знішчылі Заблудаў, пакінуўшы на яго месцы толькі папялішчы. Але дзіўным збегам акалічнасцей у 1706 годзе шведы зноў паяўляюцца ў Заблудаве, а іх ваяўнічы кароль Карл XII недзе ў гэтых ваколіцах быў затрымаў-



**Царква ў Заблудаве. Пабудаваная ў палове XIX стагоддзя. Фота М. Гайдука.**

ся нават на начлег. Што снілася яму, нават надворныя летапісцы не ўпамінаюць. І недарма, бо праз тры гады 27 чэрвеня 1709 года ля ўкраінскага горада Палтавы шведскі ваяка сорамна закончыў свой захопніцкі шлях па Усходняй Еўропе.

Пасля, ужо ў канцы XVIII стагоддзя, у тутэйшым прасторным палацы была адведзена вядомаму польскаму паэту Францішку Карпінскаму цесная каморка, у якой ён, у вольны ад заняткаў над выхаваннем князя Дамініка Радзівіла час, складаў свае сентыментальныя вершы. Надта ж чорствы і горкі гэта быў кавалак хлеба, ды і з заплатай Радзівілы не спяшаліся — за працу выхаваўцы Ф. Карпінскі атрымаў грошы толькі дзесяць год пазней, калі яго выхаванак ужо насіў іспанскі вусік пад напудраным носам.

Так. Даволі доўга засядзелася гісторыя ў Заблудаве. Але ўсё, што дзеялася пад яе вокам, паклапацілася неўзабаве абярнуць у парахно ды попел. Адно магутныя дубы ў колішнім палацовым парку, зарослая чаротам сажалка ды некалькі мураваных збудаванняў у мястэчку захавалі крышынку памяці аб тых адлеглых часах.

Цалкам новая карта гісторыі Заблудава пачала запаўняцца ўжо ў нашыя часы.

## З КОЗЛІКАЎ НА АРЭНУ СУСВЕТНАЙ ГІСТОРЫІ

Такія словы зусім не паэтычная фігура, а самая шчырая праўда.

Менавіта ў вёсцы Козлікі, што ў некалькі кіламетрах на паўднёвы захад ад Заблудава, 21 ліпеня 1897 г. у сялянскай сям'і нарадзіўся Васіль Данілавіч Сакалоўскі — выдатны савецкі ваенны дзеяч, Герой Савецкага Саюза, маршал СССР.



Надзвычай здольны і працавіты вясковы хлапчук, ён пасля народнага вучылішча закончыў настаўніцкую семінарыю, каб несці светач навукі дзецям сялянскай беднаты. Але бурлівы вір падзей Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі накіроўвае яго ў лютым 1918 г. у рады толькі што арганізаванай Леніным Чырвонай Гвардыі. І ад таго часу ўся далейшая дзейнасць В. Д. Сакалоўскага звязана з савецкімі ўзброенымі сіламі. У бурлівыя гады Грамадзянскай вайны ён з мая 1918 г. на Усходнім фронце з'яўляецца спачатку камандзірам роты, потым намеснікам камандзіра і затым камандзірам палка. Ад чэрвеня па снежань 1919 г. В. Д. Сакалоўскі на Паўднёвым фронце спачатку старшым памочнікам начальніка штаба дывізіі, а потым камандзірам брыгады. На пачатку лета 1920 г. ён на Каўказскім фронце начальнікам штаба дывізіі, якая змагалася за ўстанаўленне Савецкай улады ў Азербайджане і разграміла контррэвалюцыйнае паўстанне ў Дагестане. А было гэта ўсё, так сказаць, „вакацыйная практыка", бо зімы ў В. Д. Сакалоўскага праходзілі за інтэнсіўнай навукай у Ваеннай акадэміі Рабоча-Сялянскай Арміі, якую ён заканчвае восенню 1921 года, каб зараз жа ў кастрычніку гэтага ж года падацца на Туркестанскі фронт і як камандуючы ўзначаліць групу войск Ферганскай і Самаркандскай абласцей. Калі суцішыліся баі на шматлікіх франтах Грамадзянскай вайны, і маладая Савецкая дзяржава прыступіла да паскоранага будаўніцтва сацыялізма, В. Д. Сакалоўскі служыць на адказных пастах у Паўночна-Каўказскай, Беларускай, Уральскай і Маскоўскай ваенных акругах. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны ён у дзеячай арміі начальнікам штаба Заходняга напрамку, камандуючым войск Заходняга фронту, начальнікам штаба I-га Украінскага фронту, намеснікам камандуючага войск I-га Беларускага фронту. Пры яго непасрэдным удзеле былі распрацаваны і праведзены вялікія ваенныя аперацыі: Маскоўская, Арлоўска-Курская, Ржэўска-Сычоўская, Ржэўска-Вяземская, Смаленская, Віцебска-Аршанская і іншыя, удзельнічаў ён у разгроме фашысцкіх войск у Заходняй Украіне, нёс вызваленне нашай краіне на Сандамірскім плацдарме, на Дольным Шлёнску, у велічнай аперацыі Вісла-Одра. Пад яго кіраўніцтвам праходзілі ваенныя дзеянні па здабыццю Берліна. Уваходзіў у склад савецкай дэлегацыі ў часе перагавораў у Патсдаме. Пасля вайны ён на адказных пастах ва Узброеных Сілах СССР, між іншым галоўнакамандуючым групы савецкіх войск у Германіі, першым намеснікам міністра ўзброеных сіл СССР, начальнікам Генеральнага штаба

Міністэрства абароны СССР. Камуністычная партыя Савецкага Саюза і Савецкі Урад у прызнанне велічнага ўкладу В. Д. Сакалоўскага ў справу абароны краіны ўзнагародзілі яго васьмю ордэнамі Леніна, ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі, 9 іншымі ордэнамі, ганаровай зброяй, медалямі. Ён быў кандыдатам у члены і членам Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. Урады Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Мангольскай Народнай Рэспублікі, Польскай Народнай Рэспублікі, Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспублікі, Сацыялістычнай Федэратыўнай Рэспублікі Югаславіі, Вялікабрытаніі, Францыі, Злучаных Штатаў Амерыкі ўзнагародзілі В. Д. Сакалоўскага самымі высокімі дзяржаўнымі ордэнамі, а муніцыпалітэт горада Берліна прысвоіў яму званне ганаровага грамадзяніна сталіцы ГДР.

Памёр В. Д. Сакалоўскі 10 мая 1968 г. Яго імя прысвоена Новачаркаскаму вышэйшаму ваенна-каманднаму Чырвонасцяжнаму вучылішчу сувязі, а ў горадзе Гродне высіцца яго помнік, узведзены па праекту Г. І. Мурамцава і В. М. Аладава. Не забылі пра свайго вялікага земляка і жыхары тутэйшых ваколіц. У гміннай школе ў Заблудаве асноўная частка ізбы памяці прысвечана В. Д. Сакалоўскаму.



## ЯК ПАМІРАЮЦЬ НАЗВЫ?

З якога боку не набліжацца да гэтага мястэчка, адусюль перш за ўсё бялее вялікі будынак агульнаадукацыйнага ліцэя — сімвал сучаснага Міхалова. Міхалова? А можа Нізбодкі? А як на самай справе павінна звацца гэтая мясціна — прыемнае мястэчка з гладка вымашчанымі вуліцамі і тратуарамі, з вясковым домам таваровым, гмінным домам культуры, тэкстыльнай фабрыкай, малачарняй, ПОМ-ам, успомненым ужо агульнаадукацыйным ліцэем і комплексам прафесіянальнай школы механізацыі сельскай гаспадаркі?

Спрабуйце даведацца ў каго-небудзь са старажылаў мястэчка, і ён вам адкажа так, як і мне сказала нейкая старэнькая:

— А ну, бачыце, — усміхнулася яна, — цяпер то Нізбодку ўсе Міхаловам завуць. А я ж па старой звычцы то ўсё Нізбодка ды Нізбодка. Калісьці ніхто і не знаў Міхалова...

І зноў зазірнем у адлеглае мінулае гэтых ваколіц. Назва „Нізбодка“ звязана, відаць, з Блудаўскай пушчай, з яе ўсходняй ускраінай. Тут даліна рэчкі Супраслі раней была вельмі балоцістая. За вярсту на паўночны ўсход ад сённяшняга Міхалова яшчэ не так даўно прасціралася дрыгвястае багно, праз якое прабіваліся безназоўныя рачулкі з урочышча Імшар і Гарбачоўскага возера на ім і з балот каля вёскі Падазеране. Словам, гэта была самая нізкая і самая балоцістая частка пушчанскіх нетраў. І гэта дае падставу меркаваць, што паселішча ў гэтай мясціне першапачаткова атрымала назву „Ніз Блудка“. Іменна „Блудка“, а не „Блуда“, таму што ўся паўночна-ўсходняя частка Блудаўскай пушчы, праўдападобна, называлася „Блудок“, як суседняе з ёю, старажытнае мястэчка Гарадок.



**Агульнаадукацыйны ліцэй у Міхалове. Фота Я. Цялушэцкага.**

Назва „Ніз Блудка“ на працягу стагоддзяў перажыла шэраг пераўтварэнняў і не без уплыву польскай мовы ў пачатку XIX стагоддзя яна мае ўжо форму „Нізбудак“, а ў мясцовага беларускага насельніцтва прымае гучанне „Нізбодка“. Назва „Нізбудка“ па сённяшні дзень з'яўляецца міжнароднай, і ў каталогах геаграфічных назваў фігуруе якраз яна на першым месцы („Нізбудка-Міхалова“). Гэтая другая частка міжнароднай назвы мястэчка прыйшла значна пазней і пачаткова адносілася да маёнтку „Нізбодка“, які знаходзіўся на левым беразе Супраслі і належаў да паноў Міхалоўскіх. Яго ўласнік і адначасова ўласнік паншчыннай вёскі „Нізбодка“, што была насупраць на правым беразе рэчкі, у 1832 годзе заснаваў мануфактуру з вадзяным рухавіком і каля вёскі збудаваў пасёлак для ткачоў, якія прыбылі сюды аж з Лодзінскай акругі. Сваю маёмасць ён назваў Міхало-

вам. Мануфактура даволі шпарка пачала развівацца, але панскую сям'ю Міхалоўскіх сустрэў жыццёвы крах. Яны прынялі ўдзел у студзеньскім паўстанні 1863 года. За гэта пасля разгрому паўстання царскі ўрад канфіскаваў іх маёмасць. Але раз кінутае зерне прамысловасці ўкаранілася тут — вакол вёскі і маёнтку розныя прадпрыймальнікі, пераважна немцы па паходжанню, пачалі засноўваць тэкстыльныя фабрычкі. Заахвочваў іх да гэтага царскі ўрад, ды і з таннай рабочай сілай з перанаселеных бедных навакольных вёсак, а таксама з выгадным збытам прадукцыі на неабсяжных абшарах Расіі не было ніякіх цяжкасцей. Фабрычкі паўставалі, як грыбы пасля дажджу, багацелі фабрыканты. У 1879 г. тут было 43 „прадпрыемствы“ з 535 рабочымі, а ў 1907 г. — 45 фабрычак з 720 рабочымі. З бегам часу колішняя вёсачка Нізбодка загубілася ў распоўзшымся па яе ваколіцах фабрычным пасёлку Міхалова. Сёння нават цяжка ўстанавіць, дзе яна знаходзілася.

Разбураючая сіла дзвюх апошніх сусветных войнаў не абмінула Міхалова. Асабліва ў апошнюю, фашысцкія акупанты дашчэнту знішчылі ў 1944 г. міхалоўскую прамысловасць. Але за гады народнай улады Міхалова адрадзілася, яно цяпер больш утульнае і прыгожае, чым калі-небудзь у сваёй гісторыі. І згубіла назаўсёды сваю ранейшую назву паншчыннай вёскі Нізбодка.

Міхалова — цэнтр даволі вялікай і добра загаспадаранай гміны. З году ў год тут павышаюцца ўраджаі і ўзрастае жывёлагадоўля. Вось, для прыкладу, у 1973 г. на 100 гектараў зямельных угоддзяў у Міхалоўскай гміне было 48,6 кароў і 76,1 свіней, а ўжо ў наступным 1974 г. кароў прыпадала 56,1, а свіней 94,7 штук. Гэтыя тэмпы развіцця не зменшыліся і ў 1975 годзе. Добрыя дарогі, спраўна дзейнічаючая сувязь — усё гэта ставіць гміну ў шэрагу перадавых у Беластоцкім ваяводстве.

## ВЕЛІЧНЫЯ ПЕРСПЕКТЫВЫ НЕПРАХОДНАЙ БАГНЫ

Імшар — багна ў шасці-сямі кіламетрах на паўднёвы ўсход ад Міхалова, даступная калісьці чалавеку толькі ў надта сухое лета і вострую зіму. Таямнічая, але і прывабная.

Калі старэйшыя жанчыны з навакольных вёсак выбіраліся туды ў лахіны ці журавіны, употайку шапталі замовы ад укусу вужа ці ад болю галавы. А як шчасліва перабрылі ўжо цераз прыбярэжную твань, якая магла засмактаць чалавека з галавой, перад вачыма кусціліся непраходныя зараслі лахінніку, усыпанага, што лісця не відаць, сінімі ягадамі велічынёй, бы слівы. Пудовы кош набіралі за якую гадзінудзве. Але за лахінамі людзі не гналіся — лічылі іх дурнымі ягадамі, наеўшыся якіх розум можна было страціць. Разам з кашамі „дурной ягады“ прыходзілі ў хаты бясконцыя жахлівыя апавяданні пра паласатых, пярэстых, а то і з рожкамі на галаве, тоўстых, бы рука людская, і доўгіх на сажань вужаках, што з шыпеннем слізгаліся каля босых ног і нават у кошыкі заглядалі. Ці то ад дурманячага паху багунніку, ці то для перасцярогі малалеткам, каб часам не ўздумалася ім паблукаць на багне, але аб Імшары, як гняздовішчы гадаўя ды нячыстай сілы, гаварылася ў колішнія часы вельмі часта. Толькі на зазімках, калі маразы нагола закуюць балота, часамі звінела над Імшаром звонкая дзявочая песня. Тады дзяўчаты і маладзіцы бралі сакавітую, вялікую, бы боб, пасаладжаную маразам журавіну. Але неўзабаве налятвалі снежныя завірухі, і багно глухла на цэлы год. Бо і чаго пагнала б у тую крэкаць чалавека?!

І ўсё ж такі чалавек знайшоўся. Яго зацікавілі не легенды аб вужаках ды нячысціках, але багатыя залежы незвычайнага торфу ў Імшары, у якім знаходзіліся таксама пласты каштоўнага лекавага баравінавага торфу. Сёння ўжо пакойны, прафесар В. Славінскі з Медыцынскай акадэміі ў Беластоку ўзначаліў калектыў вучоных, якія заняліся даследаваннем Імшару. Непраходная багна была ўздоўж і ўпапярок стаптаная вучонымі, перамерана і прасвідравана да самага дна. Падлікі і аналізы паказалі, што ў Імшары тояцца вялікія залежы сельскагаспадарчага, энергетычнага (на паліва) і баравінавага торфу.

Па ініцыятыве прафесара В. Славінскага даследаваннем лекавых уласцівасцей баравінавага торфу з Імшару заняўся Бальнеакліматычны інстытут у Познані. Пасля доўгіх і скрупулёзных аналізаў калектыў познанскіх вучоных на чале з праф. др М. Шмытуўнай адкрыў каштоўныя лекавыя якасці гэтага торфу, асабліва калі з яго падрыхтаваць спецыяльны экстракт. Ён дае добрыя вынікі ў лячэнні рэўматычных, скураных, траўматычных і гінекалагічных захворванняў, калі яго прымяніць да змазвання, кампрэсаў, абгортвання ў рознага роду ваннах. У форме мікстуры, аблаткаў, капсул і г.д. гэты ж экстракт можа прымяняцца з добрымі вынікамі ў лячэнні хвароб стрававода.

Польшча багата баравінаю, а значная адлегласць Імшару ад шпіталяў і здраўніц пакуль што прымушае адмовіцца ад нарыхтоўкі лекавага баравінавага экстракту. Для гэтага патрэбны вялікія інвестыцыі. Але ў будучыні перад баравінаю з Імшару — вялікія перспектывы.

Сёння ж Імшар — гэта

перш за ўсё вельмі добра працуючае прадпрыемства па нарыхтоўцы агародніннага торфу і розных яго сумесяў для вырошчвання агародніны ў шклярнях і парніках. Дзякуючы саліднай працы рабочых і ўмеламу кіраўніцтву прадпрыемствам К. Майсенем прадукцыя з Імшару заваявала не толькі ўсю Польшчу, але і шэраг краінаў Еўропы! Дапамог у гэтым імшарнаму торфу калектыў вучоных з Галоўнай школы сельскай гаспадаркі ў Варшаве на чале з дац. д-рам І. Р. Старкам. Гэта варшаўскія вучоныя па заказу прадпрыемства ў Імшары апрацавалі і выпрабавалі найбольш плённую рэцэптуру сумесяў „МІС-1", „МІС-2", „МІС-3".

Штогод з багны здабываюць 7,5 да 10 тысяч тон торфу, перасушваюць яго, апрацоўваюць (дробняць, ачышчаюць, перамолваюць, перасяваюць, даводзяць да патрэбнага стандарту) і пасля дакладнага перамяшання з адпаведнай порцыяй розных штучных угнаенняў пачкуюць у балоты (аднолькавай вагой, памерам пачкі са штучнага рэчыва) ды адпраўляюць заказчыкам. Асноўныя яго пакупнікі — гэта агароднікі Узбярэжжа, Познані, Катавіц, Варшавы. Спрос на прадукцыю з Імшару такі вялікі, што прадпрыемства задавальняе яго толькі ў 50 працэнтах. І не дзіва. Агароднінны торф і яго сумесі — дасканалая глеба і ўгнаенне для вырошчвання ў шклярнях і парніках ранніх гуркоў, салаты, радыскі, цыбулі, расады і кветак. Усё на ім расце, як на дражджах. Гэта стала вядома патрабавальным агароднікам Аўстрыі, Францыі, Італіі, Югаславіі. У гэтыя краіны Імшар штогод кіруе каля 25 тысяч балотаў сваёй прадукцыі. Надта выгадны эканамічна экспарт! І хоць прадпрыемства мае дасканалыя эканамічныя вынікі, у ім працуе ахвярны калектыў рабочых, які ў агульнадзяржаўную скарбонку „20 мільярдаў" і „30 мільярдаў" уносіць штогод звыш аднаго мільёна злотых дадатковай прадукцыі, усё ж яго працаўнікі не толькі цешацца сусветнай папулярнасцю „міс" з Імшару, але і задумваюцца. Ці ёсць сэнс вывозіць з Беласточчыны такую каштоўную сельскагаспадарчую сыравіну ў Познанскае ваяводства, каб адтуль прывозіць у гарады і мястэчкі нашага рэгіёну раннюю гародніну і кветкі? Ці не лепш было б пабудаваць паблізу Імшару вялікую шклярневую гаспадарку і на месцы заняцца агародніцтвам? Гэта таксама справа будучыні.

Цяпер у Імшары не знойдзеш лахін, бы сліва, і журавін, бы боб. Адвечную багну парэзалі і асушылі кар'еры. З кожным годам іх сетка ўсё гусцее і гусцее. Прыбывае дрыгвястай, залітай вадою, выэксплуатаванай паверхні.

— А што далей?

— Не. Імшар не спыніць свайго існавання! — усміхаецца дырэктар К. Майсеня. — Побач з Імшаром знаходзяцца велізарныя залежы торфу ва ўрочышчы Рабінаўка. Праўда, Імшару нам хопіць на дваццаць год, але мы ўжо загадзя заказалі дакументацыю на эксплуатацыю Рабінаўкі. На дрыгвястай паверхні выкарыстанага Імшару можна будзе заснаваць вырошчванне такой рэдкай сёння і каштоўнай ягады, як журавіны. У навукова-доследных інстытутах даказана, што плантацыя журавін з аднаго квадратнага метра прыносіць 120 злотых чыстага даходу ў год, значыць, адзін гектар багны можа даць адзін мільён дзвесце тысяч злотых!

„Так, — думаецца мне, — гэта бадай трэцяя вялікая перспектыва Імшару".

У суседніх вёсках мне казалі, што калі пачалася асушка Імшару, вужы і змеі цэлымі чарэдамі перапаўзалі ў суседнія з ім зараснікі і багны. З Імшару яны зусім выселіся.

А мне здалося, што яны толькі часова перасяліліся. Проста чакаюць, пакуль багну ўсцеле новы, засеяны рукой чалавека, пышны дыван журавінніку. Тады вужы вернуцца на сваё ранейшае месца.

Вуж — мудрая істота. Нездарма ён знаходзіцца ў гербе Эскулапа — старажытнагрэчаскага бога медыцыны.

* ✲ *

Рэчка Супрасль накіроўвае свае воды далей у Гарадок, Супрасль, Васількаў, Фасты. Але аб гэтых мясцінах паявіцца артыкул ужо ў наступным Беларускім календары на 1977 год.

---

**Мікалай Ляшчынскі**

# ОРЛЯ

Пасёлак Орля знаходзіцца ў дзесяці кіламетрах на паўднёвы ўсход ад Бельска Падляшскага, сёння ў ім жыве каля 1500 жыхароў. Орля з'яўляецца сядзібай гміннага ўпраўлення ўзорнай гміны, што ахоплівае 29 вёсак з 14241 га ворыўнай зямлі, лугоў і пашы. У мястэчку знаходзяцца: пошта, гмінная спулдзельня, пастарунак МО, гмінная зборная школа, цэнтр здароўя, праваслаўная парафія. У ім таксама ёсць невялікія прамысловыя прадпрыемствы: фабрыкі кафляў і бетонных вырабаў, прадпрыемствы паслуг для насельніцтва, рамонтная майстэрня, кааператыў сельскагаспадарчых гурткоў, млын і іншыя меншыя. Пасёлак мае вельмі добрую сувязь з Бельскам і Гайнаўкай — брукаваную шашу, чыгуначная з гэтымі ж мясцовасцямі (станцыя Арлянка знаходзіцца ў 3 км ад Орлі) і

жвіраваныя дарогі звязваюць вёскі, што ўваходзяць у склад гміны. Па шашы Бельск — Орля і Орля — Гайнаўка ходзяць пасажырскія аўтобусы, аўтобусам можна заехаць таксама ў Крывяцічы і Дубічы Царкоўныя. Усе вёскі ў Арлянскай гміне маюць тэлефонную сувязь з Орляй.

### З МІНУЛАГА

Паходжанне назвы „Орля" не выяснена. Адны даказваюць, што калісьці адразу за гэтай мясцовасцю прасціраліся аграмадныя лясы, а ў іх вяліся арлы. Другія ж сцвярджаюць, што назва паходзіць ад назвы ракі, бо Орля знаходзіцца над рэчкай Арлянкай, у якую ўпадае рачулка Орля. Выпадковыя раскопкі (каменныя сякеры і малаткі, гліняныя урны з попелам) паказваюць на дагістарычнае паходжанне пасёлка.

З гістарычных крыніц вядома, што Орля належыць да ліку вельмі даўніх пасяленчаў, яна вядома з XIV стагоддзя і ў гэтым жа стагоддзі пасяліліся ў ёй яўрэі *„і найбольш трывала ўсталяваліся ў Орлі ў параўнанні з Боцькамі і Сямяцічамі"*. Да 1591 года Орля ўваходзіла ў склад *„рускай парафіі, што займала 3/4 бранскага (бельскага) павету і была яшчэ вёскай"*.[4])

У 1507 годзе вялікі князь літоўскі Аляксандр надаў Ёську Іванавічу пасаду войта ў Бельскім павеце над вёскамі Кашалі, Верavailable Вервачкі і Тапчыкальскім лесам, а Ёська Іванавіч узяўся гэтыя землі і лес расшырыць, засяліць прыбыўшым і вольным насельніцтвам.[4])

Потым у 1510 годзе падскарбі літоўскі Богуш Багавіцінавіч з Сямяцічаў мяняе свой двор у Троках з Ёськам Іванавічам на вёскі Кашалі і Вервачкі, а ў 1512 г. мяняе сваю маёмасць Стацкоўскія ў павеце Слонімскім з Іванам Разанцам на Тапчыкалы каля Орлі. Такім шляхам узнікла воласць Арлянская. У 1529 г. Богуш Багавіцінавіч запісаў пасёлак разам з належачымі да яе вёскамі сваёй старэйшай дачцы Анне, якая ў 1539 г. выйшла замуж за Станіслава Тэнчынскага, маршалка надворнага кароннага, і з таго часу Орля стала уласнасцю Тэнчынскіх. *„Зыгмунт I загадвае ў 1541 годзе, каб іх падданыя не рабілі шкоды ў лясах бельскага старасты, што належалі да каралевы Боны, і ўзаемна, каб падданыя бельскія не шкодзілі арлянскай маёмасці. Гэты ж манарх у дакуменце ад 1546 г., выдадзеным у Вільні, піша: відаць з прывілеяў, што Орля і іншыя маёмасці Станіслава Тэнчынскага с-ты бельскага і яго жонкі Анны, распаложаны ў Падляшскай зямлі, а нягледзячы на гэта ўсё ж знаходзяцца такія, якія такую справу відавочную, падаючы ў сумненне, намагаюцца падцягнуць пад іншыя правы; таму заходўваем гэтыя маёмасці ў падляшскім праве, вызваляючы назаўсёды з-пад правоў, судоў і ўсялякай юрысдыкцыі в.кн. літ."*.[4])

У 1577 г. воласць Арлянская належыць да князёў слуцкіх. У яе ўваходзяць вёскі: Катэле (Кашалі) — валокаў 31, корчмаў 2, загароднікаў 2; Вервачкі — валокаў 25, корчмаў 3, каморнікаў 7; Тапчыкалы — валокаў 38,5, корчмаў 2, каморнікаў 23; Клужкі — валокаў 24, карчма 1, каморнікаў 2; Сэрні (Шэрні) — валокаў 9, карчма 1, каморнікаў 2; Крываволя (Крывяцічы) — валокаў 8; Тапарова — валокаў 23, корчмаў 2, каморнікаў 4, агароднікаў 8; Рудолты — валокаў 21,5. корчмаў 2, каморнікаў 6. млыноў 5.[4])

Вёскі Клужкі і Вервачкі сёння не існуюць. Вервачкі ўвайшлі ў склад Орлі, значыліся на картах з 1848 і 1880 гадоў, гэтая вёска знаходзілася на правым беразе Арлянкі там, дзе сённяшні хутар Антанова. Паводле старэйшых жыхароў вёска Вервачкі складалася з 82 гаспадарак і прасціралася ад сённяшняга хутара Антанова да арлянскіх праваслаўных могілкаў. У васьмідзесятых гадах мінулага стагоддзя прайшла па навакольных вёсках і мястэчку эпідэмія халеры і іменна ў часе яе вымерлі жыхары Вервачак, засталося толькі 5 гаспадароў. Уладальнік Орлі, не могучы засяліць пустой вёскі, вывез гэтых гаспадароў у Вольку і Міклашы. Старэйшае пакаленне яшчэ памятае апавяданні сваіх бацькоў пра гэтае здарэнне і тых, каго ўладальнік выселіў і чыю зямлю далучыў да маёнтку. У сувязі з тым, што ўладальніку ці арандатару па імю было Антон, адтуль і сённяшняя назва Антанова.

Пра вёску Клужкі памяць цалкам загінула, і ніхто дагэтуль не ўстанавіў яе месцазнаходжання, няма нават палявога ўрочышча з такой назвай.

Некаторыя вёскі, што ўваходзілі ў склад воласці, змянілі свае назвы. І так, вёска Тапарова — сёння Тапаркі (у мясцовай гаворцы „Топорыэ"), назва яе не выяснена дагэтуль. Мяркую, што паходзіць ад яе першага заснавальніка ці ўладальніка Тапара, бо першапачатковая назва Тапарова паказвае на прыналежнасць да Тапара, магчыма таксама, што жыў там каваль, які вырабляў тапары (сякеры). Назва вёскі Рудолты (сёння Рэдуты) таксама не выяснена: ці паходзіць яна ад заснавальніка, ці ад жыхара па прозвішчу Рудолт, або звязана з рудою, балоцістым рудным лугам, ці нават літоўскага паходжання („рудас" — рыжы) — гэта цяжка ўстанавіць. Суседняя мясцовасць называецца Рудка, і жыхары Рэдутаў па сённяшні дзень празываюць яе жыхароў „руднікамі". Тут

[4]) Літаратура пададзена ў канцы артыкула.

маем дакладнейшы паказчык на паходжанне назвы, г.зн. ад руды, ці з балота, ці з руднага луга. Магчыма, што тут з руды выплаўлялі жалеза, бо на дне Арлянкі пападаюцца кавалкі руды.

Крываволя — гэта сённяшнія Крывяцічы, вёска заселеная асочнікамі, якія сачылі за лясным зверам ды пільнавалі панскага лесу.

Шэрні — раней Сэрні — назва таксама не выяснена.

Катэлі (Кашалі) — мабыць „Катэлі" напісалі памылкова, таму што ў папярэдніх запісах было „Кашалі". Гэтая вёска, паводле выказванняў старэйшага пакалення яўрэяў, была на 60 год старэйшая чым Орля.

Назва Кашалі таксама няясная; ці паходзіць яна ад назвы пастушых торбаў, якія калісьці ўжывалі, г.зв. кашалёў, ці ад турэцкай назвы „кош", напрыклад: „сталі кошам", г.зн. ваенным лагерам. Вядома, што кашалёўскія землі былі падзелены лёсаваннем сярод першых пасяленцаў (жарэб'і кашалёўскія і вервачскія). З гэтага выводзяць, што найбольш блізкае праўды будзе другое паходжанне назвы (сталі кошам, лагерам).

У 1585 г. воласць Арлянская перайшла ва ўладанне Радзівілаў. Ад таго часу мястэчка хутка развіваецца, абмяжоўваючы сваім абсягам мясцовы рынак Бельска. У 1622 г. Кшыштоф Радзівіл пабудаваў у Орлі замак (па якім цяпер няма ніякага следу). Ён быццам бы стаяў на вуліцы Бельскай, насупраць сённяшняй школы. 17 кастрычніка 1622 г. Кшыштоф Радзівіл выдаў у Вільні дакумент, паводле якога арлянскія мяшчане атрымалі права выбіраць сярод сябе войта і судовых лаўнікаў, былі ўстаноўлены кірмашы ў кожную сераду, гадавы кірмаш на Сымона і Іуды (праўдападобна 1 верасня), вызначаны велічыні падаткаў і абавязацельстваў з пляцаў, дамоў, агародаў і палёў. Апрача гэтага мястэчка атрымала дазвол на пабудову ратушы і збірання налогаў з крамаў і вагі на карысць мястэчка. У канцы дакумента знаходзілася абяцанне прызнаць мястэчку магдэбурскія правы. Аднак гэты дакумент недзе загінуў, і Януш Радзівіл 15 мая 1643 г. пацвердзіў папярэднія прывілеі з такой зменай, што кірмашы пераносіць з серады на нядзелю, але з агаворкай, што яны павінны пачынацца пасля службы ў мясцовым зборы. У гэтым часе мястэчку быў устаноўлен герб: чорны арол з тапаром у правай назе на чырвоным фоне. [1])

У часе шведскага „патопу" 1655-1657 гадоў мястэчка падверглася жорсткаму разбурэнню, а прыхільнікі кальвінскага веравызнання на чале са старастам Пшынскім загінулі ў няроўнай барацьбе як староннікі Радзівілаў. Яшчэ ў 1775 г. у мястэчку было ўсяго толькі 90 дамоў, што плацілі „падымнае". У 1789 г. Орля атрымала гарадскія правы, а ў 1880 г. у ёй жыло 2331 жыхар, у тым ліку 1812 асоб яўрэйскага насельніцтва.

У XVIII стагоддзі воласць Арлянская належыць да гетмана Браніцкага, потым пераходзіць ва ўладанне князя Вітгенштэйна. Гэты апошні ў 1874 г. прадаў зямлю жыхарам Орлі на ўласнасць, а грунты самой воласці былі распрададзены сялянам, што „сядзелі" на іх. Арлянцы купілі 372 дзесяціны і 1629 сажняў ворыўнай зямлі і лугоў, а таксама каля 8 дзесяцін пляцаў і агародаў са сплатай на працягу 49 год, г.зн. да 1919 года.

Значнае развіццё пасёлка наступіла ў дзевяностых гадах мінулага стагоддзя. У 1880 г. у Орлі быў узведзен комплекс драўляных будынкаў і мураваны шпіталь. Шпіталь праіснаваў да 1915 года. У міжваенны перыяд яго займала пачатковая школа. Цяпер адзін з гэтых будынкаў займае школа, другі — дзіцячы сад, мураваны ж — гміннае ўпраўленне, а адзін перавезен у Кашалі на святліцу, у іншым памяшчаецца гмінны цэнтр культуры і гмінная бібліятэка.

У тыя ж гады будавалі шашу Бельск — Гайнаўка і Орля атрымала брукаваную дарогу, якая злучала яе цераз вёску Шчыты з шашою. Напярэдадні выбуху І сусветнай вайны была распачата пабудова брукаванай дарогі з Орлі ў Кляшчэлі, але пракладзена толькі 2 км бруку. Вайна загамавала не толькі пабудову дарогі, але і ўсё развіццё мястэчка.

У міжваенны перыяд, г.зн. у 1918-1939 г.г. мястэчка славілася добра развітым гандлем і паслугамі для навакольнага насельніцтва. Гандлем займалася аўрэйскае насельніцтва. Праўда, не захавалася звестка пра дакладную колькасць жыхароў у тым часе, але па-



**Старажытная званіца пры царкве ў Орлі.**
**Фота М. Гайдука.**



**Бяскрылы вятрак за аселіцай Орлі здаўна ўжо зерня не меле. Фота М. Гайдука.**

водле колькасці вучняў у школе можна дапусціць яе да 3 тысяч асоб. У пачатковай школе ў 1934/35 школьным годзе вучыліся 454 вучні, у тым ліку дзяцей яўрэйскай нацыянальнасці 223, беларускай — 211, польскай — 20.

У 1943 г. фашысцкія акупанты яўрэйскае насельніцтва Орлі вывезлі ў гета ў Бельск, а затым у канцлагер смерці ў Траблінцы. Уратавалася ўсяго 5 мужчын, што ў тым часе служылі ў Чырвонай Арміі.

## ПОМНІКІ СТАРАЖЫТНАСЦІ

У Орлі знаходзяцца два старажытныя будынкі, якія падлягаюць прававой ахове, а іменна: яўрэйская сінагога і праваслаўная царква.

Вось іх гісторыя.

Праваслаўная парафія паўстала ў Орлі ў гадах 1580-1591. Паводле хронікі, што знаходзіцца ў царкве, стары царкоўны будынак згарэў у 1790 годзе, і намаганнямі парафіян быў узведзен новы на новым пляцы. Паводле ўспамінаў старэйшага пакалення арлянцаў першая царкоўка была малая, крытая саломай, яе разабралі. Частка здаровага будаўнічага матэрыялу пайшла на будову новай царквы, а са старой засталася ікона Міхаіла Архангела, якая цяпер знаходзіцца над уваходнымі дзвярыма сённяшняй царквы. Дата пабудовы царквы, магчыма, недакладная. З апавяданняў старэйшага пакалення вынікае, што новую царкву пабудавалі ў 1735 г. Быццам бы пры паўторным перакрыванні даху на царкоўнай копуле быў абазначаны 1735 год. Пасля старой царквы застаўся пляц, які ўважаецца могільнікам. Вядома толькі, што ў часе I сусветнай вайны на ім хавалі загінуўшых рускіх і нямецкіх салдат. Гэты пляц знаходзіцца на вуліцы Бельскай пад нумарам 17 і праўдападобна мае стаць аб'ектам пад аховай дзяржавы. У 1770 г. гэты пляц быў спорным, і ў царкоўнай хроніцы знаходзіцца наступны запіс аб ім. У 1770 г. праваслаўны святар Міхал Себясевіч звярнуўся к гетману Браніцкаму, тагачаснаму ўладальніку Орлі, з просьбай вярнуць пляц праваслаўнай парафіі, бо на ім пачалі будавацца яўрэі. Гетман Браніцкі паклікаў камісію, якая вынесла наступнае рашэнне: *„Пляц царкоўны, на якім стаіць крыж, па той прычыне, што ён высвечаны і памёршых людзей целы на ім пахаваны могуць быць, мае належыць да парафіяльнай царквы і так вяльможны празбіцер як і іншыя пасля яго святары ў сваім уладанні мець яго будуць, помнячы аднак, каб цяперашні празбіцер і яго наступнікі ні сеяць, ні араць, ні якіх-нгбудзь іншых карысцяў сабе з яго і не падумалі як з месца высвечанага пад пагрозай яго страты для царкоўнага ўладання“.*



**Над быстрацечнаю Арлянкаю колішні вадзяны млын у Орлі. Цяпер працуе на электрычнасці. Фота М. Гайдука.**

У старэйшага пакалення захавалася памяць пра нейкую прыватную парафію.

## ГІСТОРЫЯ КАЛЬВІНСКАГА ЗБОРУ

У 1622 годзе Радзівілы ўзвялі ў Орлі кальвінскі збор, і ў тыя часы мястэчка славілася як цэнтр дысідэнцкага руху на Падляшшы. 15 мая 1644 года ў Хмельніку праходзіў сінод рэфарматарскіх збораў Малапольшчы, і на ім было вырашана склікаць генеральны сінод у Орлі 24 жніўня

1644 года. Аб гэтым рашэнні былі паведамлены пісьмова: электар брандэнбургскі, князь курляндскі, некалькі князёў шлёнскіх, гарады прускія і важнейшыя евангеліцкія цэнтры ў Германіі. Адначасова ў пісьмах знаходзілася просьба пра меркаванні і парады адносна пазіцыі на набліжаючымся з’ездзе ў Торуні.

Ва ўстаноўленым часе, г.зн. 24 жніўня 1644 г. прыбылі ў Орлю з усіх бакоў Польшчы і Вялікага княства Літоўскага шматлікія прадстаўнікі гельвецкага веравызнання. Пасля адкрыцця сінода, на якім старшынстваваў Януш Радзівіл, былі прачытаны адрасы ад электара брандэнбургскага, князя курляндскага, гарадоў Торуня, Эльблёнга і Гданьска, ад цэнтра ў Лейдзе, а таксама ад многіх евангеліцкіх вучоных: Андрэя Кіерта, Генрыка Альцінагіўса, Вольфганга, Крэліуса, Каменіўса і іншых. Пасля гэтага сінод абмяркоўваў метады вядзення дыскусій на калёквіуме ў Торуні. Усе члены сінода згадзіліся, што маюць замала часу, каб належна падрыхтавацца да такога важнага задання. Вырашана прасіць караля Уладзіслава IV адтэрмінаваць торунскі з’езд, і дзеля гэтага к каралю выехала спецыяльнае пасольства. Кароль ахвотна згадзіўся выканаць просьбу.

У 1644 г. гетман Сапега гарантаваў прапаведніку збора ў Орлі поўную бяспеку. У пачатку XVIII стагоддзя пры мясцовым зборы не было нават святара. У 1725 годзе луцкі епіскап Рупнеўскі забраў



**Каля колішняга кальвінскага збору ў Орлі. Фота М. Гайдука.**



са збору новы звон, за што ўпікаў яго кароль Аўгуст II. Збор фігураваў у дакументах дысідэнтаў у 1732 годзе, а ў 1754 г. аб ім ужо не ўпамінаецца. Праўдападобна, ён праіснаваў да 1770 г.

Паводле легенды жонка Радзівіла прадала будынак збору мясцовым яўрэям за два з палавінай корцаў грошыкаў пры ўмове, што ўся гэтая колькасць будзе дастаўлена на працягу адной ночы. Лічачы грошыкі, Радзівілава аслепла. Куплены збор яўрэі перамянілі на сінагогу. Яна стаіць і па сённяшні дзень, моцна знішчаная, але забяспечаная і знаходзіцца пад прававой аховай (помнік старажытнасці III класа). У сучасны момант яна — магазін саламяных вырабаў.

## ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

Нетры Орлі і навакольных вёсак багаты глінай. Да канца XIX стагоддзя мястэчка славілася ганчарнымі вырабамі, аднак прамысловае выкарыстоўванне залежаў гліны пачаў толькі жыхар Орлі Айзік Вайнштайн. У канцы XIX ст. ён набыў двор у Орлі і ў 1908 г. збудаваў там дзве кафлярні, а трэцюю ў цэнтры мястэчка. „Бізнес“ ішоў бойка, вайнштайнавы кафлі карысталіся попытам. У міжваенны час кафлярня належала да 4 сыноў Вайнштайна, і ў ёй працавала каля 70 чалавек рабочых. У 1939 г. прадпрыемства перайшло ва ўласнасць дзяржавы.

Адразу пасля вызвалення гэтай мясцовасці былыя рабочыя кафлярні Вацлаў Рыбак, Сільвестр і Пётр Кубаеўскія, Васілеўскі, Даніла Савіцкі, Пётр Качынскі, Уладзімір Бойна, Уладзімір Мураўскі і іншыя саматуж пусцілі ў рух прадпрыемства. Упарадкавалі фабрычны панадворак, ачысцілі калодзежы, збудавалі тымчасовую шламарню, адрамантавалі дахі, дзверы, вокны і г.д. Гэта быў вялікі грамадскі пачын. Асаблівыя заслугі ў ім належаць да качагара Вацлава Рыбака, які паказаў месца, дзе Вайнштайн замураваў глазур (знайсці глазур было самым важным) і Пётр Качынскі, што ўласнаручна адрамантаваў дзверы і вокны і выканаў шэраг іншых сталярна-слесарскіх прац. Першапачаткова рабочыя за сваю працу на прадпрыемстве не атрымоўвалі зарплаты ў грашах, бо грошай яшчэ не было, яны атрымоўвалі харчавыя прадукты (цукар, спарашкаванае малако, кансервы). Не было ў Орлі і пякарні, жанчыны самі пяклі хлеб.

Захапленне свабодай, спадзяванні на лепшае заўтра павялічвалі энергію рабочага калектыва, і неўзабаве прадпрыемства пачало нармальную, рэгулярную і даходную працу. Кафлярня працуе і па сённяшні дзень. Праўда, будынкі яе старыя, але прад-

прыемства дае ў год каля 6 мільёнаў керамічных адзінак, вельмі патрэбных для жыллёвага будаўніцтва кафляў, і забяспечвае працай значную колькасць мясцовых жыхароў.

У 1950-1970 гадах працавала ў Орлі палявая цагельня. Яна дастаўляла ў год каля аднаго мільёна керамічных адзінак і выдатна прычынілася да развіцця жыллёвага будаўніцтва ў Орлі і яе ваколіцах. Аднак залежы гліны вакол яе былі выкарыстаны і прадпрыемства прыйшлося закрыць.

У 50-я гады на тэрыторыі Орлі было ўзведзена невялікае прадпрыемства бетонных вырабаў, якое вырабляе пустакі, калодзежныя кругі, тратуарныя пліты. І яно надта патрэбнае жыхарам арлянскай гміны, бо яго вырабы змяняюць выгляд і ўзровень жыцця вёскі — з драўлянай ператвараюць у мураваную, з беднай — у заможную.

Геалагічныя пошукі ў ваколіцах Орлі адкрылі аграмадныя залежы гліны высокай якасці. Прадбачваецца пабудова сучаснага аграмаднага керамічнага прадпрыемства. Каб жа ж гэтыя намеры хутчэй здзейсніліся!

## АСВЕТА

Першая школка ў Орлі паўстала пры дысідэнцкім зборы, але разам з пагромамі іншаверуючых яна заняпала. Невядома ці існавала тут школа ў часе Камісіі нацыянальнай адукацыі. Магчыма, манахі-васільяне арганізавалі школку, бо мусілі ж яны мець людзей, якія б умелі чытаць літургічныя кнігі і памагаць святару служыць у царкве. Старэйшае пакаленне прыгадвае, што школьнага будынку не было, навука праходзіла ў памяшканнях гаспадароў. Вучыліся толькі хлапчукі. Дзяўчатак пачалі пасылаць вучыцца недзе ў 80-я гады мінулага стагоддзя і навучалі іх толькі рукадзеллю, бо чытаць і пісаць дзяўчат не вучылі.

Старэйшыя людзі кажуць, што першы школьны будынак паўстаў недзе каля 1863 г. Ён і цяпер стаіць на вуліцы Бельскай і часткова займае яго школа. У 1910 г. быў узведзены новы школьны будынак, у якім і знаходзіцца цяпер школа. Потым арганізацыйны ўзровень школы быў павышаны на пяць класаў. Да 1915 г. школа дзялілася на мужчынскую і жаночую. З 1919 па 1931 гады гэта была пачатковая сямікласная школа і яна ахоплівала сваім абсягам тэрыторыю сённяшніх школаў: у Пашкоўшчыне, Малінніках, Парцаве, Галадах, Рэдутах, Шчытах, Крывой, Дубічах Царкоўных, Махнатым, Старакорніне і Чыжах. Вучні ў V-VII класы хадзілі ў школу з адлеглых мясцовасцей. У 1935 г. у школе было 450 вучняў, у тым ліку ў VII класе ўсяго толькі 7 чалавек. У міжваенны перыяд сярэднюю школу закончыла толькі адна асоба. Гэта была пакойная сённея Варвара Лашкевіч, спецыяльны стыпендыянт арлянскай гміны, а потым настаўніца мясцовай школы. Адно лічаныя асобы канчалі сёмы клас, пераважна адукацыя рабочых і сялянскіх дзяцей канчалася на чацвёртым класе. Яўрэйскія дзеці хадзілі яшчэ дадаткова ў сваю рэлігійную школку, званую хедэрам. У 1939-1941 гадах у Орлі працавала савецкая школа з беларускай мовай навучання, у ёй было 16 класаў, працавала 18 настаўнікаў і вучылася 640 вучняў.



**На ўроку беларускай мовы ў арлянскай школе. Фота М. Гайдука.**

У часе гітлераўскай акупацыі тут была адкрыта легальная школа з беларускай мовай навучання і з нямецкай мовай — прадметам. Самым старэйшым класам мог быць толькі чацвёрты клас.

Поўнае развіццё асветы наступіла ў Народнай Польшчы. З 1944 года ў Орлі ёсць сямікласная польская школа, пачаткова з беларускай мовай навучання, а пазней з беларускай мовай як прадметам.

Ахвота да вучобы, блізкае суседства з Бельскам Падляшскім, бясплатнае навучанне ў сярэдніх школах, стыпендыяльная дапамога — усё гэта прычынілася да таго, што асветныя дасягненні Орлі аграмадныя. Сярод выпускнікоў тутэйшай пачатковай школы

за трыццаць год Народнай Польшчы з самога мястэчка Орля 40 чалавек здабыло вышэйшую адукацыю. Толькі нямногія спыніліся на пачатковай. У гадах 1956-1970 у Орлі працавала школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Многа выпускнікоў гэтай школы атрымала сярэднюю адукацыю і цяпер працуе ў сельскай гаспадарцы, дзейсна ўплываючы на яе развіццё і павышэнне ўзроўню.

Цяпер у Орлі ёсць зборная васьмікласная гмінная школа. Вучыцца ў ёй каля 300 вучняў і працуе 17 настаўнікаў. Пры школе знаходзіцца сталовая, за невялікую плату вучні атрымоўваюць абеды, якія складаюцца з трох блюдаў. Дзяцей з Рэдутаў давозяць спецыяльным аўтобусам, а са Шчытоў вучні даязджаюць аўтобусам ПКС. У бліжэйшым часе прадбачваецца пабудова сучаснага школьнага гмаху, бо цяперашнія школьныя будынкі цесныя, няма фізкультурнай залы, няма магчымасцей абсталяваць класакабінеты, не хапае спецыяльных памяшчэнняў на бібліятэку і чытальню, спецыяльнага пакоя для гарцэрскай арганізацыі, месца на фізкультурныя прылады і г.д. Сучасная школа не можа знаходзіцца ў такіх будынках.

## НАСЕЛЬНІЦТВА

Жыхары Орлі ў большасці займаюцца сельскай гаспадаркай. Многія працуюць у мясцовых прамысловых прадпрыемствах, паслугах, гандлі і ўстановах, што знаходзяцца ў Орлі. Шмат даязджае на працу ў Бельск і некаторыя — у Гайнаўку. Апрача гэтага частка жыхароў займаецца вырабам саламяных кашалёў, матаў і г.д.

Нацыянальны склад насельніцтва амаль аднародны (95 працэнтаў беларусаў і 5 працэнтаў палякаў, у навакольных вёсках 99 працэнтаў беларусаў).

Моўная свядомасць беларускага насельніцтва расплывучатая. Яно ўважае сваю мову беларускай, „хахлацкай", „рускай", „простай", „нашай". Беларусаў, што жывуць уздоўж ракі Нарвы і вакол Белавежскай пушчы, арлянцы прызываюць „ліцвінамі", а тыя ж іх — „мужыкамі", „каралёўцамі". Гэтыя мянушкі паходзяць яшчэ з часоў перад раздзелам Польшчы, калі непадалёк праходзіла граніца паміж Вялікім княствам Літоўскім і Каронай Польскай.

Памыліўся б той, хто спрабаваў бы вызначыць нацыянальнасць на падставе прозвішча ці мовы. Тут знаходзяцца старадаўнія беларускія роды з тыповымі мазавецкімі прозвішчамі: Мураўскі, Кубаеўскі, Навіцкі, Шайкоўскі, Паплаўскі, Шыманскі, Савіцкі, Збучынскі, Грынявіцкі, Жабінскі, Хмялеўскі, раней былі яшчэ: Завадскі, Фалькоўскі, Садоўскі. Ёсць і беларусы Савіцкія, і палякі Савіцкія, беларусы Назарэвічы і палякі Назарэвічы.

Нягледзячы на разнастайнасць насельніцтва па нацыянальнасці і веравызнанню, яно згоднае, спагадлівае і гасціннае. Ніколі не здараліся сваркі па нацыянальных ці рэлігійных прычынах. Жэняцца і выходзяць замуж беларусы з палякамі, былі выпадкі беларуска-яўрэйскіх сямей (перад II сусветнай вайной). Часта святкуюцца падвойна праваслаўныя і каталіцкія святы.

## ЛІТАРАТУРА


1) *Z. Troczewski i J. Antoniuk, „Białystok i okolice", B-stok 1956.*

2) *„Słownik Geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich" pod red. B. Chlebowskiego i W. Walewskiego, W-wa 1886 r.*

3) *W. Krasiński, „Z dziejów powstania i upadku Reformacji w Polsce", t. II, W-wa 1905 r.*

4) *A. Jabłonowski, „Podlasie w XVI wieku", t. VI.*

5) *Niepublikowane zapiski kronikarskie przy parafii prawosławnej w Orli.*


**„Беларуская песня — 75"**



**Першае месца ў катэгорыі сучаснай песні ў групе хораў заняў калектыў з Гарадка: Э. Дылько, Р. Дылько, А. Захарчук, В. Мядзведзеў, І. Паўлючук, М. Траскоўская, Ю. Цеханоўская, Н. Ціванюк пад кіраўніцтвам і пры акампаніяменце С. Копы.**

**Фота Я. Цялушэцкага.**

Мікалай Гайдук

# „Песні мае, песні...“

Як жыве наша народная песня?

Паставіўшы сабе гэтае пытанне, я падаўся ў позні кастрычніцкі вечар 1974 года ў вёску Лука Гайнаўскага павету. І там, дзякуючы выдатнай дапамозе Тамары Ціванюк — заслужанай настаўніцы беларускай мовы ў мясцовай пачатковай школе і актыўнай грамадскай дзеячкі, — удалося сабраць найбольш слаўных мясцовых спявачак. І ўвесь вечар з вуснаў Анны Садоўскай (1903 г. нараджэння), Вольгі Сімаковіч (1908 г. нараджэння), Надзеі Салавей (1909 г. нараджэння) і Анны Стоцкай (1926 г. нараджэння) звонкім струменем ліліся чароўныя мелодыі.

Гэтыя бакі наведаў вядомы фалькларыст Міхал Федароўскі, і ў V і VI тамы яго «Люду беларускага» трапіла адна песня з Ялоўкі, тры з Луплянкі, па чатыры з Нараўкі і Будаў, дзевяць з Семяноўкі, семнаццаць з Кітурыкаў і аж 69 з Навасадаў. У Луцэ М. Федароўскі і Я. Трачык былі недзе ў 1894 годзе, і ў выніку гэтага ў вышэй спамянутых двух тамах паявіліся 24 песні. У памяці мясцовых спявачак захавалася з іх усяго толькі чатыры: «Плылі гусі, плылі...», «Пасею я рутку...», «Калесом сонцо, ой, угору ідзе...» і «Маладзенькі Раман...». Пры гэтым з дзвюх апошніх захавалася па адной-дзве страфе, а «Пасею я рутку...» — у даволі адлеглым варыянце. Адно «Плылі гусі, плылі...» захавалася поўнасцю, з невялікімі зменамі.

А што сталася з дваццаццю іншымі? Відаць, адышлі ў небыццё, беспаваротна загінулі. Не без прычыны тут той факт, што сярод загінуўшых ёсць каля дзесяці твораў польскіх, якім уласцівы толькі нязначныя ўплывы беларускай мовы. Праўдападобна, М. Федароўскі і Я. Трачык запісвалі песні ў тадышніх панскіх маёнтках, якіх у вярхоўі ракі Нарвы ў тыя часы было шмат. Спявалі ім пераважна жанчыны з прыдворнай службы. І вось двары-маёнткі перасталі існаваць, выехалі памешчыкі, разбегліся экономкі і пакаёўкі, прапалі цівуны, а разам з імі адышлі і песні, што мелі выразна прыдворны характар. За мінуўшыя восемдзесят год знікла таксама і дзесяць іншых песень. Што ж, за гэты час адышлі тры пакаленні людзей, адбыліся вялікія перамены ў жыцці.

Але ўсё ж народныя песні засталіся! У той кастрычніцкі вечар лучанскія спявачкі падалі мне, апрача тых чатырох з «Люду беларускага», яшчэ дзевятнаццаць песень. У іх, быццам у маланкава мігаючым калейдаскопе, праплылі мелодыі з каляндарнага цыкла (валачобныя і жніўныя), вясельныя, а таксама любоўныя і сямейныя. І неабходна заўважыць, што яны яшчэ цалкам не страцілі сувязі з народнымі абрадамі, жывуць і карыстаюцца папулярнасцю. І так, перад вяселлем тут часта маці маладой склікае сваіх бліжэйшых прыяцельніц і кумаў на вечарыну «каравайніц», і тады хата звініць ад колішніх «каравайных» песень і прыпевак. На вяселлі ж —вясельных, на хрысцінах — хрысцінных. Але не толькі. Так, як і ўсюды, паскораным тэмпам адбываецца тут зніканне колішняй абрадавасці, адцаленне і адчужэнне песні ад самога абраду. І ўсё ж хоць бяседнікі на хрысцінах спяваюць хрысцінныя і іншыя песні, аднак прытрымліваюцца, каб не спяваць тых, дзе гаворыцца аб караваі ці сваце. І падобна на вяселлі не пачуеш песень пра паложніцу, бабку-павітуху ці куму і кума. Як-ніяк, але захавалася яшчэ некаторая свядомасць прыналежнасці тых ці іншых песень да адпаведнага абраду.

Ужо нават павярхоўны агляд запісаных у 1974 годзе ў Луцэ песень паказвае, што яны распаўсюджаны на вялікай тэрыторыі. Вось хоць бы, напрыклад, песня «Ой, чыя то матуля па падвор'ю ходзіць?..» М. Федароўскі запісаў яе варыянты ў суседняй з Лукой вёсцы Навасады, а таксама каля Раготнай, Дварца і Моўчадзі на Гродзеншчыне, каля Ляхавіч на Брэстчыне і Клецка на Міншчыне. Гэтую ж песню ў канцы першай паловы XIX стагоддзя занатоўваюць над ракой Бярозай у Барысаўскім павеце на Міншчыне. Крыху лазней яе польска-беларускі варыянт натуе О. Кольберг недзе ў паўночнай Беласточчыне. З. Д. Хадакоўскі аднатоўвае ў сваіх «Славянскіх спевах» гэты матыў, запісаўшы яго недзе ў паўднёва-ўсходняй Польшчы яшчэ ў першай чвэрці XIX стагоддзя. Або песня *«Ой, у полі дуб, дуб...»*. М. Федароўскі знайшоў яе ў вёсцы Спадзвілы і мястэчку Жалудок на Гродзеншчыне, Р. Р. Шырма ў 1934 г. запісвае яе варыянт ад дзяўчат у вёсцы Ялова каля Пружанаў на Брэстчыне. Цікава, што вядомы збіральнік усходнеславянскага фальклору М. Максімовіч памяшчае яе ў сваім зборы «Малороссийские песни», што выйшаў у Маскве ў 1827 годзе. Тое самае можна сказаць і аб песні *«Ой, пайдзі, пайдзі, дожджыку...»*, якой варыянты М. Федароўскі запісаў у суседніх Навасадах, а таксама каля Пружанаў на Брэстчыне. Польскую песню з вельмі блізкім матывам занатавалі М. Федароўскі каля Пружанаў у апо-

шняй чвэрці мінулага стагоддзя і А. Алешчук у 1959 г. у Дабжыневе Вялікім у Беластоцкім павеце, а О. Кольберг знайшоў яго ў 1841 годзе ў ваколіцах Пясэчна каля Варшавы. Такіх прыкладаў можна прывесці болей. Яны пераканаўча сведчаць аб тым, што значная частка сённяшніх лучанскіх песень бытавала здаўна на Беласточчыне і суседніх з ёю землях. Часам яны ахоплівалі велізарную тэрыторыю.

Гэта ўласціва народнай песні і сёння. Напрыклад, варыянт песні *«Ой, ты, сваце-баламуце...“* беларускія савецкія фальклярысты запісалі ў 1961-1971 гадах у вёсцы Папялёва Пружанскага раёна на Брэстчыне, а даволі блізкую разнавіднасць песні *«Ой, ты, бацeньку-салавейку...»* занатавалі ў вёсцы Замошша Барысаўскага раёна на Міншчыне.

У Луцэ ёсць і такія песні, што рэдка траплялі ў фальклорныя зборнікі. А калі і былі занатаваны збіральнікамі вуснай народнай творчасці, дык у такім далёкім варыянце, што цяжка сцвердзіць паміж імі якое-небудзь падабенства. Гэта асабліва яскрава відаць у песні *«Ой, што жэ ты, млода Тамарко, думаеш?..»* М. Федароўскі і Я. Карловіч запісалі песню з такім пачаткам каля мястэчка Свіслач на Гродзеншчыне. Аднак падабенства абмяжоўваецца толькі дзвюма першымі строфамі, далейшы ж змест абодвух твораў мае абсалютна адваротны сэнс. Свіслацкая песня гаворыць аб бяздольным жыцці, цяжкай працы і пабоях, якія чакаюць маладую ў новай сям'і, а твор з Лукі малюе аптымістычны абразок шчаслівай закаханай пары. Некаторыя ж песні абмяжоўваюць, відаць, сваё існаванне толькі да Лукі. Да іх, мабыць, належаць *«Пасею я рутку дай пад вярбой...»* і *«А ўжэ ж мы паедземо...»*, якія занатавалі тут яшчэ М. Федароўскі і Я. Трачык, а таксама «каравайная» *«Ехала маці гукаючы...»*, варыянтаў якой не ўдалося знайсці ў вядомых нам зборніках.

Падобна як ва ўсёй усходняй Беласточчыне, у Луцэ здаўна ахвотна спяваюцца польскія, рускія і ўкраінскія песні. Тут яны зводьна падпадаюцца натуральнаму працэсу збеларушчвання. Пры гэтым цікава заўважыць, што ўкраінскія і рускія песні асімілююцца значна паўней, чым польскія. Прыкладам гэтаму амаль зусім збеларушчаны рускі твор *«Ой, у полі верба нахылілася...“* і даволі добра захаваўшая польскасць песня *«Пагнала волы на Бакавіну...»*.

І цікавае ж жыццё некаторых народных песень! Вось хоць бы ўзяць твор *«Песні мае, песні, дзе я вас падзену?..»* Адкрыла яго ў 1958 годзе ў вёсцы Тарнопаль на Гайнаўшчыне Тамара Бура (Ціванюк) — тады яшчэ студэнтка беларускай філалогіі Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. Запісала ад 77-гадовай Надзеі Гайдук. Песня трапіла ў «Ніву» (ад 4.X.1959) і ў «Беларускі каляндар» на 1961 год. У гэтым запісе твор складаецца з дзвюх частак: уступнай аб адносінах чалавека да песні і наракання на цяжкую долю прыгоннага селяніна. У гэтым варыянце песня мае выразны антыпаншчынны характар;

*Не буду крычаці,*
*Бо навошта пана*
*Сваго раздражаці.*
*Пан вялікі, строгі,*
*В рабоці паганяе,*
*Для того ён жартаў*
*І песень не знае.*

У 1972 г. варыянт гэтага ж твора ўдалося мне занатаваць ад 44-гадовай Валянціны Саевіч у суседняй з Тарнопалем вёсцы Старое Ляўкова. Гэты запіс („Ніва“ ад 11.III.1973 г.) складаецца з трох частак, гэта значыць: уступнай аб адносінах чалавека да песні, другой аб куколі і трэцяй аб цяжкай долі замужняй жанчыны ў чужой сям'і ды пры ліхім мужу. У ім няма ані слова аб прыгоне. Надзея Салавей з Лукі, вёскі, што знаходзіцца



**Сядзяць (злева направа) Анна Стоцкая, Анна Садоўская і Вольга Сімаковіч, стаіць Надзея Салавей.**

**Фота М. Гайдука.**

недалёка ад Тарнопаля і Старога Ляўкова, спявала мне эты твор у версіі блізкай да песні са Старога Ляўкова, але ў ім няма ўжо нараканняў жанчыны на гаротнае жыццё ў чужой сям'і і на пабоі мужа. Замест гэтага знаходзім разгорнутую трэцюю частку, пранікнутую сумам па беспаваротна мінуўшых «маладых летах» і спробе іх дагнаць і вярнуць. Гэты варыянт песні зусім пазбаўлены матываў сацыяльнага пратэсту і мае характар своеасаблівага філасофскага развжання над беспаваротным праміннаннем чалавечага жыцця. Прыклад розных варыянтаў твора *«Песні мае, песні...»* — гэта пераканаўчы доказ таму, што народныя творы прадстаўляюць сабою з'яву жывую, пераменлівую, няспынна перапрацоўваючую ранейшы змест і мастацкую форму і ўносячую ўсё новыя і новыя элементы. Яны — люстра дум працоўнага чалавека.

*

Песні, запісаныя ад Анны Садоўскай №№ I, IX, X, XII і XXII; ад Надзеі Салавей №№ III, XIV і XXI; ад Вольгі Сімаковіч №№ II, IV, XV, XVIII і XIX; ад Анны Стоцкай №№ VI, XVII і XXIII; ад Вольгі Сімаковіч і Надзеі Салавей № XX; ад Анны Стоцкай і Анны Садоўскай №№ V, VII, XI, XIII і XVI; наспявалі разам А. Стоцкая, А. Садоўская, Н. Салавей і В. Сімаковіч №VIII.

Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі належыць Людміле Панько, за выключэннем песень №№ V, VII і XIX, нотны запіс якіх зрабіла Марыся Гайдук.

## БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ПЕСНІ З ВЁСКІ ЛУКА ГМ. НАРАЎКА

### 1

*Allegro*

1. Тон - ка - тон - ка ка - на - пель - ка, гэй, гэй,
2. Там Ган - дзеч - ка во - ду бра - ла, гэй, гэй,

1. ві - но, ві - но зе - ле - но!
2. ві - но, ві - но зе - ле - но!

— ● —



### 2

*Moderato*

1. Ой, ка - ці - лі - се з га - рыэ ка - лё - са,
2. Мы лю - бі - лі - се, мы ка - ха - лі - се,

1. на да - лі - кан - цы ста - лі.
2. то нас лю - дзі ні зна - лі.

— ● —

### 3

*Lento*

Ой, у по - лі дуб, дуб, а под ду - бом ёл - ка. То там дзеў - ка, дзеў - ка жы - то жа - ла Са - ма чор - на - бро - ва.

*Ой, у полі дуб, дуб, а под дубом ёлка.*
*То там дзеўка, дзеўка жыто жала*
*сама чорнаброва.*
*То там дзеўка, дзеўка жыто жала*
*сама чорнаброва.*
*Ехаў казак на Украіну: „Памагай, Бог, дзеўко!“*
*Дзеўка стала, стала — адказала,*
*сэрдэнььком назвала.*
*Дзеўка стала, стала — адказала,*
*сэрдэнььком назвала.*
*— А бодай жэ тое слово па ўсём свеці стало,*
*як ты мене, мене маладого*
*сэрдэнььком назвала.*
*Як ты мене, мене маладого,*
*сэрдэнььком назвала.*







Ой, чыя то матуля
сюю ночку ні спала?
Сюю ночку ні спала,
суседонек клікала:
— Суседочкі вы мае,
прыхінецесь да мене
дай да мого дзіцяці —
каравая гібаці.
Дай да мого дзіцяці —
каравая гібаці.




Ехала маці, гукаючы,
сваго дзіцяці шукаючы:
— Як у каморы, то адазвіся,
як у ніволі, то выкупім.
Як у ніволі, то выкупім,
як у каморы, то выпусцім.






Ой, дзе тая матуленька, што ў хаці?
Ніхай шукае до караваю лапаты.
Ніхай шукае до караваю лапаты.
Ой, дзе тая гаспадыня, што ў шубі?
Ніхай шукае до караваю кацюбы.
Ніхай шукае до караваю кацюбы.




Ой, харошы наш каравай, харошы,
бо харошые каравайначкі гібалі.
Бо харошые каравайначкі гібалі.

*

Ой, высокі наш каравай, высокі,
бо высокіе каравайначкі гібалі.
Бо высокіе каравайначкі гібалі.

*

Ой, румяны наш каравай, румяны,
бо румяные каравайначкі гібалі.
Бо румяные каравайначкі гібалі.

*

Ой, цыцаты наш каравай, цыцаты,
бо цыцатые каравайначкі гібалі.
Бо цыцатые каравайначкі гібалі.

*

Ой, пузаты наш каравай, пузаты,
бо пузатые каравайначкі гібалі.
Бо пузатые каравайначкі гібалі.

— ● —

## 9

Andante

Па-се-ю я рут-ку дай я пад вяр-бой,
Рас-ці, рас-ці, ру-тань-ка, роў-нень-ко зо мной.

Пасею я рутку дай я пад вярбой —
расці, расці, рутанька, роўненько зо мной.
Стала рутка, стала, стала падрастаць,
а я малада дзяўчына тай з хлопцам гуляць.



## 10

Andante

строфы I і II:

Ой ты, сва-це-ба-ла-му-це, Ні па-сі ко-ня ў ма-ёй ру-це,

наступныя строфы:

Пры-шлі, пры-шлі сва-го Я-нач-ка з ва-зоч-ком,
Ні-хай за-бе-рэ я-ру ру-тань-ку з пе-соч-ком, -ком,

Ой ты, сваце-баламуце,
ні пасі коня ў маёй руце,
бо твой конічок ні спасецца,
мая рутанька і звядзецца.
Прышлі, прышлі сваго Яначка з вазочком,
ніхай заберэ яру рутаньку з песочком,
Ніхай заберэ яру рутаньку з песочком.
Прышлі, прышлі сваго Яначка з коўнямі,
ніхай заберэ яру рутаньку з карнямі.
Ніхай заберэ яру рутаньку з карнямі.
Й у гародзі яра рутанька зеленіт,
а ў той рутаньцы млода Гандзечка доўго спіт.
А ў той рутаньцы млода Гандзечка доўго спіт.
Прышла ее сестронка будзіці,
стала на ее матуленька сварыці:
— Ой, не будзі, мае дзіцятко, не будзі,
бо вана паедзе далёко ў чужые людзі —
будзе будзіці чужая маці нілёгко.
Будзе будзіці чужая маці нілёгко:
— Устань, устань, мая нівестко, ні лежы,
ідзі на поле работаньку парабі.
Ідзі на поле работаньку парабі.

## 11




— Ой, што жэ ж ты, млода Тамарко, думаеш,
што на такую гібкую кладку ступаеш?
Што на такую гібкую кладку ступаеш?
— Ой, думаю, мае дзеванькі, думаю,
што на такую гібкую кладку ступаю.
Што на такую гібкую кладку ступаю.
— Ой, на што ты, млода Тамарко, глядзела,
што за такого ніхарошаго схацела?
Што за такого ніхарошаго схацела?
— Ой, ніпраўда, мае дзеванькі, ні тото —
седзіт Яначок з правагo боку, як злото.
Седзіт Яначок з правагo боку, як злото.
Сам белявы, чуб кудравы ў ёго —
Прыхіліласё маё сэрдэнько да ёго.
Прыхіліласё маё сэрдэнько да ёго.

— ● —



**„Беларуская песня — 75“**

**Удзельніцы агляду — дуэт В. Шуста і В. Міхалюк з Беластока.**

**Фота Я. Цялушэцкага.**



## 12




Плылі гусі, плылі быстраю ракою,
— Выйдзі, дзеўчынанько, размоўся за мною!
— Ні раз я хадзіла, ні раз гаварыла,
такі, мае сэрцо, праўды ні сказаў.
Тады ж мае сэрцо ўсю праўданьку скажа,
як ксёндз маю ручку і з тваею звяжа.
Як стаў ксёндз маю ручку і з тваею вязаць,
стала дзеўчынанька ўсю праўду й казаць.

— ● —



**„Беларуская песня — 75“**

**Н. Мушынская і Н. Парэмбская з Гарадка занялі другое месца ў групе дуэтаў у катэгорыі фальклорнай песні.**

**Фота Я. Цялушэцкага**

## 13

*Moderato*

Ой, чы-я то ма-ту-ля па па-дво-р'ю хо-дзіць,
бе-лы ру-чань-кі ло-міць?
— Пус-ці ме-не, Бо-жа, да-до-мань-ку На сі-роц-ке ве-
се-ле. Я й да до-му ні пай-ду — Пад а-кен-ко па-гле-джу.

Ой, чыя то матуля
па падвор'ю ходзіт,
белы ручанькі ломіт?
— Пусці мене, Божэ,
дадоманьку
на сіроцке веселе..
Я й да дому ні пайду —
пад акенко пагледжу
на сіроцке веселе:
як вонэ наражонэ,
чы на покуць посажонэ.
Наражонэ, як лебёдка,
пасажонэ, як сіротка.

— ● —

## 14

*Lento*

Ой ты, ба-цень-ку-са-ла-вей-ку,
Ад-да-еш ме-не ма-ла-дзень-ку.

Ой ты, баценьку-салавейку,
аддаеш мене маладзеньку.
Аддаеш мене маладзеньку —
спраў мне ты ложо залаценьке.
Спраў мне ты ложо залаценьке,
купі зазульку галасненьку.
Купі зазульку галасненьку,
коб вана рано заковала.
Коб вана рано заковала,
мене маладзеньку прабуждала.
Мене маладзеньку прабуждала:
бо ў мене свякруха — ні матуля,
у мене свекерко — ні баценько,
рано ні збудзіт дый асудзіт:
— Мая нівестка санлівая,
да работанькі ленівая.

— ● —

## 15

*Moderato*

— Ой, пай-дзі, пай-дзі, дож-джы-чок, ста-ра-
но-ю, Ой, па-се-ю я, я ру-тань-
ку над ва-до-ю.

Ой, пайдзі, пайдзі, дожджычок, стараною,
ой, пасею я, я рутаньку над вадою.
Малады хлопец, я цебе даўно знаю —
хочэш мэне брацъ, брацъ, я пасагу ні маю.
— Як я схачу ўзяць, той без пасагу вазьму,
я на твой пасаг тай нічого ні скажу.
— Ой, ні скажаш ты, то скажа твая маці:
„Было, сыніку, без пасагу ні браці.

Уставай, нівестко, бодай ты ні ўстала,
выганяй пасаг, што й ад бацькі нагнала".
— Лежы, свекрухо, бодай ты адубела,
сама бачыла, што пасагу ні мела.

— ● —




А ўжэ ж мы паедземо, цебе тут пакінем,
на чужой старонацчы, людской размованьцы.

— ● —

**„Беларуская песня — 75"**



**Другое месца ў катэгорыі фальклорнай песні заняла народная спявачка Анна Стахвіюк.**



**Саліст Аляксандр Раманюк заняў трэцяе месца ў катэгорыі сучаснай песні.**

**Фота Я. Цялушэцкага**






— ● —




Касіў Ясь канюшыну, касіў Ясь канюшыну,
касіў Ясь канюшыну, паглядаў на дзеўчыну.
А дзеўчына жыто жала, а дзеўчына жыто жала,
а дзеўчына жыто жала і на Яся спаглядала:
— Чы ты Ясь, чы ты не, чы ты Ясь, чы ты не,
чы ты Ясь, чы ты не, спадабайсе ты мне.
Чы ты Ясь, чы ты не, спадабайсе ты мне!
Кінуў Ясь тут касіць, пашоў маменькі прасіць:
— Ох ты, мамко мая, ох ты, мамко мая,

*ох ты, мамко мая, ажані ты мене.*
*Ох ты, мамко мая, ажані ты мене!*
*— Той бяры Станіславу, той бяры Станіславу,*
*той бяры Станіславу, што сядае на ўсю лаву.*
*— Станіславы ні хачу, Станіславы ні хачу,*
*Станіславы ні хачу, бо на лаву ні ўсаджу.*
*— Той бяры ты Яніну, той бяры ты Яніну,*
*той бяры ты Яніну — працавітую дзеўчыну.*
*— Я Яніны ні хачу, я Яніны ні хачу,*
*а я тую і вазьму, што цалую і люблю.*
*А я тую і вазьму, што цалую і люблю!*

— ● —

## 19

Lento

Ой, коб я зна-ла, коб я віе-да-ла, дзе мой мі-лы на-чу — е.
Ой, коб я зна-ла, коб я віе-да-ла, дзе мой мі-лы на-чу — е.
Як у дзе-вань-кі на па-сце-лень-кі, Па-ма-гай я-му, Бо — жэ.
Як у ўдо-вань-кі на па-сце-лень-кі, Па-ка-рай я-го, Бо-жэ.
Па-ка-рай я-го, Бо-жэ, Ве-лі-ко-ю ка-ро-ю —
Я да е-го з цэ-лым сэр-дэнь-ком, Вон до ме-не ні з прай-до-ю.







**Дуэт Т. Ільяшук і Л. Грайко з Бельскага беларускага ліцэя заняў першае месца ў групе дуэтаў у катэгорыі фальклорнай песні.**



**Салістка Люба Гаўрылюк з Беластока заняла другое месца ў катэгорыі сучаснай песні.**

**Фота Я. Цялушэцкага.**

— ● —

## 20

Lento

Ой га-ю, мой га-ю, га-ю зе-ле-нень-кі,
Чом на та-бе, га-ю, ліс-то-чок драб-нень-кі-нень-кі.

*Ой гаю, мой гаю, гаю зелененькі,*
*чом на табе, гаю, лісточок драбненькі?*
*Чом на табе, гаю, лісточок драбненькі?*
*Драбненькі, драбненькі, аж вецер калышэ,*

а брат да сестронкі дробны лісты пішэ.
А брат да сестронкі дробны лісты пішэ.
Адзін брат пішэ, другі й адсылае:
— Чэму ты, сестронко, у госцях ні бываеш?
Чэму ты, сестронко, у госцях ні бываеш?
Чы коня ні маеш, дарожкі ні знаеш,
чы ў міленького воленькі ні маеш?
Чы ў міленького воленькі ні маеш?
— Дарожку я знаю, коніка я маю,
Ды ад міленького воленькі ні маю.
Ды ад міленького воленькі ні маю.
Прашоў рочок шосты, едзе брат да сёстры,
на пудвор з'езджае, сестронкі пытае:
— Сестронко ты мая, чы жыва-здарова,
чы жыва-здарова, чы гараз удома?
— Гараз ні гараз — мушу гараваці,
з такою долею парадзіла маці.
Ой маці, ты маці, дзе мне цебе ўзяці?
Дзе мне цебе ўзяці, на папер спісаці?
На папер спісала, да сціны прыбіла,
дзе я павярнусе — слезьмі абліюсе.

— ● —

Moderato **21**




Песні мае, песні, дзе я вас падзену?
Забяру ў хвартушак, па полю пасею.
Забяру ў хвартушак, па полю пасею.
Як мне будзе добра, то я пазбіраю,
як мне будзе кепско, то пазабываю.
Як мне будзе кепско, то пазабываю.
Куколю, куколю, ні сейся па полю,
сейся па балоці — ні трэбо палоці.



Сейся па балоці — ні трэбо палоці.
Як я была млода, пшаніца радзіла —
міне маладзеньку радзіна любіла.
Міне маладзеньку радзіна любіла.
Цепер у міне млодуй куколь узяў завёўсе,
міне маладзенькай усёй род узяў адроксе.
Міне маладзенькай усёй род узяў адроксе.
Куколю, куколю, ні сейся па полю,
сейся па балоці — ні трэба палоці.
Ой вы, братцы, братцы маладые,
запрагайце коні, коні вараные.
Запрагайце коні, коні вараные.
Запрагайце коні, коні вараные,
даганеце лета, лета маладые.
Даганеце лета, лета маладые.
Запрагалі коні, коні вараные,
даганялі лета, лета маладые.
Даганялі лета, лета маладые.
Даганілі лета на ліповум мосці:
— Вернецесе, лета, да мене ў госці.
Вернецесе, лета, да мене ў госці.
— Ой, мы ні вернемсе — былі ў тваёй хаці,
было замуж выйсці — лета шанаваці.
Было замуж выйсці — лета шанаваці.
Ой ты вышла замуж за каго хацела,
а цепер галоўка твая да ніцэла.
А цепер галоўка твая да ніцэла.

— ● —



**„Беларуская песня — 75"**

**Удзельнікі агляду — дуэт М. Лопух і Я. Бала з Орлі.**

**Фота Я. Цялушэцкага.**

*Moderato* **22**

Па-га-ла во-лы на Ба-ка-ві-ну, Взя-ла скры-пэч-ку со-бе е-ды-ну І гра-ла, спе-ва-ла, І так сво-е сі-вы во-лы па-са-ла па-са-ла.

Пагнала волы на Бакавіну,
взяла скрыпэчку собе едыну
і грала, спевала,
і так свое сівы волы пасала.
І грала, спевала,
і так свое сівы волы пасала.
Пасла я, пасла дай пагубіла,
цо ж я, нішчасна, бэндо робіла?
І ходзі, і плачэ:
— Дзе я своё сівы волы зобачэ?
і ходзі, і плачэ:
— Дзе я свое сівы волы зобачэ?
Услыхаў Янэк плач, нажэкане,
прышоў да Касі на запытане:
— Касюлю, сосендо,
Пэўно, твое сівы волы заенто?
— Касюлю, сосендо,
Пэўно, твое сівы волы заенто?
— Жэбысь ты, Янэк, волы мне зналяз,
дала б бузяка, дала б ці зараз,
і ні раз, і ні два —
седымдзесенцъ раз по разу, раз по раз.
І ні раз, і ні два —
седымдзесенцъ раз по разу, раз по раз.
— Касюлю, волы маш,
абецала даць бузяка — дай зараз!
Касюлю, шайтанка,
абецала дай ні дала, цыганка.
Касюлю, шайтанка,
абецала дай ні дала, цыганка!

*Moderato* **23**

Ой, у по-лі вер-ба на-хы-лі-ла-ся, Ма-ла-да-я дэв-чы-нэнь-ка за-жу-ры-ла-ся.

Ой, у полі верба нахылілася,
маладая дэвчынэнька зажурылася.
Маладая дэвчынэнька зажурылася.
Маладая дэвчынэнька зажурылася:
— Німа маго міленькаго, з кім любілася.
Німа маго міленькаго, з кім любілася.
От ідзёт, от ідзёт мой мілёначок,
то ні враг, ні зладзей — палюбоўнічок.
То ні враг, ні зладзей — палюбоўнічок.
Адчыніла я яму дзверы, хатачку,
пасадзіла я іво на канапачку,
пасадзіла я іво на канапачку.
Пасадзіла я іво на канапачку,
наліла я ему віна шкляначку,
наліла я ему віна шкляначку.
Наліла я ему віна шкляначку:
— Выпівай, выпівай, мой каханачку.
Выпівай, выпівай, мой каханачку.
— Ні прышоў да цібе я напіціся,
но прышоў да цібя вгаварыціся.
Но прышоў да цібя вгаварыціся.
Но прышоў да цібя вгаварыціся:
Чы пазволіш, мая міла, ажаніціся?
Чы пазволіш, мая міла, ажаніціся?
— Ой, жэнісь, ой, жэнісь, мой мілёначок,
выбірай за жэну гінералаву дачку.
Выбірай за жэну гінералаву дачку.
Гінералава дачка очэнь умная была,
очень умная была — нам разлуку дала.
Очэнь умная была — нам разлуку дала.

# У НАШАЙ ЕДНАСЦІ — МОЦ

## АД ПАЧАТКУ МЫ РАЗАМ

Вучоныя і разумныя людзі, якія даследваюць гісторыю нашай зямлі і вывучаюць мову далёкіх нашых продкаў, сцвярджаюць, што па лініі, дзе канчаецца польская мова, а пачынаецца беларуская або ўкраінская мовы, праходзіць размежаванне на ўсходніх і заходніх славян. Палякі ўжо лічацца заходнімі, а беларусы — усходнімі славянамі.

Раней яшчэ складалі яны агульнаславянскую супольнасць. Выдатны польскі вучоны Зенон Клемянсевіч, аўтар „Гісторыі польскай мовы“, сцвярджае: „На працягу тысячагоддзя (IV стагоддзе да нашай эры — IV ст. нашай эры) складваецца праславянская супольнасць шляхам павелічэння колькасці насельніцтва і пошукаў новых сяліб. Праславяне, праўдападобна, пасяляліся на тэрыторыі, якая распасціраецца ў басейнах Одры і Віслы, а затым кіраваліся на поўнач, усход і поўдзень. Іх засяленне вызнача-

юць наступныя межы: на поўначы — бераг Балтыйскага мора паміж Одрай і Віслай, на захадзе — сярэдняе цячэнне Одры, на ўсходзе — сярэдзіна Дняпра, на поўдні — заходнія і сярэднія ўскраіны Карпат ды сярэдняе цячэнне Днястра. З гэтай тэрыторыі ўжо пазней праславянскае насельніцтва вандравала на ўсход да басейна Нёмана, на Валынь і Падолле, а на поўдзень — у басейн ракі Цісы".

Як бачым, цяперашняя тэрыторыя засялення польскага і беларускага народаў поўнасцю змяшчаецца ў межах даўнейшай праславянскай супольнасці. З'яўляемся мы тут старымі, засядзелымі жыхарамі. Нічога мы не заваявалі, ні ў кога не адбіралі зямлі. Жылі і жывем мы на сваім — там, дзе нашы дзеды-прадзеды лес церабілі, збожжа вырошчвалі, за звярамі па пушчах дрымучых ганяліся...

Фёдар Янкоўскі, беларускі сучасны вучоны, аўтар кніжкі „Роднае слова" піша: „Засяленне славянамі велізарных абшараў натуральна прывяло да паслаблення сувязі паміж славянскімі групамі, а нарэшце і да распаду агульнаславянскага моўнага адзінства. Не пазней як у VI ст. нашай эры наступіў канец агульнаславянскай эпохі, пачалося выдзяленне славянскіх моўных груп, асобных славянскіх моў".

Толькі нельга меркаваць, што і польская, і беларуская, і ўсе іншыя славянскія мовы адразу гучэлі так, як цяпер.

Беларускі летапісец (а хутчэй перапісчык) у 1495 годзе пісаў у Вільні (падаецца ў спрошчанай рэдакцыі):

„Нехто пак оу велікого князя Олкгирда холоп Воидило прьвое был пекарцом, а потом оуставил его постелю собе слати и воду давати собе пити. Потом пак полюбился емоу вельми и дал был ему лидоу дрьжати, и повел его у великых. (...) Княз великый Ягайло поведет его вельми оу высоких и дасть за него сестру свою родноую княгиню Марью..."

Закаханая польская дама ў 1450 годзе пісала свайму рыцару:

„Pokłonienie, moj nadewszytki najmilejszi, tobie dawam, iż ci ja w swem sercu ustawicznie miewam. Dlatego to, moj najmilszy wsajawczam, iż ci ja w wszelka godzina, miły, wspominam..."

А калі ў 1410 годзе на Грунвальдскім полі польскія і літоўскія войскі пачыналі рашаючы бой з тэўтонамі, тады супольна спявалі:

*„Богу родзіца дзевіца,*
*богем славена Марія!*
*У твэго сына господзіна*
*Матко зволена, Марія!*
*Зішчы нам, спусці нам,*
*кірізлейсон!"*

Не толькі нашы мовы даўней былі болей падобныя адна на другую, але і нацыянальная розніца так не адчувалася, як цяпер. Польскія і рускія, — як тады гаварылася, — князі сваталіся ўзаемна, і завязвалася паміж імі блізкае сваяцтва. Нават рознае веравызнанне не лічылі яны перашкодай для гэтага.

Праваслаўны галіцкі князь Раман быў унукам польскага каталіцкага князя Баляслава Крываустага, а польскі князь Казімір Справядлівы быў яму дзядзькам. Маці польскага князя Лешка Белага Гэлена была дачкой вялікага князя кіеўскага Расціслава, які выдаў яе за польскага князя Казіміра.

Даследчык старых хронік Францішак Селіцкі сцвярджае: „Князь Конрад Мазавецкі таксама быў вялікім сябрам рускіх, а прыхільнасць да іх набыў ён у бацькоўскіх палацах: яго маці, упамянутая вышэй Гэлена, была дачкой вялікага князя кіеўскага Расціслава..."

Ды і сам мазавецкі Конрад ажаніўся з рускай княгіняй Агафіяй, дачкою уладзіміра-валынскага князя Святаслава Ігаравіча, а сыны Конрада — Баляслаў і Семавіт таксама знайшлі сабе жонак сярод рускіх княжан, — нават насуперак загаду папы рымскага Грыгорыя IX, які ў 1233 годзе забараніў католікам жаніцца з праваслаўнымі.

Іх сваяк і добры сябра князь Даніла Галіцкі (1201-1264), якому падпарадкаваны былі землі, дзе мы цяпер жывем, з Бельскам, Драгічынам, Брэстам, Камянцом, Кобрынам, а таксама з многімі іншымі землямі цяперашняй Беларусі і Украіны, — гэты Даніла Галіцкі супольна з князямі мазавецкімі змагаўся з татара-мангольскімі захопнікамі і з крыжаносцамі, якіх у 1237 годзе разбіў каля Драгічына над Бугам. За барацьбу з татарамі папа рымскі Інацэнты IV ахвяраваў яму каралеўскую карону.

Летапісец адзначае:

„І пераканала яго маці, і Баляслаў, і Семавіт, і баяры ляцкія, гаворачы, каб прыняў карону, „а мы заўжды паспяшаем з дапамогай табе супраць паганым". Дык ён тады карону прыняў ад Бога, ад царквы святых апосталаў, і ад прыстола святога Пятра, і ад бацькі свайго, папы Інацэнта, і ад усіх епіскапаў сваіх, бо Інацэнты пракляў быў тых, хто ганіць веру грэчаскую праваслаўную, хацеў ён сабор адкрыць, праваслаўнай веры прысвечаны, аб уз'яднанні царквы. І Даніла прыняў ад Бога карону ў горадзе Драгічыне, калі ішоў на вайну разам з сынам Ільвом і з Семавітам, князем ляцкім..."

Сто з лішнім гадоў пазней у нашай супольнай гісторыі паяўляецца асоба Уладзіслава Ягайлы — першапачаткова вялікага князя літоўскага, а пазней — ад 1386 года — караля Польшчы. Маці яго была праваслаўнай, а ён сам выхаваўся ў духу рускай культуры, бо Вялікае княства Літоўскае літоўскім было толь-

кі з назвы і па гістарычнай традыцыі. Літоўскія баяры, заваяваўшы рускія землі, самі прынялі іх мову, культуру і веру.

Шчэпан Владарскі і Уладзіслаў Тароўскі ў кніжцы „Хрысціянскія касцёлы“ пішуць: „Маці Уладзіслава Ягайлы была праваслаўнай, што павінна было мець уплыў на выхаванне сына. Кароль гэты трымаў на сваім двары (у Кракаве) візантыйскага жывапісца (маляра) святых ікон, якія кароль перадаў пазней кафедральным касцёлам у Кракаве, Гнезне і Сандомеры...

У 1443 годзе кароль Уладзіслаў Варненчык выдаў грамату, якая зраўняла правы абодвух касцёлаў: каталіцкага і праваслаўнага“.

Але і без гэтага тут, дзе жылі нашы продкі, дзе сутыкалася праваслаўе з каталіцтвам, у той далёкі час, як сведчаць старыя хронікі, католікі і праваслаўныя жылі дружна і згодна. Рэлігія не перашкаджала польскім і рускім князям заводзіць кроўныя сувязі.

У 1563 годзе польскі кароль Сігізмунд II Аўгуст зраўняў у правах праваслаўнае і каталіцкае дваранства. Гэтую грамату кароль яшчэ двойчы ўрачыста пацвердзіў: у 1565 і ў 1568 гадах.

Яшчэ пад канец XVI стагоддзя, у 1592 годзе, каралеўская канцылярыя выпускала вось такія дакументы:

„Мы, Жигимонт трети, божію милостію корол полскі, велики князь литовски, руски, пруски (...) ознамуем сим листом нашим (...) што мы господар шчасливе пануючи над людом народов христіанских в панствах наших не только стародавных прав, свобод и вольности сторожом, и оборонцею будучи...“ і так далей, дзе сказана, што для „людей народу руского закону грэчаскага (...) позволяем ім для свободного і спокойного ужывання всякіх обыходов церковных“.

Гэта ж тады, у XVI стагоддзі былі састаўлены на старажытна-беларускай мове літоўскія статуты, якія (1566 г.) гарантавалі ўжыванне рускай мовы.

„А писар земски, — пастанаўляе літоўскі статут, — маеть по руску литерами и словы вси листы, выписы и позвы писати, а не иншим езыком и словы“.

Вядомы вучоны Яўхім Карскі ў трэцім томе свайго даследавання „Белоруссы“ сцвярджае, што беларуская мова тады „служыць мовай адміністрацыі: на ёй пішуцца юрыдычныя і літаратурныя памятнікі: карыстаецца ёю ўся інтэлігенцыя Літоўска-рускай дзяржавы“.

Сучасныя беларускія вучоныя мовазнаўцы А. Жураўскі і І. Крамко гавораць, што „перыяд ад палавіны XVI да палавіны XVII стагоддзя быў эпохай найбольшага росквіту беларускай літаратурнай мовы, як у плане знешняй, функцыянальнай, так і ў плане ўнутранай структурнай гісторыі“.

І так было аж да канца XVII стагоддзя, пакуль да спраў веры і культуры на нашых землях не ўмяшаліся езуіты, якія асноўным сваім заданнем лічылі распаўсюджванне каталіцтва ва ўсіх краінах Еўропы. „Адным з этапаў разладу паміж каталіцтвам і праваслаўем, — чытаем у кніжцы „Хрысціянскія касцёлы“, — стала Брэсцкая унія з 1596 года. Да яе імкнуліся езуіты, прыхільнікі контррэфармацыйнага кардынала Гозіуша: епіскап Салікоўскі, епіскап Б. Мацееўскі і прапаведнік-езуіт ксёндз Пётр Скарга. Рускіх прадстаўлялі: епіскап Ц. Цярлецкі і Г. Пацей. У выніку уніі частка праваслаўнай іерархіі прызнала ўладу папы рымскага, захаваўшы ўсходні абрад. Аднак вельмі хутка выявілася, што унія не знаходзіць падтрымкі з боку праваслаўнага насельніцтва і ніжэйшага духавенства. Таму іерусалімскі патрыярх Тэадафан, праязджаючы праз Польшчу, высвяціў у 1620 годзе на мітрапаліта праваслаўнай царквы ў Кіеве Гіоба Барэцкага, рэстаўрыруючы гэтым самым праваслаўе ў Рэчыпаспалітай.

Закараненню, аднак, уніі на літоўска-беларускіх землях спрыялі нарастаючыя польскія ўплывы, крыніцай якіх быў перш за усё высокі росквіт польскай літаратуры і культуры эпохі адраджэння і барока.

Асабліва на ўсю Польшчу і Вялікае княства Літоўскае праменяваў тады Кракаўскі універсітэт. На аснове архіўных падлікаў дакладныя звесткі пра студэнтаў Кракаўскага універсітэта, якія выводзіліся з Беларусі, прыводзіць Сцяпан Александровіч у малазаманлівым артыкуле „З майго падарожжа“, змешчаным у жнівеньскім нумары „Полымя“ з 1969 года. Між іншым ён адзначае, „што ў XV стагоддзі, з 1433 (гэтым годам датуюцца першыя спісы) па 1500 год, у Кракаўскім універсітэце з Беларусі і Літвы навучалася 120 чалавек. Найбольш было шкаляроў з Вільні — 54, з Коўна — 21, з Трокаў — 8, з Полацка — 5, з Гродна — 4...“ Сярод іншых беларусаў быў там у 1445 годзе нейкі Мікалай з Бельска, які стаў бакалаўрам, значыць, дазваляла яму выконваць абавязкі настаўніка і паступаць ва ўсе універсітэты Еўропы. „У 1506-1507 навучальным годзе, — піша С. Александровіч, — атрымалі ступень бакалаўра 60 чалавек (у тым ліку і Ф. Скарына)“.

Францішак Скарына (1490-1551) — „беларускі першадрукар, вучоны, асветнік і культурны дзеяч, перакладчык і пісьменнік эпохі адраджэння“, — як яго характарызуе „Беларуская савецкая энцыкла-

педыя“, — быў сынам полацкага купца Лукі Скарыны, а пазней адыграў вельмі важную ролю ў гісторыі беларускай культуры. Многія даследчыкі сцвярджаюць, што быў ён праваслаўным. Гэтае пытанне закранае таксама і С. Александровіч, які даказвае, што праваслаўнае веравызнанне не зачыняла доступу ў Кракаўскі універсітэт, што вучылася там многа праваслаўных юнакоў. Між іншым і ў гэтым праяўлялася тады еднасць польскага і беларускага народаў. Гэта ад Скарыны паходзіць вядомы афарызм:

*„Не копай под другом своім ямы*
*Сам ввалішся в нею“,*

— змешчаны ў прадмове кнігі „Эсфір“. Асновы сваёй вучонасці накапляў ён у Кракаве.

У. Анічэнка, аўтар кнігі „Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі“ (Мінск, 1969) піша: „Пасля ўключэння беларускіх і большасці ўкраінскіх зямель у склад Рэчы Паспалітай польскія феадалы атрымалі магчымасць пасяляцца на іх і ўплываць на мову беларускага і ўкраінскага насельніцтва. Калі да Берасцейскага (г.зн. Брэсцкага) сабора 1596 г. польскай мовай у Вялікім княстве Літоўскім цікавілася пераважна шляхта, то пазней ёй захапіліся таксама некаторыя слаі простага народу (...) Засваенню паланізмаў сярод беларускага і ўкраінскага народаў садзейнічала таксама пашырэнне польскай літаратуры на Беларусі і Украіне. Польскую мову спрабавалі выкарыстоўваць і прадстаўнікі праваслаўнай царквы (...) Невыпадкова Мялецій Сматрыцкі, Касіян Саковіч, Пётр Магіла і Сільвестэр Косаў паасобныя свае творы пісалі на польскай мове, а некаторыя з іх (Косаў, Магіла) нават перапісваліся паміж сабой з праваслаўнымі брацтвамі па-польску“.

Асобы, якія тут называе Уладзімір Анічэнка, адыгралі вельмі важную ролю ў гісторыі старабеларускай культуры і польска-рускіх узаемасувязей, а найбольш сярод іх праславіўся Мялецій Сматрыцкі (1572-1630) — доктар медыцынскіх навук, а перш за ўсё пісьменнік-палеміст, які выступаў пачаткова супроць уніі, а пад канец жыцця ў яе абарону. Выводзіўся са шляхецкай сям'і Герасімовічаў. Вучыўся ў Астрозе і Віленскай езуіцкай акадэміі, а затым, дзякуючы падтрымцы князя Саламярэцкага, — за мяжой. Расславіла яго кніжка „Фрынас“ („Плач“), якая паявілася ў 1610 г. У паэтыцкай прозе між іншым апавяшчае ён там свой жаль, што пакінулі праваслаўную веру і сталі каталікамі такія знатныя сем'і князёў, як Слуцкія, Заслаўскія, Вішнеўскія, Чартарыскія, а таксама Хадкевічы, Сапегі, Глебовічы і многія другія.



Аляксандр Брыкнер у сваіх „Дзеях польскай культуры“ сцвярджае: „Найбольш знамянальным з'яўляецца той факт у гісторыі рускай культуры XVII стагоддзя, што яна ўсяцэла насычана польскімі ўплывамі. (...) Цэлае рускае школьніцтва (як уніяцкае, так і праваслаўнае) прасякнута лацінай і польскай мовай (...) Выпускнікі гэтых школ пераймалі сучасную ім польскую прапаведніцкую, пахвальную і палемічную літаратуру, уводзілі польскае вершаскладанне...“

У выніку паланізацыі магнатаў, шляхты і замажнейшага мяшчанства, якія найчасцей ужо не ведалі і не разумелі мовы сваіх продкаў, была на Варшаўскім Сейме ў 1696 годзе прынята пастанова, каб з гэтага часу ўсе дзяржаўна-адміністрацыйныя акты, нават у Беларусі, Літве і Украіне, пісаць на польскай мове, што Я. Карскі адзначае наступным чынам:

„(...) і ўрэшце ў 1696 годзе выдана было, насуперак вядомаму пастанаўленню Літоўскага статута, што „Pisarz powinien po Polsku, a nie po Rusku pisać“.

Дзеля гэтага шмат папрацавалі езуіты, якія мелі на Беларусі цэлую сетку сваіх школ. Каб абрыдзіць простанародную (значыць: беларускую) мову, яны ўводзілі яе ў інтэрмедыі сваіх школьных камедый. Інтэрмедыі — гэта ўдраматызаваныя, найчасцей сатырычныя кароткія сцэнкі, якія вучні (жакі) езуіцкіх школ ставілі ў перапынках паміж паасобнымі актамі пераважна лацінскіх п'ес рэлігійнага зместу. Як правіла, гэтыя інтэрмедыі пастаўлены былі ў рэалістычным плане, а сярод іх герояў выступалі прадстаўнікі простанароддзя, якія карысталіся мясцовай гаворкай. Польскі даследчык П. Левін у працы „Усходнеславянскія інтэрмедыі XVI-XVIII стагоддзяў“ (1967) называе 35 такіх інтэрмедый, у якіх захаваўся беларускі тэкст. Пра гэтыя лацінска-польска-беларускія творы піша шырока таксама Я. Карскі ў сваіх „Белоруссах“. А. Жураўскі і І. Крамко лічаць іх першым крокам станаўлення новай беларускай літаратурнай мовы.

„Далейшае развіццё жанру інтэрмедый, — пішуць яны, — прывяло да ўзнікнення і сапраўдных драматычных твораў на беларускай мове. Найбольш тыповай у гэтых адносінах трэба прызнаць вядомую „Камедыю“, напісаную выкладчыкам Забельскай гімназіі Каетанам Марашэўскім у 1787 г. Гэтая камедыя таксама дзвюхмоўная. На беларускай мове гавораць селянін Дзёмка і карчмар-яўрэй, а астатнія персанажы карыстаюцца польскай мовай, але колькасна беларускі тэкст яўна пераважае над польскім, таму і ёсць падставы лічыць гэты твор уласна беларускім“.

Рукапісны арыгінал камедыі Каетана Марашэўскага захоўваецца цяпер у Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Літоўскай ССР у Вільнюсе.

Вытрымкі з іншай школьнай камедыі аб патрыярхах Якубе і Язэпе прыводзіць Сцяпан Майхровіч на старонках часопіса „Полымя“ з чэрвеня 1971 года. Адзначае ён, што такія вядомыя ў беларускай мове прыказкі і фразеалагізмы, як „Па Саньку і шапка“, „Сава не родзіць сокала“, „Сабака з'есць і без солі“, „Чортавы дзеці“, „Пайшло, як па масле“, бяруць свой пачатак з беларуска-польска-лацінскай камедыі.

Іншы беларускі даследчык літаратурнай спадчыны, Адам Мальдзіс, прасачыўшы польскія і літоўскія архівы, даказаў, што і ў другіх літаратурных жанрах беларуская літаратура XVIII стагоддзя мае свае творы. У рукапісным зборніку „Розных рознасцяў“, што захоўваецца ў бібліятэцы Варшаўскага універсітэта, знайшоў ён беларускія песні, запісаныя, як звычайна ў той час было прынята, лацінскім шрыфтам. Адна з іх пачынаецца так:

*„Красная ў панны ўрода,*
*Харашая малода.*
*А ёй муж стар, нядуж.*
*Ходзьма да хаты,*
*Што б вясёла пані*
*Было людзям забаўляці“.*

У іншым зборніку з 1771 года даследчык выявіў чатыры песні на беларускай мове. Далей ён адзначае, што паводле яго падлікаў у XVIII стагоддзі на тэрыторыі Беларусі было выдадзена амаль 300 кніг на польскай, рускай, лацінскай і французскай мовах, друкаваліся яны ў Полацку, Магілёве, Мінску, Нясвіжы, Гродне, Слоніме і Пінску. „Сустракаецца нямала і мастацкай літаратуры“, — гаворыць аўтар.

Сярод папераў „Ардынацыі Замойскіх“ А. Мальдзіс выявіў беларускі верш „Ох, і нонічы зіма непагодліва была“, які адносіцца да сярэдзіны XVIII стагоддзя, а ў рукапісным зборніку з 1752 года аказалася між іншым вось такая песня:

*„Прасіў мяне Герасім, Герасім,*
*Што б я пашла спаці з нім,*
*спаці з нім,*
*га, га, га, га, га, га, га.*
*А я спаці не хачу, не чаху,*
*А він сцеліць апанчу, апанчу,*
*га, га, га, га, га, га, га.*
*А ў апонцы блохі суць, блохі*
*суць,*
*Маё цела разнясуць,*
*разнясуць,*
*га, га, га, га, га, га, га“.*

Гэтая песня была запісана нейкім збіральнікам у Высокім Літоўскім, якое, як і Сямяцічы, і ўсе землі паміж гэтымі гарадамі, прыналежала князю Ябланоўскаму.

У святле гэтых доследаў і находак не вельмі абгрунтаванымі з'яўляюцца меркаванні, што ў гісторыі беларускай літаратуры няма працягласці яе развіцця, што нібыта спынілася яна пад напорам паланізацыі недзе ў палавіне XVII стагоддзя, каб пачаць новы этап свайго развіцця два стагоддзі пазней.

Не магло быць ніякага перапынку ў культурным і духоўным развіцці народа, калі існаваў сам народ. Проста быў гэта перыяд агульнага заняпаду культуры і літаратуры ў цэлай Польскай Рэчыпаспалітай, выкліканы рэлігійнай рэакцыяй, наступленнем езуіцкай контррэфармацыі, пастаяннымі вынішчальнымі войнамі, якія асабліва руйнавалі польска-беларускае пагранічча, дзе аб жыцці і смерці народа рашалі мясцовыя феадалы, для якіх узорам адукаванасці стала ў XVIII стагоддзі французская мова і французская літаратура. Усё, што сваё, а тым болей усё, што народнае, лічылася мужыцкім, хамскім.

Але і тады ў палацах „крэсовых“ магнатаў, напрыклад, у Нясвіжы ў Радзівілаў або ў Слоніме ў Агінскіх, дзейнічалі прыватныя тэатры, якія ставілі або французскія п'есы, або італьянскія оперы. Нягледзячы на тое, гэтыя тэатры прывівалі любоў да мастацтва шырокім колам беларускай шляхты. На магнацкіх сцэнах выступалі таксама прыгонныя сяляне.

Пры такіх абставінах голас беларускай літаратуры прыціх, аднак не замоўк ён зусім і бурліў недзе ў падзямеллі ціхай, але жыватворнай народнай крыніцай. Адначасова беларускія землі, як зусім слушна заўважае Адам Мальдзіс, багата папаўнялі польскую літаратуру. Хопіць прыгадаць, што Беларусь была радзімай для такіх выдатных польскіх пісьменнікаў XVIII стагоддзя, як Юльян Урсын Нямцэвіч, які нарадзіўся ў 1757 г. непадалёк ад Брэста; як Адам Нарушэвіч, які нарадзіўся ў 1733 годзе ў сям'і беднага шляхціча на Піншчыне; як пачынальнік польскага сентыменталізму Францішак Карпінскі, які шмат часу пражыў на Беласточчыне, як пісьменнік Фелікс Бернатовіч, які ў 1786 годзе нарадзіўся ў Коўне, а ў 1836 годзе памёр у Ломжы.

Гэты пералік можна яшчэ прадаўжаць. Сведчыць ён толькі аб жыватворных плынях польскай культуры ў межах даўнейшага Вялікага княства Літоўскага. „У пачатку XIX стагоддзя, — піша Адам Мальдзіс, — амаль усё адукаванае грамадства ў Беларусі карысталася польскай мовай. На ёй вялося выкладанне ў павятовых гімназіях і манастырскіх вучылішчах. На ёй навучалі сялянскіх дзяцей у парафіяльных школах“. Польскі мовазнаўца К. Ніч у даследаванні „Польская мова на Віленшчыне“ даказвае, што польскі востраў вакол Вільна ўзнік менавіта ў XIX стагоддзі „шляхам апалячвання беларусаў, а дакладней ка-

жучы, збеларушчаных літоўцаў“. У сувязі з гэтым іншы польскі вучоны, выдатны славіст, Здзіслаў Сцібер дадае, што „паланізацыя беларускага насельніцтва ў наваколлі Вільна была поўнасцю свядомая і добраахвотная“. Гэты вывад вучонага можна расцягнуць і на Беларусь. Шляхта апалячвалася добраахвотна і без прымусу перш за ўсё таму, што знаходзілася яна пад пераважным уплывам польскай культуры і яшчэ таму, што была яна залежная ад князёў і магнатаў, якія на Беларусі валодалі тады велізарнымі тэрыторыямі.

Падзел Рэчыпаспалітай паміж яе суседзямі і далучэнне беларускіх земляў разам з польска-беларускім культурным паграніччам да Расіі амаль не змяніла становішча беларускага народа. Павялічыўся толькі яго прыгнёт. Зусім правільна і справядліва гэта адзначаюць А. Налівайка і Т. Бурэйка ў „Гісторыі беларускай літаратуры“, што „эканамічная ўлада належала польскай шляхце, якая па-ранейшаму імкнулася апалячыць і акаталічыць беларускага селяніна, а афіцыйная палітычная ўлада — рускаму самадзяржаўю, якое праводзіла палітыку прымусовай русіфікацыі. Царскія ўлады не дазвалялі ствараць літаратуру на роднай мове, забаранялі нават ужываць слова „Беларусь“.

У гісторыі польска-беларускага культурнага пабрацімства на пачатку XIX стагоддзя вельмі істотную ролю адыграў Віленскі універсітэт. „Пры універсітэце, — піша польскі даследчык-фальклярыст Станіслаў Свірка, — згуртавалася тады вярхушка сучаснай польскай інтэлігенцыі: пісьменнікі, вучоныя, мастакі і кнігавыдаўцы“. Прыблізна ў 1816 годзе выдавалася ў Вільні пяць папулярных часопісаў: „Кур'ер літоўскі“, „Дзеннік віленскі“, „Тыгоднік віленскі“, „Вядомосці бруковэ“ і „Паментнік магнетычны“. Некалькі гадоў пазней далучыўся да іх яшчэ часопіс „Дзее доброчынносці“. Узровень гэтых часопісаў быў высокі, а тэмы зацікаўлення ахоплівалі ўсе галіны нацыянальнай культуры, у тым ліку і людазнаўства“.

Менавіта, у асяроддзі вучоных віленскага універсітэта была апрацавана інструкцыя па збору помнікаў народнай творчасці. Асабліва заахвочваў да гэтай працы выдатны вучоны і грамадскі дзеяч гэтага часу Тадэуш Чацкі (1765-1813), які быў адным з асновапаложнікаў польскай фальклярыстыкі на беларускіх землях.

І вось у 1817 годзе афіцыйная газета Віленскага універсітэта „Дзеннік віленскі“ змясціла артыкул Марыі Чарноўскай „Помнікі славянскай міфалогіі ў звычаях вясковага люду на Белай Русі захаваныя“. Свае назіранні Чарноўская праводзіла ў маёнтку Губеншчына ў Магілёўскай губерні. Між іншым, апісвае яна дакладна святкаванне Купалы і прыводзіць тры страфы старой беларускай песні, якая пачынаецца так:“

*„Купала на Івана,*
*Гдзе Купала начавала?*
*Купала на Івана,*
*Купала на Івана,*
*Начавала ў Івана“.*

Адначасова яна інфармуе, што Купала быў язычаскім богам пладаводства, якому на пачатку жніва прыпадносілі ахвяраванні. Яго статуя знаходзілася, мабыць, у Кіеве, пакуль Кіеўская Русь не прыняла хрысціянства.

У сувязі з гэтым Станіслаў Свірка дадае ад сябе: „Звычай святкавання беларускага Купалы сапраўды з'яўляецца адным са старэйшых славянскіх абрадаў, якія ў Польшчы прынялі форму „свентаянскай собуткі“.

Следам Марыі Чарноўскай пайшлі многія іншыя збіральнікі і назіральнікі беларускай народнай творчасці і абрадавасці, сярод якіх былі К. Лях-Шырма, Зор'ян Далэнга Ха-дакоўскі, невядомы аўтар падрабязнага апісання беларускага вяселля, якое (апісанне) ў „Віленскім тыднёвіку“ з 1819 года заняло аж 42 старонкі друку.

Гэта таксама перыяд дзейнасці Віленскага таварыства філаматаў. Адам Міцкевіч і яго сябры Томаш Зан, Ян Чачот, Ануфры Петрашкевіч, Емерык Станкевіч, Антон Эдвард Адынец, Аляксандр Ходзька і іншыя безумоўна пастаянна чыталі заклікі віленскага друку, каб збіраць народную творчасць. Вядома, што ў час сяброўскіх сустрэч 10 мая 1819 года адзін з філаматаў, Т. Лазінскі, выступіў з дакладам „Пра абрады вясковага люду ў наваколлі Жытоміра“, С. Казакевіч 24 студзеня 1820 года пазнаёміў сваіх сяброў з „Апісаннем Завілейскага павету“, а 8 чэрвеня 1821 года М. Рукевіч выступаў з лекцыяй на тэму „Весткі пра насельніцтва ў Беларускай акрузе“.

„Першы з філаматаў-фальклярыстаў, — адзначае Станіслаў Свірка, — Томаш Зан, які выводзіўся з малазямельнай мінскай шляхты, усе свае дзіцячыя гады правёў сярод беларускага вясковага насельніцтва. Ведаў ён выдатна яго абрады, звычаі, вераванні, песні і гутаркі, значыць, усю духоўную культуру беларускага люду. З гэтай крыніцы чэрпаў ён у віленскім перыядзе сваёй творчасці поўнымі прыгаршчамі і пардаваў апрацоўцы розныя па памерах фальклорныя тэмы“. На фальклорнай аснове ўзніклі яго балады „Бекеш“, „Твардоўскі“, „Свіцязь“, „Цыганка“ і іншыя, якія карысталіся папулярнасцю ў філамацкім гуртку.

Ян Чачот пайшоў яшчэ далей. С. Свірка піша пра яго, што народнасць не вынікала

ў яго з мастацкай праграмы. Яна закаранілася глыбока ў асновах яго асабовасці, вызначала ўсю яго грамадскую ідэалогію. Засведчыў гэта шасцю тамамі „Вясковых песень з-над Нёмана і Дзвіны“, сярод якіх былі і яго арыгінальныя беларускія творы.

*„Ды і я вам памагу*
*Песеньку спяваці, —*

звяртаўся ён „да мілых мужычкоў“,

*„Ды і я ж між вамі ўзрос*
*Пры бацьку і маці“.*

Гэта ён — Ян Чачот — у дзень імянін Адама Міцкевіча 24 снежня яшчэ 1819 года вітаў свайго сябра беларускай песенькай, якую сам напісаў:

*„Едзе міленькі Адам,*
*Глядзіце, а онь, а онь,*
*Ды ён харашэнькі сам,*
*Пад ім — вараненькі конь“.*

А. Міцкевічу споўнілася тады 21 год, а Ян Чачот быў ад яго на два гады старэйшы. Адно гэтае святочнае пасланне ўжо сведчыць, што Міцкевіч і яго сябры ведалі „мужыцкую гаворку“, як тады найчасцей, нават адукаваныя людзі, называлі беларускую мову. Засведчыў гэта і сам аўтар „Дзядаў“, калі выступаў з лекцыямі па славянскай літаратуры ў праслаўленай Каледж дэ Франс.

„...З усіх славянскіх народаў, — гаварыў ён сваім слухачам, — русіны, гэта значыць сяляне Пінскай, часткова Мінскай і Гродзенскай губерняў, захавалі найбольшую колькасць агульнаславянскіх рыс...“

Іншым разам ён заяўляў:

„На беларускай мове, якую называюць русінскай або літоўска-русінскай (...) гаворыць каля дзевяці мільёнаў чалавек. Гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі“.

Тут не проста звычайная, прафесарская інфармацыя. Тут выразна гучыць гордасць, якую ён не скрывае перад іншаземнымі слухачамі, гордасць ад духоўнай кроўнасці з жыхарамі яго роднай краіны, дзе карыстаюцца гэтай „самай багатай“ і „самай чыстай гаворкай“.

Нездарма тады Станіслаў Свірка лічыць Адама Міцкевіча „сапраўдным адкрывальнікам народнасці, творцам, які ўзняў народнасць да найвышэйшых вышынь артызму“.

Уплыў Адама Міцкевіча на адносіны польскіх паэтаў і пісьменнікаў да беларускага народа і яго вуснай творчасці, быў рашаючы і станоўчы.

„З той пары, калі вялікі пясняр даў нам „Валенрода“ і першыя свае літоўскія (чытай: беларускія) балады, калі выслаў у свет сваю непараўнальную „Гражыну“, а Багдан Залеўскі апрануў у нацыянальную вопратку валынскія русалкі і ўкраінскія думкі, мы бачым, што ўся польская моладзь, як бы захапіла яе нейкая чароўная сіла, кінулася навыперадкі па шляху, паказаным духоўнымі правадырамі, дзе рассеяны скарбы нашай нацыянальнай літаратуры, і сёння гэтым шляхам крочыць яна горда, не шкадуючы сіл...“

Так гаварыў Аляксандр Рыпінскі 21 лістапада 1839 года, калі ў час пасяджэння Польскага літаратурнага таварыства ў Парыжы выступаў з дакладам на тэму: „Беларусь. Некалькі слоў аб паэзіі простага люду гэтай нашай польскай правінцыі, пра яго музыку, спеў, танцы і т.п.“. Гэты даклад вельмі спадабаўся слухачам, што засведчылі яны, састаўляючы спецыяльны пахвальны пратакол. Асмелены такім прыёмам, Аляксандр Рыпінскі за ўласныя грошы рашыў надрукаваць папоўнены варыянт сваёй працы пра беларускі люд і прысвяціў яе „Першаму з тых беларускіх сялян, які спярша чытаць, а затым гаварыць і думаць па-польску навучыцца, гэтую сваю нязначную працу ў знак самай высокай пашаны і гарачай любві прысвячаю і таму яе друкую — аўтар“.

Нельга забываць, што гэтыя словы А. Рыпінскі пісаў у 1840 годзе, калі беларускі селянін стагнаў яшчэ пад прыгнётам паншчыны, калі многія адукаваныя памешчыкі не лічылі яго зусім чалавекам і адносіліся да сялян горш, як да сваіх сабак.

Рыпінскі мог сваю працу прысвяціць нейкай знатнай асобе, каб заслужыць у яе ласку, а асоб такіх нават у гэтым парыжскім літаратурным таварыстве было многа, з князем Чартарыскім уключна. Аднак аўтар „Беларусі“ прысвяціў яе „беларускаму селяніну“, прытым слова „беларускаму“ ён выдзеліў спецыяльна ў асобны радок, надрукаваўшы яго вялікімі літарамі.

А. Рыпінскі з нянавісцю адносіўся да царскага самадзяржаўя, сябраваў з дзекабрыстамі, асабліва з Кюхельбекерам, па-сапраўднаму любіў народ. Народныя песні так моцна запалі яму ў сэрца, што пасля многіх гадоў змог ён, менавіта, па памяці ўстанавіць іх і пераказаць свету. А гэтых песень сабраў ён багата. У народнай творчасці бачыў ён „стыхію будучых нашых нацыянальных опер, калі дакрануцца да яе геніі, якіх мы яшчэ не ведаем“. З гэтай мэтай змясціў ён у сваёй кніжцы ўсё, што мог успомніць, усё, што чуў у ваколіцах роднага яму Віцебска, дзе вучыўся, і ў Кукавячыне, дзе праводзіў канікулы ў 1827 годзе. Свае песні падзяліў ён на рэлігійныя, вясельныя, пахвальныя, гістарычныя і выпадковыя (улётныя), дадаўшы да іх яшчэ танцавальныя, прыпеўкі і прымаўкі.

Ёсць тут і песня пра рыцара Байду, які павешаны на гаку за рабро, бо не хацеў



**Сустрэча ў ГП БГКТ з дац. А. А. Ясінскім з Палітэхнічнага інстытута ў Мінску. Фота Я. Цялушэцкага.**

узяць за жонку султанаву дачку, з луку застрэліў гэтага ж султана.

*Дай у Слуцку на рыночку,*
*Да піў Байда гарэлочку...*

Ёсць вясёлая задзёрная:

*Ой, маці, маці!*
*Жаўнер у хаці!!*
*Турбуець,*
*Жартуець,*
*Не дагць спаці!*

Або:

*Кобы мэнэ зранку*
*Гарэліцы ў дзбанку*
*І да того люлька*
*Да дзеўка Ганулька!*
*Гарэліцу піў бы,*
*Тытунец курыў бы,*
*Дзяўчынку Ганульку*
*Да сябе туліў бы.*

Запісаў ён таксама песні, якія пражылі ў народзе да нашых дзён. То ж і цяпер яшчэ зрэдку можна ў вёсках на Беласточчыне пачуць:

*І шуміць,*
*І гудзіць,*
*Дробны дожджык ідзе,*
*А хто мене маладую*
*Да доманьку завядзе.*

Або песню пра камара, што з дуба зляцеў і рэбры паламаў, або тую для забавы дзяцей пра сароку, што „піва, кашку варыла“.

У гэтым жа зборніку пацвярджае А. Рыпінскі вялікую папулярнасць на Беларусі „Энеіды навыварат“, без якой не абышлося ні адно шляхецкае ігрышча. Ён па памяці прыводзіць вялікія вытрымкі з твора невядомага яму аўтара „Бунт хлопаў“, які называе паэмай. На старонках 204-205 адзначае:

*„Калі прапусціш хоць дзень,*
*Дадуць — як у берасцень“.*

І дадае: „Гэтыя два радкі ўзяты з доўгай паэмы, якую перадавалі ў нас з вуснаў у вусны па ўсёй Беларусі. Вядома яна была пад назвай „Бунт хлопаў супроць эканома“. (...) На жаль, ніколі яе цэлай я не памятаў, бо была задоўгая“. Паэма адносіцца да 1812 года, калі сяляне выступілі супроць сваіх памешчыкаў. Аўтарам яе з'яўляецца, як пазней было ўстаноўлена, Ян Баршчэўскі, і поўны яе тэкст прыносіць „Хрэстаматыя беларускай літаратуры XIX стагоддзя“ (Мінск, 1971).

Аляксандр Рыпінскі з'яўляецца аўтарам арыгінальнага беларускага твора, які і сам ён надрукаваў лацінскім шрыфтам у сваёй лонданскай друкарні. На вокладцы чытаем:

„Нячысцік, беларуская балада. Напісаў Аляксандр Рыпінскі (вытрымка з яго „Паэзій“). Другое выданне“.

Значыць, „Нячысцік“ карыстаўся сярод выхадцаў з Беларусі вялікім зацікаўленнем, калі аўтар рашыўся паўторна выдаць гэтую кніжачку.

Ва ўступным слове да першага выдання ён пісаў: „Просты люд на Беларусі і ва ўсёй амаль Літве, там, дзе селянін не па-літоўску, а па-руску (чытай: па-беларуску) гаворыць, спяваюць на гэтай сваёй гаворцы нейкую смешную песню пра дзіўнага ілгуна Мікіту. (...) Пачынаецца яна так:

*А на дварэ вецер веіць:*
*А Мікіта жыта сеіць!*
*Мікіта!*
*Ці ты-та?*
*Не я-та,*
*Мой тата!“*

А. Рыпінскі рашыў „паправіць“ гэтую народную песню, „прыдаць ёй нейкі глыбейшы сэнс“. „Калі я ўжо раз узяўся за гэтую працу, — прызнаецца, — склалася ў мяне доўгая гутарка, з якой, прыдаўшы трохі дзіўнага, трохі пякельнага, зрабіў я сялянскую баладу. (...) Першая гэта мая спроба творчасці на гэтым дыялекце...“

*„Таму ўжо сто лет будзе,*
*Старыя помняць то людзе;*
*Скажыць вам і Апанас:*
*Жыў, быў Мікіта у нас.*
*На самым канцу сяла*
*Там яго хатка была...“*

Разам у гэтым творы 215 радкоў. Надрукаваны ён быў у 1853 годзе.

*

Так рыхтавалася глеба, на якой, пачаўшы ад палавіны XIX стагоддзя, беларуская літаратура збірала з кожным годам усё буйнейшы плён. Шмат тут заслужыліся Ян Баршчэўскі, Рамуальд Падбярэскі, Францішак Савіч, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Вінцэсь Каратынскі, Бруна Каратынскі, Уладзіслаў Сыракомля і асабліва Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.

Пра ўсіх іх хацелася б расказаць, каб звярнуць увагу на іх сувязі з беларускай і польскай культурай. Але гэта ўжо на старонках календара ў наступным годзе.

**Віктар Рудчык**

# БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫКА СЁННЯ

Беларусь, якая да Кастрычніка 1917 года не мела прафесіянальнай музыкі, у новых грамадскіх умовах патрапіла за вельмі кароткі гістарычны перыяд стварыць нацыянальны музыкальны тэатр, выхаваць цудоўных выканаўцаў — лаўрэатаў міжнародных і ўсесаюзных конкурсаў, вырасціць высокакваліфікаваныя аркестры, хоры, камерныя ансамблі, харэаграфічныя калектывы і аграмадную армію музыкантаў-любіцеляў, якія аб'ядноўваюць шматлікія тысячы калектываў мастацкай самадзейнасці.

Беларускае прафесіянальнае музыкальнае мастацтва за час свайго існавання прайшло вялікі шлях пошукаў і здзяйсненняў. Ад стварэння першых прыкладаў нацыянальнай музыкі розных жанраў у 20-я гады да шырокага прызнання лепшых твораў беларускіх кампазітараў на буйнейшых канцэртных эстрадах Савецкага Саюза, а таксама і за яго межамі — такі велічны скок, здзейснены беларускім мастацтвам.

Калі бліжэй знаёмішся з беларускімі музыкальнымі навінкамі, перш за ўсё бачыш, што гэтыя творы не страцілі чароўнасці народнага духу, што наватарскае развіццё нацыянальных традыцый у музыцы кампазітараў усіх пакаленняў учыніла іх творчасць больш маляўнічай, прыцягальнай і разам з гэтым — важнай. У сваіх операх і балетах, сімфоніях і паэмах, уверцюрах і кантатах, араторыях і хорах, інструментальных ансамблях і рамансах, творах іншых жанраў беларускія аўтары імкнуцца як мага шырэй і ўсебакова, па-мастацку пераканаўча ахапіць падзеі, тэмы, вобразы, якія прыцягваюць увагу і хвалююць савецкую грамадскасць, адлюстроўваючыя многагранную жыцця людзей на нашай планеце. Менавіта багацце жыццёвых з'яў, выклікаўшых уважнае зацікаўленне беларускіх кампазітараў, акрэсліла маштабнасць іх творчых задумаў, шматвобразнасць аўтарскіх увасабленняў музыкі, своеасаблівасць сродкаў выразу. І калі малады кампазітар Дзмітры Смольскі ў сваім надта незвычайным па мове творы для двух спевакоў, фартэп'яннага дуэта і чытальніка — у „Песнях Хірасімы" карыстаецца прыёмамі серыйнай музыкі, прымяняе пазафартэп'янную тэхніку: качанне далонню па клавішах, удары пальцам па покрыўцы інструмента і г.д. — яны пераканаўчыя, апраўданы імкненнем аўтара раскрыць ірэальнасць і трагізм вобразаў зямлі, паспытаўшай на ўсім жывым забойчую моц стронцыю-90.



**Жаночы хор калгаса „Рассвет" імя К. Арлоўскага Магілёўскай вобласці.**

Такія прыклады актыўных пошукаў і выкарыстанне новых гарманічных, ладавых, тэмбравых, а то і палітанальных або серыйных кампазіцый у нас невыпадковыя. Можна ў беларускай музыцы нашых дзён адзначыць і такія творы, як паэмы „Попел" Сяргея Корцеса, напісаную на вершы Э. Межалайціса для голасу і аркестра, сімфонію-араторыю „Эроіка" Алега Янчанкі, у аснову якой паложаны матывы вядомага „Рэпартажа з пятлёй на шыі" Юліуса Фучыка, вакальна-сімфанічны трыпціх „Песні Сапфо" гэтага ж кампазітара, у якім выкарыстаны гімны і эпіталамы вялікай паэтэсы старажытнай Грэцыі, а таксама шэраг іншых опусаў кампазітараў Я. Глебава, К. Цесакова, якія сведчаць пра цікавыя музыкальныя знаходкі іх аўтараў.

Аднак не толькі творы такога, часта эксперыментальнага характару, акрэсліваюць вобраз сучаснай беларускай музыкі. Сапраўднай музыкальнай падзеяй у жыцці Беларусі апошняга часу стала кантата „Беларускія песні" — Анатоля Багатырова. Прафесар кансерваторыі ў Мінску, у мінулым сам яе выхаванак па класу выдатнага педагога і кампазітара Васіля Залатарова, аўтар гэтай кантаты глыбока верны традыцыям класічнай музыкальнай творчасці. Яны і дапамаглі А. Багатырову свабодна і натхнёна, развіваючы беларускія народныя песенныя мелодыі, стварыць яскравую і



**Жаночая група народнага ансамбля „Раніца“ Палаца культуры тэкстыльшчыкаў горада Гродна.**

хвалюючую серыю малюнкаў народнага жыцця, паказаць багацце духоўнага свету свайго народа.

Рэзультатам наватарскага ўспрыняцця класічных традыцый у сімфанічнай музыцы з'яўляюцца таксама чатыры сімфоніі Льва Абельёвіча — своеасаблівыя душэўныя споведзі мастака, які перажыў трагедыю другой сусветнай вайны і знайшоўшага ў сабе сілы раскрыць не толькі жах фашысцкага „новага парадку“ на акупаваных землях, але і ўславіць мужнасць барацьбітоў супраць яго. Вылучаючыся вялікай, уразлівай вобразнасцю, гэтыя сімфоніі адначасова сведчаць аб строгай прадуманасці ва ўсіх дэталях, аб высокім майстэрстве і вытанчаным гусце іх аўтара.

Гаворачы аб сімфанічным жанры ў беларускай сучаснай музыцы, нельга не ўспомніць таксама і аб сімфоніі старэйшага кампазітара Беларусі, аднаго з заснавальнікаў гэтага жанра Мікалая Аладава, яго таленавітых калегаў сярэдняга пакалення Генрыха Вагнера, Яўгеня Глебава, Пятра Падкавырава, паспяхова імкнучыхся адлюстраваць у сваёй музыцы тэмы гуманізму, узаемнага разумення і дружбы паміж народамі розных краін. Гэтыя ж аўтары побач з іншай творчасцю паспяхова працуюць у оперным і балетным жанрах. Сведчаннем з'яўляецца маштабнасць увасаблення партызанскай барацьбы беларускага народа ў гады другой сусветнай вайны ў оперы „Андрэй Касценя“ М. Аладава; красачнае вырашэнне тэмы барацьбы народаў супраць насілля і прыгнёту ў тэлевізійнай оперы „Раніца“ Г. Вагнера і балета „Альпійская балада“ Я. Глебава, створанага па паўсюдна вядомай аднаіменнай аповесці беларускага пісьменніка В. Быкава; у оперы „Павел Карчагін“, у аснову якой пакладзены падзеі выдатнага рамана пра героіку грамадзянскай вайны ў Расіі ў першыя гады пасля рэвалюцыі „Як гартавалася сталь“ Мікалая Астроўскага.

Пры гэтым не варта думаць, што беларускія оперы і балеты расказваюць гледачам толькі пра войны і рэвалюцыйныя падзеі. Такія творы, як опера „Твая вясна“ Я. Глебава, „Зорка Венера“ і „Калючая ружа“ Ю. Семянякі, „Джардана Бруна“ С. Корцеса, балеты „Святло і цені“ і „Пасля балю“ па аднаіменнаму апавяданню Льва Талстога Г. Вагнера, „Мара“ і „Выбраная“ Я. Глебава ўводзяць нас у свет іншых адчуванняў і перажыванняў, даюць магчымасць памарыць і



**Ансамбль скрыпачоў Магілёўскага гарадскога дома культуры.**

пра каханне і пра сваю будучыню, пра цудоўныя пераўтварэнні, якія перажыла Беларусь у садружнасці з іншымі народамі нашай вялікай Радзімы.

І, урэшце, у нашым кароценькім вобразе пра сённяшні стан беларускай музыкальнай творчасці, скажам пра інструментальную музыку і песню. Хіба ж няма ніводнага беларускага кампазітара, які не пісаў бы такую музыку. Аднак у інструментальным жанры пальма першынства належыць Дзмітру Камінскаму — аўтару цікавых канцэртаў для фартэп'яна, скрыпкі, цымбалаў з сімфанічным аркестрам, у якім надта беражліва і свежа пературованы багацці беларускага фальклору. У песенных жа жанрах лаўры пераможцаў слухачы па праву аддаюць такому майстру як Уладзімір Алоўнікаў — рэктар Мінскай кансерваторыі. Выхаванкі гэтай жа вышэйшай школы Ігар Лучанок, Юры Семяняка, Іван Кузняцоў, Дзмітры Смольскі, Эдзі Тырманд стварылі ў сваіх сольных песнях і хорах своеасаблівую музыкальную біяграфію Савецкай Беларусі.

**Сідар Нісневіч**
**музыказнаўца**

**Фота Э. Трыгубовіча**








**Юры Баена**

## ВЕТРАЗЬ

*Плыве ветразь па небе*
*нашыя сны і мары*
*выснены ў залацістай ночы*
*і ў дня серабрыстым абшары*
*у сіні неба ключ жураўліны*
*крылаты як крык птушак вясною*
*першым ветрам узняты*
*першым бляскам расою.*

*У небе зоры клічуць*
*агнём усе палаюць*
*і ўсе яны прывабным ззяннем*
*чэрнь неба кастрамі асвятляюць*
*і цяжка выбраць зару адзіну*
*і цяжка пабудаваць прастору*
*адзін шлях жыццёвы*
*адно рэчышча к мору.*

*Ветразь дрыжыць на ветры*
*хвалі кладуцца на хвалі*
*на грывы аграмадзін пужлівых*
*над уторам вятроў трыумфальным*
*і страшна плыць у агню лавіне*
*і страшна плыць у агню пантонаў*
*у глыбіні трывогі*
*здранцвелай і бяздоннай.*

*А зоры ўсё нас клічуць*
*плюмаж агністы неба*
*і сярод плеяды бур нам сняцца*
*як галодным птахам крышынкі хлеба*
*і як жа ж не плыць праз лавіны буры*
*і як не пароць халоднай хвалі*
*калі напоўнены крыніцы*
*што меняцца святламі.*

*А сярод скалаў плеяды*
*сярод бязмежжа рыфаў*
*ёсць гара безгранічна святая*
*дзе свяшчэнны агонь гарыць заўсёды*
*і промні дарогу нам пакажуць*
*і пойдзем мы праз палаючыя макі*
*шляхам сваім адзіным*
*дарогай да сваёй Ітакі.*

*Бо трэба плыць пад вецер*
*не падаць на калені*
*бо сілы нашых рук, дум-намераў*
*гэта ж ёсць адзіныя маленні*
*і трэба ў рук магутнасць верыць*
*бо чалавек пафасам бязмежным*
*усцяж узносіць дзень свой*
*і будучыні песні.*

— ● —



**Кастусь Бандарук**

# ЛІТАСЦЬ

Цягнік са свістам спыніўся на станцыі, асветленай рознакаляровымі неонамі. Натоўп з перона расплыўся.

— Малкіня, — адазваўся мой спадарожнік, дастаючы з кішэні пачку дарагіх папяросаў. Ён доўга глядзеў на прысадзісты будынак станцыі і быццам бы нешта прыпамінаў. Гэта быў пажылы чалавек у акулярах, маўклівы і задуменны.

— Вы, пэўна, вучыцеся, — звярнуўся ён да мяне, калі цягнік ужо рушыў. За акном блішчалі аднастайныя, воўчыя вочы вёсак, на якія заглядзеўся я, амаль засынаючы.

— Так, так, вучуся... ва універсітэце, — дадаў я, гледзячы ў яго бліскучыя акуляры.

Чалавек не спускаў з мяне позірку, як бы спраўджаючы сапраўднасць маіх слоў.

— А цяпер, пэўна, наведвалі бацькоў? Што ж, вялікдзень бывае раз у год. Трэба, трэба.

Ён чамусьці ўсміхнуўся. Праз момант глядзеў у акно, потым зноў утаропіў свой бліскучы позірк на мяне.

— Вы прыпамінаеце мне аднаго маладога чалавека, якога ведаў я перад вайною, — адазваўся праз нейкі час чалавек у акулярах ціхім, лагодным голасам. — У яго былі такія самыя ясныя валасы і такая ж нерашучасць. Гэта сумнае, але я раскажу вам. Да рання яшчэ далёка... Дазволіце?

Я ўстрапянуўся, праціраючы вочы. Чалавек глядзеў на мяне сваімі шэрымі вачыма, як маці глядзіць на хворага сына, і мне стала сорамна, што я задрамаў.

— Раскажыце, — адазваўся я, — нічога, што сумнае. Часамі бывае толькі гэтак...

Той маўчаў, доўга гледзячы ў цёмнае акно купэ.

*

— Было гэта два гады да вайны, — прамовіў ён. — Быў я тады доктарам у адным з большых правінцыянальных гарадкоў. Назва тут ні пры чым, хаця і ўсім яна вядома. У маёй шматгадовай практыцы прыходзілася мець розных пацыентаў, аднак адзін выпадак не забудзецца, мусіць, да канца жыцця. Сам сабе здзіўляюся, чаго я тады пхаўся ў справы псіхікі маіх падапечных. Гэта ж не заўсёды вязалася з маімі абавязкамі. Гэта быў рэдкі выпадак. Я адчуваю сябе вінаватым, хаця адначасова я ўпэўнены, што больш я зрабіць не мог. Ніколі не давялося мне быць у такой ролі, у якой трэба мне было выступіць тады. Той малады чалавек быў у вашых гадах. Не, не, ён, аднак, быў тым хворым, пра якога хачу вам расказаць. Гэты малады чалавек

умяшаўся ў тую справу незалежна ад сябе і амаль незаўважальна. Эксплуатаваў я яго нікчэмна, хапаючыся яго, як апошняй дошкі ратунку, ведаючы, што без яго я не зраблю ўперад ні кроку.

Было гэта вечарам, халодным студзеньскім вечарам з завейкай і марозам. Мой візіт у пана Зарэмбы зацягнуўся больш, чым заўсёды, і тут я ўпершыню ўбачыў высокага бялявага мужчыну. У гэты вечар стары Зарэмба доўга гаварыў з незнаёмым, а я, баючыся завейкі, усё яшчэ аставаўся ў яго доме, жартуючы з Аннай. Прыязджаў я да яе два разы ў тыдзень, гэтак жа нязменна ад года. Мае візіты амаль усе былі аднолькавыя, і я заўсёды хацеў сказаць штосьці новае, нешта такое, аб чым яшчэ яны не чулі. Але заўсёды выходзіла тое самае. Гэты стары багацей чакаў на маё слова, як на цудоўны эліксір, які вяртае здароўе. Ён жыў надзеяй і хацеў мець надзею, хоць крышынку надзеі, якая трымала б яго пры жыцці.

— Божа, ...як доўга? — пытаў мяне благальным голасам, — як доўга яшчэ?

Рэзала мне сэрца, слухаючы гэты стогн чалавека, што мучыцца не менш, чым яго дзіця.

Памагаў ён мне апранацца, забываючы пра сваю вялікапанскасць, пра свае гады і павагу. Выходзіў я з гэтага дому, гнаны свядомасцю сваёй бязраднасці. Нідзе нікому і ніколі не наілгаў я столькі, не наабяцаў столькі, зусім не верачы ў тое, што гаварыў я гэтым няшчасным людзям.

Гэта быў параліж — хвароба, на якую мы, дактары, не знаходзілі ў той час лякарства і якую ніякае лячэнне не зможа вылечыць ці нават залячыць на працягу кароткага часу. Карміў я іх малымі порцыямі надзеі, якой даўно ўжо сам не меў. І гэта з думкаю, што станецца цуд. Так, цуд мог змяніць безнадзейнасць сітуацыі, якая для аднаго мяне толькі была вядомай. Анна была абяссілена амаль да рэшты. Гэтая нецярплівая душа не хацела чакаць. Сохла з дня на дзень, таму што даўно ўжо перастала верыць у сваё выздараўленне. Яна ведала ўсю праўду, якой знаць не хацеў яе бацька. Яна ведала, што я ашукваю яе, што маню толькі новымі тэрмінамі канца лячэння, каб вярнуць ёй надзею, каб аддаліць абыякавасць і стому жыццём. Капрызіла тады нязносна, дашукваючыся ва ўсім здзеку над ёю бязраднай і прывязанай да крэсла, крычала на ўсіх без прычыны, аж да стомы. Калі з'явіўся тут Аляксандр, я адчуў, што з хворай пачынаецца штосьці нядобрае, што прадбачыў я запозна. Спачатку яго паяўленне здавалася мне шкадлівым, потым ён быў ужо больш патрэбны, чым я. Яго роля стала важнейшай, чым усіх медыцынскіх аўтарытэтаў, праца якіх на нішто не здалася б у гэты час. Гэта сталася хутка. Анна стала больш, чым заўсёды, дапытвацца пра розныя лекі, санаторыі і масажы. Стала ахвотна прыймаць усе мае ўказанні, ахвотна есць і смяяцца. Цуд сапраўды здарыўся, але як доўга будзе ён працягвацца, я не ведаў. Не было для нас таямніцай, адкуль узялася гэтая нецярплівасць, гэтая раптоўная ахвота хуткага выздараўлення.

Аляксандр прыходзіў у гэты дом на халодныя афіцыяльныя запрашэнні, пад якімі крылася зусім іншае. Тады ашуквалі мы яго ўсе. Учапіліся мы гэтага хлопца, як апошняй дошкі ратунку, умяшаўшы яго ў гэтую паскудную справу, карыстаючыся яго несвядомасцю.

Калі ён уваходзіў у дом, Зарэмба бег яму насустрач з агеньчыкамі шчасця ў вачах. Было ў яго паводзінах штосьці з сабачай прывязанасці і ўлегласці, якая здзіўляла мяне, прывыкшага бачыць яго гордага, са старанлівай прычоскай і заўсёды добра апранутага. О, Зарэмба не банкрутаваў. Яго фабрыка паперы, як і год таму, прыносіла яму даход, які ніяк не змяншаўся, хаця заглядаў ён да яе вельмі рэдка. Соваў мне ў кішэнь грошы наіўна, верачы, што я змагу вылечыць яго дачку, як бы былі яны для яго зусім ужо бязвартаснымі. Яго гордасць прапала адначасова са спакоем у доме і здароўем адзінай дачкі. Гэты пажылы ссутулены чалавек гнуўся пад цяжарам сваёй няўдачы, перажываючы сваё бясконцае мучэнне, са дня на дзень са што раз меншай дозай надзеі.

Аднак тады перажывалі мы ўсе кароткую радасць, якая была заслугай Аляксандра. Палепшанне здароўя Анны, яе дасканалы настрой унеслі ў дом даўно чаканае пачуццё бяспекі, задавальнення і шчасця. Анна дамагалася цяпер усяго таго, што нядаўна лічыла непатрэбным. Яна хацела выздаравець. Гэтае гарачае імкненне паявілася ў яе тады, калі паявіўся Аляксандр, калі ўздумала, што мусіць яна з ім зраўняцца. Псіхіка хворага чалавека, навостраная доўгім чаканнем і бяздзейнасцю, з'яўляецца шмат хутчэйшай, чым у чалавека, які ніякіх няшчасцяў не перажываў. Калі вяртаецца ахвота да жыцця, калі паяўляецца мэта, якая даступна толькі нармальнаму здароваму чалавеку, тады жаданне выздаравець настолькі гарачае, што хворы пачынае нервова нецярплівіцца.

Гэтае нецярпенне пераходзіць з часам у расчараванне, якое шмат большае, чым было перад часовым момантам паляпшэння. Гэтага я баяўся. Баяўся таму, што быў упэўнены ў слабасці гэтага аднабаковага пачуцця Анны, якое доўга мы хавалі ад Аляксандра. Ён і здагадваўся нават, што дзеецца ў душы гэтай скантужанай дзяўчыны. Ён бачыў калецтва і тое, што прысутнасць яго вяртае ёй спакой. Прыходзіў у гэты дом, адчуваючы, што ён патрэбны, што хтосьці патрабуе яго жартаў, усмешкі, ветлівасці. Ён ніколі і не ўздумаў сабе, што гэтая акалечаная дзяўчына мо-

жа яго пакахаць гарачым і шчырым пачуццём прывязанага да крэсла чалавека. Не, ён ніколі не здагадваўся, і таму, несвядомы, прыходзіў як заўсёды, не прадчуваючы гэтай таемнай канспірацыі, якую завязалі мы супраць яго.

Але ўсё рухнула. Здарылася гэта так раптоўна, што не паспелі мы перашкодзіць ці забяспечыцца. Прызнанне ў сваім каханні, якое не хацела чакаць, ударыла ў Аляксандра, як гром. Сталася гэта пасля вострай спрэчкі між імі, калі Анна была ўжо ў сваёй спальні. Ён выйшаў з прыёмнага пакою, каб развітацца з дзяўчынаю і перапрасіць яе. Калі ўвайшоў, падняла на яго вочы і з залётнай усмешкай спытала:

— Ці вы выбачылі мне тую брыдкую выхадку на тэрасе?...

— О, даўно ўжо, і нават забыўся пра гэтае, хаця і было гэта з маёй прычыны. А цяпер спі... мая малая дачушка, — дадаў са смехам. — Добрай ночы!...

— А што даецца перад сном малым дачушкам, — какетліва ўсміхалася яна.

Ён вярнуўся і нахіліўся, каб пацалаваць яе ў галаў. Раптам яе рукі, як клешчы, абхапілі яго за шыю і прыцягнулі да вуснаў. У якімсьці шалёным экстазе, нахальна, яна цалавала яго вусны, вочы, рукі... упала, змучаная, на падушкі з задавальненнем і агеньчыкамі шчасця ў вачах.

Ён стаяў праз момант, закрыўшы вочы рукамі, і, амаль хістаючыся, паплёўся да выхаду. Зарэмба з жахам у вачах выбег за ім, падаючы яму капялюш. Ён скорчыўся і прыгорбіўся ў той вечар, як ніколі дагэтуль.

Потым не прыйшоў ужо болей.

Анна высылала дзесяткі лістаў; бацька загадаў шаферу знайсці яго. Усё надарэмна. Цераз месяц знайшоў я Аляксандра ў адной з горшых вінярняў. Сядзеў ён над бутэлькай віна ў цёмным кутку залы. Калі я падыйшоў, ён падняў на мяне налітыя кроўю вочы без ніякага здзіўлення ці ўражання.

— Сядзьце, — сказаў хрыпла.

Ён ні ў чым не прыгадваў таго элеганта, выпарфумаванага і задбанага. Абыякавасць і стома таілася ў яго недаспаных вачах.

— Не здзіўляйцеся, — дадаў гэтак жа хрыпла і нячутна. — Усё праходзіць: і добрае і дрэннае. У мяне прайшло добрае, — усміхнуўся ён горда. — Часта чалавек несвядомы небяспекі, якая ўвесь час яму пагражае. Гэта так, як пнуцца ўверх з завязанымі вачыма, і не ўсведамляць сабе, на якую вышыню мы ўзлезлі. Але прыходзіць такі момант, калі адкрываем самі сабе ўсё і тады ўпершыню непакоімся. Я адкрыў усё запозна і толькі цяпер зразумеў усё, чаго не мог зразумець на працягу двух год.

— Чаму вы не вярнуліся, — адазваўся я, адразу пашкадаваўшы сваёй рашучасці. — Анна не спіць цэлымі начамі, а калі звініць званок ля дзвярэй, хвалюецца і высылае бацьку сустракаць вас. Вы ўявіце сабе гэтага старога чалавека, для якога адзіным жаданнем з'яўляецца ваш візіт у яго доме. У яго няма ўжо сілы, сохне і гнецца на вачах, але верыць, што вы прыйдзеце, што паслухаеце яго. Зрабіце гэта для яго, для бацькі, калі яго дачка не можа ўжо і спадзявацца пабачыць вас. Прашу вас не толькі ад яго імя, хаця ён цалаваў мяне па руках, падаючы амаль на калені перада мною. Я ўмяшаўся ў гэтую справу тры гады назад і не магу пакінуць іх цяпер, так як кожнага іншага пацыента. Аднак я не зраблю гэтага. Гэта справа сумлення, справа адказнасці за жыццё чалавека, які ў гэтым моманце апынуўся ў найгоршай сітуацыі. Мяне не трымаюць ніякія абавязкі і ніякі доўг удзячнасці. Не магу іх пакінуць таму, што парушае гэта адвечны закон чалавецтва і гуманітарызму, таму, што ніколі не буду я ўпэўнены, ці не я найбольш ва ўсім гэтым вінаваты.

Вас пакахала дзяўчына, якая не можа спадзявацца ўзаемнасці, таму што яна — калека, — працягваў я. — Вы паспрабуйце ўявіць сабе псіхіку хворай, прыкаванай гадамі да крэсла, якая не мае надзеі, што будзе калісьці здаровай, якая выздаравець хоча толькі дзеля вас. Калі мела яна пятнаццаць год, была прыгожай, вясёлай дзяўчынай, ахвотнай да танцаў, смеху і музыкі. Усё гэта правалілася, адплыло, абярнулася ў попел. Ужо тры гады кормяць яе малымі порцыямі надзеі, якой сама яна даўно ўжо не мае. Штодзень паўтараюць ёй: „Як добра ты сёння выглядаеш", „Як цудоўна ляжыць на табе новая сукенка"... Колькі ў гэтых словах ліслівага фальшу і здзеку над абяссіленым і слабым. Яна асуджана на літасць іншых, бездапаможная, як дзіця. Травіць у сабе нуду за танцам, за рухам, за прыродай. О, вы не бачылі, як яна танцавала тады, калі была яшчэ шчабятлівым падлеткам. Яна не можа перанесці сваёй слабасці, якая ўзбуджае літасць, і таго, што яна з'яўляецца цяжарам для ўсіх.

Вы таксама літаваліся над ёю, — не спыняўся я. — Яна не хацела гэтага, не хацела быць тою, над якой літуюцца, хацела быць такою, як усе. Каханне не з'яўляецца прывілегіяй людзей здаровых і нармальных, і таму яе любоў — гэта туга за тым, што належыцца ўсім, гэта жаль за радасцю жыцця, за юнацтвам і за самым жыццём.

Літасць — гэта вялікае слова. Узвышаецца яна часамі над усімі чалавечымі пачуццямі, аднак заўсёды гэта адносіны мацнейшага да слабейшага. Яна заўсёды вынікае з адчування перавагі і слабасці чалавека, над якім літуюцца, і таму яе ненавідзяць. Бывае літасць двух відаў. Адна маладушная і сентыментальная, літасць, якая з'яўляецца нецярпеннем сэрца, што хоча вырвацца з прыкрай рэчаіснасці, і тая другая: літасць несенты-

ментальная, а шчырая, літасць, якая ведае, чаго хоча, і гатова пратрываць да канца жыцця, а нават далей. Лёс бацькі і дачкі ў вашых руках, і таму пакіньце да канца хаця літасць, якая так цяпер патрэбна, як шчырае каханне, а яго даць вы ёй не маглі. Вярніцеся...

Гэтыя апошнія словы прагаварыў я з адчаем і болем. Аляксандр маўчаў, пахіліўшы ў задуменні галаву.

І вось вяртаўся я з балючым сэрцам, тою самаю алейкаю, што перад домам Зарэмбы. Дзе-недзе падалі першыя пажаўцеўшыя лісці. У паветры пахла восенню. Дарэмна чакалі мы ў той і наступныя дні. Аляксандр ніколі ўжо больш не ступаў алейкай перад домам Анны.

У гэтыя апошнія дні лета ўспыхнула драма мільёнаў. Але я не згубіў следу гэтай справы, якой жыў я два гады. Быццам прадчуваючы няшчасце, я днём і ноччу сядзеў пры хворай. Гарадок замітусіўся ад вестак па радыё. Мы ўсё ж не былі далёка ад тых спраў. На пяты дзень цёплага верасня, калі адышоў я на момант, каб прынесці каву, Анна выканала той план, які склала сабе многа раней. З сяміметровай тэрасы ўпала на бетон, без цяжкасці перахіліўшыся цераз невысокую парэнчу. Калі я дабег, яна яшчэ жыла.

У той дзень у блакітным небе зараўлі самалёты, і на мірны зялёны гарадок упалі першыя бомбы.

Зарэмба некалькі дзён перажыў смерць адзінай дачкі.

Застрэліўся ў сваім кабінеце ў першы дзень нямецкага панавання ў мястэчку.

Я астаўся ў жывых. Сумленне грызла мяне тады, калі вяртаў жыццё дзесяткам маладых людзей. Мне ўсё яшчэ здавалася, што я не адкупіў віны за двое людзей, і гэтае перакананне не пакінула мяне і да сёння...

А Аляксандр?.. Я даведаўся пра яго з ваенных інфармацый. Тры дні бараніў акопу ад немцаў і вярнуўся з палонным палкоўнікам на плячах. З шаленствам у вачах ішоў на смерць, і смерць яго абмінала. Потым не чуў пра яго мабыць з дзесяць гадоў. Лічыў яго прапаўшым, так як тысячы герояў, якія загінулі ва ўзросце дваццаці пяці гадоў.

Убачыў яго зноў зусім у іншым горадзе, куды пераехаў я пасля вайны. На прэм'еры аднаго з лепшых спектакляў у оперы. Падчас перапынку між актамі я пачуў стук кіёў. Між крэсламі прабіраўся высокі бландзін з пасівелымі віскамі; без нагі. Гэта быў Аляксандр.

Цягнік са свістам спыніўся на ярка асветленай станцыі.

— Канец, малады чалавек. Прыехалі, — неяк сумна ўздыхнуўшы, сказаў мой спадарожнік. — Усё ж такі двум заўсёды хутчэй час зыходзіць. Да пабачэння, — ён працягнуў руку. — Трымайцеся і будзьце мужчынаю... Заўсёды...

Натоўп мітусіўся на перонах, плыў ва ўсе бакі. Праз момант я стаяў, як бы не ведаючы, куды падацца. Калі агледзеўся — чалавека ў акулярах ужо не было.

Скуліўшыся ад халоднага ветру, я моўчкі паплёўся на аўтобусны прыпынак.

— ● —

**Ірына Баравік**

## *РАЗДАРОЖЖА*

*Люсі*

*Стаю...*
*каля мяне*
*два высокія слупы*
*і дзве сцяжынкі*
*відаць у далі*
*куды пайду*
*там лес густы*
*на небе зоркі*
*цёмна*
*там вада глыбокая*
*блішчыць*
*прызывае магнетычным вокам*
*— люблю збіраць грыбы*
*— люблю купацца*
*баюся цёмнага лесу*
*баюся чорнай вады*
*куды пайду*

— ● —

**Алесь Барскі**

* ※ *

Каб шчасце не заснула
весяліся
У коле завірыся закружыся
прысвой як пацер моды стылі
танцуй — гарцуй у рок энд
роле
не ў менуэце не ў кадрылі
знайшла сучаснасць
шыр-раздолле
танцуй на люстры рэчкі
соннай
танцуй пад ясным небам
зорным
і на мяжы між жытам вонным
і на паляне на ўзлессі
і на крыле ліпнёвай песні
і на маіх танцуй далонях
на нітцы сонечнага промня
танцуй кружыся завірыся
і паступова распраніся
і агаліся у стрыпцісе
і на мяне ты абапрыся
Валошка валошка валошка
сіняя сіняя сіняя
глядзіць каласам пад бароды
небу глядзіць пад сукенку
зменіцца тысяча модаў
зменіцца тысяча густаў
а да валошкі у жыта
далоні працягне паненка
і вырве і звяжа букецік
і да грудзей прытуліць
валошка твар твой ёй
уквеціць
валошка сэрца расчуліць
як трэба адкрые грудзі
як трэба слязу схавае
каханню вялікаму служыць
валошка кветка малая

**Мікалай Гайдук**

# ПАЯДЫНАК

Яго на насілках унеслі санітары і асцярожна паклалі на ложак пры акне. Нас аддзяляла шпітальная белая тумбачка і слуп сонечных праменняў, што ў пагодны поўдзень урываліся ў залу. Хворыя маўчалі. Лекары і сёстры не адыходзілі ад яго пасцелі. Ціха булькала вадкасць у фільтры на кіслародным балоне, зволына паніжаўся ўзровень лякарства ў бутлі-кропельніцы і ледзь варушылася прасціраддла на яго грудзях. На запаўшых шчоках, завостраным носе і нерухома прыплюшчаных вачах ляжаў блакітны халодны цень.

Са свае пасцелі ціха азваўся Ганусік, што ляжаў на вострае запаленне нырак:

— Пане доктар, што з ім?

Доктар Цівунскі асцярожна вынуў іголку шпрыца з ледзь заўважальнай жылы хворага, прыклаў ватны тамп к на месцы ўколу:

— Інфаркт. Усё яшчэ непрытомны...

Млява сачыліся шпітальныя дні. Апоўдні яскравая сонечная пляма ляніва перасоўвалася з майго ложка на падлогу і ўзбіралася на яго пасцель. Каля другой гадзіны сонца закочвалася за суседні высотны будынак, пляма знікала і за акном трымцела свежае майскае лісце вязу.

Мы ўжо ведалі, што ён працуе майстрам на будове. Жонка, трое дзяцей, ладная кватэра на вуліцы Складоўскай і гародчык на дзялянках каля аэрадрома. Там яго і знайшоў сусед. Здзівіўся: Станько ляжаў на свежаўскапанай градцы нічком і заграбаў рукамі зямлю.

Штодня яго наведвала жонка — шчупленькая, маленькая істота. Цэлымі гадзінамі сядзела нерухома, ні на момант не зводзячы зроку з яго застылага твару і ўпотайку ўцірала слёзы са сваіх вачэй. Калі ён ужо мог гаварыць, сталі прыбягаць дзеці — дзве дзяўчынкі і хлопец. Старэйшы — ужо студэнт палітэхнікі, сярэдняя — ліцэістка, а найменшая хадзіла ў сёмы клас. На пальчыках набліжаліся яны да ложка, станавіліся цесным стадкам і скупа расказвалі пра свае школьныя навіны. Але аднойчы найменшая ўварвалася ў залу і з парога зашчабятала:

— Татка, татка, наш бэз зацвіў! Во, паглядзі...

І падала бацьку сіне-фіялетавую дародную пахучую кісць. Станько прысеў, абапершыся на падушку, і яны доўга гаварылі пра гародчык, пра школу, пра маці. А калі за дзяўчынкай скрыпнулі дзверы, ён адазваўся да мяне:



— Не дзівуйцеся, я люблю гарод і яна таксама. Відаць, у мяне ўдалася. Баюся вось, каб ёй гэтак жа цяжка жыццё не склалася, як мне... Бо, бачыце, родам то я з Навасельцаў, непадалёк ад граніцы. Бацькі не было, загінуў у трыццаць дзевятым, як немцы бамбілі чыгуначную станцыю ў Валілах. Ён тады якраз з фурманкай быў у абозе, адвозіў маёмасць вайсковай часці. У вёсцы сядзелі мы на шастаку. Палоскі. Загону таго, як добрай бабе сесці, а ногі ўсё ж на суседавым загоне ляжаць будуць. У фронт хата і хлеў засталіся, клуня згарэла. Згарудавалі мы са старшым братам клуньку, а тут мне павестка ў войска. Думаю: пайду лепш у міліцыю. Вунь хлопцы з сяла пайшлі і хваляць. І пайшоў. Пару месяцаў на школе — ды на банды. Раз, другі, нават не ранілі.

Але вось позняй восенню сорак шостага выкінулі нас трох недзе каля багна Лаўкі. Чацвёрты, што разводзіў, высунуў галаву з кабіны ды сіплым голасам прахрыпеў: „Займайце пост над ракою, каб добра прастрэльваўся брод і той бераг. Уважайце. Здымем вас заўтра вечарам. Старшым назначаю цябе, Станько". Шафёр завіхаўся ля матора. Матор троссся ад пабуркванняў, але адразу глох. Разводзячы зноў паклікаў да сябе: „Тых трэба чакаць над раніцай. Іх там, — і ён махнуў на той бераг ракі, — сёння прыпякуць, як належыцца. Могуць сюды кінуцца. Не праваронце, а то зноў па багне распаўзуцца, і тады чорт іх адтуль не вычаша". Грузавік затарахцеў, запыхкаў якімсьці смуродам. Шафёр кулём кінуўся ў кабіну. Разводзячы нахіліўся да мяне: „Зважай на..." А на каго, я і не пачуў — слова патанула ў грукаце рухавіка. Зудзіла. З таго берага Нарвы, з лазіны, выплывала слізкая імгла.

Выбралі месца на пагорку, пад разгалістай хвойкаю, якраз насупраць броду. Сцямнела. Тыя два разаслалі плашч-палатку пад дрэвам і палеглі. Я курыў „Трыумфа" у рукаў і прыслухоўваўся. „Зважай на..." Гм, на каго? На іх? Хіба ж гэты са шрамам пад вокам. Нядаўна прыйшоў ён. Неабстраляны, пабойваецца. Нічога, думаю, абатрэцца. „Хлопцы, — кажу, — хто першы дзяжурыць будзе? А рэшта пакуль што на бакавую". Заварушыліся, але маўчаць. Маўклівыя. Бяда — усю ноч сам, як палец. Не будзе да каго і рот адкрыць.

І здалося мне, што яны перашэптваюцца між сабою. Праз момант зноў. Не верылася. Прыслухоўваюся: а як жа ж! Ведаеце, у мяне аж рукі ўспацелі. Перад вачыма чамусьці ўсплыла апячатаная труна Пятра Віеўскага. Быў ён таксама на засадзе яшчэ з адным. Потым яны абодва зніклі. Труп Віеўскага праз два тыдні знайшлі пастушкі ў лесе, за чатыры вярсты ад засады. Пазнаць нельга было. Казалі, што, відаць, цэлы магазін у твар упа-

кавалі. Нераламаныя ногі і выкручаныя рукі. Што ж, у беспячэнстве працаваў ад пачатку. Мучылі, скаціны, доўга.

Адзін устаў і падышоў: „Я буду. Ты кладзіся спаць“. Звякнуў ножкамі кулямёта. „А лента дзе?“ — пытаецца. „Тут, пад галавой у мяне“, — кажу. „Трэба залажыць“. Я ж яму: „Як спатрэбіцца, разбудзіш. Чаго спяшацца — не да маладухі ж у ложка“. Лёг я асцярожна на бок, каб мець перад сабою іх абодвух. І тут у мяне даспеў план. Пераклаў я ўсё з шынелі ў кішэні пінжака. Расшпіліўся. Паволі павыцягваў рукі з рукавоў. Адну, другую. Шапку падсунуў на бляшанку з кулямётнымі лентамі. „Цяпер нас двое, — думаю, шынель з шапкаю і я“. Не спускаючы вачэй з іх, што ўжо ледзь віднеліся ў змроку, пасунуўся я некалькі метраў назад і замёр. Намацаў наском чаравіка: „Спад!“ Ссунуўся я туды. Нешта цёмнае. Мацнуў рукою: „Ядловец“. Яшчэ некалькі метраў. Вось і пералесак. Раптам уверсе, пад хвойкаю, пстрыкнулі ўспышкі. Гэта адзін з іх валіў з тэтэткі па маёй шынелі. Цемень. Глуха. Распрастаўся я, размахнуўся, і рука адскочыла ад гранаты, як апараная. Крывава-сіні бляск палыхнуў пад хвойкаю. Але бачу: метраў за пятнаццаць ад яе зноў бліснула. На маю галаву пасыпалася кастрыца, нават голька ўпала. „Гэта ў мой бок валіць...“ — здагадаўся я. Кроў загаласіла ў маіх вушах: „Уцякаць! Абы куды... абы...“ Пасунуўся я ракачам уніз да ракі. Цемра гудзела, поўнілася імі: тымі, з таго берага, і гэтымі тут. Сарваўся я і пабег, каб адно далей ад іх.

Жонка і дзеці наведваліся амаль штодня. Найменшая дачка кожны тыдзень прыносіла з гародчыка нешта новае: радыску, півоні, ружы і ў канцы чэрвеня — поўны кошычак вялізных трускалак. Калі хатнія выходзілі, Станько браў усё гэта, беражліва перакладаў з рукі ў руку, задумваўся і зноў стаўляў на тумбачку. Трускалкамі падзяліўся з намі. Выпала па чатыры штукі на кожнага. Доктар Цівунскі, зводьна перасоўваючы ў пальцах чарговую стужку электракардыёграма, дакараў Станько за лішнюю рухлівасць. І той абяцаў паспакайнець.

— І вось, ведаеце, меў да нас стаць на работу новы працаўнік. Казалі, што нейкі спецыяліст з дзесяцігадовай практыкай. Але як адчыніліся дзверы і побач з панам Слівінскім увайшоў ён — у мяне кроў адхлынула ад грудзей. Ён таксама на момант затрымаўся, быццам спатыкнуўся на парозе, нешта, быццам разгубленасць, мільганула ў яго вачах. Асабліва ў левым, над шрамам. Але толькі на міг і зараз жа згасла. Энергічным крокам падыйшоў ён да мяне. Шэры элегантны касцюм. У кішэньцы ражок хустачкі. Амарантавы, з густам падабраны гальштук. Лёгкі подых добрых парфумаў і дарагога табаку дыхнуў у наш пракураны, прасмердлы старымі паперамі пакой. „Пазнаёмімся, — кажа, — Сакалоўскі я. Значыць, будзем супрацоўнічаць“. Пан Слівінскі падыйшоў да свабоднага пісьменнага стала, што стаяў пры акне. „А гэта, пане Сакалоўскі, ваша месца працы“ і паклаў на стале ключ. Ён узяў ключ, адамкнуў дзверцы да шуфлядаў і пачаў корпацца ў іх. Пан Слівінскі пастаяў яшчэ хвілінку, а потым звярнуўся да мяне: „Пане Станько, вы пазнаёміце, калі ласка, пана Сакалоўскага з працай у вашым аддзяленні“...

І гэтак жа, як некалі над Нарвай, кроў загаласіла ў мяне ў вушах. Прысеў я, чуеце, на крэсла, а ў вачах трымціць амарантавы гальштук ды бліскае шрам пад вокам. Глянуў я на свае засціраныя ды абтрэпаныя рукавы і думаю: „Што ж, братка, ён спецыяліст, элегант, а я — былы турэмшчык“. І прыпомніўся мне дзень, калі мяне судзілі. Расказаў аб усім, як было на самай справе. Адбегся, а потым падумаў, як бы гэта даць знаць суседнім пастарункам нашай засады. Але як поначы, застрэляць яшчэ. Выбіўся я на якуюсьці палявую дарогу, а яна зноў да ракі вывела. Блукаў усю ноч. Толькі над раннем ужо выбіўся на шашу. Дапытаўся дарогі і пайшоў на бліжэйшы пастарунак міліцыі. Калі я падышоў туды, на яго месцы яшчэ дымілася пажарышча, і людзі выцягалі адтуль абгарэўшыя пакрываўленыя целы. Аказалася, што банда перайшла цераз той брод на Нарве, заатакавала знячэўку сяло ды напала на гарнізон пастарунку. Мне пагражала пакаранне смерцю. Але знайшлі труп таго другога, маю прастрэленую шынель і пакарэжаны выбухам граната кулямёт. Прыгавор стаў на дзесяці гадах турмы за тое, што не павядоміў іншых аб здарэнні пад хвойкай і самавольна пакінуў свой пост. Але за бездакорныя паводзіны выйшаў раней, бо пасля шасці год. У родную вёску не наведваўся і пазбягаў сустрэчаў з ранейшымі знаёмымі ды раднёю. Зрэшты, не было асабліва з кім і сустракацца. Маці памерла тады, як ішло маё следства, а ў брата — сваё жыццё. Зачапіўся я за гэты мясны камбінат і так ужо сядзеў колькі год у канторы. А той, бялявы са шрамам? Вядома ж, амністыя ў сорак сёмым, выявіўся. Пару год, відаць, абціраўся недзе, а потым — нейкая школа, вытворчы вопыт, добрыя заробкі... Ведаеце, тады ахапіў мяне такі пякучы боль з-за свайго няўдачнага жыцця, зайздрасць да шчасця іншых людзей! „Не, — кажу сабе, — і гэтага паядынку я тут не выйграю! Ён жа спецыяліст! Вунь як пан Слівінскі соладка заглядае яму ў вочы і водзіць па ўсім прадпрыемстве. Заўтра ён мяне выгрызе з працы за найменшую драбніцу“. Схапіў я свой плашч з вешалкі, выйшаў і больш ужо не з'явіўся ў канторы камбіната. Пайшоў працаваць на будову. Слівінскі потым казаў, што праз некалькі дзён пасля мяне выехаў і больш не вярнуўся туды Сакалоўскі. Відаць, пазнаў мяне і злякаўся.

Шпітальныя дні плылі: Станько папраўляўся, і цяпер кожны

дзень пачала паяўляцца ў нашым пакоі статная дзяўчына-масажыстка. Далікатнымі рухамі сваіх пальцаў яна імкнулася пабудзіць да жыцця мышцы ног, рук, грудзей у хворых, што перадолелі інфаркт. Потым вучыла Станько ставіць першыя крокі, затым шпацыравала з ім пад руку па калідоры. Цераз колькі дзён Станько ўжо сам пачаў выходзіць на калідор і на яго бледнажоўтым твары блукала радасная ўсмешка задавальнення.

У той ліпеньскі поўдзень на Беласток насоўвалася цяжкая навальнічная хмара. Хворыя на сэрца плашмя ляжалі на сваіх пасцелях, натужна дыхалі, чакалі, калі ліне дождж і пяройдзе метэаралагічны ціскавы фронт. Незнаёмы дзяжурны лекар хадзіў ад ложка да ложка, правяраў пульс, мерыў ціск, медсястра давала ўзмацняльныя ўколы.

Раптам насцеж расчыніліся дзверы нашага пакоя, і санітар унёс раскладушку, а за ім паявіліся ношы з новым хворым і ўбег доктар Цівунскі. Медсястра ўнесла паднос са шпрыцамі. Тупалі яны каля раскладушкі доўга. І толькі калі пачуўся адтуль глухі стогн, доктар Цівунскі разагнуўся, уздыхнуў і выцер хустачкай свой узмакрэлы лоб.

За акном бушавала навальніца.

Першым падышоў да раскладушкі Ганусік і сваім звычаем запытаў:

— Пане доктар, што?

— Ганусік, — узлаваўся Цівунскі, — вы мяне замучыце сваімі пытаннямі. Я ж не прарок Магамет, а ўсяго толькі Мечыслаў Цівунскі. Прывезлі з Элка, з мяснога камбіната. Самлеў у часе працы. Цяжкі прыступ пячонкі. Вы задаволены, Ганусік?

Пачалі звалакацца сарцавікі. Падыходзілі да раскладушкі, глядзелі і, шоргаючы тапачкамі, накіроўваліся да сваіх пасцеляў.

Станько падышоў апошні. Глянуў і адступіў некалькі крокаў назад, захістаўся і з імпэтам кінуўся да дзвярэй:

— Ён!... Шрам! Шрам! — выкрыкнуў і захлынуўся. — А-а-ах!... — ухапіўся рукамі за свае грудзі, павярнуўся да залы і мяшком асунуўся на падлогу.

Абодва лекары кінуліся да яго. Сёстры прыбеглі з рэанімацыйнай апаратурай, да дзвярэй падкаціўся вазок з кіслародным балонам і электракардыяграмная перасоўка. У пакой убег ардынатар аддзялення і, як усе іншыя, стаў на калені і схіліўся над Станько.

Змаганне цягнулася цэлую гадзіну. Прыбывала лекараў, апаратуры, лякарстваў. За акном расчапераныя, пакарэжаныя шчупальцы маланак разрывалі цемру і бясконца ляскаў гром. Стагнаў хворы на раскладушцы. Хворыя замерлі ў чаканні, не спускаючы вачэй з лекараў.

Урэшце доктар Цівунскі распрастаў свае плечы:

— Канец...

Лекары зволына падаліся з пакоя. Сёстры адключылі і прыбралі апаратуру, прынеслі прасціраддла і накрылі бездыханнае цела Станько. Праз некалькі хвілін з'явіліся санітары і вынеслі нябожчыка. Прыйшла прыбіральшчыца, змяніла бялізну на ложку, дзе ляжаў Станько. Санітары перанеслі туды стогнучага хворага з раскладушкі. Выйшлі.

Лівень за вокнамі суцішыўся. За шыбамі, як лакавае, блішчэла лісце вязу. Я глянуў на свайго новага суседа. Праўда, пад левым вокам у яго віднеўся прадаўгаваты і шырокі шрам. На карычневым, ці то ад загару, ці ад вылеву жоўці, твары ён вылучаўся сваёй белізной.

Нечакана скрыпнулі дзверы, і ў іх з кошычкам спелых вішань паявілася найменшая дачка Станько.

— Дзень добры! — прывіталася і падбегла да ложка, дзе раней ляжаў бацька, глянула і павярнулася да залы. — А татка? Дзе мой татка?...

— Няма ўжо твайго таткі, — прахрыпеў Ганусік.

— Як — „няма“? А дзе ж ён?

— Сёння памёр... Цела ўжо вынеслі...

Яна заморгала вейкамі на расшыраных жахам вачах.

— А-а-ах!...

З яе рукі высунуўся кошычак і ўпаў на падлогу. Рыдаючы, яна выбегла на калідор.

Распагодзілася. Яскравая сонечная пляма прабілася скрозь воблакі і ўпала на рассыпаныя на падлозе вішні. На іх усё яшчэ ззялі ірдзістыя дажджавыя расінкі.

Падвечар забралі ў анкалагічную клініку хворага са шрамам пад вокам. Праз некалькі дзён мы даведаліся, што стан яго быў безнадзейны — рак заатакаваў усю пячонку.

— ● —

*Ніна Гаўрылюк*

## ПРАГА

Прага
як агонь паліць
шукае сцежак
выхаду на іх,
прага мая
ў душы бадзецца
круціцца
верціцца
штораз то новыя
думкі
над ёй сную.
О, Божа!
Ты ведаеш
так многа аб ёй.
Прага мая
— гэта голад

слоў ўзнёслых,
— гэта прага
ведаў нязнаных
людзям
з майго кола.
О, Божа!
учыні, каб я
заспакоіла
прагу сваю.
Думкі
пакутныя
прагу душаць
гнятуць
рады даць
не могуць
бо яна
вырываецца
па-над ўсё
змушае розум
да думання аб ёй
да спаўнення яе.
О, Божа!
вер мне.
Ў канцы
падзякую
Табе
на каленях,
ў канцы,
калі
прага не будзе
агнём,
а будзе
малой
іскрай.



**Юрка Геніуш**

# Адкуль узяліся ў полі васількі
## (КАЗКА)

Даўно, даўно, калі людзі яшчэ бяды не зналі, калі шчасце было штодзённым госцем пад кожнай страхою, калі звер чалавеку быў сябрам, а чалавек чалавеку братам, у адной з тысяч амаль аднолькавых, саломай крытых хатак, якія невядомая сіла прыгаршнямі, як белыя грыбы, параскідала сярод непраходных лясоў, жыла сям'я — бацька і маці. Не бедныя яны былі і не багатыя. Ды і навошта было ім багацце? Родная краіна па-мацярынску шчодра адносілася ў тыя часы да сваіх дзяцей. Карміў і лес, і рэчка, багатая рыбай. А невялічкая лапінка ўзоранай зямлі адудзячвалася за кожную кроплю зрасіўшага яе поту то збожжам, то гароднінай, снапамі ільну, які ўмелыя рукі гаспадыні ператваралі ў палосы белага палатна. Не ведалі б яны ні тугі, ні суму, калі б не тое, што не было ў іх дзяцей. Зайздрасна паглядалі яны на пару чырванадзюбых буслоў, гняздо якіх было на страсе іх хаты. Буслы штогод акуратна выводзілі бусляняТ.

Аж раптам у адзін прыгожы веснавы дзень нарадзіўся ў іх сын, шустры, сінявокі хлапец. І назвалі яны яго Васільком. Весела клекаталі буслы на страсе. Радасна ўсміхаліся бацькі, гледзячы, як брыкае ножкамі малы Васілёк. Соладка ўздыхала цёплым ветрыкам цяжарная ўраджаем зямля. Калыхаліся лагодна



вяршыні магутных дубоў і стройных бярозак, напяваючы маломy з першых дзён чароўную песню пушчы — гэту калыханку нашых прадзедаў.

Непрыкметна прабягалі дні і месяцы. Лета змянялася восенню. Пасля надыходзіла зіма. І зноў вясна. І так праходзіў год за годам. Ціха і спакойна. Штогод падрасталі новыя бусляняты, а з імі разам падрастаў і Васілёк.

А зямля, нягледзячы на цяжар стагоддзяў, сустракала ўсю сямейку кожнай вясною ўсё маладзейшай усмешкай. Васільку ішоў ужо дванаццаты годзік. Не ведаў ён, што надыходзіць вялікая бура, што страшэнная небяспека павісла над разамлелай ад шчасця і спакою краінай. Галоднымі ваўкамі падкраліся да яе лютыя ворагі, каб крывёю заліць яе сённяшні дзень, дымам пажараў прысланіць гераічную мінуўшчыну, цяжкім крыжам прываліць усю будучыню, звонам мячоў заглушыць родныя песні. Здзіўлена глядзеў Васілёк на першых веснікаў злога — вогненныя віці, склікаўшых на смяротны бой за радзіму. Задзіраў галоўку на стаі груганоў, якія зляталіся з усіх бакоў, чуючы спажыву. Шырока раскрытымі блакітнымі вочкамі глядзеў на гурты барадатых вояў, узброеных цяжкімі паліцамі і пікамі. Яны ішлі на захад, каб супрацьставіць уласныя грудзі варожаму жалезу. Назад адтуль чамусьці ніхто не вяртаўся. Урэшце і бацька, забраўшы жалезную сякеру, рушыў услед за іншымі. Васілёк не плакаў, хоць маці абліваласся слязьмі. Ён яшчэ не ведаў, у чым справа. І толькі тады, калі паявіліся, папярэджаныя цяжкім пахам гары і крыві, закутыя ў жалеза, чужыя людзі, калі полымя ахапіла родную страху, калі ўскрыкнула паваленая варожым мячом маці, засланяючы ўласным целам яго, Васілька, калі ўвесь свет прысланіў яму пакрыты іржавымі плямамі белы плашч з чорным крыжам, ён зразумеў, затрапятаў, як птушка і, не бачачы ратунку, заплакаў.

Раптам нешта падхапіла яго з абодвух бакоў пад рукі і ўзняло ўгору. Агледзеўшыся, ён убачыў, што ляжыць на спінах двух дужых буслоў, а зямля застаецца недзе далёка-далёка ўнізе.

— Клёк, клёк. Трымайся моцна за нашыя шыі, — заклекатаў адзін з буслоў. — Нам трэба спяшацца.

— Куды? Куды вы мяне нясеце? — закрычаў Васілёк. — Я не магу. Я баюся. Я да мамы хачу.

— Клё, клё, клё. Няма ўжо ў цябе бацькоў. Адзін ты застаўся на свеце, — заклекатаў другі бусел. — А нас табе няма чаго баяцца. Сябры мы табе. На вашай страсе выгадаваліся. Не маглі ж мы цябе, клё, клё, аднаго ў бядзе пакінуць.

— Куды ж мы ляцім? — меў яшчэ сілы спытацца Васілёк.

— Клё, клё. За мора. Клё, клё, у цёплыя краіны. Клё, клё,

далёка. Спяшацца трэба, спяшацца. Клё, клё, клё, — дружна адказалі буслы.

Больш Васілёк не гаварыў нічога. Дзве пары магутных бусліных крылаў згодна рассякалі паветра. Вецер шумеў у вушах. А ён усё маўчаў і пільна ўглядаўся на мільгаючыя ўнізе лясы, рэчкі, азёры, на спаленыя сёлы, стоптаныя палі. Ён развітаўся з роднай краінай, якую не ведаў, калі зноў убачыць. Пра яго пачуцці гаварылі толькі сплываючыя па шчоках ручаінкі слёз.

Доўга працягвалася падарожжа. Паступова абсохлі слёзы. Ужо новыя ўражанні не давалі волі ўспамінам. Усё было такое новае, незвычайнае. Здалёк цудоўнае, як казка. Замест адвечных пушчаў, роўна пастрыжаныя паркі. Палацы замест прывычных воку саломай крытых хат. Мора, на якім як цацкі плавалі караблікі ў белых ветразях. Чужыя, у дзівосных вопратках людзі. Рознакаляровыя гарады прыкоўвалі позірк. Здавалася Васільку, што вось тут бы толькі і жыць, у гэтай казачнай краіне.

Не паспеў ён пра гэта падумаць, як убачыў, што зямля ўсё бліжэй і бліжэй. І праз хвіліну ягоныя крылатыя сябры спыніліся разам з Васільком сярод незнаёмага горада.

— Клё, клё, — цяжка ўздыхнуў адзін з іх. — Вось тут мы з табою развітаемся.

— Як жа ж гэта? — спалохана спытаў Васілёк. — Я ж тут нічога не ведаю. Дзе я дзенуся?

— Даруй, нам нельга іначай, — адказаў другі бусел. — Не данесці нам цябе да гарачых афрыканскіх берагоў. Пралічаліся мы, брацік наш, з сіламі. Цяжкая і небяспечная дарога перад намі. А час асенніх бураў набліжаецца. Прыдзецца табе застацца тут.

— Буслікі даражэнькія, буслікі родненькія, — узмаліўся Васілёк. — Не пакідайце мяне. Застаньцеся са мною.

— Нельга! Нельга! — пакруціў галавою першы бусел. — Мы ляцім на адвечны зоў. Нас кліча мутны Ніл. Гэты закон мацнейшы за хаценні. Му мусім, мусім падпарадкавацца. Не сумуй аднак. Мы вернемся з першымі праменнямі веснавога сонца. Мы вернемся да цябе, летучы дахаты. Вернемся. Вернемся. Клё, клё, клё, клё. — І буслы, кіўнуўшы дзюбамі, узняліся пад хмары.

Так апынуўся Васілёк адзін ноччу на чужыне. Змучаны падарожжам, прыгнечаны перажытым, лёг ён на зямлю, накрыўся світкаю і заснуў.

Ачнуўшыся, Васілёк убачыў, што ляжыць на плошчы вялікага горада, а вакол тоўпіцца народ, разглядаючы яго як нейкае дзіва. Ды і што гэта былі за людзі! Такіх ён яшчэ ніколі не бачыў. Рознакаляровыя дзіўныя вопраткі, шапкі, капелюшы, у некаторых — бліскучыя, жоўтыя, як янтар, ланцугі на шыях, каштоўная зброя, незразумелая мова гучыць навокал, — усё чужое, незнаёмае.

Раптам пачуліся крыкі, натоўп расступіўся, узброеныя людзі падхапілі Васілька пад рукі і павялі ў каралеўскі палац. Там толькі напалоханаму хлапчуку сяк-так растлумачылі, што шчаслівы лёс яго закінуў у багацейшы з гарадоў Чужынаград і што будзе ён з гэтага дня служыць самаму знатнаму сярод каралёў, вялікаму Азыліушу, які па сваёй міласці ўзяў яго пад апеку.

Дні нізаліся адзін за другім, як пацеркі на нітку. Міналі нядзелі і месяцы. Васілёк прывык да новых абставін, вывучыў незнаёмую мову, пазбыўся страху, перастаў дзівіцца. Ён ужо ведаў, што не яго аднаго сюды доля закінула. Шмат іх штодзень садзілася за каралеўскі стол. Ведаў і тое, чаму адным падаюць есці на драўляных, а іншым на залатых талерках. О! Золата! Колькі яму пра яго нарасказвалі. Золата — гэта багацце, гэта праўда, пашана, гэта шчасце, зачараванае ў роўныя жоўтыя кружочкі, якія называюць грашыма. Так кажуць амаль усе. Яго звонам жыве Чужынаград. Аднак не кожнаму яно даецца. Штомесяц усіх слуг вялікага Азыліуша збіраюць у аўдыенц-зале. Некаторым міласціва дазволена пацалаваць панскую руку. І толькі ў іх падстаўленыя далоні сыплецца гэтае дзіва, гэтыя грошы. Іншыя толькі здалёк аглядаюць міласцівае аблічча. Сярод іх і Васілёк. З яго ўсе насміхаюцца. Дзівак. Не хоча змяніць даматканай світкі на модную вопратку. Кажа, што гэта свая, хатняя. Ну, гэта яшчэ паўбяды. У свабодным Чужынаградзе кожны мае права апранацца, як хоча. Ды і тое, што мовы сваёй не забываецца, не так страшна: вядома, тупагаловы, карысці сваёй не бачыць. Горш за ўсё, што гэты балван дадому хоча вяртацца. Падумаць толькі, з самога Чужынаграда, пупа свету і сусветнай культуры, у нейкія лясы і пушчы. З каралеўскіх пакояў у халопскую хату. Ды і чорт яго ведае, ці там яшчэ камень на камені застаўся. Звар'яцеў хлопец. А тлумачаць жа ж яму: пакарыся, кінь свае мары. Не паспееш аглядзецца, як чалавекам станеш. Раз-другі да каралеўскай рукі прыгнешся і тады толькі падстаўляй кішэнь. Золата! Ці ты разумееш? Золата! Самое гэта слова звініць. Радзіма, браток, там, дзе яно.

Цяжка Васільку. Што рабіць, не ведае. Мо людзі і праўду кажуць? Чужа яму аднак у палацы. Праўда, кормяць добра. Не скажаш, багата тут людзі жывуць. Ды і дамы тут якія і ўся абстаноўка! А аднак чужа. Увесь час адчуваеш, што ты тут не свой — адным словам, Чужынаград. Ох! Пачуць бы зноў пах роднае нівы. Пасядзець ля дубровы. Салавейку паслухаць. Праўда, салаўі і тут ёсць. Аднак і тыя, хоць у залатых, а ў клетках. А да вясны далёка. Не хутка буслы прыляцяць. А мо пайсці яшчэ ў якую другую старонку? Пашукаць шчасце. Бо золата

шчасця не дасць. Гэта ён, Васілёк, ведае. Яму калісьці таксама далі кавалак. Ён яго мае і носіць заўсёды з сабою і разглядае гадзінамі. У яго толькі колер цёплы. Такі, як спелай пшаніцы. А само яно халоднае і нейкае варожае. Сталь меча таксама халодная, а аднак дадае мужчыне бадзёрасці, адвагі. А гэты холад марозіць. Як быць? Як быць? Панурыўшы галаву, блытаецца Васілёк туды-сюды па Чужынаградзе. Успаміны, як цеста ў дзежцы, бушуюць, растуць, не даюць спакою. Цягне, цягне, цягне яго дамоў. Куды аднак ісці? Хто дарогу пакажа? Няма, няма жыцця на чужыне.

Раптам яго аклікнулі.

— Сынок! Сыночак! Памажы. Пашкадуй мяне бедную.

Агледзеўшыся, Васілёк убачыў старэнькую бабулю, згорбленую пад цяжарам вялізнага клунка. Сабою бабуля невялічкая, худзенькая. У руках кіёк. Твар зморшчаны. Валасы сівыя-сівыя. Адно вочы, здаецца, як два вугалькі сярод твару бліскаюць, на Васілька паглядаюць.

— Памажы. Памажы, сынок, дахаты клунак данесці, сіл не хапае, — просіць.

Устрапянуўся хлапец. Да старэнькай падскочыў. Цяжар сабе на плячо закінуў. Самую яе пад руку ўзяў.

— Хадзем, — кажа. — Дарогу адно паказвайце.

Ідзе Васілёк вуліцамі Чужынаграда. Побач з ім бабулька стук-стук, кійком пастуквае. Выйшлі за горад — ідуць полем. Перайшлі поле — уваходзяць у лес. Спыніліся ўрэшце. Хоць дзе тут хата, невядома. Страха, здаецца, адна, мохам паросшая, з зямлі тырчыць.

Бабулька адчыніла дзверы. Заходзіць Васілёк, на зямлю клунак ставіць. Глядзіць навокал. Неяк тут дзіўна. У печцы трэскае агонь, а чорны кот паленні дакладае. На пліце гаршкоў, гаршэчкаў нейкіх. Усё булькае, кіпіць. Сава вялізная ценню пільнуе варыва. То зіркне тут, то там, то лыжкай шум здымае. Усюды, куды не глянеш, пучкі зелля, траваў нейкіх. І дзіўны пах, духмяны, таямнічы. Аж рот раззявіў, бедны, ад здзіўлення.

— Што ж, дзякуй табе, мілы. Замарыўся пэўна. Прысядзь вось, — бабуля прысоўвае лаўку. — Цяпер кажы, якой узнагароды хочаш. Пашкадаваў мяне. Дык і я не паскуплюся.

Апамятаўся Васілёк. З лаўкі ўскочыў.

— Што вы, што вы, — аднекваецца. — Няма за што. Я ж з ахвотаю. Вяртацца мне вось трэба. Вечарэе ўжо. А ісці кавалак дарогі.

— Ты сядай, сядай, сыночак. Не спяшайся, — усміхнулася бабулька. — Слухай мяне, старую. Нездарма мяне ў ваколіцы ўсе ведзьмай клічуць. Я шмат магу. Прасі. Не бойся, — голас у бабулі быў лагодны, добры. Васілёк жа адзін на чужыне. Не было яму нават перад кім пажаліцца. Таму, нягледзячы на незвычайныя абставіны, ён пасмялеў і выказаў усе свае думкі, мары ды турботы.



Задумалася бабуля. Пагладзіла хлапца па галаве, падыйшла да пліты, зняла адзін са стаяўшых там чыгуноў і паставіла яго сярод хаты. Чорную хустку на плечы накінула.

— Я, — гаворыць, — сынок, варажыць буду, а ты тым часам прыляж, паспі.

Прылёг Васілёк на лаўку, не варушыцца. Са старэнькай вачэй не зводзіць. А ў чыгун тым часам усё ліецца, сыплецца нешта і дзіўныя словы гудуць у вушах.

— Варажба. Варажба. Варажба. Што было, што ёсць, што будзе, выяві-пакажы. На мёртвы свет маладзіка, смяротны ўдар перуна, на гук савы, выццё ваўка, змяіны яд, на вечны шум святых дубоў — заклінаю, заклінаю, заклінаю. Хмельнае брагі чарпак. Сатлеўшых касцей сыпнем жменю. Са спаленай хаты вуглёў. Чароўных дакінем карэнняў. Размесім крылом гругана. Варажба. Варажба. Варажба.

Забулькала, захадзіла варыва ў чыгуне. Бабульку, якая над ім схілілася, клубы пары ахуталі. Усё кругом памутнела, пачало расплывацца. Невядома калі вочы заплюшчыліся. Хлапец заснуў. Прачнуўся Васілёк на світанні. „А дзе ж гэта я?“ — думае. Убачыў бабульку, усё ўспомніў. Бабулька за стол пасадзіла хлапца, а потым і кажа:

— Не ведаю нават, што рабіць, сынок. Дзіўныя мары твае, дзіўнай варажба была. Не разлікам, а сэрцам ты кіруешся. Замест выгаднага жыцця, цяжкі шлях выбраць хочаш. Толькі моцны здолее па ім ісці. Адно смелы перашкодаў не баіцца. А той толькі дойдзе, хто больш за ўсё край свой кахае. Затое, аднак, што мне ты памог, дам я табе параду: на нішто не глядзі, адно сэрца слухайся. Заўсёды наперад ідзі, не палохайся. Калі б цяжка прыйшлося, родным словам аказвайся.

Вывела бабуля Васілька з хаты.

— Вось сюдою і ідзі наўпрасткі, — рукою паказала і згінула.

Згінуў і лес, і хатка. Застаўся Васілёк адзін на невядомай дарозе, якая бегла палямі і хавалася недзе за небасхілам.

Дарога сцелецца. Ногі тупаюць. Ідзе Васілёк, куды вочы вядуць. Сонца даўно за паўнеба пераваліласся. У жываце бурчыць. Есці хочацца.

Аж тут, глянь, невядома адкуль, стол пры дарозе стаіць, абрусом каштоўным накрыты. На стале ж ежа ўсялякая. Тут і каўбасы, і вяндліна, печанае парася з паўміска ўгору лычык узносіць. А булак, булачак і пячэння рознага! З віном бутэлькі, як салдаты, сярод усячыны то тут, то там трымаюць варту. Адразу хлапцу слінка пацякла. Здаецца, так і ўгрызся б у што папала.

А стол аж ззяе. Здаецца, сам прысесці просіць. Выпадкова ўбок глянуў: ад стала недалёка белы ручнік на траве разасланы. На ім жа скромная хатняга хлеба буханка, ды гладышка, расою пакрытая, мусіць, з кіслым малаком стаіць. Побач нож, талерачка з соллю. На хлеб глянуў — вачэй ад яго адвесці не можа. Здаецца, ён дома. Маці ў дзежцы цеста замясіла. Чакаючы, пакуль пападыйдзе, яго, Васілька, які пад нагамі круціцца, ад гарачай печкі адганяе. А потым з той печы выкладвае на стол адзін за другім пухкія, румяныя буханкі. Аж прыжмурыўся, бедны. Пацягнуў носам. Па ўсім наваколлі, здаецца, свежым хлебам запахла. І ўжо Васілёк ля ручніка. Ужо лусту добрую адрэзаў. Першы кус адкусіў. З гладышкі малако папівае.

Раптам загуло навокал. Вецер невядома адкуль усхапіўся. Пяску, пылу хмару ўзняў угору. Глядзіць, няма стала, ні прысмакаў ніякіх. Усё згінула. Адна луста хлеба, якая ў руках засталася, даводзіла, што гэта яму не сон прысніўся. Зразумеў хлапец, што адну небяспеку шчасліва абмінуць здолеў. Далей ён рушыў.

Зноў сцелецца дарога. Ногі, хоць змучаныя, тупаюць бадзёра. Уперад далёка выбягаюць думкі. Змарыўся ўрэшце. Так і прылёг бы, паспаў бы гадзін пару. Сонца і тое, пачырванеўшае ад стомы, апошнімі праменнямі пазірае. За небасхілам шукае адпачынку. А навокал пуста. Нідзе ні кусцікаў, ні траўкі. Раптам, адкуль ні вазьміся, пры дарозе ложак стаіць. Дый што за ложак! Шырокі, як возера. Белым лебедзем плыве па ім пярына. Снежныя падушкі, нібы гусі, збіліся ў стада. Нырнуў бы ў яго, здаецца, і выплыў аж недзе над раннем. Так і маніць. Так і маніць. Выпадкова ўбок глянуў. Ад ложка недалёка сена стаіць, капіца. Ля яе — дыван хатні саматканы. Падушачка невялічкая, у каляровыя ўзоры вышываная. На сена глянуў — вачэй ад яго адвесці не можа. Здаецца, ён дома. З бацькам, мацерай на сенажаць выйшлі. Дзінь, дзінь, дзінь — у бацькавых руках каса звоніць. Шась, шась, пакос за пакосам кладзецца. Падсохшае разам згартаюць у капіцу. Пацягнуў носам. Ва ўсім наваколлі, здаецца, свежым сенам запахла. І ўжо Васілёк ля капіцы. Ужо сена разгортвае. Дзяружкай накрывае. Ужо лёг. Ужо заплюшчвае вочы. Аж раптам стукат-грукат нейкі пачуўся навокал. Глядзіць, на месцы, дзе ложак стаяў, вялізная яма. Агонь з яе бухнуў раз і другі, і згінула ўсё. Толькі сена, на якім ён ляжаў, даказвала, што яму не сон прысніўся. Шчасліва хлапцу другой небяспекі пазбегнуць удалося. Лёг ён і да раніцы праспаў на тым сене.

І зноў ён ідзе. Крок за крокам мераюць ногі. Колькі разам усіх крокаў — не злічыш. Поле ўжо скончылася. Дарога перайшла ў ледзь прыкметную сцежку, якая бегла сярэдзінай вялізнага балота. А Васілёк ідзе. Усё наперад. Усё наперад. Дамоў. Бачыць раптам — ажыло балота. Адкуль ні вазьміся, змеі, вужакаў поўна. Клубамі круцяцца, прайсці не даюць.

— Шшш, шшш, — шыпяць проста ў твар. — Ты куды? Ты куды? Шшш, шшш. Ужо няма і быць не можа той зямлі. Шшш, шшш. Цэлы мужных абаронцаў раздзяўблі груганы. Шшш, шшш. Ужо ніхто цяпер не беліць кужаль ля вады. Шшш, шшш. Ужо няма і быць не можа той зямлі. Шшш, шшш. Выракліся роднай мовы яе сыны. Шшш, шшш. Застанься тут. Па што? Па што табе туды? Шшш, шшш, шшш.

Жудасна Васільку. Вужакі халоднымі бізунамі аб ногі труцца і шыпяць усё сваё, „шшш, шшш, не йдзі, згінеш, не йдзі“. А ён усё ж ідзе. Ідзе наперад. Усё наперад. Дамоў.

Так і выйшаў з гнілога балота. Разгледзеўся. У краявідзе ўжо нешта знаёмае воку. Не тая раўніна. Тут узгорак за ўзгоркам. Кусцік тут, кусцік там. Пару белых бярозак. А наперадзе недзе далёка мурам чарнее лес. Шпарка, шпарка панеслі яго ногі. Здаецца, ішоў бы без сну і адпачынку. Сцямнела аднак. Дарогі не ўгледзіш. Прылёг на ўзгорачку. Світкаю накрыўся. Заснуў.

Прачнуўся Васілёк сярод ночы. „Што за шум? Што такое?“ Глядзіць: адкуль тут столькі людзей? І што за яны? У шкурах і світках, а ёсць і пры зброі. У каго паліца, лук. У каго піка ці меч. У круг пасядалі. Гавораць. Смяюцца. А словы знаёмыя. Прыслухаўся лепей. Браты. Адзін кажа:

— Як штогод, у гэту ноч мы сабраліся тут. Дзеці розных вякоў. Адной долі сыны. Ці ў той бітве, ці ў іншай, які б вораг не быў, кожны з нас за айчыну. Гасцей заўсёды шчыра мы віталі. Былі і хлеб і соль. І мёд і піва. Хто ворагам прыйшоў, той мур грудзей тут сустракаў. Лілася кроў. Было для смерці жніва. З усіх нас, што тут, ніхто не адступіў. У перамешку нашы косці пад курганам. Сёння нашая ноч. Час сустрэчы, размоў. Потым зноў мы на год засыпаны.

Сказаўшы гэта, ён павярнуўся, і Васілёк угледзеў, што замест рук у яго тырчаць косці, а замест твару бялее голы чэрап. Лепей прыгледзеўся. Бачыць, што гэта мёртвыя сабраліся на сходку. Перапалохаўся хлопец. Паварушыўся неасцярожна. Шум зрабіўся навокал. Кінуліся да яго з'явы.

— Хто тут? Хто тут? — пытаюць. — Мы чуем чалавечы дух. Той, хто на наш з'явіўся сход, з намі застацца мусіць.

Усё бліжэй да Васілька падыходзяць. Касцямі ляскаюць, зубы шчэрацць.

— Маманька, родная, ратуй! Людзі добрыя, не чапайце мяне. Я толькі дадому, дахаты хачу вярнуцца, — закрычаў Васілёк на роднай мове.

Супыніліся з'явы.

— Гэта што? Гэта ж свой. Гэй, браты. Гэта ж праўнук, нашчадак.

У тую хвіліну бліснуў першы прамень сонца. Задрыжала зямля. Ускалыхнуўся ўзгорак, і ўсё згінула. Толькі іржавы меч, які застаўся ў траве, даказваў, што гэта Васільку не сон прысніўся. Не паспеў хлопец адумацца, як чуе:

— Клё, клё. Клё, клё. Васілёк! Ужо вясна. Клё, клё, клё. Гэта мы. І мы ўжо вярнуліся дахаты.

Глядзіць, а над ім, весела ківаючы дзюбамі, лётаюць два добра знаёмыя буслы.

І зноў Васілёк на буслiных спінах. І зноў ляціць над роднай зямлёю. І зноў ён плача. Слёзы радасці капаюць з сініх вачэй. Дзе ўпала сляза, там і вырасла кветка. Шмат іх, шмат іх сініх, як вочы хлапца. Хочаце верце, або не верце, васількамі называюць іх ад таго Васілька.

— ● —

**Іосіф Грыцук**

## МАЁ ЖЫЦЦЁ

*У Валілах я радзіўся,*
*Недалёка Гарадка,*
*„Абэцадла" навучыўся —*
*Стала быў за пастушка.*

*Пас я свінні і авечкі,*
*І каровы даглядаў,*
*А зімою рэзаў сечку,*
*Малаціць я памагаў.*

*Зямлі было у нас мала*
*Ды і то благую мелі —*
*Госцем ў хаце было сала,*
*Хлеб з аглядкаю мы елі.*

*А што ўдалося зарабіць —*
*Усё падаткі паядалі,*
*Як не здолеў заплаціць,*
*Дык жывёлу забіралі.*

*Хто азваца быў пасмеў —*
*За кратай апынуўся.*
*Бараніцца я не ўмеў,*
*А шчыра маліўся.*

*Доўга думаў і гадаў:*
*Як жа ж далей буду жыць?*
*Зямлі лапінку прадаў*
*І за мора рашыў плыць.*

*Апынуўшыся за морам,*
*Я такое напаткаў:*
*Эмігрантам мыкаў гора,*
*Ад якога уцякаў.*

*Што ж, на чужыну народ ехаў*
*Долю лепшую шукаць —*
*Давялося хадзіць з мехам,*
*Па сметніках начаваць.*

*На радзіме ж так лічылі:*
*„Добра ім жывецца!..."*
*Мы ж з „лінжэраю" хадзілі —*
*Клунак гэтак завецца.*

*Эмігранты, мы здапталі*
*Усю Аргенціну,*
*Долю сваю праклiналі*
*У цяжкую гадзіну.*

*Мендозу, Чака, Місіёнес*
*Славяне засялялі,*
*Называлі нас „калонас",*
*Лес мы карчавалі.*

*Дзе калісьці мо жыў Адам*
*У гэтай дзікай „сельве",*
*„Калонас" сяліўся там,*
*На зрок сонца клала бельмы.*

*Саранча і папугаі*
*Руйнавалі селяніна,*
*Шмат было і іншай зграі*
*Ядавітай, крыважэрнае*
*скаціны.*

*Быццам куры ёсць там жабы,*
*Павукі ж — як кураня, —*
*Скарпіёны, нібы крабы,*
*Змеяў безліч бачыў я.*

*З гэтай плоймай чалавеку*
*Даводзілася сябраваць,*
*Што крок, небяспеку*
*Можна было напаткаць.*

*А вады дзе не хапала —*
*Лужы там капалі,*
*Каб дажджу ў іх налівала —*
*Ваду так здабывалі.*

*А калі і давялося*
*Неблагі плён нам сабраць,*
*Спекулянты лезлі „грэцца",*
*З нашай працы карыстаць.*

*І змагаліся сяляне*
*За яснейшу долю.*
*Усюды першыя славяне*
*Гінулі за волю.*

*Грамадою беларусы*
*Клубы будавалі.*
*Каб не знаць нуды-спакусы,*
*Песні родныя спявалі.*

*Як успыхнула вайна,*
*Мы былі гатовы*
*Выпіць гора ўсё да дна*
*У гэты час бядовы.*

*Памагалі, як маглі,*
*Мы роднаму краю.*
*Адны думкі ў нас былі:*
*Знішчыць люту зграю.*

*І жаданы час прыйшоў —*
*Святкуем перамогу,*
*Люты вораг смерць знайшоў*
*У сваім бярлогу.*

*Я вярнуўся з Аргенціны.*
*Усюды ёсць мне вера.*
*І працую для айчыны,*
*І кахаю яе шчыра.*

*Усё, што мною перажыта,*
*Шчыру праўду пішу вам*
*І ў Валілы, менавіта,*
*Свае творы перадам.*

*Родну вёску помніць буду,*
*Дзе ўсё сэрцу міла —*
*Беласток, Супрасль,*
*Заблудаў —*
*Продкаў дзе маіх магіла.*

— ● —

**Янка Кірызюк**

## КОЛЫХАННЕ

Там у полі бэрэзунька
білая стояла,
Як жэ часто вона з віетром
з віетром бушовала.

Прылетала тут зазуля
з ранку куковаты,
Прыходыла тут дывчына
хлопця зустрыкаты.

Зустрыкалысь — цыловалісь...
аж білілі зоры,
А дывывся на всё тойе
тулько місэць згоры.

І нэ муг вун сейі правды
дывчыні сказаты,
Што прыйдэцця юй дытыну
самуй колыхаты.

Стойіт самая бэроза
пташка нэ кукае,
А дывчына — чорнобрыва
на лёс нарыкае.

**Вераніка Леанюк**

## БЕЛЫ КАЎНЕР

Ад чаго пачаць. Ад пустай залы прыёмнай пошты? Не, не пустой. У кажушку з белым каўняром, чорнавалосы, проста — незвычайны. З адлегласці часу выдаецца, што ўсё хараство — белы каўнер. Не, пачаць трэба ад станцыі ПКП. Вось тут усё абсела, расплылося на пажоўклай паперы аб'яў, ніколі не чытаных для цікаўнасці. Я чытаю — нейкі міністр падпісаў. Нецікава, прыкрая ноч, спаць не хочацца. Нейкі мужчына расцягнуўся на лаўцы. Зялёнымі літарамі крычыць з-пад ног „Газета Беластоцкая", з-пад насунутай шапкі, пахрапванне з пасвістваннем. Прыемнае на канцы свету, на падлозе, у кутках, і проста так. Чорныя плямы не на вадзе. Простыя і зробленыя проста: у дзвярах дзірка шчэрыцца чарнатой калідора. Хутка пойдзе варшаўскі.

— Ой, як мне добра служыць, пані цудоўная, варшавянка...

Даведваюся аб нейкай сям'і ў Варшаве, з усімі дробязямі, аб пані доктар і пану прафесару, які любіць другіх жанчын. Брыдка падслухоўваць. Не бачу твару. Не хачу ні бачыць, ні слухаць. Выйду. Пачатак рэцэпта на курыны суп. Страшэнна не люблю кураціны і другіх з тае радні. Марознае паветра казыча ў ноздры. Аб'інелыя дрэвы, шпалы, рэйкі знікаюць у цемрадзі. Невялічкі будынак. Направа ступенькі недзе ўніз, утыкаюцца ў вокны прысеўшага аўтобуса...

Так, недзе павязе белы каўнер твой у цемрадзь, у бліскучкі гарадка.

Што адчувае шафёр начных курсаў? У люстэрку агледзіць твой твар напухлы ад гарэлкі, непраспаных начэй. Затрымаецца на каўняры кажушка. Цёмныя валасы, адкуль яны раптам у яго ўзяліся, апошні раз былі русыя з сівой плямай над правым вухам — астатак прыгоды з матацыклам пад п'яную руку.

Аўтобус чакае на цягнік. Мой цягнік, даўно не было падарожжа няведама куды і чаго. Стоячы ў Беластоку на аўтобусным пероне, была я ўжо тут, у цудоўнай краіне.

— Гэта малое і „забітае" мястэчка. Пойдзем ка мне, да бацькоў, пагаворым...

Якія далёкія і смешныя словы. Нашу тхненне брыдоты, агіднасці на лаўцы, плям над сценамі, шуму, заглядаўшага ў прамёрзлую прыёмную з-за брудных шыбін некалі белых сцен. Шчыміць здзіўленае сэрца.

Ці можна было нешта гаварыць у халодным вагоне, з яловымі лаўкамі. Яго твар марнеў у слепаце разлезлага ранку і гінуў у белізне каўняра. Адчуваю поціск рукі, моцнай, з адчувальнымі праз меру жыламі.

„Аня, Нютка" і яшчэ недарэчныя ласкацельныя, непатрэбныя пад грукат калёс. Чатыры гадзіны ўкрадзенага часу ад працы, адпачынку. Дзеля чаго? Мяккасць дотыку валос, цеплыні шорсткай рукі.

— Чаму маўчыш, Анютачка?

Углядаюся ў пушысты каўнер. Бачыла яго краіну, казачную, яго будзённасць, яго святы ў прыгажосці... Што можна гаварыць без давер'я, без пашаны нават. Каханне не лічыцца. Цікавасць. Уварвацца, абнагліць няведамае. Жудасны вобраз.

Пішу ўсё не аб тым. Можа як яго звалі. Нецікава, кожны мае сваё нецікавае імя. Гэтая станцыя з светам электралямп і будыначкам на адхоне — таксама мае.

Стаю, услухоўваюся ў марозную цішыню — цягнік на Беласток спозпены. Зоры бязлітасна рагочуць. Хітрункі, не папярэдзілі. Дурнавата выглядала тлумачэнне, адказ у апошнюю мінуту.

Мама ў такіх выпадках гаворыць: „быць у прытворку, а ў цэркаў не зайсці".

Так, не многім багам моляцца ўжо.

Пыхкае недзе і гудзе паравоз. Вылятае з будынку тоўсценькі, відаць, начальнік.

— На Беласток?

— Так.

І пакаціўся.

Адны рэльсы, другія, перон, з каляровай дошкай. Велізарныя літары: імя станцыі.

Ахвота засмяяцца ўголас. Шэранькі будыначак і такія вялікія памерам словы.

Апошні позірк на здзіўленыя аганькі гарадка, на аўтобус, які ўсё яшчэ стаіць. Між пары мільгае ў акне аўтобуса белая пляма. Так. Каўнер беласнежны, а мо мне здалося?

У змерзлай ночы, дзвэнканне жалеза, пасопванне паравоза, не поезд — ракета. „Бывай!" — так здаецца развітваюцца назаўсёды. Не ведаю, каму крычу:

— Бывай! Бывай!

— ● —

**Міра Лукша**

## ФУТБАЛІСТ

— Ура! 2:1. „Смелыя" радасна ўсміхаюцца, цалуюцца, плачуць. Дзяўчаты нясуць ім кветкі...

Юрка падбягае да аднаго невысокага, светлавалосага, курносага:

— Дзякуй, дзякуй вам. Ваш

гол — гэта залаты гол. І я хачу стаць футбалістам.

— Станеш, станеш, хлопчык, але многа трэба працаваць, і ногі добрыя мець...

Футбаліст паклаў руку Юрку на плячо, сціснуў яго і пайшоў спешна далей, па дарозе сцягаючы з сябе прамоклую потам сарочку з нумарам восем. Як гэта прыемна выйграць! Юрка бачыць блішчачыя вочы футбаліста, склееныя потам валасы, цяжкае дыханне...

Але вось ідуць другія, „Алені". Прайгралі. Балельшчыкі свішчуць. Футбалісты апусцілі галавы. Адзін глянуў проста на Юрку. У яго вачах вялікі жаль, просьба прабачэння.

Юрка крыва ўсміхнуўся.

Выйшаў са стадыёна. Сонца яшчэ цёплае, хаця восень, хмаркі плывуць.

— А-а!

— Што такое?

Тупы боль... Оо!

Юрка прачнуўся ў вялікім белым зале. Бела, усюды бела. Ногі цяжкія. Вочы клеяцца. Галава цяжкая. На століку хрызантэмы. Увайшла худзенькая жанчына ў белым халаце. З ёю, мусіць, доктар.

— Прачнуўся?

— Ага.

— Скажы яму...

„Божа, нага...? Як жа гэта?"

Жанчына пахілілася нізка над ложкам. Яна глядзіць... глядзіць, як той футбаліст з „Аленяў".

„Як жа гэта?"

— І я хачу стаць футбалістам. „Станеш, хлопчык... і ногі добрыя мець..."

„Як жа гэта?"

Ужо вясна. Сонца, хмаркі. На вуліцы гудзяць машыны. На плоце — плакат: „Спорт — гэта здароўе". А нізам — матч. „Алені" выйгралі з „Лесам". Сонца. На бярозцы кволыя лісточкі. Якая мокрая кара... Юрка абняў дрэўца. Здрыганулася. Пасыпалася раса. На твары Юркі штосьці мокрае.

Раса бярозкі гэта ці слёзы?

— ● —

**Уладзімір Малашкевіч**

## ЭДЭЛЬВЕЙСЫ

У тую цёплую восень у мае сны ўвайшло дзявочае імя. Было яно саткана з майскага ветру і ўсіх красак веснавога луга. Калі шаптаў яго, то да мяне вярталася жыццё.

Гэта здарылася на чацвёртым годзе майго побыту ў санаторыі. Больш за сорак месяцаў я быў прыкаваны да ложка. Гэта так здоўжылася, што я перастаў верыць у выздараўленне. Урачы перапалохаліся. Яны добра ведаюць, што чалавека, які страціў цікавасць да жыцця, вельмі цяжка вылечыць. А мне было ўжо ўсяроўна. І хто ведае, ці не здарылася б бяды, калі б не дзяўчына з цудным імем.

Восень чаканіла залатыя манеты, каб разлічыцца з багатым летам. Жоўтыя лісткі клёнаў асыпаліся на санаторныя палаткі. Яны стаялі ў старым панскім маёнтку. Гэты маёнтак адразу пасля вайны аддалі пад санаторый. Кожнае лета ў трохпавярховым доме рабілі рамонт. А нас, хворых, вывозілі ў сад. Там, у брызентавых палатках, мы ляжалі да апошніх дзён верасня.

Над жаночай палаткай павіс месяц. Мне здавалася, што ён быў да яе бліжэй, чым я. Таму я зайздросціў нават месяцу. У той палатцы была яна, чыё імя вярнула мне надзею. Калі я ўглядаўся ў яе вочы, дык здавалася, што на пунсовых ветразях імчыцца-спяшыцца ка мне шчасце.

Але ўглядацца ў яе вочы даводзілася рэдка. Звычайна яна прыходзіла вечарам, прасіла якую-небудзь кніжку і паціху адыходзіла. Апошнім часам стала прыходзіць часцей. Гэта азначала, што хутка яе выпішуць. Аб гэтым мне і хацелася пагаварыць з ёю. Углядаўся я ў таямнічую ўсмешку месяца і чакаў, што вось-вось адхіліцца край брызентавай палаткі, і яна выйдзе на паляну паміж нашымі палаткамі.

Вечар быў ясны, якім бываюць чыстыя асеннія вечары ў поўню. Пахла яблыкамі, сухімі бульбянымі цыбукамі і вадою. Было чуваць, як у садзе каля сажалкі начны стораж размаўляе з сваім сабакам. Усе гэтыя гукі мелі асаблівы сэнс. Асабліва, калі я заўважаў, што ідзе яна.

Замест таго, каб пагаварыць аб нашай разлуцы, запытаў:

— Гэта праўда, што заўтра твой дзень нараджэння?

— Праўда, — адказала яна. І проста, з дзіцячай наіўнасцю, запытала:

— А што ты мне падорыш?

— А што ты хочаш больш за ўсё мець?

— Эдэльвейсы.

Калі яна адышла, я разбудзіў усіх.

— Рабяты, што такое эдэльвейсы?

— А гэта, здаецца, шакаладныя цукеркі, — выказаўся Уладзька, самы малодшы сярод нас. Ён быў недалёка ад праўды. Але астатнія ўсамніліся. Не верылі, што такая дзяўчына на свой дзень нараджэння (во, трасца іх бяры, не спалі!) захоча цукерак.

— Эдэльвейсы, дэльвейся, дэльфіны, — задуменна паўтараў стораж, якога паклікалі на дапамогу. — Тут штосьці падобнае ёсць. Але я не ўпэўнены... На, сынок, яблыка. І не сушы галавы.

Але я пакляўся дастаць эдэльвейсы. Усю ноч думаў аб гэтым. І заснуў толькі пад самы ранак...

З гор цягнула вільгаццю і суровай непрыступнасцю. Але толь-

кі там, у гарах, можна знайсці эдэльвейсы. Так мне сказалі ў горадзе. Там я дастаў гарачага каня. І цяпер скакаў на ім. Пачаўся лес, які прыгадваў бясконцую каланаду з высокіх стваЛоў, як бы абцягнутых зелянкавай замшай. У гэтым лесе жылі разбойнікі. Сустрэча з імі нічога добрага не абяцала.

Кончыўся лес. Конь вынес мяне на раўніну, якую абдувалі начныя вятры. І тут пачуў крык. Аглянуўся — і задрыжэў ад страху. У моцным святле месяца ўбачыў разбойнікаў, якія імчаліся, як стрэлы, выпушчаныя моцнай рукой. Ад іх на белым кані ўцякала дзяўчына. Гэта яна крычала: „Ратуйце!"

Што я мог адзін зрабіць? Разбойнікаў было чалавек дзесяць, не менш. Але я павярнуў каня і паскакаў насустрач немінучай смерці. І чым хутчэй ехаў я, тым памалей — разбойнікі. Напэўна іх ашаламіла мая шалёная рашучасць. І мы з дзяўчынаю ўцяклі. Заначавалі ў згнілой лясной старожцы. Сядзелі і дрыжэлі. У святле месяца бачыў я простыя белыя валасы дзяўчыны, і, калі яна дакраналася да мяне, адчуваў, якія ў яе лагодныя рукі. Доўга дрыжэлі. Гэта, пэўна, ад блізкасці небяспекі, ад халоднага ветру, які дзьмуў у пустыя вокны...

Апамяталіся мы, калі ўжо былі моцна звязаны. У старожцы запалыхцеў касцёр. У чырвоных водблісках агню мільгацелі злыя твары, featureнакаляровыя касынкі на шыях бандытаў, нажы, пісталеты.

У гарах займаўся дзень. Нас вывелі на расстрэл. Мы развіталіся. Дзяўчына дзякавала мне за ўсё, што я зрабіў для яе. І яшчэ прасіла выбачыць. Але я не ведаў, за што. І тут увайшла Яна. Сказала атаману толькі адно слова і нас адпусцілі...

— Чаму ты ратаваў незнаёмку? Кім яна даводзіцца табе? — дапытвалася яна. — Каб не яна, ты прывёз бы мне эдэльвейсы.

— А чаму атаман паслухаў цябе? — у сваю чаргу дапытваўся я. У маю душу чорнай змяёй упаўзла рэўнасць. Дзень нараджэння не ўдаўся толькі таму, што я не падарыў эдэльвейсаў.

Праз многа гадоў я ўбачыў эдэльвейсы, пра якія яна вычытала тады ў кніжцы. Гэтыя цудоўныя кветкі, падобныя на маленькія зvёзды, захутаныя па горла ў белае футра, каб не замерзнуць, растуць у гарах на граніцы вясны і зімы.

І вось думаю, што было б, каб я не стаў ратаваць тады дзяўчыну? А паскакаў у горы і прывёз ёй эдэльвейсы? Можа яна тады пакахала б мяне? Але каханне не будзе трывалым, калі прыйдзе да чалавека цаною здрады. Вялікае каханне даецца цаною жыцця. Аб гэтым яшчэ раз сведчыць мой прыклад.

Стаўлю на гэтым апошнюю кропку. Над маім плячом нахіляецца... Незнаёмка. Я адчуваю, як далікатна датыкаецца яна да мяне, бачу яе простыя, белыя валасы.



— Скажы, — пытае яна, — чаму ты ў гэтым праўдзівым апавяданні называеш сваю жонку Незнаёмкай?

Гэтыя словы чуе наш пяцігадовы сын. Ён важна падыходзіць да стала і просіць:

— Раскажы яшчэ раз, як ты выратаваў маму?

Мы смяемся з Незнаёмкай. З той пары, як яна прыснілася мне, потым праз год мы пазнаёміліся, уцякло многа вады. Але не надарэмна.

— ● —

**Сяргей Сац**

## МІЖ НІЎ

*Дыванам белым ападае туман,*
*Рака бурлівіць дзіўным іграннем,*
*Бы свет заварожаны, быццам абман —*
*Цудоўная песня летнім світаннем.*

*Нясецца навокал пах кветак і траў,*
*І дражніць барвай абрусоў палявых,*
*Быццам красак бярэмя хтосьці паслаў, —*
*Цудоўная песня лугоў веснавых.*

*Цурчэннем іграюць сцяблы каласоў,*
*І вабіць мяжа наркотыкам лета,*
*І пчолы, і птушкі — мільён галасоў, —*
*Цудоўная песня — сонцам сагрэта.*

*Стракочуць касілкі, і косы звіняць*
*Між ніў шырокіх і палеткаў вузкіх,*
*А песня вясёлая, бы сенажаць, —*
*Цудоўная песня ніў беларускіх.*

— ● —

**Зося Сачко**

## МАНАЛОГ МАМЫ В СІЭМ ЧАСУОВ ВЭЧЭРА 18 ЛІПЦА 1974 РОКУ

Ліе дошч, грыміт.

Отцайсына... О Господі! дэсь бліско гракнуло. І зноў зях і зях і всё крыжом. О, тэпэр то будэ голод! Адэ, адэ, всё заліе! І картофлі выгніют і жыто нэ досьпіэе. Шчэ зэлёнэ, як мур, а скосі на такі дошч,

то в мыдлях поростэ. Колісь дыдуль казаў... отцайсына. — Господі спасі! — што на плечах носілі снопкі с поля; так наліло. І тэпэр тое будэ...

То шчэ чэкай, нэ іді по коровы. Самэ нагоняе з Вуорлі. А дэ, якая чорна! Казала: „Нэ вэді того коня, кульгае“. І тэпэр доліэзь аж на Дуброўку. Ты собіе чобуты з коморы прынэсі; там дэсь пуод сундуком. А плашч, то мусіт в сіэнёх на скрыні. Што то будэ, што то будэ? Адэ, адэ біэло! Парцёва нэ відно. Господі Божэ, а так парыло до полудня. Просто дыхаті нэ было чым; шчэ так нэколі... Одну прожэнэ, друга находіт. Позалівае всё. Як хто на Ганькові ўпяў быдло то і нэ прыжэнэ. Шчэ сіэна людэ куолько мают. Ну, чэрэз рыку то і нэ пэрэедэш. Тогды по драбіне... Там на Юзікові то і копіці поплывут. В Моры казалі якомусь пять фуор поплыло. Здаеццяя досюль і нэ было такеі навальніці... Ат, можэ людэ выдумалі. Отца і Сына, Святого Духа, Амін. То-то зяхае! То-то дае... От стары говоріт: хмары нэ розоб'е. Тож на зэмлю б'е, а нэ в нэбо. Ты стары нэ плеті нэвядомо чого! Молітісь трэба, а нэ нарыкаті. От які ты: помішалось тому, што свіэтом управляе...

Господі Божэ...!

Встань, холеро, одягнісь! Знаеш, што мае быті. „Громодводы, громодводы“! Шчэ што станэ і тогды запуозно...

Тож колісь было жэ картофлі з лупінамі елі. Тэпэр то в долах садят. А за дідуля всё на піэсках, то і на піэсках; вымокало так.

І як тое жыто пожнэм?

А дэ, подівісь, подівісь, гуліцю заняло! От, ліе! Там над Сыпічкамі трохі ясней. Коб хоч коня нэ забіло, вуон такі ўтлы. І на што в'юў на тую Дуброўку. Жак пушоў, мусіт його там быдло.

Як шчэ туды дойті?
Жыто то всё выляжэ...
Отцайсына... спасі Господі!

А тая курка, як прывэзана стоіт сэрэд ходніка, чы то піэвэнь і нэ поворошыцця. Будэ дошч, колі куры нэ ховаюцця. А буньκі скачут на воді! Ціэлу нуоч будэ ужэ ліэті. І як по ты коровы дойті? Хай ночуют, чы што, пуод холеру!

Олечка овэчкі тягнэ. Айя-яй! Скулілісь, мусіт вчора туолько острыгла. Боіцця. На Пятюнку забіло одну... Царыца небесная... Святого Духа! То вжэ мусіт в штось удырыло. Але дошч трохі мэншы. Може ідіэтэ як-нэбудь.

Господі, голод будэ, голод. Вымокнэ всё... Отца і Сына.

— ● —



**Алесь Свісёк**

# СМЕРЦЬ

Калі Яначку прыдушыла крадзеная ў панскім лесе хвойка і ён „аддаў душу богу“, а той на другі год „паклікаў да сябе“ і яго жонку, за Насцяй пачалі аглядацца аматары на яе гектары. Гэтыя гектары, будынкі ды каровы былі тымі цудоўнымі акулярамі, праз якія не было відаць усіх бракаў Насцінага грэшнага цела і вельмі веруючай душы. За яе сталі амаль што біцца дзецюкі не толькі з Крывіч, але і з суседніх вёсак.

Пераможцам аказаўся Знакімаў Петрык, не толькі дзякуючы хараству, але і таму, што галаварэзу Петрыку небяспечна было ўваходзіць у дарогу.

І вось Насці і Петрыку праспявалі ў царкве „Ісаія лікуй“, а ў хаце „Едуць да нас, едуць госці“ ды сталі яны разам жыць і працаваць на Яначкавым хутары.

Прайшло шэсць гадоў. Насця за гэты час чатыры разы радзіла і выкарміла сваімі велічэзнымі грудзьмі трое дзяцей. І вось Петрык пачаў заўважаць не толькі гэтыя грудзі. Ён прыкмеціў, што ў Насці скуластны твар, маленькія злыя вочкі і бульбяны нос з маленькімі дзірачкамі. „Як у свінні, цьфу, згінь, прападзі!“ — думаў Петрык. І дзе гэта ў мяне былі вочы? Божа, што за жывот! А якія ногі! Валкі з малатарні! Ды і ўся яна, як малатарня. Ўвесь дзень у руху і ўвесь дзень трашчыць, бурчыць, кляне, як ведзьма. І адкуль гэта ў яе столькі сілы? На работу людзей наймае толькі ў гарачы час, а так сама таўчэцца і ўдзень і ўночы і яму не дае спакою. Ды і халера яе знае, калі яна спіць!

Вось, здаецца, толькі што заснуў Петрык, вярнуўшыся ад суседзяў, дзе засядзеўся за картамі, а тут Насця тузае за плячо і крычыць:

— Петрык, уставай! Сонца ўжо ўзыходзіць.

Петрык не варушыцца, прыкідваецца.

— Уставай, абібок! Не ляжы, як карова, работы столькі! Чуеш, уставай!.. У-у-у! — Чаму я ўзяла сабе гэтага галадранца?! Чаму ж ты галавы сабе не скруціў, як за мной лётаў, альбо кастылёў не паламаў!... Уставай!

Насця мацней тузае Петрыка, сцягвае дзяружку з-пад барады і пекліцца:

— Уставай, мядзведзь! Куды ж ты нацягваеш гэту дзяружку!? Каб праз твае рэбры козы сена цягалі! Каб два дні ўставаў і не мог устаць!... — Насця разыходзіцца ўсё мацней і ўсё новыя праклёны сыплюцца з яе горла.

Часамі яна дабаўляе:

— Як не хочаш працаваць, то ідзі адсюль пад халеру! І так тут

нічога твайго няма. Парабак парабкам! Дзесяць знойдзецца на тваё месца!

Сон Петрыку як рукой адняло. Ён паглядзеў знізу на Насцю, на яе грудзі-вымя, на яе нос.

— Хто да цябе пойдзе, свіны лычык? Дзе ты знойдзеш другога такога дурня, як я! На цябе раз паглядзець агідна, а не то, што мець цябе штодзень перад сабою. Адыдзі, варопаўка, бо!...

— Што „бо?!“ Што „бо?!“ Ты хам, ідыёт!... — І Насця хапае за мяшалку ці драпцы, якія стаялі ля парога.

Гэтае „бо“ і так было ў Петрыка, так сабе, для фасону. Гэты завадыяка, якога на вечарынках унікалі самыя бойкія хлопцы з усіх вёсак, баяўся кінуцца на сваю жонку. Ён, праўда, папрабаваў гэта зрабіць, калі яна абазвала яго першы раз „галышом“ і „хамам“, але з гэтага здарэння асталася пячатка на яго лысеючым чэрапе. Бо Насця, калі раз'юшыцца, то толькі смерць яе стрымала б, не глядзіць ні бока, ні вока.

Але больш усяго, што Насця выклікала ў Петрыка агіду, як жанчына. А ён быў яшчэ мужчына хоць куды „самы цымэс“ і шмат якія нават з маладых дзяўчат скалілі да яго зубы, абяцаючы чорт ведае якія райскія раскошы.

І вось паволі нарадзілася ў Петрыка думка аб неабходнасці пазбыцца Насці. Так сабе пайсці ад яе ён не мог. Уласніцкія, кулацкія інстынкты не пазвалялі яму адарвацца ад зямлі, ад багацця. Забіць Насцю Петрык быў таксама не дурны. Не гніць жа яму пасля ў турме. Агідную жонку трэба было паслаць да святога Пятра так, каб конь быў сыты і сена цэлае. Каб ніхто не мог прычапіцца.

Так паспеў геніяльны план. Петрык чакаў толькі моманту, каб прывесці яго ў чын.

У гэтым годзе Петрык пастанавіў вымалаціць частку жыта цэпам, ён намерваўся перакрыць хату. Дык вось, неяк у посце, перад калядамі, Петрык стаў выказваць вялікую працавітасць. Ён уставаў яшчэ да петухоў і ў марознай ночы на Янычкавым таку раздаваўся мерны стук цэпа. Часам ён малаціў звечара. Аднойчы ён загадаў жонцы, каб памагла яму. Насця, па прынцыпу, пакляла крыху, пабурчэла, але пайшла з ім у гумно.

Было марозна, і работа ішла шпарка. Яны моўчкі працавалі ўвесь вечар. Пад поўнач Петрык прабурчэў:

— Перавярні снапы... Я зараз... Да лямпы газы прынясу.

Насця перавярнула снапы, узяла цэп, абаперлася на ім, чакаючы мужа.

Было так ціха ў гумне, што Насці стала страшна. (А злыдзень муж нешта забавіўся). Як жывы заварушыўся нейкі каласок на таку і ў лямпе, завешанай над токам, захістаўся агеньчык. У страсе трэснула, а недзе ў куце нешта скрабанула.



Насця баялася духаў. І вось яе ўяўленне пачало падсоўваць розныя „істоты“ з „таго свету“. То ёй прыпомнілася, як чорт цягнуў п'янага Бенеша ў балота, то як вадзіла Антона Лавачнікавага нейкая белая з'ява, калі ён позна ўночы шукаў сваёй кабылы. То прыпомнілася Насці апавяданне старой Церахчы, як ёй смерць паказалася ў акне...

Калі Насця хацела ўжо кінуць цэп і ляцець у хату, дзверы памалюсеньку адчыніліся і праз іх улезла на ток... „сапраўдная смерць“! У белі, з зубастым чэрапам замест твару і з касою на плячах.

„Смерць“ паволі, але рашучым крокам ішла проста на Насцю. Насця пасінела; вочы вылезлі наверх, паветра затрымалася ў горле, не даючы крыкнуць. Але сэрца не лопнула ад страху. Жанчына пачала падавацца задам ад „смерці“, трымаючы перад сабой, як салдат вінтоўку „на караул“, цэп. „Смерць“ наступала нястрымана за ёю. Так яны прайшлі ўздоўж ток.

І вось бедная ўткнулася плячыма ў другія, зачыненыя, дзверы. Адступаць няма куды! Яна дзіка запішчэла і з страшэннай сілай, павялічанай жахам, ударыла цэпам некалькі разоў „смерці“ па чэрапе. Чэрап адразу зляцеў, цэп апынуўся на нечым больш цвёрдым, што трэснула быццам той гарэх, на які садзілася сенкевічоўская Ягенка.

— Божа! — крыкнула Петрыкавым голасам „смерць“ і як сноп упала на снапы жыта.

Насця і цяпер нічога не зразумела. Яна ў дзікім страху, як сарна пераскочыла касу, якая замінала на дарозе, і выскачыла на двор. З перапуду яна імчалася не ў хату, але ў вёску, якую пачала будзіць крыкам зарэзанай курыцы.

Пакуль людзі спрасонку ўцямілі ў чым справа і накіраваліся на хутар, на тым месцы, дзе стаяла Яначкава гумно, быў ужо адзін стоўб агню і дыму.

Можа Насця, уцякаючы, зачапіла лямпу і яна, упаўшы, запаліла салому на таку — невядома...

Выцягнуць Петрыка з гарэўшага гумна не ўдалося.

— ● —

*Вінцук Склубоўскі*

**ХТО КАГО ЗАБІЎ?**
## СПАТКАННЕ З СЯБРАМІ І ЯГО ВЫНІКІ

А ўсё пачалося ад фэсту ў Трабах на святога Пятра і Паўла. З Лычкаўцаў, як і з іншых вёсак, ехалі фурманкі і ішлі пешыя. Выбраліся на фэст і Апанас з Юстынай.

Вось і мястэчка. На вуліцы натоўп людзей — чым бліжэй царквы, тым больш густы. Шэрагі ларкоў з усялякай усячынай. Штодзень гэтага не пабачыш.

А найбольш цікава спаткацца са знаёмымі і сваякамі з далёкіх вёсак, якіх часта не бачылася год і больш.

Царква не магла памясціць натоўпу. Дый большасць і не кваліцца ў царкву: больш прыемна аддыхнуць на царковішчы ў цяньку дрэў і пагутарыць са знаёмымі.

Зараз кончыцца абедня. З дзвярэй царквы хлынуў натоўп людзей і некалькі свяшчэннікаў у залацістых рызах, харугві і абразы. Рушыў хрэсны ход вакол царквы.

Хваля людзей захапіла і Апанаса. У натоўпе нехта праціснуўся да яго і пацягнуў за рукаў.

— Здароў, Апанас!

— А, гэта ты, Сымон, як маешся? — узрадаваўся Апанас, пабачыўшы свайго сябру з Кулікоў.

— Зойдзем да Абрамкі, перакусім.

Апанас ведаў, што справа тут не ў перакусцы, а і выпіць быў не проціў. П'яніцай ён не быў, але калі здаралася аказія, дык за каўнер не выліваў. Падпіўшы, траціў зусім меру. Таму Юстына пільнавала яго і трымала цвёрда ў руках.

— Юстына не пазволіць, — уздыхнуў.

— Ды што ты, усяго на пяць хвілін, і ведаць не будзе. Па крамах ды ларках хадзіць будзе! А мо і яе запросім?

„А мо і запрасіць Юстыну, — падумаў Апанас. — Але тады толькі таго, што панюхаеш гарэлкі. Зараз пачне: не пі, не пі! Сорамна перад сябрамі. І так насміхаюцца з яго, што жонкі баіцца. Не, лепш ужо самому пайсці. Лепш ужо хай потым крыху пабурчыць".

Тры гадзіны потым Апанас, падтрымліваны Сцяпанам, вяртаўся да возу, дзе пасля няўдачных пошукаў чакала яго Юстына. Яна, устрымоўваючы злосць, маўчала пры чужым чалавеку. Сцяпан пад'ехаў з імі да канца мястэчка.

„Бура пяройдзе бокам", — падумаў ён, развітваючыся з маўклівай Юстынай.

Аднак бура пачалася адразу, як адышоў Сцяпан. Юстына пачала прыпамінаць усе грахі Апанаса-злачынца ад самага шлюбу. Апанас спачатку маўчаў.

— Мо з Марыляй сышоўся і жонка табе ўжо не патрэбна, — цягнула сваю прапаведзь Юстына.

— Замаўчы лепш, дурніца, лухту вярзеш, — не вытрымаў Апанас.

— Я табе замаўчу, п'яніца няшчасны, — успалілася Юстына і ўдарыла Апанаса па зубах.

Не, такой зняваг і Апанас сцярпець не мог. Ён піхнуў Юстыну, што тая зляцела з возу, даў па каню і нават не азірнуўся на жонку.

Як ён прыехаў дамоў, як выпраг каня, прабудзіўшыся назаўтра, ён прыпамінаў надта мутна. Юстыны дома не было. У хляве раўла галодная і нядоеная карова.

„Справа дрэнь, — падумаў Апанас, — як ніяк, а я ўсё ж не ў парадку: трэба было змаўчаць — патарахцела ды суцішылася б. Але што з ёю магло стацца?"

Апанас узяўся за работу, што даўно ўжо была б зроблена, калі б была Юстына. Кратаўся ён так да вечара, а Юстыны ўсё не было. Не з'явілася яна і на другі дзень. На трэці ж Апанас запрог каня і паехаў у Сінкіняты да яе брата. Бо ўжо раз было так, што Юстына пасля сваркі з мужам, нічога не кажучы, падалася к брату.

— Здарылася штось?... — здзівіўся Антон, убачыўшы Апанаса. Яны да яго, бывала, прыязджалі заўсёды разам.

— Не было ў цябе Юстыны? — спытаў Апанас. — Бач, няма яе дома ад фэсту ў Трабах...

— Не, не было, — адказаў Антон, з падазрэннем гледзячы на Апанаса.

Апанасу сорамна было расказваць пра тое, што здарылася на фэсце і па дарозе дадому. Антон адчуваў, што Апанас нешта затайвае, і ў яго ўзнікла падазрэнне. Ён склаў данос у паліцыю.

Некалькі дзён пасля Апанаса арыштавалі. Яго абвінавацілі ў забойстве жонкі. Аднак цела Юстыны нідзе не было знойдзена. Юстына знікла без следу. Толькі Рыгорка, якога лічылі ў вёсцы ненармальным, казаў, што на другі дзень пасля фэсту бачыў Юстыну ў Юрацішках. Але ніхто яму не паверыў. „Здалося дурному або каго іншага ўзяў за Юстыну", — казалі.

## У СЛЕДЧАГА СУДДЗІ

— Гэта вы, абвінавачаны, забілі сваю жонку Юстыну.

Перад Апанасам сядзеў здаравенны чалавек, і ў голасе і ў захаванні якога адчуваўся спакой і не відаць было варожасці да Апанаса.

„Няўжо яна забілася, падаючы з возу? — думаў Апанас. — Але дзе ж яна магла падзецца? Знайшлі б цела".

— Не забіў я яе, толькі спіхнуў з возу. Мо сядзіць спакойна ў якога сваяка або вярнулася ўжо дамоў, — апраўдваўся Апанас.

Але ён не ведаў ніякага сваяка, апрача брата жонкі, Антона. А той запярэчыў, каб яны з сястрой мелі якіх-колечы сваякоў. Юстына, калі б не пайшла да брата, дык мусіла б быць дома.

Суддзя, разгарнуўшы нейкі звітачак, паказаў Апанасу хустачку.

— Пазнаеш? — спытаў.

— Як жа ж не пазнаць! Гэта ж хустачка Юстыны. Я яе купіў на кірмашы ў Іўі.

— Знойдзена над рэчкай. Пасля забойства цела было ўкінута ў рэчку.

— Але ж ніхто яго не бачыў! — усклікнуў Апанас з жахам.

— Пошукі пачаліся восем дзён пасля. Вада магла за гэты час занесці цела надта далёка або завалачы ілам ды пяском.

— За што ж я яе меў бы забіваць? Юстына была добрая, гаспадарная і пра мяне дбала. Жылі мы добра...

— А што было між вамі на каляды?

Апанас збянтэжыўся. Ён прыгадаў, як на другі дзень каляд вярнуўся ледзь не ракачам і то позна ноччу. Дайшло да сваркі. Ён аблаяў жонку, а тая кінула ў яго качалкай, выйшла з дому і не вярнулася. Ад суседзяў даведаўся, што яна пайшла ў Сінкіняты да свайго брата Антона. Два дні пазней ён паехаў да Антона, перапрасіў Юстыну, і яны пагадзіліся.

— Ну, пасварыліся... Але гэта было толькі раз. Вунь у іншых амаль штодня сварка. А мы жылі добра...

— Юстына скардзілася Антону, што вы пагражалі яе забіць.

— Не памятаю. Мо што сп'яну ў сварцы непатрэбнае ляпнуў. Але ніколі мне нешта такое нават у галаву не прыходзіла. Уся вёска можа пасведчыць, што жылі мы добра...

— Так, жылі добра, пакуль Марыля Грэчка не аўдавела. Абвінавачаны бываў у яе?

— Праўда, калісьці я хадзіў да яе і намерваўся ажаніцца.

— А чаму не ажаніўся?

— Што ж, лепшы знайшоўся, багаты гаспадар. Не мне раўня.

— А вы што на гэта?

— Што ж я мог зрабіць? Незадоўга ажаніўся з Юстынай і Марылю болей не спатыкаў.

— І пасля таго, як яна аўдавела?

— Хіба мімаходам... Толькі прывітаўся і нават да размовы ніколі не даходзіла.

— А на фэсце ў Трэбах?

Калі Апанас зайшоў са Сцяпанам да Абрамкі, было там яшчэ двух мужчын і Марыля Грэчка. Апанас прыпомніў, як у час выпіўкі ён сам узнёс тост, каб кумка неўзабаве выйшла замуж. „Каб ты не быў жанаты, то мог бы прысылаць сватоў", — пажартавала Марыля.

„І адкуль ён усё ведае?" — падумаў Апанас.

Але суддзі ўсё было вядома з паказанняў Сцяпана і Марылі.

— Што ж, старое каханне не іржавее... — не дачакаўшыся адказу, заўважыў суддзя. — Ды і Марыля цяпер багатая: спадчыну па мужу атрымала. Пакуль яна была замужам, то і Юстына была вам добрай. А калі муж Марылі загінуў, пачаліся ў вас



сваркі ды біткі. У часе фэсту даспеў у вас намер пазбыцца жонкі. Таму і кінулі вы яе самую, а забаўляліся пры кілішку з Марыляй.

Колькі ў гэтым было праўды, а колькі суддзёвых здагадак — сам Апанас не мог разабрацца.

„Бо і праўда, няхай было не зусім так, як кажа суддзя, — падумаў Апанас, — але калі б я трымаў сябе, як чалавек, да гэтага не дайшло б. Мо і сапраўды Юстына, патурбаваная, дацягнулася да рэчкі. Мо хацела абмыцца, але аслабела ды і ўпала ў ваду. І ў гэтым мая віна".

Гэтыя здагадкі так прыбілі Апанаса, аж ён і не ведаў, што і сказаць на сваё апраўданне. Маўчаў.

## ЗАКАЗНОЕ ПІСЬМО

Солтыс Грушэўскі, як заўсёды, уладзіўшы справу ў гміне, зайшоў на пошту і ўзяў перасылкі для вёскі Лычкаўцы. Не было гэтага многа, бо і хто там у вёсцы займаўся пісаннем пісьмаў або чытаннем газет і часопісаў. Вось пісьмо для Чымбора, адразу відаць з Амерыкі, нават канверт іншы. Добра Чымбору, часценька і долары яму прысылаюць сваякі. А вось пісьмо да Петручыхі, напэўна ад сына з войска. А вось нейкая газета, беларуская нават, пэўна да Васіля „гурткоўца". Адно ён чытае газеты, але толькі беларускія. Нават і тое не адбіла яму ахвоты, што паліцыя добра змясіла бакі, калі разганялі Грамаду. А гэта што? Пісьмо да Апанаса! Заказное. З замежнымі маркамі. І каму толькі заграніцай спатрэбіўся Апанас? Ён колькі жыве, дык ніводнага пісьма не атрымаў...

Але Апанас ужо чатыры месяцы сядзіць у турме. Таму Грушэўскі, разнёсшы пісьмы іншым адрасатам, задумаўся, што зрабіць з пісьмом да Апанаса. „Мо пераслаць у турму?" — падумаў. Але ён не ведаў, на які адрас і як гэта зрабіць. Ён паклаў пісьмо на паліцу сярод іншых урадавых папераў ды і забыўся пра яго.

Памятаў пра пісьмо толькі Юрка, сын солтыса. Яму спадабаліся паштовыя маркі. Ён некалькі разоў браў пісьмо ў рукі і прыглядаўся да іх. У канцы не вытрымаў: „Ат, нічога не станецца, калі яно будзе і без марак, — падумаў. — Ды і нікому гэтыя маркі не патрэбны". Ён адарваў іх асцярожна, але ўсё ж канверт пашкодзіў. „Ну, тата за гэта дык дасць мне лупня!... падумаў ён. — А што калі пісьмо зусім знікне?!". І, доўга не думаючы, Юрка схаваў пісьмо на гары пад страхой.

Бацька нават і не заўважыў прапажы.

## УВАСКРАСЕННЕ

У трэцім класе цягніка сядзела жанчына і з цікавасцю прыглядалася пралятаючым краявідам. Відавочна, яе займала гэтая

ваколіца. Ля яе ног стаяў падніпчаны чамаданчык, а гэта сведчыла, што яна едзе не з вёскі.

— Мусіць, з горада едзеце? — пацікавілася суседка-пасажырка.

— З Літвы вяртаюся, — адказала жанчына. — Працавала там у гаспадара.

— Хіба ж там лепш жывуць, чым у нас?

— Розна. Майму гаспадару дык хіба ж толькі птушынага малака не хапала. А нам, рабочым, усяляк прыходзілася. Але жыць было можна, а да выгодаў нашаму брату не прывыкаць. Кармілі. Нават старую вопратку давалі. Лаялі крыху. Грошы я збірала. Нешта там падзарабіла. Нават мужу гасцінчык вязу. Мо спаткае на станцыі ў Юрацішках. Месяц таму пісьмо я да яго паслала.

— І муж пазволіў вам самой у Літву ехаць?

— Пасварыліся мы. Не пытала я ў яго. Доўгі час нават і не ведаў, дзе падзелася.

Але на станцыі жанчыну ніхто не спаткаў. На шчасце, ехала фурманка да Трэбаў, а адтуль не так ужо далёка і да дому.

Пад вечар вёскай Лычкаўцы ішла жанчына з паношаным чамаданам. Вось і хата Жукоўскіх, на панадворку сама гаспадыня. Жанчына кіруецца да яе, а тая глянула — ды ходу.

„Зусім здзіцянела старая“, — падумала жанчына і накіравалася да падворка Апанаса.

Але Апанаса не было дома. У хаце гаспадарыў стары Ананэль з унучкай. Яны рыхтаваліся да вячэры.

— Сядай з намі вячэраць, — запрасіў Ананэль, якога зусім не здзівіла з'яўленне Юстыны.

— А дзе Апанас? — спытала Юстына, здзіўленая чужымі людзьмі і іх рэчамі ў сваёй хаце.

— Няма ўжо Апанаса, — зводьна працадзіў старэча. — У турме памёр, перад вялікаднем.

Юстыне пацямнела ў вачах. Яна цяжка апусцілася на лаву.

— Што ж ён такое зрабіў?! За што ж яго пасадзілі?

— Нічога ён дрэннага не зрабіў, да гэтага ён не быў здольны, — з горыччу адказаў Ананэль. — Яго прычыкарылі на пятнаццаць год турмы за тое, што ён забіў цябе, Юстына. А ты, як бачу, жывая. А Апанас не вытрываў... Што ж, усе пераканаяы былі, што прысуд справядлівы. Адвярнуліся ад яго. Ведама, забойца... Адаслалі ў свентакшыскую турму, дзе трымаюць найбольш небяспечных злачынцаў. Часам я яму пасылкі пасылаў. Апошнюю, што быў я паслаў на вялікдзень, вярнулі. Улады пасадзілі мяне тут пільнаваць гаспадаркі. Памёр на сухоты. А мо з жалю і тугі... Забыты, пракляты...

— А чаму ж мяне ніхто не паведаміў? Я ж пісьмо выслала, заказное. Нехта ж мусіў атрымаць яго?



— Усе думалі, што цябе ўжо на свеце няма. А твайго пісьма ніхто і не бачыў. Не магла ты другое выслаць, як ад першага адказу не было?

— Крыўдна было. Як ніяк, а ўсё ж ён быў вінаваты. І так я першая выслала пісьмо. Чакала, што адпіша. Думала: Апанас зафанабэрыўся, раззлаваўся з-за майго выезду. І так сабе сказала: „Не напішу болей, калі адказу няма“. Ды і непісьменная я, а там у Літве мала хто ўмее пісаць па-нашаму...

Праплакаўшы ўсю ноч, назаўтра Юстына выехала. А куды — ніхто не ведаў. Для вясковых яна была памершай, а мёртвыя не павінны перашкаджаць жывым.

— ● —

**Леапольд Танкевіч**

## *ХТО КАХАЕ РАДЗІМУ*

*Хто кахае Радзіму,*
*Той кахае сябе,*
*Бо таго немагчыма*
*Раздзяліць па сабе.*

*Адарвацца не можна*
*І дарогай сваёй*
*Адыйсці асцярожна,*
*Каб не думаць аб ёй.*

*З ёй не можна іграці,*
*Пакідаць у бядзе,*
*Бо яна так, як маці —*
*У жыцці нас вядзе.*

*Смутак наш — яе смуткам,*
*Радасць поўная ўцех,*
*Адгаворыцца шуткай,*
*Жарт замяніць у смех.*

*Яна рук тваіх працай,*
*Пульсам сэрца жыве.*
*Той, хто знае і бачыць, —*
*Той кахае яе.*

*Каб квітнела, як кветка,*
*І была прыгажэй,*
*На жыццёвым палетку —*
*Ад жыцця даражэй.*

— ● —

**Дзмітры Шатыловіч**

* * *

Я рос у калысцы з палёў і лясоў,
Акружанай плахтаю лесу.
Вясною — між кветак, зімой — між снягоў,
Пад дахам-блакітам нябесным.

Я першыя крокі ступіў у сяле,
Пазнаў там, што — сіла, што — слабасць,
І штодзень вучыўся, як трэба смялей
З жыцця піць і горыч, і радасць.

Пазнаў там я цяжкую працу сялян,
Іх лёс, як капрызы пагоды.
Іх цягу, парывы і шрамы іх ран,
І добрыя дні, і нягоды.

Іх лёс для мяне будзе заўжды, як свой,
Калі ён нядобры — сумую.
Калі ж ён пагладзіць іх цёплай рукой,
Тады і я радасць пачую.

І я бы хацеў, каб на нашых палях
Цвілі вечна кветкі і вольнасць.
І долі шчаслівай хачу для сялян,
Каб цешыцца з імі супольна.

— ● —

**Міхась Шаховіч**

*ДАРОГІ*

*Дарогі, дарогі, дарогі...*
*Раскінуў па свеце вас лёс!*
*Пусціў у чужыя парогі,*
*На плечы паставіўшы воз.*

*З адной вы паўсталі крыніцы,*
*Няведама дзе і калі...*
*Не ведалі вы аб граніцы,*
*Бягучы па целе зямлі.*

*Цяпер — не адзінага лёту,*
*Не ўсе на аднолькавы лад.*
*Адны пралеглі праз балота,*
*Другія — ў святле аўгастрад.*

*Як рэкі спяшаюцца ў мора*
*У абдымкі салёнай вады,*
*Так вы цераз пушчы і горы*
*Праводзіце шлях малады.*

— ● —

**Віктар Швед**

## ЗЯМЛЯ НАВОКАЛ СОНЦА КРУЖЫЦЬ, А Ў ВЁСЦЫ ЎСЁ ВАКОЛ ЗЯМЛІ

*Бацькоў*
*дала зямля бацькоў.*
*Бацькоў*
*зямля бацькоў забрала.*
*Р. Барадулін*

Бацькі мае, як стройныя бярозкі,
Раслі з зямлі, з зямлі пладоў жылі.
Прыстанішчам заўжды была ім вёска
А ўсё жыццё іх — праца на раллі.



На ўсё жыццё прапісаныя лёсам
Да спадчыны па прадзедах, дзядах,
Стапталі ўсе палі ступнёю босай
І пах зямлі насілі на руках.

Імкнуліся прыдбаць хоць дзесяціну,
Гадамі бараніліся ў судах,
А гэта з думкай аб любімым сыне,
Ці аб дачцы, каб мела у пасаг.

Зямля была апорай і багаццем,
Як хлеб, была яна бацькам.
І без зямлі тут не было бы працы
Жылістым, змучаным заўжды рукам.

Бацькі былі народжаны зямлёю,
Зрасліся з ёю ўсім сваім жыццём.
Зямлю расілі потам і крывёю
І у зямлі спяць непрабудным сном.

— ● —

**Сакрат Яновіч**

## ГУТАРКА СУЧАСНАГА З ХВОРЫМ
(Сцэнка)

Гэту гутарку запісаў Хворы. Сучасны — вядома — не меў часу. Здасца яна крыху тэндэнцыёзнай, а мясцамі і зусім...

Дарэчы будзе зазначыць, што ў сапраўднасці не было гэтай гутаркі. Адбылася яна ва ўяўленні Хворага. Але калі ўяўленне палічым такой жа з'явай, як і іншыя, дык гутарка Сучаснага з Хворым сапраўды мела месца. Адбылася яна.

Вось яе змест.

ХВОРЫ. Ад часу, калі з-за майго языка пацярпеў знаёмы, — я адзвычаіў сябе называць імёны, задавальняючыся агульным „адзін". Праўда, гэта паблытала маю памяць да імёнаў... Сказаў адзін, што праявай крайняга адзіноцтва з'яўляецца купля пакаёвага сабачкі...

СУЧАСНЫ. Каб балбатаць, што сліна прынясе на язык і не дастаць за тое па мазгах, трэба быць братам Дырэктара. Родным!

ХВОРЫ. О, так: адкрылі вы студню праўды!

СУЧАСНЫ. Якую зноў студню? Простае — не трэба быць дурнем! Трэба другіх рабіць дурнямі. Нішто так не прыліпае, як

кляймо дурня. Улічыўшы гэту схільнасць у чалавеку, каб у іншым бачыць дурня, не знойдзецца такога ворага, якога нельга было б знішчыць.

ХВОРЫ. У вашых разважаннях бачу істотную рызыку. Менавіта, калі праўдай з'яўляецца тое, аб чым вы сказалі, дык можа знайсціся хтосьці такі, які захоча зрабіць дурнем — вас! Ці не бяспечней было б прыняць, што кожны кімсьці ашуканы? Думаю — справа толькі ў тым, хто і каго больш ашукаў. У чымсьці большым!

Я — можна сказаць — люблю, калі мяне ашукоўваюць... у дробязным. Ашуканец пачынае з часам нават шанаваць за тое, што паддаюся ягоным малазначным ашуканствам. Быць ашуканым тысячы разоў, але ў дробязях і ні разу ў вялікіх справах, з'яўляецца годным прарока!

СУЧАСНЫ. Здзіўляюся вашаму ўмельству ўскладняць жыццё! Па-мойму кожны, хто не я, кандыдат у дурні. Так гледзячы магчыма чагосьці дабіцца... Важнае, яснасць погляду!

ХВОРЫ. Вашы высновы гучаць амаль радасна: даволі, каб кожны пачаў жыць па-вашаму і дурняў — няма! Аднак жа, нягледзячы на прастату вашых думак, яны — фантазія ды ўтопія. Перш за ўсё таму, што, бадай, знойдзецца такі, што сам сябе палічыць дурнем, шчыра. Таму ўспрымаю я вашы высновы надзвычай сумна: ваша яснасць погляду — без значэння...

СУЧАСНЫ. Мне ўсяроўна!

ХВОРЫ. Ці не прыстойней і зручней было б прыняць, што спазіраюць адзін на другога не шукальнікі дурняў, але разумныя...

СУЧАСНЫ. Калі вам так залежыць на словах...

ХВОРЫ. У гэту хвіліну падумалася мне, што было б добра скласці слоўнік дурных учынкаў і выдаць яго масавым тыражом, з даступнай цаною. Карысць ад такога выдання велізарная, можна б сказаць, агульначалавечая!...

СУЧАСНЫ (як гэта часта ў яго, перабіваючы). Падабаецца мне гэта задума. Вельмі! Гэтакі слоўнік, надрукаваны на галоўных мовах свету, даў бы нам капітал. Цвёрдую валюту! Падабаецца!

ХВОРЫ. Не тое я меў на ўвазе, пане Сучасны... (Хвораму выступіў пот на ілбе, ён адчуў сябе слаба, страшэнна слаба!).

І тут Сучасны пачаў вясці сябе надта ж энергічна. Ён доўга і ясна гаварыў аб тым, што яго, Хворага, бачыць аўтарам так карыснага выдання, якім несумненна з'явіўся б слоўнік дурных учынкаў. З уласцівай яму панурай вобразнасцю — расказваў і расказваў, як гэта тысячы і мільёны людзей кінулася б купляць, купляць і купляць! Чытаць, чытаць і зноў — купляць новыя выданні, папраўленыя і дапоўненыя, якія прадаваў бы толькі ён, Сучасны, і якому было б забаўна бачыць, як гэта людзі вераць у тое, што можна перастаць быць дурнем...



Калі праз нейкі час пасля Сучасны наведаў Хворага, застаў яго ў роздумах.

Падаў дождж, бубніў па шыбах.

ХВОРЫ. Быў я здаровы — сябры былі...

СУЧАСНЫ. Вядома, каму хворы патрэбен? Я, для прыкладу, гавару з вамі таму, каб запоўніць вольны час. Сяброўства — гэта форма карысці. Таму сябрую з вамі...

ХВОРЫ. Усё ж існуе нешта падобнае да бескарысналюбства: маю на ўвазе дзяцінства.

СУЧАСНЫ. Бескарысналюбства з'яўляецца праявай дзіцячасці, мой пане. Пара ведаць аб тым, хаця ёсць і такія, што застаюцца дзяцьмі аж да пенсіі і цяжка сказаць аб іх, што ў старасць яны дзіцянеюць.

ХВОРЫ. Не магу пагадзіцца з вашымі меркаваннямі.

СУЧАСНЫ. Дайце прыклад сяброўства іншага, калі ласка.

ХВОРЫ. Далёка не шукаючы — муж з жонкаю!

СУЧАСНЫ. Гы-гы-гы... Якое ж гэта сяброўства паміж мужчынам і жанчынаю, гы-гы-гы... Хіба што абое маюць па сотні гадоў і ўжо забаўляюцца ў вязанне лялек... Усур'ёз кажучы, паночку, муж і жонка — гэта дзве магчымасці, якія аб'ядноўваюцца дзеля адной мэты, патрэбнай і аднаму і другому. Напрыклад, дзеля кватэры, аўтамашыны або звычайнага, сытага жыцця, мяшчанскага... Так, жаніцьба скарочвае дарогу да стабілізацыі. Доўгую і пакручастую — выбіраюць мастакі або недарэкі.

ХВОРЫ. Слухаючы вас, я шчаслівы, што не ажаніўся.

СУЧАСНЫ. Я ж казаў, што гэта такое: карысць. А тое, што вы не ажаніліся, дык гэта ваш разлік.

ХВОРЫ. Няхай тут будзе па-вашаму... Майго знаёмага, калі той апынуўся ў цяжкіх абставінах, вyратаваў адзін дырэктар, якому ад таго ніякай карысці. Што вы, пане Сучасны, скажаце на гэта?

СУЧАСНЫ. Наогул бывае адна прычына, дзеля якой дырэктары дапамагаюць падначаленым. Гэта — павялічыць хэўру сваіх прыхільнікаў. У даным выпадку не выключана і тое, што дырэктару зажадалася пабыць добрым чалавекам, ну, проста памыцца ў крыніцы, каб лягчэй было валачыцца.

ХВОРЫ. Бачу, вы не любіце дырэктараў?!

СУЧАСНЫ. Не адкажу на вашае пытанне. Яно гэтаксама беспрадметнае, як пытанне аб пачатку і канцы свету. Адкажу іначай: я разумею дырэктараў. Стацца ім абазначае атрымаць магчымасці многа дапамагчы, але толькі некаторым! Абазначае таксама выбар: каму? А таксама: ад каго чакаць карысці за дапамогу? Наколькі істотнай карысці? Дапамога, быццам грошы: неабходна ўмець гаспадарыць ёю.

ХВОРЫ. Сумна слухаць вас. Калі можаце, заходзьце ў ясныя дні. Тады я лягчэй пераж оўваю вашы мудрасці. У дождж — цяжка.

СУЧАСНЫ. Я разумею вашу просьбу: зайду паслязаўтра. Бюро пагоды абяцае сонца ў пятніцу.

ХВОРЫ. Дзякую.

Сучасны пайшоў. Хворы ляжаў з вачыма ў столі. Калі б ён быў моцна хворы, пэўна, памёр бы! Ды ў яго ўсяго прасцяцкая застуда, тлустая яда, чай з мёдам і аздобны кошычак з садавінаю. Яму добра, бо ён мае час думаць аб няшчасці і...

А ў пятніцу...

ХВОРЫ. Добры дзень, пане Сучасны! Як здароўе?

СУЧАСНЫ. Нічога — жару, бы жывіна, сплю, бы падла! Вас, бачу, звалацужыла да непазнакі: з суседкаю пачынаеце, га? (Гэта быў знак, што Сучасны неўзабаве запрапануе гаварыць „ты“).

ХВОРЫ. Я? Што вы! Відаць, добра адчуваеце сябе?

СУЧАСНЫ. Ого, я — бы бізун! — магу карове ногі перабіць, чорту рогі выламаць...

ХВОРЫ. Галоўнае, ведаеце, гэта здароўе. Няма здароўя — няма нічога!

Сучасны і Хворы замаўчалі.

СУЧАСНЫ. Што ў вас там, пане Хворы, добрага чуваць?

ХВОРЫ. Ведаеце, не магу пазбыцца ўражання, што свет — з закаханых і незакаханых...

СУЧАСНЫ. Адкуль вам такое залезла ў галаву?

ХВОРЫ. Бачыце, кожны да чагосьці дрыжыць: да грошай, да кар'еры, да славы, да жанчын, да аўтамашыны, да...

СУЧАСНЫ. Мо было б лепей падзяліць людзей на дрыжачых і недрыжачых? Я калісьці прапанаваў аднаму граматыку, каб замест родаў увёў полы! Бадзяга, кінуўся на мяне чутанькі не з кулакамі, гы-гы-гы...

ХВОРЫ. Па-мойму, з'ява кахання ў чалавеку ёсць крыніцаю ягоных цывілізацыйных пачынанняў. Не відаць розніцы паміж істотаю кахання і істотаю цывілізацыі: мець, зноў мець, і зноў мець!

Нейкі казановізм!

СУЧАСНЫ. Таму вернасць у каханні з'яўляецца ягонай смерцю. Не я гэта сказаў, не я!

ХВОРЫ. Неглыбокія вашы думкі, пане Сучасны. Ужо Леанарда казаў, што крыніцаю пазнання з'яўляюцца пачуцці.

Каханнем з'яўляецца адкрыванне ш т о р а з новага! Так.

СУЧАСНЫ. Я ў сваёй жонкі ўсё адкрыў ужо да світанку першай ночы.

ХВОРЫ. Каханне, пане Сучасны, гэта наогул сутнасць жыцця. Людзі бываюць закаханымі ў неверагодна дзіўнае, напрыклад, у рыбы або ў жукі ці каменні, у плёткі, у бяссэнс. Яны цікавяць мяне. Падазраю, што — пры некаторай начытанасці — сталіся б нядрэннымі філосафамі.

Сэнс — выдумка чалавека і закончваецца разам з ім.

СУЧАСНЫ. Няхай сабе і закончваецца — а я кахаю сэнс! Дзеля яго я гатоў паверыць вашым рацыям, пане Хворы.

ХВОРЫ. О, дзякую за гатоўнасць, але мяне не цешыць вера ў мае рацыі; было б лепш, каб вы прызналі іх правільнымі пасля ўласных разважанняў. Апрача таго, пане Сучасны, сэнсы старасвеччаюць, паяўляюцца штораз іншыя, бліскучэйшыя... Таму верыць у штосьці, гэта ўсёроўна, што ў элегантнай форме прызнаць сябе — выбачайце за вашу тэрміналогію — дурнем!

СУЧАСНЫ. Я не заслужыў такой іроніі з вашага боку!

ХВОРЫ. Не абражайцеся, пане Сучасны: шуканне сэнсу — тыповае ў тых, якія аглянуліся, што жыццё пражылі толькі для сябе і хочуць у гэтым знайсці вялікі сэнс. Таму і надта ж патрэбен сэнс тым людзям, у якіх палопаўшае сумленне. Або гібеючае. Тады сэнс замяняе...

СУЧАСНЫ (як гэта часта ў яго, а прытым і са злосцю). Ну добра, а дзе ж вашы незакаханыя?

ХВОРЫ. Незакаханымі лічу немаўлят. Яны не ведаюць аб тым, што жывуць. Нават голаду не ўсведамляюць сабе — вішчаць, бы парася ў плоце!

СУЧАСНЫ. Дагаварыліся-дапляліся вы, пане Хворы, да ручкі! Паводле вас, няма незакаханых людзей, бо ж немаўляткі толькі яшчэ будуць імі, людзьмі.

ХВОРЫ. Абыходзячы вашу зласлівую заўвагу наконт немаўлят, — вы, пане Сучасны, зрабілі адпаведныя высновы з маіх слоў: няма незакаханых. Дурань закаханы ў дурнату, гультай — у гультайстве, наіўны — у сяброўства... Між намі і на асабісты ўжытак кажучы, я надта ж баюся тых, што закахаліся ў шэфа: яны гатовы выканаць любы ягоны загад. Мала таго — яны заўсёды гатовы перавыканаць! У сувязі з тым раскажу вам анекдот, які толькі з выгляду тут не дарэчы. Паслухайце: два ураднікі праводзілі шэфа на вакзал, да цягніка. Хвалілі ягоную дурную ідэю, дашукоўваліся ў ёй ажно старажытных пачаткаў і давалі яму адрасы культурных прастытутак у горадзе, куды ён выбіраўся. Уваходзяць яны на вакзал ды чуюць, што цягнік праз хвіліну рушыць у дарогу. Паперлі трое, быццам вар'яты, на перон за ім! Дабег першы з іх і — у вагон, каб заняць начальніку добрае месца. Дабег і другі... Начальнік не дабег.
месца. Дабег і другі... Начальнік не дабег.

СУЧАСНЫ. Не дабег? Гы-гы-гы... А тыя занялі яму месца ў вагоне, гы-гы-гы...

Сучасны расказаў свае анекдоты. Пасмяяліся.

Падвялі вынікі гутарак:

1. Свет — з закаханых.
2. Дурны — гэта толькі дурнейшы.
3. Сяброўства з'яўляецца формай карысці.

## ЭПІЛОГ

З далейшых запісак Хворага вынікае, што Сучасны ўзняў пратэст супроць фармулёўкі: „Дурны — гэта толькі дурнейшы". Спрэчкі зацягнуліся да паўночы, Хворы ўступіў.

„Пункт 2. Дурны — гэта не я".

Працяг спрэчак паміж Хворым і Сучасным знайшоў я ў чацвёртым камісарыяце міліцыі, што на Выгодзе. Паказалі мне пратакол авантуры — у Сучаснага быў разбіты нос, а Хвораму ад удару кулаком выплыла вока, якое лекары ў бальніцы ўцісну-лі яму назад. Мяркуючы па гэтым — пункт другі ўсё ж канчаткова не ўзгоднены.

Падаю абедзве версіі:

„Дурны — гэта толькі дурнейшы".

І:

„Дурны — гэта не я!"

Ці Хворы з Сучасным пагадзіліся і зноў сустракаюцца, каб паразважаць — невядома. Невядомае нават і тое, дзе зараз яны?



**З НАШАГА АРХІВА**

**Перад VI з'ездам БГКТ**

**Юрка Геніуш**

# Ну і робіцца ж у нас, браткі...

**Фельетон**

Паслязаўтра з'езд БГКТ, а мне сёння кажуць, каб я з гэтай нагоды фельетон напісаў. Што вы здурэлі? — гавару. — Калі? Аб чым?" — „А што ты нас пытаеш? — мне на тое. — Сам свядомы".

„Лаві яго, героя. Замалёўвай сітуацыю. Завострывай канфлікты. Ага! Глядзі адно, каб адказных таварышаў не кранаў. Ведаеш, абразіцца могуць".

„Ну, добра, — згадзіўся. — Растлумачце, аднак, дакладней. За што я яго, гэтага героя, напрыклад, лавіць маю. За руку? Ці мо за... талію?

„Як? Лавіць? Там ужо сам разбярэшся за што. Лаві і дуй. Дуй фельетон на старонкі тры".

З тым мяне і адпусцілі. „Тааак", — камбіную. Паасобнага героя я заўсёды злавіць паспею. А калі што, дык магу і стварыць. Вядома ж, што толькі з шэрымі працаўнікамі ў БГКТ цяжкавата, а героямі дык усе быць хочуць.



Прасачу я, думаю, спачатку сувязі беларускага таварыства з насельніцтвам. Канкрэтную, як кажуць, працу з народнымі масамі. Тут пэўна і канфлікты дзе-якія аб'явяцца і дзе-што пэўна заціраць прыдзецца, каб да шырокіх масаў не дайшло.

Вырашыў. І вось я ўжо ў вёсцы Штоднёвічы. Пачатак я хацеў зрабіць востры. Як кажуць, паставіць справу рабром. І я амаль бягом кінуўся да солтыса.

Солтыс развёў рукамі. „Што праўда, то праўда, — кажа. — Тыя, што ў мяне людзі вашыя календары прыдбалі і яшчэ да сёння лаюцца, чаму не папярэдзіў, што святаў у іх няма. Хто ў гэтым вінаваты?" Солтыс пачасаў патыліцу. „На маю мужыцкую думку, — кажа, — няма тут што шукаць ахвярнага казла. Што з яго возьмеш? Малака ён не дасць. Вось будзе VI з'езд таварыства, дык няхай тлумачыцца ўся рэдкалегія".

На тым мы і развіталіся. Бягу я праз вёску да аўтобуса. Насустрач мне жанчына. „А вы, — пытаецца, — выпадкам не з Беластока на аўтарскую сустрэчу прыехалі"? „А ў чым справа?" „А бо калі так, дык пайду свайго старога ў хляве зачыню". Гледзячы на мой здзіўлены твар, цётка пачала тлумачыць: „Да нас, ведаеце, ужо аднойчы адзін вядомы паэт прыязджаў. Калі ён звярнуўся да 80-гадовай бабулькі Галаўскай: „Коцiку, вы прыгожа выглядаеце, я вас кахаю" мы яшчэ не перапалохаліся. Раз, што бабка глухая, а па-другое, вядома, гарадскі госць — гарадскія густы. Калі, аднак, нашыя мужчыны, кіруючыся модай, за ім паўтараць пачалі, і па ўсёй вёсцы пачало разлягацца „коціку" ды „коціку": „Коціку, бліноў спячы, і, коціку, кароў падаі", ды ўрэшце: „Коціку, такая твая бабушка", мы зразумелі, што гэта не жарты. О, не! Больш мужыка свайго на ніякія сустрэчы не пускаю. Бо то сёння коціка, заўтра бегемоціка, а паслязаўтра ліха ведае што да хаты прывалачэ".

„Так! — думаю ў аўтобусе. — Маеш табе „кантакты". Маеш голас народа. Калі на мяне які герой, хоць з тых меншых, не нарвецца — з фельетону будзе пшык. У Беластоку не паспеў прайсці пару крокаў, бачу: бяжыць нейкі заморaны чалавечына. Са стомы хістаецца, а за ім — знаёмы твар: Сакрат Яновіч. Ёсць герой! Я ў дагонку. Яны ў рэдакцыю. Я — туды. Яны ў друкарню. Разгубіўся ўрэшце я. Зайшоў у „Ніву" адпачыць і даведацца штоколечы. „Э-э-э-э! Сакрата, — кажуць, — сёння не зловіш. Заняты ён. Працаўнікоў друкарні ўгаварвае, каб за ягоную кніжку ўрэшце браліся. Адзін ужо ляжыць у бальніцы для нервова хворых, а трох прысягала працаваць безупынку, пакуль не кончаць. З апошнім яшчэ возіцца, але гэтага мусіць зусім даканае".

Бяда. Не вязе. Швед недзе схаваўся. Кажуць, што піша лірычную паэму пра незразумелыя адносіны паміж каханнем жанчыны і матэрыяльнымі вартасцямі, якія мае партнёр. Сакратар ГП

у беларускі музей чагосьці паехаў — свядомыя кажуць, што да цёшчы на бліны. Звярнуўся я ўрэшце да бухгалтара таварыства. Як жанчыну нават у руку цмокнуў. „О не, не. — Яна на тое. — У нас тут героямі ходзяць адно сакратар ды старшыня. А я чалавек скромны — адно што рукі ў іх кішэнях трымаю“.

Вось і маеш. Застаўся Хлябіч.

„Хлябіч, ты герой?“ — пытаю. „А ты што думаў — пэўна!“ „Вось добра, — уцешыўся я. — Калі так, дык дай мне пару аркушаў паперы і я з табою мігам зраблю інтэрв'ю“. „О, не, браток, — глянуў той на мяне. — Ты мне тут не „в'ю“, „в'ю“, не круці. Я толькі таму і герой, што грамадскага дабра абы-каму не раздаю. Іначай і з работы маглі б паперці“.

Рукі ў мяне апусціліся. Тут я ўспомніў, што ёсць яшчэ старшыня — Вінцук Склубоўскі. Бягу.

Вечар мы з ім правялі вельмі прыемна. Пару хвілін усміхаўся ён. Пару хвілін я. Пару хвілін з уздымам гаварыў я, а потым даўжэйшы час вымоўна маўчаў ён. Урэшце мы абодва хвілінку ветліва памаўчалі і, усміхаючыся, падалі сабе рукі. „Думаю, што фельетон вам удасца“, — першы раз аказаўся старшыня, і я пайшоў дахаты.

Сумуючы, мушу сцвердзіць, што: героя асвоіць я не даў рады. Канфлікт? Ён быў, аднак, толькі паміж мною і жонкаю; якая не магла мне даравацць, што позна вярнуўся дахаты. Заціраць сітуацыю таксама не выпадала, ну бо сам я тут, як бачыце, ва ўсім вінаваты.

Фельетоны — гэта, пэўна, не мой жанр.

На што я вам сябры і хацеў паскардзіцца.

**Шчыра, трапна і праўдзіва**
**піша наша родна „Ніва“**





Парады інжынера М. Сухажэбрскага

## ШТО НА АБЕД? — АДБІЎНАЯ КАТЛЕТА..

Нейкі рэпарцёр быў захоплены. Такая аказія! Будзе дасканалы здымак у газету. Экземпляры вагой у 120 ці 150 кг — гэта дробязь. Гэтага вага ў два разы большая. Гара мяса. Пстрык, пстрык — гатова! Але ў рэдакцыі яму сказалі: непрыгодна ў друк, бо — паводле прымаўкі — не ўсё тое золата, што блішчыць, і не ўсё дасканалае, што вялікае. Адкормленая жывёла выключна вялікай вагі не толькі не карыстаецца папулярнасцю, але яе гаспадароў нават дакараюць за тое, што яны не паспяваюць за сучаснасцю і марнуюць кармы.

Было нават і такое, што адна газета змясціла „рэцэпт“ на павелічэнне вытворчасці мяса. Яго аўтар ставіў пытанне: чаму аддаём на ўбой свінкі вагой у 110-120 кг, калі можна іх карміць да 150 кг або да 180 кг? Даказваў ён, што гэта — чысты даход. А на тое звычайны селянін яму адказаў: „Чытаў я ў сельскагаспадарчых часопісах, што адзін кормнік вагой у 150 кг з'ядае столькі кармоў, колькі трэба, каб выгадаваць два кормнікі па 100 кг. І да гэтага варта мець на ўвазе, што за той час, пакуль адзін кормнік набярэ 150 кг, можна выгадаваць два, якія разам будуць важыць найменш 200 кг“. Ну і дзе той даход? Няма яго ні ў мясе, ні ў грашах. Наадварот — адна страта.

Гэта надта павучальны прыклад. Нехта, каму невядома фізіялогія харчавання, памыляецца ў сваіх разважаннях. Надта памыляецца. Бо жывёлагадоўля — не матэматыка, у якой два па два — гэта заўсёды чатыры. Тут трэба мець на ўвазе і іншыя справы. Малады арганізм хутка расце і лепш выкарыстоўвае кармы. Ён дае найбольшае павелічэнне мяса, на якім нам перш за ўсё залежыць. Калі ён старыцца, абрастае ўсё большай колькасцю тлушчу. У сувязі з тым, каларыйнасць тлушчу двойчы, а нават тройчы большая, на кожны кілаграм прыросту вагі трэба патраціць больш кармоў. А цэны ў нас такія, што больш плоцяць за худое мяса, чым за тлустае. Вывад просты: хто прадае маладзейшыя кормнікі, той больш зарабляе. Гэта асноўнае правіла ў гадоўлі ўбойных свіней.

Свініна па-рознаму цэніцца ў розных кутках свету. Пагалоўе свіней перавышае 400 мільёнаў штук (1,5 млн было ў ранейшым Беластоцкім ваяводстве, 18 млн у Польшчы). Найбольш, бо амаль адна чацвёртая пагалоўя, знаходзіцца ў Еўропе (без СССР). Савецкі Саюз мае каля 35 млн штук, а тым часам краіны Акіяніі мала больш 2 мільёнаў, увесь афрыканскі кантынент — каля 3 мільёнаў штук.

Спецыялісты падкрэсліваюць, што свінням уласцівы шэраг адметных рысаў, якія адрозніваюць іх ад іншай хатняй жывёлы. Найважнейшыя сярод іх: вялікая пладавітасць і хуткі расплод, яны рана прыгодны на ўбой, вялікая выдайнасць пасля ўбою, эканомнае выкарыстоўванне розных кармоў і высокая спажывецкая вартасць. Традыцыі печанага парасяці амаль зусім загінулі. Таксама ўбой свіней вагой у 60-70 кг неапраўданы, бо такое мяса змяшчае ў сабе шмат вады і мае меншую вартасць для спажыўца. Толькі пазней кормнік пачынае хутчэй абрастаць тлушчам, у ім павялічваецца колькасць спажыўных рэчываў і змяншаецца колькасць вады. Іменна тады ідзе гаворка пра ўбойную спеласць, гэта значыць — прыгоднасць на ўбой. Прыклад: мяса парасяці вагой у 25-32 кг мае 64 працэнты вады, мяса кормніка вагой у 124 кг — усяго толькі 45 прац. вады.

Калісьці свіней гадавалі па 2-3 гады, і толькі тады яны былі прыгодны на ўбой. Цяпер у нас якасныя пароды свіней, якія дарастаюць да ўбойнай спеласці ва ўзросце 5-6 месяцаў. Вось што прынеслі вынікі гадоўлі! Яшчэ важнейшым з'яўляецца колькасць патрэбных кармоў на кілаграм прыросту вагі. Прымітыўныя пароды патрабавалі надта многа кармоў (кармы ішлі ў асноўным на г.зв. жыццёвыя патрэбы). Цяпер кормнік вагой у 80 кг патрабуе на кілаграм прыросту ад 2,6 да 3,5 кармавых адзінак, на 20 кг цяжэйшы — да 3,8 адзінкі, вагой у 150 кг — да 4,3 адзінкі, а яшчэ цяжэйшы — нават да 10,5 кармавой адзінкі. Вось і ўсё вытлумачэнне да дыскусіі, у якім узросце даваць кормнікаў на ўбой. Вядома: тады, калі яны яшчэ з'ядаюць мала кармоў, але маюць ужо ўбойную спеласць, гэта значыць даюць нам мяса самай высокай якасці.

Калі мы ўжо выяснілі асноўныя правілы жывёлагадоўлі, дык варта затрымацца на тым, як карміць гэтую жывёлу, каб па магчымасці найменш патраціць і атрымаць самыя высокія даходы. Здараецца, што адказ на гэта бывае надта памылковы. Раяць звычайна: „Не трэба асабліва клапаціцца пра свіней, даваць ім столькі, каб толькі жылі, і абы-што, бо дагаджаць зусім не аплочваецца“. У такім поглядзе шмат няяснасцей. Трэба вытлумачыць, што паняцце „ашчаднае гаспадаранне кармамі“ зусім не абазначае марыць жывёлу голадам. Яна павінна атрымоўваць столькі, колькі на самай справе патрабуе для свайго жыцця і прыросту вагі (корм жыццёвы і вытворчы). Калі мы даем менш, самі трацім, бо жывёла паволі расце і не дае тавару высокай якасці. Калі ж скормліваем замнога, тады частка кармоў знішчаецца, іх значная колькасць ператвараецца ў тлушч, і жывёлы ў маладым узросце маюць мяса надта тлустае, значыць, ніжэй цэненае на рынку. Можам шмат сэканоміць, даючы танныя кармы з уласнай гаспадаркі. Колішні спосаб адкормкі „бульба-збожжа“ цяпер неапраўданы. Вядомы нам многія кармы, якія можам прымяняць

з поспехам для адкормкі свіней і мець зусім не горшыя вынікі.

Маем на ўвазе бульбу і прадукты з яе, напрыклад, камякі (платкі), буракі кармавыя, цукровыя і паўцукровыя, моркву кармавую і чырвоную, а таксама іншыя прапашныя, і, зразумела, *канцэнтраваныя кармы, найлепш у форме мяшанак* (у тым ліку таксама з бабовых раслін: гароху, бобіку, кармавога лубіну), розныя адходы з гаспадаркі і пабочныя прадукты з прадпрыемстваў сельскагаспадарча-спажывецкай прамысловасці, розную жывёльную муку, а часта таксама жалуды. У нашых умовах бадай што найбольшую ашчаднасць можа прынесці прымяненне зялёнага корму і сена (найлепш мяшаць іх разам з бульбай перад закваскай).

Правіла тут простае: свінні ахвотна ядуць рознага роду зялёны корм (у тым ліку і пустазелле), калі ён малады і не здзеравянеўшы. Безумоўна, найбольшую вартасць маюць бабовыя расліны, асабліва маладая люцэрна. Добрыя таксама канюшына, лубін, сырадэля. Яны змяшчаюць у сабе многа бялкоў, мінеральных соляў і вітамінаў, і апрача гэтага надта пажаданы ў якасці дыетычнага дадатку. І што надта важна: павялічваючы колькасць зялёных кармоў, выразна змяншаем кошт вытворчасці. Такім чынам можна сэканоміць значную колькасць збожжа і мяшанак канцэнтраваных кармоў, якія — пра гэта ведаюць усе сяляне — самыя дарагія.

Напісаў я ўжо, што зялёны корм найлепш квасіць з паранай бульбай. Так, гэта праўда. Аднак бяда ў тым, што большасць сялян Беласточчыны не робіць квашанак з бульбы. Што ж тады рабіць у такой гаспадарцы? З усяго ёсць выхад. Свінням можна даваць... сена. Зразумела, не ўсялякае сена, якое маем. Да гэтага непрыгодна сена з раслін, сабраных на кіслых лугах, рознага роду разуха, яны цвёрдыя і маюць цяжкія для страўвання рэчывы. Яшчэ жвачныя жывёлы іх сяк-так выкарыстоўваюць, але свінні не валодаюць такімі магчымасцямі. Можна даваць выключна сена з вельмі маладых раслін, асабліва бабовых.

У чым заключаецца вартасць сена ў кармленні свіней? У тым, што яно таннае і багатае некаторымі спажыўнымі элементамі, якіх малавата ў бульбе (ці ў іншых прапашных), і нават у збожжы яны выступаюць у недастатковай колькасці. Перш за ўсё мова ідзе пра бялкі, вітаміны, мінеральныя солі, асабліва кальцый (вапна). У кілаграме збожжа ёсць ад 0,5 да 1,5 грама кальцыю, а ў сене з люцэрны нават у 10 разоў болей. Вядома, у сене знаходзіцца таксама шмат элементаў, цяжкіх для страўвання. Аднак нават і яны пажаданы, калі даём больш прапашных, сакавітых, змяшчаючых многа вады. Кожная жывёліна патрабуе дзеля нармальнага функцыянавання страўніка некаторую колькасць г.зв. баласту або інакш рэчываў, якія напаўняюць страўнік і кішкі і не страўюцца, аднак садзейнічаюць лепшаму выкарыстоўванню іншых кармоў.

Якое значэнне мае дадатак зялёных кармоў і сена з бабовых, відаць на такім цікавым прыкладзе. Свінаматка, якая дае ў *адзін апарос 10-12 парасят, патрабуе каля 340 грамаў кальцыю.* Каб сабраць такую колькасць у часе цяжарнасці, яна павінна атрымоўваць штодзённа, напрыклад, 40 кг кукурузы, найменш 12 кг ячменю або 9 кг жыта. У той жа час дзённая порцыя збожжа складае не болей 3-3,5 кг збожжа. Таму няцяжка здагадацца, якія будуць вынікі, калі свінаматка не атрымае патрэбнай колькасці кальцыю. Вынікі гэтага відаць у многіх гаспадарках: гэта невялікі прыплод, вялікая смяротнасць парасят, рахіт, схільнасць да іншых хваробаў. Каб пазбегчы гэтага, даволі штодзённа даваць паўкілаграма сена з бабовых, найлепш з люцэрны.

Якое ўсё гэтае простае, праўда? Ну так, хто разбіраецца ў гадоўлі, той заўсёды ведае, як паступаць. А хто яшчэ не ведае, няхай карыстаецца нашымі парадамі або пойдзе да добрага суседа. Варта. Гэта ж справа поспеху ў працы, задавальнення, даходаў. Калі ўжо нешта рабіць, дык рабіць, як належыцца. Гэта спрадвечная *праўда, якая ніколі не старыцца.*



## ЗЯЛЁНАЕ БАГАЦЦЕ

Часта кажам: наша зялёнае багацце. І не беспадстаўна. Лугі і пашы займаюць у нашым ваяводстве амаль адну трэцюю плошчы. Даюць яны нам самы танны корм. Ствараюць умовы для развіцця жывёлагадоўлі. Спрыяюць інтэнсіфікацыі вытворчасці, на якую цяпер найбольшы спрос. І на самай справе — багацце.

Аднак у сельскай гаспадарцы не ўсё такое простае. Вось, расце сабе трава, даволі выйсці з касою — будзе ўдосталь кармоў, лёгка зго́рнем мы грошы. Луг лугу няроўны. Паша можа быць такая, што на гектары хопіць корму чатыром каровам, або і такая, што і адна кароўка будзе ўвесь час галодная. Усё залежыць ад таго, ці паша меліяравана, ці растуць на ён культурныя гатункі траваў, ці даглядаем мы яе і ўгнойваем, у якім часе мы выкарыстоўваем яе і колькі разоў на працягу сезона. Або інакш: вырашае чалавек, яго ўменні і ахвота.

На ўсім свеце ёсць 3 мільярды гектараў зялёных угоддзяў, з іх больш 40 працэнтаў прыносіць мізэрную карысць. На гэтак званую вялікую штуку быдла прыходзіцца ў сярэднім 2,29 гектара (у Еўропе — 0,83 га). Гэта ж вялікая плошча, на якой можна зда-

бываць танныя кармы і прадукаваць, невысокім коштам, мяса, малако, воўну. Можна, але, як вынікае са статыстычных дадзеных, поўнасцю не выкарыстоўваюцца ўсе магчымасці, не кажучы ўжо пра гаспадарку на вельмі высокім узроўні.

Не так даўно лічылі, што 40 або 50 цэнтнераў сена з гектара — гэта дасканалы вынік. Цяпер жа накошваюць па 80-100 цэнтнераў (вядома, дзякуючы рацыянальнаму гаспадаранню). Пры арашэнні лугоў прамысловымі сцёкамі (напрыклад, Купіскі каля Ломжы) выдайнасць даходзіць да 120-160 цэнтнераў, а сусветныя рэкорды (і такія запісваюцца і ў гэтай галіне) складаюць 180 цэнтнераў з гектара. Лёгка палічыць, што калі б усе сяляне на свеце дабіліся хаця б 80 цэнтнераў сена з гектара, мы маглі б гадаваць у некалькі разоў больш жывёлы.

Усе гэтыя прыклады цікавыя і важныя. Але, як гэта звычайна бывае, цікавіць нас у асноўным уласны панадворак. На Беласточчыне ёсць шмат лугоў і пашаў. Значныя плошчы іх меліраваны, напрыклад, у ранейшых Гайнаўскім, Бельскім, Сямяціцкім, Дуброўскім паветах. У многіх мясцовасцях сяляне чакаюць меліярацыі, якая з'яўляецца пачаткам рацыянальнай гаспадаркі. Чым больш інвесціруем, тым больш павялічваюцца нашыя магчымасці і, адначасова, патрабаванні. У каго кіслыя лугі, той нічога не зможа. У каго ўгоддзі меліяраваны і загаспадараны, мусіць весці гаспадарку на высокім узроўні.

Варта задумацца над тым, што абазначае „сучасная гаспадарка"? Якія яе прынцыпы? Што трэба зрабіць у першую чаргу, каб выкарыстаць магчымасці? Меркай узроўню гаспадарання з'яўляецца ўраджай. Аднак не адно гэта. Можна сабраць шмат сена, але нізкай вартасці (часам нямногім лепшага ад саломы). Важным з'яўляецца сума кармавых элементаў, якія змяшчае корм, перш за ўсё — бялкі. Аб вартасці корму можна пераканацца ўжо па яго выглядзе і паху, потым — па выдайнасці жывёлы. Найлепш аднак правесці аналіз у Ваяводскай хімічна-сельскагаспадарчай станцыі ў Беластоку. Тады найлепш пераканаемся, якая ёсць розніца паміж сенам, сабраным у адпаведным часе з загаспадараных і належна ўгноеных лугоў, і кормам з разухі і іншых відаў раслін, якія маюць малую спажыўную вартасць.

Давайце глянем на графік, што паказвае на колькасць бялкоў у сене з траваў, скошаных у розныя тэрміны. З вельмі маладой травы атрымоўваем больш 110 грамаў бялкоў у кілаграме корму, з лугавой травы перад цвіценнем — 88 грамаў, з травы ў кветках — 58 грамаў, з перацвітаючай травы — 50 грамаў у кілаграме сена. Калі сенакос адбываўся пры дрэнным надвор'і, дык колькасць бялкоў у сене можа быць два разы меншая. Гэта адносіцца і да аўсяных адзінак. З гэтага робім просты вывад: лепш сабраць цэнтнер сена высокай якасці, чым нават два цэнтнеры вельмі слабой якасці.

У гэтым выпадку мы мелі на ўвазе толькі тэрмін сенакосу і надвор'е. Зразумела, што гэта фактары важныя, але не апошнія пры нарыхтоўцы сена. Прыказка кажа, што з парожняга і Саламон не нальле. Нельга разлічваць на высокі збор, калі не правядзем усіх работ па дагляду і перш за ўсё не дамо высокага ўгнаення. У нашым ваяводстве ідзе гаворка аб порцыі ў межах 270 кг NPK на гектар. Гэта не так мала, але і не многа. Нашыя найлепшыя гаспадары прымяняюць на зялёных угоддзях больш 300 кг аднаго азоту, а ў час доследаў, што праводзіліся ў некаторых краінах, высявалі больш 1 тысячы кг азоту на гектар.

Спецыялісты пішуць, што лугавыя расліны надта добра выкарыстоўваюць угнаенні і адклікаюцца на іх высокім павелічэннем збору. Галандскія доследы паказваюць, што найменшая порцыя чыстага азоту складае 200 кг. Калі пашу выкарыстоўваем некалькі разоў у час сезону, дык аплочваецца прымяніць 300 кг, падзеленыя на некалькі частак. Некаторыя навуковыя паведамленні гавораць пра тое, што прымяненне 600-700 кг азоту на гектар немэтазгодна, а часта нават нявыгадна ўздзейнічае на разнастайнасць раслін на лузе і колькасць азоту ў траве. Для нас гэта толькі тэхналагічная цікаўнасць, бо ніхто не прымяняе такога ўгнаення, а найменшыя порцыі, якія рэкамендуюцца на гэты год — 100 кг чыстага азоту на гектар. Больш-менш два разы столькі прымяняем разам калію (потасу) і фосфару.

Угнаенне — гэта не толькі справа колькасці і якасці траваў. Важным элементам з'яўляецца таксама паскораны рост раслін, асабліва вясною і пасля першага і другога пакосу (ці пасля выпасу адной часткі пры кватэрным выкарыстанні пашы). Чым хутчэй будуць развівацца расліны вясною, тым раней можам прыступіць да іх касьбы. Чым раней будзе першы пакос, тым пэўнейшая верагоднасць, што будзе тры пакосы. А ў гэтым вялікая карысць!

І тут зноў вяртаемся да тэрмінаў касьбы. Даволі часта сяляне ва ўсходняй частцы Беласточчыны прыступаюць да сенакосу ў чэрвені, калі травы ўжо перацвітаюць. Іх меркаванне такое: „Калі пачакаем два-тры тыдні, збяром больш сена. У гэтым часе травы гаспеюць, і будзе большая карысць". Гэта няпраўда. Колькасць будзе крыху боль-

шая, але якасць несумненна горшая, ды апрача гэтага тады не можа быць і мовы аб трох пакосах сена. Значыць, страта, вялікая страта.

Неабходна яшчэ звярнуць увагу на дрэнныя звычкі беластоцкіх сялян. Рашучая большасць іх сушыць траву на пракосах, а гэта ж прычына найбольшых страт кармавых элементаў. Замала выкарыстоўваем разнастайныя абсталяванні — танныя, простыя і надта патрэбныя. Апрача гэтага сушка зусім не з'яўляецца самым лепшым спосабам кансервавання. Значна большую карысць прыносіць квашанне. Тым часам у нашым ваяводстве на квашанне ідзе ўсяго толькі некалькі працэнтаў траваў. Вынік з гэтага такі, што пры неспрыяльным надвор'і частка траваў псуецца. У некаторых гаспадарках выступае збытак сена і вялікі недахоп сакавітых кармоў. З-за гэтага трацім значна болей бялкоў, вітамінаў, мінеральных соляў. Усё гэта дрэнна ўздзейнічае на наш кармавы баланс, а значыць, і на выніку жывёлагадоўлі.

Пазней шукаем ратунку, скормліваючы вялікія колькасці іншых раслін (у асноўным збожжа і канцэнтратаў). Такім чынам расходуем празмерную колькасць надта дарагіх кармоў (часта імпартных), а гэта ўздзейнічае на кошт вытворчасці і яе рэнтабельнасць. Выраблядь многа — гэта яшчэ не заслуга. Значна важнейшай справай з'яўляецца выраблядь танна, коштам як мага меншага расходавання кармоў, а пры гэтым кармы павінны быць свае ўласныя. Такія правілы былі заўсёды, але цяпер яны асабліва важныя.

Беластоцкія сяляне могуць значна павялічыць жывёлагадоўлю і рашуча палепшыць гаспадарку кармамі. У гэтай праграме на першым месцы стаіць рацыянальнае гаспадаранне на зялёных угоддзях. І гэта праўда.

— ● —

## ГРЭЧКА БЕЛАЯ, ЯК СНЕГ

Здаецца мне, што да найбольш пагарджаных раслін належыць грэчка. Калісьці яе надта цанілі, вырошчвалі, дзе толькі дасца, ого, нават у паэзіі славілі. Памятаем жа, памятаем радкі пра грэчку белую, як снег... І зараз жа прызнаемся, што каша, нічога, смачная, і што біфштэкс смакавіты якраз з ёю, а не з бульбаю. Значыць, мае яна шмат любіцеляў, але значна менш знаходзіцца тых, хто хоча яе вырошчваць. А яна ж заслугоўвае нашай увагі, хоць бы па той прычыне, што мае надта малыя вымаганні і ўдаецца на такіх глебах, якіх на Беласточчыне мы маем найболей.



Грэчка, заўважце, належыць да раслін з сям'і рдзеставых, а сяляне адносяць яе да збожжавых. Гэта таму, што яе вырошчванне падобна да жыта, аўса ці ячменю. У нашыя часы грэчку пераважна сеюць славянскія, фінскія і мангольскія народы, мае яна таксама сваіх шматлікіх прыхільнікаў у Францыі, Злучаных Штатах Амерыкі, Канадзе і іншых краінах. Дае ад некалькіх да больш 30 цэнтнераў зерня з гектара (у Беластоцкім ваяводстве — каля 7-9 ц/га). Зярняты грэчкі змяшчаюць у сабе да 12 працэнтаў бялкоў, 2,6 прац. тлушчу, многа вітаміну $B_1$ і значную колькасць іншых каштоўных рэчываў. Большасць яе пасеваў прызначаецца на кашу, г.з. крупу, але ёсць таксама магчымасць вырошчваць яе на корм жывёле і зялёнае ўгнаенне (для прыворвання). Вялікую карысць з гэтай расліны маюць пчаляры. Не так даўно ў яе лісцях і сцяблах вучоныя адкрылі спалучэнне, г.зв. рутын, які ўжываецца ў фармакалогіі як лякарства, пашыраючае крывяносныя сасуды.

Беластоцкім сялянам будзе цікава пазнаёміцца са спосабамі вырошчвання грэчкі і яе вымаганнямі. Яна добра ўдаецца на лёгкіх глебах, нават такіх, што маюць высокі паказчык кіслотнасці. А такога поля ў Беластоцкім ваяводстве хоць адбаўляй. Апрача гэтага ў грэчкі такія карэнні, што яна чэрпае спажыўныя рэчывы са значна большай глыбіні, чым іншыя расліны. Таму глеба не мусіць быць ураджайная, а мінеральнае ўгнаенне можа быць невялікае. Даволі часта яе сеюць праз некалькі год пасля прымянення натуральнага гною. У такім выпадку неабходна даць на гектар каля 120 кг суперфасфату, 50 кг 40-працэнтнай калійнай (патасовай) солі і 75 кг салетраку або азатняку. Іншыя патрэбныя рэчывы грэчка знойдзе ў натуральных запасах у глебе. Высяваем яе ад 60 да 100 кг насення на гектар, праўда, гэта залежыць ад густаты і прамежнасцей паміж радамі.

Калі ласка, якая цудоўная расліна! Пакажыце мне іншую такую, што мала патрабуе, а многа дае. А ўраджай — гэта не толькі корм для жывёлы, але і зерне, з якога выраблядь цэненую ў гастраноміі крупу. Справа ў тым, што дагэтуль мы больш гаворым пра яду, чым пра вырошчванне. Шмат у гэтым непаслядоўнасці, бо калі мала папулярызуем гэтую расліну, не можам разлічваць на тое, што яе будзе ўдосталь.

З іншых асаблівасцей вырошчвання грэчкі неабходна яшчэ назваць такія: яна надта ўражлівая на замаразкі (таму сеяць яе трэба, калі не пагражаюць замаразкі), не любіць засухі, а таксама працяглых дажджоў, значыць, поспех у вырошчванні яе залежыць у значнай ступені ад пагоды. Гэта адмоўная рыса, асабліва ў нашых умовах, бо ў нас здараюцца даволі позняя замаразкі, а надвор'е наогул не надта ласкавае. Уздзеянне гэтых фактараў можна было б абмежаваць, сеючы грэчку на палях, дзе пракла-

дзен дрэнаж і колькасць вільгаці рэгулюецца аўтаматычна. Але гэта ў асноўным найлепшыя землі, і сяляне неахвотна сеюць на іх грэчку. Аднак ёсць і адзін станоўчы бок: грэчка — гэта расліна з кароткім часам росту і даспявання (у цяплейшых краінах яе сеюць пасля зжатага рапаку або нават збожжа, але на Беласточчыне такі спосаб вырошчвання немагчымы). І яшчэ адно: гэтая расліна надта шчыльна закрывае зямлю, не дазваляючы расці рознаму пустазеллю (заглушвае нават пырнік). Таму пакідае пасля сябе поле чыстае, прыгоднае — зразумела, пасля адпаведнага ўгнаення — пад вырошчванне раслін, якія нават надта баяцца пустазелля.

Некалькі слоў пра збор. Можна брацца за грэцкае жніво, калі на вярхах раслін насенне ўжо шэрае або карычневае. Большасць сялян мяркуе, што жаць трэба раніцай, з расою. Два дні грэчку сушаць на жменях, а потым вяжуць і ставяць у шэрагі. Калі ў час жніва часта падае дождж, малоцім грэчку нявысушаную, а потым сушым зерне на посцілках. Ну і прадаём наш тавар, на які заўсёды ёсць спрос, бо людзі любяць сабе датаджаць, а грэцкая каша — зразумела, з біфштэксам — дасканалая страва. Любім яе амаль усе, і аж дзіва, што так мала гаворым аб ёй і яшчэ менш пішам. Няўжо яна знікае з нашага меню, як славутая некалі сачавіца?

Спадзяёмся, што гэтак не будзе. Дзяржаўнае збожжавае прадпрыемстве (ПЗЗ) у Беластоку вядзе ж кантрактацыю. Кожны год падпісвае пагадненні з сялянамі на 7 тысяч гектараў. Вырошчванне гэтай расліны засяроджваецца ў ранейшых Сакольскім, Ломжынскім, Кольненскім і Дуброўскім паветах. Асабліва вялікія плошчы поля з гэтай раслінай можна сустрэць у ваколіцах Крынкаў, Міхалова і Гарадка. Сяляне задаволены ёю: калі высокі ўраджай, можна атрымаць добрыя грошы. Але кола прыхільнікаў гэтай кантрактацыі змяншаецца, і гэта цяжка вытлумачыць якімі-небудзь зразумелымі прычынамі. Проста грэчка выходзіць з моды. Шкада, бо ў выніку гэтага разнастайнасць нашага харчавання бяднее, а мы хочам яго пашыраць і ўзбагачаць. Грэчка ў нас вядома ўжо некалькі стагоддзяў, і добра было б, калі б карысталася яна папулярнасцю, як і раней.

Грэчка паходзіць з Сярэдняй Азіі. У краіны Еўропы прывезлі яе мангольскія плямёны. Першабытныя і дзікія яе віды захаваліся толькі ў ваколіцах Сахаліна. У іншых раёнах свету вядомы толькі акультураныя яе віды. На жаль, вучоныя асабліва не цікавяцца грэчкай. Доказам гэтага з'яўляецца факт, што яе гатункі можна палічыць на пальцах адной рукі (збожжавых раслін цяпер ёсць сотні гатункаў і штогод паяўляюцца новыя). У падручніках, якімі карыстаюцца вышэйшыя сельскагаспадарчыя школы, можна знайсці надта мізэрныя звесткі пра прымяненне грэчкі



ў дыеце для здаровых і хворых людзей. Больш месца займае там яе ўздзеянне на жывёлу, што мае белую поўсць (пад уздзеяннем сонечных праменняў яна выклікае ў іх хваробы). Зразумела, што гэта дробязь, але што рабіць, калі людзі любяць цікаўнасці. Каб толькі не дайшло да таго, што грэцкія крупы стануць ласункам, які будуць прадаваць толькі ў „Дэлікатэсах" і падаваць у самых дарагіх рэстаранах. І гэта цалкам магчыма, калі будзем і далей абыякава адносіцца да гэтай расліны, такой цікавай і карыснай.



## НЕ ХЛЕБАМ АДЗІНЫМ...

Часта паўтараецца прыказка, што не хлебам адзіным чалавек жыве. Правільна. Патрабаванняў ёсць многа. Гэта адносіцца таксама і да харчавання. Яно можа быць багатае, улічваць многа мяса і мясных вырабаў, тлустае інакш кажучы, сытнае і высокакаларыйнае. Аднак ніхто не скажа, што яно з'яўляецца рацыянальным, здаровым, адпавядаючым указанням урачоў-дыятэтыкаў. А чаго ж, як правіла, не хапае ў нашым меню? Часцей за ўсё — гародніны і фруктаў. Калі яны нават і ёсць, дык у малой колькасці. Іх асартымент усё яшчэ невялікі, нягледзячы на тое, што можам вырошчваць каля 50 відаў агародных раслін. У нас жа ўсё пануюць капуста, буракі і морква, якія былі вядомы яшчэ ў старажытныя часы. Шматлікія дакументы гавораць аб тым, што некалькі тысяч гадоў таму назад вырошчвалі, напрыклад, боб, часнок, агуркі, радыску, укроп і іншую гародніну, а сярод іх і такія, што цяпер... мала вядомы.

Вучоных надта здзіўляе і цікавіць пытанне: адкуль трапілі ў Польшчу гародніна і фрукты? Частка таямніц ужо падрабязна раскрыта. І так мы ведаем, што агуркі былі прывезены к нам з Візантыі. У XV стагоддзі ўжо паўсюдна вырошчвалі капусту, цыбулю, моркву, рэдзьку, сачавіцу, ярмуж, дыню, пастарнак, боб. У наступным стагоддзі пачалі садзіць: сельдэрэй (селеры), парэй (поры), кальрабі (калярэпу), цвятную капусту і іншую гародніну. Некаторыя віды гэтай гародніны зусім прапалі, і нават невядома, па якой прычыне. Іншыя вырошчваюцца, але няма іх у большасці агародаў, што садзяць нашыя гаспадыні ў вёсцы. Шкада, бо гэтыя расліны каштоўныя, дазваляюць уводзіць большую разнастайнасць у меню, іх лёгка вырошчваць, збіраць і захоўваць. Увесь час пра іх гаво-

рым, але ўсё яшчэ іх надта-надта мала.

А хто сёння вырошчвае, напрыклад, бракулы, скаранеру, сальсефію ці андзікву? Глядзім на іх, як на агароднінпае дзіва. Часам нешта такое пасадзім на пробу і зараз жа вяртаемся да... капусты.

У праграме, прынятай на сесіі ВРН у Беластоку, гаворыцца пра неабходнасць павелічэння спажывання гародніны з 100 да 120 кг на чалавека ў год, а фруктаў з 44 да 60 кг. На першы погляд гэта ўжо і не так многа, але калі возьмем пад увагу, што справа ідзе аб 5-годцы, дык і не мала. Жыхары гарадоў будуць купляць гародніну і садавіну ў дзяржаўных крамах, аднак на вёсцы большасць людзей вырошчвае гародніну і фрукты сама. Пераважна гэта даўным-даўно вядомыя гатункі, а садавіна — перш за ўсё яблыкі. Надта ж бедны выбар іх, нягледзячы на тое, што агароднінныя кааператывы прапануюць насенне шматлікіх новых відаў раслін, а дакладней — раслін вядомых, але ў нас мала папулярных. Варта спрабаваць, а ну ж прыдуць да спадобы...

Гародніна належыць да групы прадуктаў з вялікай колькасцю вады (як правіла, больш 90 працэнтаў), шмат у ёй крухмалу, мала бялкоў (за выключэннем бобавых) і тлушчу. Важна, што ў ёй знаходзяцца мінеральныя солі, вітаміны, эфірныя маслы і іншыя спалучэнні. Каларыйнасць яе невялікая, пра гэта наглядна сведчыць тое, што калі б чалавек захацеў задаволіць сваё дзённае запатрабаванне *на калорыі*, дык мусіў бы з'есці аж 16 кг агуркоў. Але справа тут не ў энергіі, а ў такіх спалучэннях і ўласцівасцях гародніны, якія папаўняюць нашую дыету, пабуджаюць апетыт, прадухіляюць некаторыя захворванні, дапамагаюць у страваванні і засвойванні ежы, карысна ўздзейнічаюць на працу ўсіх органаў стрававання. Некаторыя віды гародніны змяшчаюць у сабе, напрыклад, шмат жалеза, і іх надта рэкамендуюць лекары як у пэўнай меры лякарства супраць малакроўя (анеміі).

Пра многія гэтыя справы часта пішуць. Людзі прытакваюць і заказваюць адбіўную катлету з... капустай. У большасці дамоў на Беласточчыне ўвесь запас на зіму — гэта бочка квашанай капусты. Праўда, нават смачнай і здаровай, але ў канцы канцоў нават найсмачнейшае абрыдне чалавеку. Неабходна ўводзіць большую разнастайнасць у харчаванні, а ў вёсцы гэта магчыма перш за ўсё дзякуючы павелічэнню відаў вырошчваемай гародніны.

Кожнай гаспадарцы неабходны парнікі (інспекты). Можна іх абсталёўваць таксама для некалькіх або нават некалькіх дзесяткаў гаспадарак. Тады вырасцім танней



расаду і будзем спецыялізавацца ў гэтай вытворчасці. У большых мясцовасцях прыдаліся б невялікія цяпліцы (шклярні), асабліва там, дзе пашыраецца турызм. Спрос на гародніну ўсюды вялікі. Што ж, не хлебам адзіным...

Парнікі — гэта скрынкі без дна ды зашклёныя рамкі. Абаграваем іх сонечнымі праменнямі, біялагічна (цяпло ідзе з разлажэння арганічнай масы) або тэрмічна (коштам гарачай вады, пары, электрычнасці). Выбіраем месца роўнае, не балоцістае, захіленае ад ветроў. Паблізу складваем гной і чакаем, пакуль ён разагрэецца. Потым складваем яго ў парніках (з такім разлікам: пад адно акно 6-7 цэнтнераў гною). Зямля, якой будзем засыпаць гной, павінна быць самай высокай якасці. Насенне сеем на глыбіню 0,5 да 1,5 сантыметра ў радкі з адлегласцю паміж імі пераважна 5-8 см. Калі насенне прарасце, парнікі прыкрываем матамі, а ўжо калі раслінкі падрастуць, знімаем маты на дзень. Маладыя расліны, калі яны былі пасеяны надта густа, трэба перасадзіць. Такім чынам павялічваем час вырошчвання і можам разлічваць на высокія ўраджаі.

У сувязі з тым, што на першым месцы ў нас знаходзіцца капуста, варта напісаць аб ёй. Патрабуе яна добрай глебы, але нядрэнна ўдаецца і на лёгкай зямлі пры ўмове, што забяспечым яе адпаведнай колькасцю вільгаці і ўгнаенняў. На гектар прымяняем ад 300 да 500 цэнтнераў гною, а таксама 300-400 кг салетры, ад 200 да 400 кг калійнай (паташовай) 40-працэнтнай солі і 200-300 кг суперфасфату. Толькі тады можам спадзявацца высокага ўраджаю, а значыць, і вялікіх даходаў. Ранняя капуста дае да 300 цэнтнераў з гектара, сярэдняранняя — да 500 ц., а позняя — нават 600 ц. Продаж маем гарантаваны: мы ж усе з'яўляемся любіцелямі гэтай расліны, і капуста амаль штодня ў нас на стале.

Тым часам старажытныя рымляне... Так, так, яны вырошчвалі дзесяткі відаў гародніны. Не менш іх было і ў старажытнай Грэцыі. Кажуць нават, што некаторыя віды цэняцца людзьмі ўжо некалькі тысяч год з гакам. Аж не верыцца, што такі сельдэрэй ці парэй елі нашыя продкі некалькі дзесяткаў стагоддзяў таму назад, а мы глядзім на гэтую гародніну, як на навінку. Раней надта любілі сачавіцу і пастарнак, а цяпер іх мы і не ведаем. З нашых палёў знікаюць проса і грэчка. А калі так пойдзе далей, дык будзем сеяць адно пшаніцу, кукурузу, ды яшчэ сёе-тое. А вядома ж, што нават найлепшыя рэчы не задаволяць спажыўца, калі іх будуць даваць штодня. Справа не толькі ў капусце і адбіўной катлеце з бульбаю, але ў разнастайным букеце з гародніны. Нашым

гаспадыням варта падказаць, што калі хочуць захаваць стройную фігуру і добрае здароўе, няхай больш ядуць гародніны, а меней іншых прадуктаў (у якіх многа вугляводаў і тлушчу). Але, каб яе есці, трэба яе мець і найлепш — з уласнага агароду. Таму заахвочваем да пакупкі (амаль за дробны грош) насення розных відаў гародніны. Калі ўжо не 50 відаў, дык хоць бы 15 ці нават 10. Гэта таксама многа. Нашыя харчы стануць больш разнастайныя. А гэта надта важнае патрабаванне рацыянальнага харчавання. Помнім: здароўе — гэта справа найважнейшая.

**інж. М. Сухажэбрскі**

## РАСПЛОД ЖЫВЁЛЫ І ХАТНЯЙ ПТУШКІ

### ПАКРЫВАННЕ САМАК

| Жывёла | Найбольш адпаведны ўзрост пакрывання | У які час найвыгадней |
|---|---|---|
| Кабыла | 3—4 гады | 15 лютага — 15 красавіка |
| Карова | 20—22 месяцы | у 3 месяцы пасля цялення |
| Свіння | 7—10 месяцаў | у кастрычніку, лістападзе снежні, красавіку і маі |
| Авечка | 16—18 месяцаў | 15 чэрвеня — 20 жніўня або 15 верасня — 15 лістапада |
| Сярэбраны ліс | 9—10 месяцаў | 15 студзеня — 1 красавіка |
| Норка | каля 10 месяцаў | 15 лютага — 1 красавіка |
| Нутрыя | каля 6 месяцаў | 1 снежня — 31 студзеня або 1 чэрвеня — 31 ліпеня |

## ЧАС ЦЯЖАРНАСЦІ

| Жывёла | Час цяжарнасці |
|---|---|
| Кабыла | Каля 340 дзён (11 месяцаў) |
| Карова | Каля 285 дзён (9 месяцаў і 10 дзён) |
| Свіння | Каля 116 дзён (3 месяцы, 3 тыдні і 3 дні) |
| Авечка | Каля 150 дзён (5 месяцаў) |
| Сярэбраны ліс | Каля 51-53 дзён |
| Норка | Каля 47-50 або 36-85 дзён |
| Нутрыя | Каля 130-132 дзён (4 з палавінай месяцаў) |
| Кролік | Каля 30 дзён (адзін месяц) |



## КАЛЯНДАР ЦЯЖАРНАСЦІ

| Пачатак цяжарнасці | Народзіць каля | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Карова | Кабыла | Свіння | Авечка |
| 1 студзеня | 12 кастрычн. | 6 снежня | 30 красавіка | 3 чэрвеня |
| 11 студзеня | 22 кастрычн. | 16 снежня | 10 мая | 13 чэрвеня |
| 21 студзеня | 1 лістапада | 26 снежня | 20 мая | 23 чэрвеня |
| 31 студзеня | 11 лістапада | 5 студзеня | 30 мая | 3 ліпеня |
| 10 лютага | 21 лістапада | 15 студзеня | 9 чэрвеня | 13 ліпеня |
| 20 лютага | 1 снежня | 25 студзеня | 19 чэрвеня | 23 ліпеня |
| 2 сакавіка | 11 снежня | 4 лютага | 29 чэрвеня | 2 жніўня |
| 12 сакавіка | 21 снежня | 14 лютага | 9 ліпеня | 12 жніўня |
| 22 сакавіка | 31 снежня | 24 лютага | 19 ліпеня | 22 жніўня |
| 1 красавіка | 10 студзеня | 6 сакавіка | 29 ліпеня | 1 верасня |
| 11 красавіка | 20 студзеня | 16 сакавіка | 8 жніўня | 11 верасня |
| 21 красавіка | 30 студзеня | 26 сакавіка | 18 жніўня | 21 верасня |
| 1 мая | 9 лютага | 5 красавіка | 28 жніўня | 1 кастрычн. |
| 11 мая | 19 лютага | 15 красавіка | 7 верасня | 11 кастрычн. |
| 21 мая | 1 сакавіка | 25 красавіка | 17 верасня | 21 кастрычн. |
| 31 мая | 11 сакавіка | 5 мая | 27 верасня | 31 кастрычн. |
| 10 чэрвеня | 21 сакавіка | 15 мая | 7 кастрычн. | 10 лістапада |
| 20 чэрвеня | 31 сакавіка | 25 мая | 17 кастрычн. | 20 лістапада |
| 30 чэрвеня | 10 красавіка | 4 чэрвеня | 27 кастрычн. | 30 лістапада |
| 10 ліпеня | 20 красавіка | 14 чэрвеня | 6 лістапада | 10 снежня |
| 20 ліпеня | 30 красавіка | 24 чэрвеня | 16 лістапада | 20 снежня |
| 30 ліпеня | 10 мая | 4 ліпеня | 26 лістапада | 30 снежня |
| 9 жніўня | 20 мая | 14 ліпеня | 6 снежня | 9 студзеня |
| 19 жніўня | 30 мая | 24 ліпеня | 16 снежня | 19 студзеня |
| 29 жніўня | 9 чэрвеня | 3 жніўня | 26 снежня | 29 студзеня |
| 8 верасня | 19 чэрвеня | 13 жніўня | 5 студзеня | 8 лютага |
| 18 верасня | 29 чэрвеня | 23 жніўня | 15 студзеня | 18 лютага |
| 28 верасня | 9 ліпеня | 2 верасня | 25 студзеня | 28 лютага |
| 8 кастрычн. | 19 ліпеня | 12 верасня | 4 лютага | 10 сакавіка |
| 18 кастрычн. | 29 ліпеня | 22 верасня | 14 лютага | 20 сакавіка |
| 28 кастрычн. | 8 жніўня | 2 кастрычн. | 24 лютага | 30 сакавіка |
| 7 лістапада | 18 жніўня | 12 кастрычн. | 6 сакавіка | 9 красавіка |
| 17 лістапада | 7 верасня | 1 лістапада | 26 сакавіка | 29 красавіка |
| 7 снежня | 17 верасня | 11 лістапада | 5 красавіка | 9 мая |
| 17 снежня | 27 верасня | 22 лістапада | 15 красавіка | 19 мая |
| 27 снежня | 7 кастрычн. | 1 снежня | 25 красавіка | 29 мая |

**Увага.** Каляндар цяжарнасці аблічаны з прамежкамі 10 дзён, значыць, калі, напрыклад, пачатак цяжарнасці наступіў 5 студзеня, дык карова ацеліцца каля 17 кастрычніка, кабыла ажарэбіцца каля 11 снежня, свіння апаросіцца каля 5 мая, авечка акоціцца каля 8 чэрвеня.

# ВЫВАД ХАТНЯЙ ПТУШКІ

| Птушка | Час выседжвання яек | Колькасць яек | Патрэбен адзін самец на саміц |
|---|---|---|---|
| Курыца | 20-22 дні | 15-19 яек | 12-15 курыц |
| Індычка | 27-30 дзён | 15-19 яек | 10-15 індычак |
| Гуска | 28-32 дні | 13-14 яек | 4-6 гусак |
| Качка | 26-31 дзень | 13-15 яек | 4-6 качак |
| Галубіха | 17-19 дзён | 2-3 яйкі | 1 галубіха |

**Увага.** Колькасць яек, што можна падкласці пад адну квактуху, залежыць ад размераў яе цела (велічыні), напрыклад, пад індычку можам пакласці 21-25 курыных яек, 9-11 гусіных, або 21 качыных; пад курыцу — ад 3 да 5 гусіных яек або 11 качыных.





## ДЛЯ ПАМЯЦІ

## ЗМЕСТ

**Гаспадарчыя парады**